


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**1** (1035)

СТУДЗЕНЬ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

Намеснік галоўнага рэдактара
*МАЛЬЧЭЎСКАЯ Алена Аляксандраўна*



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2016

# ЗМЕСТ



**Іван ШАМЯКІН**

# ВЕРА

*Кінааповесць**

*Іван Шамякін — народны пісьменнік Беларусі, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, вядомы шырокаму колу чытачоў перш за ўсё як празаік. З цікавасцю чытаюцца яго апавяданні «У снежнай пустыні», «Спі, мой сыночак», «Хадакі», «Памылкі» і інш., аповесці «Ах, Міхаліна, Міхаліна», «Шлюбная ноч», «Гандлярка і паэт», «Сатанінскі тур», «Падзенне», «Бумеранг», «Абмен» і інш., а таксама раманы «Глыбокая плынь», «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы», «Атланты і карыятыды», «Зеніт», «Злая зорка», «Вялікая княгіня», «Крыніцы», «У добры час», «Губернатар», пенталогія «Трывожнае шчасце» і іншыя празаічныя творы. Менш вядомая драматургічная, публіцыстычная і крытычная спадчына пісьменніка. Хацяі публіцыстычныя і крытычныя артыкулы І. Шамякін актыўна пісаў, асабліва ў 1950—1960-я гг. Спрабаваў пісьменнік свае сілы і ў напісанні кінааповесцей: «Эшалон прайшоў» і «Не той гонар», прычым паводле першай у 1974 г. быў зняты фільм «Хлеб пахне порахам». Як пісаў А. Чэхаў у пісьме да А. Пляшчэева ад 9 лютага 1888 г. «Кроме романов, стихов и доносов, я все перепробовал, писал и…». Але і І. Шамякін спрабаваў свае сілы амаль ва ўсіх жанрах: вершы (з вершаў захавалася толькі частка ваенных, даваенныя вершы да нашага часу не дайшлі), апавяданні, аповесці, кінааповесці, раманы, публіцыстыка, крытыка, драматургія. Не пісаў толькі даносы.*

*Прапануем кінааповесць «Вера», якая нідзе не друкавалася. Даты гэты твор не мае. Можна выказаць меркаванне, што кінааповесць магла быць напісана ў 1950—1960-я гг., калі пісьменнікам актыўна стваралiся творы на ваенную тэматыку. Аднак сёння нельга з упэўненасцю сказаць, ці лічыў пісьменнік патрэбным дапрацоўваць гэты твор. Мяркуем, што кінааповесць зацікавіць як чытачоў, так і даследчыкаў творчасці І. Шамякіна.*

---

[*] Друкуецца ў аўтарскай рэдакцыі.

* * *

Вера з падносам, на якім — пустыя графін, талеркі, чаркі, абыходзіць вакол стала, грацыёзна балансуючы паміж раскіданых па пакоі крэслаў. Прыгожымі жэстамі спрактыкаванай афіцыянткі «сервіруе» стол.

Яна не заўважае, што з паўадчыненых дзвярэй за ёй сочыць свякруха Клаўдзія Іванаўна, сівая высокая жанчына з худым інтэлігентным тварам, — старая маскоўская настаўніца.

Вера «налівае» чаркі. Клаўдзія Іванаўна падыходзіць непрыкметна, абнімае яе за плечы.

— Навошта гэта, Веруня?

Вера на момант бянтэжыцца.

— Ды так, мама. Фантазія. Захацела пaглядзець, як выглядзіць сервіраваны стол. Падумала, як я падам на стол, калі вернецца Павел, прыйдзе перамога. Ці ўмею я?

Старая пільна глядзіць ёй у вочы, дакорліва ківае галавой.

— Наіўнае тлумачэнне, мой друг. Я даўно сачу за табой. І я ўсё бачу і ўсё разумею. Ты рыхтуешся ляцець туды?

Вера маўчыць. Нарэшце прызнаецца:

— Але, мама. Я рыхтуюся. Вайна суровая і доўгая. Трэба рыхтавацца.

— Я разумею цябе. Але, дачка мая, зразумей і ты мяне правільна. Мой муж загінуў у грамадзянскую. Твой муж, мой сын, рос без бацькі. Але ў яго была маці. Я ўсё разумею, да ўсяго гатова, друг мой. Але мне страшна падумаць, што сын майго сына будзе «круглы» сірата…

Вера ўздрыгвае.

— Вы думаеце — Павел…

— Я маці. А маці ніколі не траціць надзею. Але вайна бязлітасная. Ой, бязлітасная.

Вера абнімае старую.

— Павел вернецца, мама. Вернецца! Я сэрцам чую.

На ложку з сеткай, па-дзіцячаму прыгожа, прывабна спіць хлопчык год двух. Рукі маці, пяшчотныя, умелыя, папраўляюць коўдру. Вера схіляецца над сынам, шэпча:

— Сынок мой, любы мой! Маленькі мой! Ці маю я права пакідаць цябе, асабліва зараз, калі невядома, дзе твой тата? Але зразумей… Калі вырасцеш — ты зразумееш… Там гінуць людзі, нашы таварышы. Гінуць часам неразумна. А я маю вопыт… Я ведаю мову ворага. Я павінна быць там!

Яна глядзіць на партрэт мужа ў форме лётчыка.

— Паша, я павінна быць там!

У ціры. Вера страляе з пісталета. Кулі лажацца ў дзясятку.

— Сёння — апошняя трэніроўка, — гаворыць яна інструктару. Сівы маёр цісне ёй руку.

— Пацалуйце вашага сына ад мяне, — кажа ён Веры. — І вось вам… на памяць, — працягвае ёй маленькі пісталет. — Бельгійскі. Мне падаравалі яго на міжнародных спаборніцтвах.

Блакіт асенняга неба. Халоднае сонца. З вышыні спускаецца парашутыст.

На полі — інструктар, іншыя курсанты назіраюць за парашутыстам. Інструктар незадаволена бурчыць:

— Ну, чорт! Зноў яе адносіць. Не люблю работаць з бабамі. Не ўмеюць гасіць.

Прызямляецца Вера, збірае парашут.

— Зноў вас аднясло. Прыйдзецца нам паработаць, — кажа ёй інструктар.

— Сёння ў мяне апошні дзень, — адказвае яна з вінаватай усмешкай.

Ён глядзіць на яе са здзіўленнем і вялікай павагай. Гэты грубаваты, заўсёды незадаволены чым-небудзь лётчык толькі цяпер, магчыма, зразумеў, навошта была прыслана для трэніровак гэтая жанчына.

— Жадаю вам вялікай удачы, — кажа ён ціха, таямніча азіраючыся.

У Цэнтральным партызанскім штабе.

Генерал: Прызнаюся вам, Вера Міхайлаўна, мне і цяпер не хочацца адпускаць вас… Вопыт? Ваш вопыт мы скарыстоўвалі і тут, у штабе. Як чалавеку, мне балюча, што мы мусім пасылаць маці, адрываць ад дзіця…

Вера. Я папрасілася сама. Я лічу, што святы абавязак кожнага…

Генерал паднімаецца, падыходзіць да яе. Вера таксама ўстае.

— Святы абавязак! Я разумею. І дзякую вам… Дзякую! Але прашу: будзьце асцярожны. Мне не падабаецца гэты горад. Часта там правальваюцца нашы людзі. Ну, жадаю вам шчасліва вярнуцца. Да сустрэчы.

Цісне ёй руку. Потым кладзе рукі на плечы і цалуе, як дачку, у лоб.

Хлопчык весела смяецца. Гэта шчасце для яго — быць на руках у маці, якая не часта вяртаецца з работы так рана. Сваімі маленькімі ручкамі ён гладзіць яе шчокі, цярэбіць косы. Вера выходзіць з сынам на балкон.

З вышыні дзявятага паверха далёка відаць Масква. Крэмль. Заходзіць сонца. Вера развітваецца не толькі з сынам, яна развітваецца з Масквой, якую палюбіла за два гады.

Два кароткія званкі. Яна замірае: так звоніць толькі адзін чалавек — муж, Павел. Яна прыціскае сына, баючыся паверыць: магчыма, ёй здалося. Званкі паўтараюцца.

Вера адчыняе. У дзвярах Павел, у форме маёра, лётчыка. З ім — яго стары друг і штурман — капітан Станіслаў Плашчэўскі. Яны худыя, але паголеныя, у зусім новай форме — толькі са склада, з пакункамі ў руках.

Вера, трымаючы сына, абнімае мужа, па-жаночаму ўсхліпвае. Павел раняе пакункі, абдымае жонку і сына.

Вера вітаецца з Плашчэўскім.

— Божа мой! Якія вы худыя, змарнелыя! Адкуль вы?

— З таго свету, — крыва ўсміхаецца Плашчэўскі.

Ён пануры, сумны ў той час, калі Павел увесь ззяе ад радасці.

Вера рыхтуе на кухні закуску.

Павел заходзіць туды, зноў абнімае яе.

— Верунька, родная! Ты не ўяўляеш, які я шчаслівы. Там, калі мы ішлі, я заплюшчваў вочы і заўсёды вы стаялі перада мной: ты, Віцік, мама. Я ішоў да вас. Я думаў пра вас, калі гарэў наш самалёт, і я не ўпэўнены быў, што выскачу… Але вы — вы далі мне сілу…

Вера туліцца да яго.

— Слаўны мой. Паша! А што са Стасем? Чаму ён такі? — пытае яна, азіраючыся на дзверы.

— Гэта страшна, Вера, што мы бачылі, што перажылі. У адной вёсцы мы бачылі павешаную настаўніцу і дваіх дзяцей, хлапчукоў гадоў па дзесяць.

Іх павесілі за тое, што яны хацелі зняць і пахаваць сваю настаўніцу. Мы бачылі спаленыя вёскі, расстраляных ваеннапалонных. Уяві, што рабілася ў нашых думах. І вось мы праходзім недалёка ад гарадка, у якім Стась нарадзіўся. У партызанскім атрадзе сустракаем яго школьнага таварыша. Той паведамляе, што бацька Стася служыць у немцаў. Можаш зразумець, які гэта ўдар для яго. Чалавек крыштальнай душы, ён сказаў пра ўсё ў штабе. Цяпер яго могуць спісаць з авіяцыі, заўсёды знойдуцца чыноўнікі, якія пажадаюць застрахавацца сябе. А гэта было для яго ў той час — страшней смерці. Але я, чорт вазьмі, буду змагацца за яго. Пасля ўсяго, што мы разам перажылі…

За сталом — Павел, Станіслаў, Вера з сынам, Клаўдзія Іванаўна. Павел налівае ў шклянкі спірт, жанчынам — лікёр. Маці паднімае чарку.

— За шчаслівы зварот ваш, дзеці мае. За мацярынскую веру і надзею.

П'юць.

Станіслаў раптам налівае сабе поўную шклянку спірту, выпівае. Сціскае скроні далонямі.

— І за маю веру!.. Выпіце за маю веру! За тое, што я не веру, што мой бацька здраднік. Не веру! Заслужаны настаўнік, які так вучыў нас любіць сваю радзіму, свой народ… Ён рабіў толькі добрае. Усё жыццё! Усім людзям!

Падае галавой на стол.

Ноч. У спальні на ложку — Павел і Вера. Павел глядзіць у столь, задумліва і шчасліва ўсміхаецца, гэта — усмешка чалавека, які разумее сэнс жыцця і ўсю асалоду яго. Вера задумлівая.

— Павел! — кліча яна; ён не адразу адгукаецца, і не вельмі ўважліва.

— Ага.

— Павел! Я заўтра лячу.

— Куды?

— Туды. У іх тыл.

Ён імкліва падымаецца на ложку, глядзіць на яе, здзіўлены, уражаны, разгублены.

— Заданне?

— Не. Я папрасілася сама.Усё-такі я маю некаторы вопыт. Ведаю мову.

Павел хапае, сціскае яе рукі.

— Вера! А сын? Наш сын! З кім ён застанецца?

— З кім застаюцца сёння тысячы, сотні тысяч дзяцей?.. З кім? А наш сын застанецца з бабуляй, добрай, чулай, разумнай…

— Вера! Мне будзе цяжка — хвалявацца за цябе.

— Мне будзе не лягчэй, Паша. А каму цяпер лёгка? Але кожны павінен выканаць галоўны абавязак. Самы святы. Кожны павінен аддаць барацьбе ўсё, што ён можа. Я магу ляцець туды…

— Заўтра? — пытае ён упаўшым голасам, зразумеўшы, што ўсё ўжо вырашана, што адгаворваць Веру немагчыма, ды і не такі ён чалавек, каб зрабіць гэта.

— Заўтра.

Ён цалуе яе рукі. Цалуе не так, як жанчыне, жонцы, а з нейкім значна глыбейшым сэнсам, з асаблівай павагай.

У другім пакоі не спіць Станіслаў. Ён ляжыць на канапе з шырока расплюшчанымі вачамі, глядзіць у прастору. Шэпча:

— Бацька…

А ў гэты час далёка за лініяй фронту, у акупаваным фашыстамі беларускім гарадку, стары настаўнік Сцяпан Станіслававіч Плашчэўскі ў сваім доме, у сваім кабінеце, дзе многа кніг, старых прыгожых рэчаў і вазонаў, гуляе ў шахматы з нямецкім афіцэрам — камендантам Генрыхам Фуксам. Яны гуляюць угары, у пакоі мансарды. Унізе — музыка, тупат ног.

— Вам — шах, пан Плашчэўскі. І… здаецца, мат? Але. Мат!

Сцяпан Станіслававіч здзіўлена глядзіць на афіцэра.

— Дзіўна. Месяцы два назад я вам так лёгка даваў маты. Амаль кіндэрматы.

Фукс смяецца.

— Логіка падзей. Усё ідзе да таго, што ўсюды і заўсёды перамагаем мы, немцы.

— Так, усюды перамагаюць немцы, — згаджаецца Сцяпан Станіслававіч.

Фукс прыслухоўваецца да музыкі, задаволеная ўсмешка блукае па яго выпеставаным, чыста паголеным і напудраным твары.

— Вось гэты баль — таксама адна з маіх перамог. Я разумею, што заваяваць тэрыторыю лягчэй, чым заваяваць душы людзей. Моладзь трэба далучаць да заходняй культуры.

Унізе, у вялікім пакоі, танцуюць тры нямецкія афіцэры, некалькі маладых паліцэйскіх, дзяўчаты. Танцуе жонка Плашчэўскага, пажылая, худая кабета ў старамодным плацці. Яна камандуе па-нямецку. (?)

Не танцуе адна дзяўчына — Таня, дачка Плашчэўскіх. І апранута яна не па-святочнаму. Стаіць каля дзвярэй, як незапрошаная, чужая, і са знявагай глядзіць на маці і на ўсіх, хто танцуе. Да яе падлятае афіцэр, кланяецца. Яна адмоўна круціць галавой.

Падыходзіць паліцай Віктар, яе аднагодак і аднакласнік.

— Прашу, Таня.

— Пайшоў прэч, юда, — цэдзіць яна праз зубы з нянавісцю.

Ён бялее ад злосці.

— Ты… ты не думай, што дачка Сцяпана Станіслававіча. Бацька твой чалавек, як чалавек… А ты… Я цябе выведу на чыстую ваду. Прасачу… Я дакажу Фуксу, хто ты ёсць…

— Пайшоў прэч!

Па ўсходцах спускаецца Фукс. З вышыні ён назірае за Таняй і Віктарам. Па выразу іх твараў здагадваецца аб змесце размовы. Неяк асабліва, быццам у яго свярбіць далоня, гладзіць парэнчы.

Спускаецца да Тані.

— Чаму вы не танцуеце, фрэйлін Таня?

— Не жадаю!

— Усё яшчэ пратэстуеце? — хітра і насмешліва жмурыцца фашыст.

Таня глядзіць яму ў вочы і цвёрда адказвае:

— Так. Пратэстую! Можаце арыштаваць мяне.

Фукс смяецца, але смех ненатуральны, роблены.

— Вы наіўная, фрэйлін. Навошта мне арыштоўваць вас? У хуткім часе мы будзем з вамі лепшымі сябрамі…

— О, доўга вам прыйдзецца чакаць гэтага!

— Мы, немцы, цярплівыя. Пачакаем. Мяне толькі здзіўляе, што ў вас, фрэйлін, дагэтуль такое няправільнае ўяўленне аб нашых задачах і метадах. Вам варта было б ужо ўбачыць, што мы прынеслі культуру… Вось, калі ласка…

Па вуліцах горада імчыцца чорная гестапаўская машына. Спыняецца на акраіне. З дома выводзяць старога рабочага. Б'юць прыкладамі, кідаюць у машыну.

Праз шчыліны аканіц прабіваецца святло. На вуліцу вырываецца музыка. У двары дома Плашчэўскіх ходзіць вартавы — паліцай Сяргей Бахун.

А на гародзе, каля лазні, ляжаць чацвёра: тры хлапцы і дзяўчына.

— Каторая гадзіна, Надзя? — пытаецца той, што ляжыць наперадзе, Саша Касач.

Надзя накрываецца цёплай хусткай з галавой, запальвае ліхтарык.

— Пара, — адказвае яна.

Падымаюцца. Ідуць адзін за адным нахіліўшыся. Сяргей сам аддае свой аўтамат. Яго вяжуць. Ён ціха просіць:

— Саша! Удар мяне. Разані чым-небудзь. Не бойся. Рот заткні, галава дубовая!

У прасторным калідоры вісяць нямецкія і паліцэйскія шынялі. Каля другой сцяны — стаяць аўтаматы і вінтоўкі.

Надзя ціха адчыняе дзверы. Услухаецца ў музыку за дзвярамі, у тупат ног. Потым бярэ вінтоўку, працягвае ў дзверы. Рука кагосьці з хлопцаў прымае яе. Так знікае другая вінтоўка, аўтаматы. Апошні аўтамат яна хавае пад паліто. І раптам — у дзвярах Таня.

— Надзя? — здзіўляецца яна. — Ты да нас? І ты?! Хоць што гэта я… Заходзь, заходзь… Распранайся… Трэба далучацца да іх культуры…

Яна падыходзіць, каб дапамагчы Надзі распрануцца. Па-дзявочаму абнімае і… намацвае аўтамат. Кідае позірк туды, дзе стаяла зброя.

— Ах!.. Надзя!

— Прадасі? — сурова пытае Надзя.

— Надзя, мілая мая, што ты! Як ты можаш думаць гэтак пра мяне? Ды я іх ведаеш, як ненавіджу. Усё-ўсё вынасі. Я папільную.

Таня хутка заходзіць у пакой, становіцца, загарадзіўшы дзверы.

Адзін з паліцэйскіх хоча выйсці. Таня хапае яго, прапануе:

— Хадзем танцаваць!

— О, Таня танцуе!

— Гаспадыня пайшла танцаваць!

— Ура!

— Фрэйлін Таня. Вальс — мой!

Расце агульная весялосць.

На ўсходцах, што вядуць на мансарду, стаіць Фукс. Курыць, задаволена ўсміхаецца.

Хлопцы і Надзя з захопленай зброяй прабіраюцца па гародах, пустых і гразкіх. Ім трэба перайсці вуліцу. Яны стаіліся за хлявом, прыслухоўваюцца.

На вуліцу падае святло фар. Падыходзіць машына. Спыняецца каля суседняга дома. З машыны выскокваюць гестапаўцы. Чуваць нямецкая каманда.

— Гестапа, — шэпча Надзя. — Няўжо яны хочуць арыштаваць доктара Крупеню? Гэта ж яго дом! А мы шукалі падпольшчыкаў… Мы лічылі, што доктар прадаўся…

— Маўчы. Невядома яшчэ, — тузае яе Саша.

Гестапаўцы стукаюць у акно. У адказ — стрэл. Адзін з фашыстаў выбівае прыкладам раму. Зноў — стрэл.

Доктар, чалавек год пяцідзесяці, поўны, лысы, у піжаме, стаіць за сцяной з пісталетам.

Крычыць:

— Жывым не здаюся! Дарэмна стараецеся, сволачы!

Гестапаўцы адкрываюць агонь з аўтаматаў. Доктар хапаецца за плячо, раняе пісталет.

— Мы павінны дапамагчы яму! — шэпча Надзя. — Саша! Дай каманду.

— Мы не можам рызыкаваць, — адказвае Саша.

— Ты можаш спакойна пакінуць у бядзе такога чалавека? Спакойна чакаць, пакуль яго заб'юць?

— Саша! Давай ударым! — просіць другі юнак.

Яны перабягаюць на гарод доктара. Адкрываюць агонь па гестапаўцах.

— У машыну! У машыну! — спалохана, істэрычна крычыць афіцэр.

Гестапаўцы ганебна ўцякаюць на машыне.

Юныя падпольшчыкі бягуць далей, за гарадок, у прырэчны лазняк.

Як толькі пачуліся стрэлы, у доме настаўніка — трывога. Немцы і паліцаі выбягаюць у калідор — няма зброі. Раз'юшаны Фукс б'е па твары звязанага Віктара.

— Расстраляю!

Па горадзе мчацца машыны. Выюць сірэны. Аблава.

Фукс у сваім кабінеце ў камендатуры. Перад ім стаяць, як выцягнутыя, начальнік жандармерыі, начальнік мясцовай аперацыі, афіцэр гестапа.

Фукс у дзікай злосці.

— Лейтэнант Мілер! Я вас аддам палявому суду! Вы правалілі аперацыю. Чорт вазьмі! Аперацыю, якую я так рыхтаваў. Паклаў гэтулькі сілы, рызыкаваў, каб выкрыць, высачыць гэтую групу. Гэта — іх цэнтр. Доктар — іх кіраўнік. А вы ўсё правалілі. Вароны!

Раніцой Фукс, паголены і напудраны, нягледзячы на цяжкую ноч, з нямецкай дакладнасцю вяртаецца ў дом настаўніка снедаць.

З нямецкай ветлівасцю ён чакае ў вялікім пакоі, дзе накрыты стол, гаспадароў. Выходзіць Таня. Ён галантна кланяецца.

— Добрай раніцы, фрэйлін Таня.

— Добрай раніцы, пан камендант.

Таня садзіцца за стол, пачынае піць чай. Ён усё яшчэ чакае гаспадароў: культурны чалавек, афіцэр нямецкай арміі.

— Я прашу прабачэння, фрэйлін Таня. У мяне да вас адно пытанне. Чаму вы раптам пайшлі ўчора танцаваць? Вы ж пратэставалі.

— А мне стала вельмі весела.

— З якой прычыны?

— Я адчыніла дзверы і ўбачыла, як забіраюць вашу зброю. Гэта мяне развесяліла. Вы так былі ўпэўнены ў сваёй сіле. Выхваляліся, што навялі парадак…

Фукс пачынае церці далоні аб крыло мундзіра. Кажа жорстка.

— Слухайце вы… Ёсць словы і ёсць дзеянні. Я не звяртаў увагі на вашы словы. Але…

Таня перапыняе яго са злосцю:

— А вы што ж… хацелі, каб я выдала вам свайго чалавека? Вам заваёўнікам, акупантам… Стала здрадніцай? Ды ці ведаеце вы, культурны чалавек, што такое здраднік? Можаце арыштаваць мяне! Але ведайце, што я

ніколі не здраджу свайму народу. Калі вы расстрэльваеце за гэта — расстраляйце мяне.

На парозе маці Тані з талеркай у руках.

— О, дачка! Што ты вярзеш? Пан Фукс, я прашу вас, не звяртайце ўвагі на яе словы. Яна страціла розум…

Фукс кланяецца гаспадыні, потым — да Тані.

— Які ён… гэты, што браў зброю?

— Які?.. А такі… З барадой.

— З барадой? — Фукс хутка дастае з кішэні фотакартачку, паказвае Тані. — Ён?

— Здаецца, ён.

Фукс, забыўшыся на далікатнасць і ветлівасць, паднімаецца ў свой пакой. Глядзіць на фота барадатага чалавека.

— У-у, бандыт барадаты! Я да цябе дабяруся!

Здымае тэлефонную трубку.

— Мілер? Паліцэйскага Гаравіка не расстрэльваць! Што? Вызваліць!

Барадаты чалавек, якога мы бачылі на фатаграфіі ў Фукса, ідзе па партызанскім лагеры, міма склада, кухні, міма зямлянак. З ім вітаюцца партызаны. Адвячорак. Недзе за лесам заходзіць сонца: вершаліны стромкіх сосен заліты золатам праменняў. Падаюць лісці з дубоў.

Чалавек заходзіць у зямлянку, каля якой стаіць вартавы.

Вера ўзнімаецца яму насустрач.

— Пятро Міронавіч! Нічога не разумею. Чаму мяне нікуды не выпускаюць?

Камандзір атрада ўсміхаецца.

— Не хвалюйся. Я проста зрабіў захады, каб цябе бачыла як мага менш людзей. Ты ідзеш у страшнае месца. Да Фукса. А гэта вельмі вопытны воўк. Шпіён і правакатар дэфензівы.

— Дэфензівы?

— Але. Уяві сабе. Нямецкі шпіён на службе ў дэфензіве. Адразу забіваў двух зайцаў: шпіёніў у карысць Гітлера і дапамагаў пілсудчыкам знішчаць галоўную сілу, якая можа ўзняць народ на барацьбу супраць фашысцкай агрэсіі, — нас, камуністаў. Я сустракаўся з гэтым чалавекам і меў заданне ліквідаваць яго. Але ён своечасова «змыўся». І вось барацьба прадаўжаецца — хто каго? Дарэчы, навёў звесткі пра Плашчэўскага. Фукс у яго на кватэры. Чаму? — невядома. Прыйшоў ён сам ці яго запрасілі? Аб дзейнасці настаўніка ведаем мала. Адкрытых яго выступленняў у падтрымку акупантаў няма. Кажуць, ад месца бургамістра ён адмовіўся. Гэта плюс яму. На сувязь з нашымі людзьмі не пайшоў. Гэта — мінус. Кажуць, у яго збіраецца моладзь. Калі даведаемся, што ён уплывае на яе ў карысць фашыстаў, прыйдзецца ліквідаваць. Што іншае магу дараваць, але разлажэнне моладзі — нікому і ніколі.

— Сын так упэўнены ў бацьку.

— Ну, ведаеш… Сына выхавала савецкая ўлада. А бацька — старой закваскі… Варыянт твой адпадае. Пойдзеш да нашага доктара!

— Усё-такі я захаплю дакументы жонкі Плашчэўскага на ўсялякі выпадак…

Вера ў вопратцы вясковай жанчыны, з клуначкам у руках, на ганку дома доктара Крупені. Стукае. Доўга не адчыняюць. Нарэшце адчыняе старая бабуля. Вера гаворыць словы, якія трэба сказаць:

— Доктар дома? Я ад Пятра Міронавіча. Гасцінец яму прынесла. Дзякуй доктару, што бацьку вылечыў.

Працягвае клуначак.

Бабуля глядзіць на яе са страхам. Потым, як бы нешта раптам успомніўшы, ахае, закрывае твар рукамі, шэпча:

— Уцякай, дзіцятачка маё! Уцякай. Няма доктара. Няма майго Андрэйкі… Забілі яго, ірады праклятыя. Сёння ўначы…

Таня ідзе па вуліцы. Спыняецца перад камендатурай. Вагаецца. Нарэшце, рашуча ўзнімаецца па ўсходцах.

З другога боку вуліцы — Надзея і Саша Касач.

— Ты бачаш, куды яна пайшла? А ты ручаешся за яе.

— А зброя?

— Жэст. Гэтая паненка ўсё жыццё рабіла жэсты. Хіба ты не помніш у школе?

Таня ў кабінеце ў Фукса.

— Адно пытанне, пан Фукс. Скажыце, вы шчыры чалавек? Вы скажаце праўду?

— Вам, фрэйлін Таня, я заўсёды кажу праўду.

— Хто забіў доктара Крупеню?

— Бандыты. Аб гэтым напісана ў газеце.

— Я не веру вашым газетам! Я хацела пачуць ад вас.

— Безумоўна, бандыты. Камусьці спатрэбіліся медыкаменты. Украдзены медыкаменты.

— А ў горадзе ходзяць слухі, што доктара хацелі арыштаваць вы, а ён адстрэльваўся…

Фукс трэ далонню аб рог стала.

— Наіўна. І пасля гэтага мы робім доктару, нашаму ворагу, такое пахаванне? Даём некралог. Дзе логіка, фрэйлін Таня?

— Я не ведаю, навошта вы гэта робіце. Але так гавораць.

— Хто?

— Людзі. У натоўпе.

— Забойцы замятаюць сляды. Доктар працаваў у нас. У вас хваравітая падазронасць, фрэйлін Таня. Ніколі не верце вулічным слухам.

На пахаванне сабраўся ўвесь горад. Тысячы людзей ідуць за трунай. У такім натоўпе недарэчна шукаць прыхільнікаў, сяброў доктара. Дарэмна шпіёны Фукса, як сабакі, шныраюць навокал. Увесь горад — сябры доктара, яго прыхільнікі.

У натоўпе — Вера ў той жа сялянскай вопратцы, але без клуначка. Ідуць Саша Касач, Надзя, іншыя маладыя падпольшчыкі. А Тані няма. Яна глядзіць з акна свайго дома: яна не пайшла на пахаванне чалавека, які працаваў у немцаў.

Хітрая задума Фукса ператварылася ў дэманстрацыю супраць «новага парадку».

Фукс назірае з акна кабінета і моршчыцца, як ад болю, ажно стогне:

— У-у! Сволачы! Усіх… усіх знішчу! Увесь горад!

— У горадзе — пятнаццаць тысяч, пан штурмбанфюрэр, — асцярожна кажа афіцэр, які стаіць побач.

— Няхай іх было б сто тысяч. Я ім не дарую гэтага пахавання!

Народ разыходзіцца. Шныраюць паліцэйскія, жандары.

Адзінока блукае Вера. Куды ісці? Доктар — самая надзейная яўка. Так сказаў Пятро Міронавіч. Доктара няма, забіты. Трэба думаць, што правалілася ўся група. Яўкі няма.

Веру затрымлівае паліцэйскі, правярае дакументы. Яна жартуе:

— Рабіць вам няма чаго. Сто разоў правяралі.

— Спекуліруеш усё? Прынесла б хоць пляшку самагонкі. Выбірайся да цямна, а то туга будзе. Немцы сёння злыя, — па-свойску раіць ёй паліцэйскі.

Вера на ганку дома Плашчэўскіх. Стукае. Адчыняе Таня.

— Мне Сцяпана Станіслававіча.

Таня аглядае яе падазрона.

— Навошта ён вам?

— Усё будзеш ведаць — рана пастарэеш, Танюша. Замуж не возьмуць, — жартуе Вера, здзівіўшы дзяўчыну тым, што назвала яе імя. Ужо з пэўным даверам — не чужы чалавек, калі ўсіх ведае! — Таня вядзе незнаёмую да бацькі.

— Я хачу пагутарыць з вамі адзін на адзін, — кажа Вера Сцяпану Станіслававічу.

Таня фыркае, выбягае.

Вера азірае пакой старога. У ім многа мэблі, кніг. Яна залішне ўважліва аглядае прыгожую настольную лямпу (падарунак Фукса), нават спрабуе падняць яе.

Адыходзіць да дзвярэй, дзе больш прастору і менш рэчаў, дзе цяжэй схаваць апарат для падслухоўвання. Кліча старога пальцам да сябе. Той, здзіўлены паводзінамі незнаёмай жанчыны, губляецца, абураецца, але падыходзіць.

— Я — жонка Стася, — шэпча Вера, нахіліўшыся да настаўніка.

Стары адступае ад яе, уражаны і яшчэ больш здзіўлены. Вера прыкладвае да вуснаў палец: ціха!

— Мой сын нежанаты, — гэтак жа, як яна, шэпча ў адказ Плашчэўскі.

— Быў. У пачатку вайны мы пажаніліся. Калі прыходзіць небяспека, чалавеку хочацца прадоўжыць самаго сябе…

— Што з ім?

Вера шэпча яшчэ цішэй:

— Здаровы. Лётае. Б'е фашыстаў. Кланяецца вам. Верыць у вас, тата. Любіць. Каб вы ведалі, як ён любіць вас! Як часта ўспамінае…

Стары заплюшчвае вочы. Уздых палёгкі, шчасця вырываецца з яго грудзей; па шчацэ каціцца здрадлівая слязіна.

Вера нахіляецца да яго яшчэ бліжэй.

— Слухайце, тата… Я павінна застацца тут… Разумееце? Для ўсіх іншых, сваіх і чужых, — я жонка Стася, і вы ведаеце мяне, калі вы прыязджалі да яго ў госці ў Саратаў, ён знаёміў вас са мной, сваёй нявесткай… Але для ўсіх іншых — Стася арыштавалі саветы за нямецкае паходжанне маці, за вашу сувязь з немцамі… Таму я тут. Іду са Сталінграда… Разумееце? Я прыйшла да вас таму, што Стась верыць у вас… А калі…

Сцяпан Станіслававіч сціскае яе рукі.

— Дачка мая… дзіця… Я ўсё зраблю…

— Маё імя — Марыя… А цяперклічце сваіх! Хвалюйцеся! Плачце! Абурайцеся супраць бальшавікоў. Яны арыштавалі вашага сына.

— Мары! Мары! Таня! — гукае Сцяпан Станіслававіч жонку і дачку і, сціснуўшы рукамі галаву, садзіцца каля стала.

— Што, Сцяпан? — пытае жонка.

— Што з табой, тата? — падбягае Таня.

— Божа мой! Яны арыштавалі Стася. Завошта?

— Хто, тата?

— Саветы.

— Нашы?

— За маю сувязь з немцамі… Якую сувязь? За тваё паходжанне… Якое паходжанне? Вось знаёмцеся… Жонка Стася. Марыя. Яна прыйшла ажно з-пад Сталінграда.

Вера цалуе ў «маці» руку.

— Дзіця маё, — плача расчуленая жанчына, абнімаючы яе.

Адна Таня глядзіць на госцю варожа.

— Чаму ж вы, верная жонка, кінулі мужа ў бядзе? — злосна пытае яна.

— А што я магла зрабіць? Я нават не ведаю, дзе ён.

— І таму вырашыла прадацца немцам?

— Я хачу помсціць.

— Тата! Мама! Не верце ёй! Яна ў вочы Стася не бачыла! Гэта правакацыя! — гнеўна крычыць Таня.

— Таня! Я бачыў Марыю. Я толькі адразу не пазнаў. Стась знаёміў нас, калі я ездзіў да яго.

— Мілая Танюша! Можа, табе расказаць, як ты малая ледзь не ўтапілася і цябе ратавала цыганка?.. Можа, сказаць, у каго ты была закахана ў восьмым класе? Магчыма, ты не помніш, а мама помніць, што ў Стася пад левай лапаткай — радзімая плямка ў выглядзе маладога месячыка… Можа, табе сказаць…

Таня імкліва выбягае. У сваім пакоі кідаецца на канапку, камечыць падушку, плача:

— Усё адно я не веру!.. Не веру, што Стася арыштавалі… Не могуць нашы пступаць так несправядліва!

Асенні вечар. Свішча вецер. Цемра ахутвае маўклівы, быццам мёртвы, гарадок. Толькі дзе-нідзе — вартавыя і патрулі стаяць ці снуюць як здані. Вартавы-немец ходзіць каля дома Плашчэўскага: пасля гісторыі са зброяй Генрых Фукс больш не ўпэўнены, што ўсе скарыліся перад ім, і ён можа спаць спакойна. Але ён усё яшчэ прадаўжае іграць сваю ролю — застаецца на кватэры ў настаўніка, каб быць бліжэй да мясцовага народа.

За зачыненымі аканіцамі дома настаўніка — цяпло, цішыня і ўтульнасць. На стале — бутэлька віна, Вера — Марыя ў чорным вячэрнім плацці, якое ёй доўгае і крыху цеснае (гэта плацце Марыі Карлаўны) раскладае прыборы, расстаўляе чаркі, але робіць гэта не так спрытна і хутка, як у Маскве, калі практыкавалася на ролю афіцыянткі. Робіць па-дамашняму павольна, спакойна, проста.

Фукс з лесвіцы мансарды ўпотайкі назірае за ёй.

Спускаецца. Кланяецца. Вера бянтэжыцца.

— Фраў Марыя? Вельмі прыемна. Пан Плашчэўскі гаварыў мне пра вас. Я рад пазнаёміцца з вамі. Але, ведаеце, час ваенны, вам належала адразу ж з'явіцца ў камендатуру. У вас могуць быць непрыемнасці.

— Божа мой! Іх гэтулькі было ўжо ў мяне, непрыемнасцей! Я так узрадавалася, што дабралася дадому. І так стамілася!

— Калі вы дазволіце мне паглядзець вашы дакументы, то можаце спасласцца на мяне.

— Я буду вельмі ўдзячна вам.

Вера прыносіць пацёртую, зашмальцаваную даведку з мноствам адзнак і штампаў.

— Гэта мне выдалі ў Клачы, пад Сталінградам.

Фукс уважліва разглядае даведку.

— Так. Адзнака ў Харкаве, у Гомелі… Вельмі добра. І гэта ўсе вашы дакументы?

— Нямецкія — усе, — разгублена, як бы нават баязліва адказвае Вера. — Ёсць пашпарт. Савецкі.

Фукс усміхаецца.

— Такому пашпарту я веру больш.

Раглядвае пашпарт. Здзіўляецца.

— Вы — немка?

— Так. Мае бацькі жылі ў Паволжжы.

Дзіўна, — Фукс уміг пераўтвараецца з культурнага, ветлівага афіцэра ў пранíклівага разведчыка і бесцырымонна разглядае жанчыну, яму не спадабалася, што яна ведае нямецкую мову. Вера сарамліва апускае вочы.

— Што вас здзіўляе?

— Што вы жонка — савецкага лётчыка, — хітрыць ён, зноў надзяваючы маску карэктнасці.

— Рускія кажуць: «Рыбак рыбака видит издалека». Маці майго мужа немка. Кроў.

— О! — мнагазначна ўсклíквае Фукс, вяртаючы пашпарт. — Што вы думаеце рабіць тут?

— Я хацела б працаваць на карысць радзімы…

Фукс кідае на яе запытальны позірк.

— Германіі, — удакладняе Вера.

— Што вы ўмееце рабіць?

— Я дасканала ведаю рускую мову і ведаю нямецкую мову, можа, не так добра, як тыя, хто меў шчасце нарадзіцца ў айчыне. Я вырасла сярод рускіх, канчала рускі інстытут, педагагічны. У вайну я працавала на заводзе. Усе жонкі рускіх афіцэраў цяпер працуюць…

— Я магу дапамагчы вам знайсці працу.

— Я буду вельмі ўдзячна вам, пан маёр, — па-жаночы какетліва і даверліва ўсміхаецца Вера.

Фукс глядзіць на вуліцу. Вартавы ходзіць пад яго акном. Але гэта не заспакойвае каменданта. Ён зачыняе дзверы на ключ, потым падсоўвае свой ложак пад самыя дзверы, так, што адчыніць іх было б немагчыма. Кладзе на столік з аднаго боку ложка — пісталет, з другога, на крэсла, — гранату. Раздзяючы мундзір, дастае з кішэні фота Пятра Міронавіча. Глядзіць з нянавісцю: о, як бы ён расправіўся з гэтым чалавекам, каб той, жывы, трапіў яму ў рукі!

— Усміхаешся, барадач? Думаеш — перахітрыў Фукса? Калі гэта ты прыслаў яе, ты — дурань, ты дрэнна ведаеш з кім маеш справу, — затрымліваецца. — Але… Плашчэўскі… Няўжо і Плашчэўскі з імі? Калі гэта так, то дурань — я.

Фукс націскае кнопку званка. Уміг з'яўляецца дзяжурны гестапавец. Выкідвае наперад руку.

— Хай Гітлер.

— Хайль. Паклічце перакладчыцу Плашчэўскую!

— Слухаюся, пан штурмбанфюрар.

З'яўляецца Вера. Яна апранута ў цёмны, з густам пашыты гарнітур, просты і элегантны.

— Я слухаю, пан маёр.

— Штурмбанфюрар, пані Марыя. Невялічкая розніца, але мне больш прыемна чуць апошняе…

— Прабачце.

— Сядайце, прашу вас.

Вера-Марыя садзіцца ў мяккае крэсла каля вялікага пісьмовага стала.

— Як вам падабаецца ваша пасада?

— Я нічога не раблю. Вы абыходзіцеся без перакладчыка…

— О, не турбуйцеся. Вам хопіць работы. Між іншым, перакладзіце мне вось гэта… — працягвае аркушы паперы і пільна сочыць за выразам яе твару. Яна кідае на паперу позірк, здзіўляецца.

— На якой гэта мове, пан штурмбанфюрар?

— Ах, — схамянаецца ён. — Я забыўся, што гэта па-польску. Хто бы гэта мог у нас перакласці? — задумваецца. — Ваш свёкар ведае польскую мову?

— Я не пытала яго пра гэта.

Як бы ўспомніўшы нешта вельмі важнае, што трэба зрабіць неадкладна, Фукс падымаецца.

— Хвіліначку пачакайце, — кажа ён і выходзіць, пакінуўшы Веру адну.

На стале ляжаць паперы — шмат розных папер з грыфам «Сакрэтна». Праз шчыліну ў сцяне, замаскаваную партрэтам Гітлера, за Верай сочыць чыёсьці вока. Але яна не варушыцца, яна нават не глядзіць у бок папер. Яна сядзіць, закінуўшы нагу на нагу, абхапіўшы калена рукамі, глядзіць у кут і думае нешта сваё.

Голас Веры: Наіўная правакацыя, пан Фукс.

У пакой, дзе Вера не вельмі ўмела друкуе на машынцы, уваходзіць машыністка камендатуры Эльза. Яна ўсхвалявана. Садзіцца каля сваёй машынкі. Зноў узнімаецца. Ёй яўна хочацца нешта расказаць перакладчыцы Марыі, з якой яна ўжо добра пасябравала. Але Марыя не звяртае на яе ўвагі.

— Ах, Марыя, якая гэта жорсткая рэч — вайна! — усклікае яна.

— Тым больш мы будзем цаніць мір, які заваюем, — спакойна заўважае Марыя, робячы новую закладку ў машынку.

Эльза нахіляецца над яе столікам, шэпча:

— Каб вы ведалі, які страшны дакумент я расшыфроўвала… Бог мой!

— Па-мойму, пра шыфраванне дакумента не расказваюць, — зноў спакойна кідае Марыя.

— Але я не магу… Я не магу, — у роспачы ламае рукі Эльза. — Навошта трэба забіць гэтых людзей? Навошта?

«Якіх?» — павінна спытаць Марыя. Эльза чакае гэтага пытання. Але замест яго чуе іншае:

— На вайне кожную хвіліну каго-небудзь забіваюць.

— О, божа! Дык то ж на фронце, у баі. А тут… няшчасныя людзі. Бог мой! Не пакарай мяне! — узнімае яна вочы ўгору, потым нахіляецца і зноў шэпча: — Ёсць загад адабраць з лагера ваеннапалонных усіх хворых і раненых і… расстраляць… Божа мой! Завошта? Я не разумею такую жорсткасць.

«Калі? Дзе?» — павінна спытаць Марыя. Эльза чакае, што яна спытае гэта. Але Марыя спакойна кажа:

— Не будзьце сентыментальнай, Эльза. Вайна ёсць вайна… Наш дарагі фюрар ведае, што робіць. Нішто не робіцца паміма яго волі…

Вера канчае друкаваць. Становіцца каля акна. Толькі цяпер, калі ніхто не бачыць, на твары яе адбіваецца пакута. За акном падае густы мокры снег і растае на бруку.

Голас Веры: зноў правакацыя. Але якая страшная! Каб праверыць свае падазрэнні, яны хочуць расстраляць людзей, раненых, хворых. І яны расстраляюць іх. Дзе? Калі? Колькі чалавек? Але каб я і ведала ўсё гэта — чым я дапамагу? Я нікога не маю. Ніводнай яўкі. Я ўжо месяц тут і не магу наладзіць ніякай сувязі. І з атрадам не магу звязацца: Фукс не спускае з мяне вачэй. Як жа ратаваць гэтых няшчасных?

***Уступ і падрыхтоўка тэксту Алесі ШАМЯКІНАЙ.***



**Віктар ШНІП**

# ХАЙ БУДЗЕ Ў ПАЭТА СВЯТОЧНЫ НАСТРОЙ

* * *

***Уладзіміру КАРАТКЕВІЧУ***

Поўня пячаткай Вялікага Княства
Па-над маёю асенняй зямлёй.
Дым у лагчыне — там курыцца «Астра»
Шэрым ваўком прад халоднай зімой.
З ім Караткевіч ля вогнішча з півам,
Што наварыў яму заяц стары.
Добра ім сёння, таму я шчаслівы.
Воўк журавін назбіраў тры вядры
Для Караткевіча, што прыйшоў з княства,
Дзе ён цяпер несамотна жыве,
Курыць з князямі савецкую «Астру»,
Моліцца з імі ў паднебнай царкве.
Я назіраю здалёк і нясмела

---

***Шніп Віктар Анатольевіч*** *нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1979) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1987). Працаваў у часопісе «Беларусь», у газеце «Наша слова». З 1995 па 2004 год быў намеснікам галоўнага рэдактара і галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар кніг паэзіі і прозы «Гронка святла» (1983), «Пошук радасці» (1987), «Шляхам ветру» (1990), «На рэштках Храма» (1994), «Выкраданне Еўропы» (1996), «Чырвоны ліхтар» (2000), «Воўчы вецер» (2001), «Інквізіцыя» (2002), «Выратаванне атрутай» (2003), «Беларускае мора» (2004), «Балада камянёў» (2006), «Страла кахання, любові крыж» (2008), «Проза і паэзія агню» (2010), «Пугачоўскі цырульнік» (2013), «Сабачыя гісторыі» (2013), «Тутэйшая туга» (2014), «Першы папяровы снег» (2014) і інш.*

*Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага (1987), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2007), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2008).*

Босым іду па траве да агню.
Птушка над мною стралой праляцела
І напалохала мне цішыню.
Далей і я не пайшоў, хай хоць часам
Будзе ў паэта святочны настрой.
Хай жа з ваўком яны вып’юць там разам
За Беларусь прад халоднай зімой…

* * *

Дзень белы растане сняжынкай у каве
І ноч зноў пачнецца, нібы чорны снег
Пасыплецца з неба, і лісце ў канаве
Сабе адшукае спакой і начлег,
А потым ізноўку падхопіцца ветрам
І ў свет панясецца, не ўслед за табой,
Калі ты пакінеш кавярню, як лета
Пакінула нас, каб прыйшоў лістабой,
Счарнелы, нібыта астылая кава,
Якую дап’еш, бо патрэбна дапіць.
І снегам нясмелым засыплюцца травы,
Якія за восень не ўспелі скасіць.
І дзень зноў пачнецца, і ноч зноў растане,
Нібыта яе не было тут зусім.
Са снегу ты вылепіш слова «ВЯРТАННЕ»,
І будзеш шчаслівы, як з коміна дым…

## ДАРОГА

На дарозе не расце нічога,
Акрамя калюгаў і жуды,
Бо дарога гэтая да Бога,
Бо дарога гэта на клады.

І над ёй нас пранясуць не сёння
Нашы не найлепшыя сябры.
І, якімі мы былі, успомняць,
Скажуць, што памерлі без пары.

Толькі не пачуем мы нічога,
А пачуўшы, сумна прамаўчым.
І не знікне гэтая дарога,
А як знікне — смерць усім жывым…

* * *

*Лііяне АНЦУХ*

Вы з музыкі, нібыта з акіяна,
У гэты свет, як музыка, прыйшлі.
І светлай музыкай пачаўся ранак,
Дзе з туманоў кахання караблі
Пад ветразямі белымі плылі
І ў травах росных, як туман, знікалі.
І пачынала новы дзень пчала
З анёльскіх кветак, што яе чакалі,
Як мы чакаем сонца і цяпла
У гэтым свеце, дзе нішто не нова,
І толькі Вы, як цэлы новы свет,
Сваёю музыкай збудзілі словы,
Што ў нашых душах пакідаюць след
І вершамі становяцца каханым,
Што ў кнігах застаюцца назаўжды,
Як застаецца ў сэрцы кожны ранак
Па кропельцы жывой святой вады,
І ў слове кожным, як у акіяне,
Усё жыло, жыве і будзе жыць,
І новай светлай музыкаю стане
У дня і ночы на мяжы…

* * *

Сінявокія стракозы
Узляцелі над травой,
Як паэзія над прозай,
Што народжана вясной,
У якой жывуць стракозы,
Што лятаюць над травой,
Як паэзія над прозай,
Што прыдумана не мной…

* * *

Ты ізноў напісаў уначы на вадзе пра сваю адзіноту
І пакрылася лёдам, нібыта санетам бясконцым, рака.
І, як толькі ўзвіднела наўкол, паляцелі, нібы самалёты,
Цені хмар па збялелай траве і, як дым, ажыла асака.
Можна плакаць і можна смяяцца — ніхто не пачуе,
І на полі аціхлым саломы стагі, як разбураны Рым,
Па якім, нібы раб, што застаўся жывым, белы воран вандруе
І табе ён махае крылом: «Давай, брат, мы адсюль паляцім!»
Толькі ты анікуды адсюль не паедзеш, не сыдзеш ніколі,

Ты да гэтай самотнай зямлі адзінотай навечна прырос,
Як вялікі валун у яшчэ не заралым дзядоўнікам полі
Ці як гэты ля рэчкі змялелай стары, як наш свет, вербалоз.
Ты ізноў напісаў уначы на рацэ пра сваю адзіноту
І закрэсліў світанак твой сум, як празрысты бясконцы санет,
І рака зноў зрабілася светлай і вольнай ад першага лёду,
На якім паслізнулася сонца, несучы прад сабою сусвет…

* * *

***Адна суцеха, што забраным на Каляды***
***пад спеў анёлаў Бог даруе рай.***

Васіль Сахарчук

Мой бацька самотны памёр на Каляды
У белай бальніцы, нібыта ў снягах,
Замецены снежнем пад светлае свята
На ложку рыпучым, нібы на руках
У Бога тутэйшага, што быў ля бацькі,
І беднага бацьку чым мог суцяшаў,
І зоркі ў нябёсах — святочныя цацкі —
Свяцілі, ды свята не знала душа.
А можа, і знала, а можа, і добра
Было перад смерцю тут бацьку майму,
І светла было, і было яму цёпла.
Мой бацька любіў снегавую зіму,
Калі замяталіся сцежкі і хаты.
І белым, бясконцым, як вечнасць, было
Усё, што наўкол… Мы чакалі Каляды,
Але прычакалі, што стухла святло
У бацькавых вочах у белай бальніцы,
Нібыта ў снягах, што ўвесь свет замялі.
Крыжы на магілах, нібы бліскавіцы,
Якія зімою з нябёсаў сышлі
І адзервянелі ад суму і гора.
Снег белы, бялюткі, як белае мора,
І сцежка на ім — ты не бойся, ступай! —
Не сцежка на могілкі, сцежка — у рай…

## ЗІМОВЫ СОН ПЧОЛ

і выпаў першы снег
і стала светла ў вуллі як у раі
і прыснілася пчолам
што яны вылецелі на вуліцу
і сталі гуляць у снежкі
і разбудзілі трутняў

якія пазяхаючы
выглянулі з вулля на свет белы
і самы вялікі труцень
вываліўся на снег
і стаў сняжынкай
якая трапіла ў вока мядзведзя
і мядзведзь стаў добрым
як пчаліны бацька
і снілася пчолам вясна
і снілася пчолам лета
і снілася пчолам восень
і дзень калі выпаў пчаліны снег
з якога пчолы зляпілі
белы свет
у якім цяпер усе жывуць
як пчолы
якім сняцца зімовыя сны
дзе добра як у раі

* * *

Рачной вады агонь халодны
Ты не ўтрымаеш у руцэ
І будзе ён ізноў свабодны,
Ізноў ён будзе па рацэ
Сцякаць у вечнасць акіяна,
Куды наш час штоміг бяжыць.
І паміраць яшчэ нам рана,
І нам яшчэ не позна жыць
Пакуль вады агонь халодны
Цячэ, як адзіноты кроў,
Між берагоў чужых і родных,
Між траў, каменняў і снягоў…





Алесь МАРЦІНОВІЧ

# БЫЛОЕ, АЛЕ НЕ ДУМЫ*

*Сёе-тое з пражытага і перажытага*

*Вядомы расійскі пісьменнік Юрый Бондараў для пераважнай большасці чытачоў — перш за ўсё знакаміты раманіст. Аднак ён не цураўся і малых празаічных жанраў. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць ягоны зборнік «Мгновения», што выйшаў у 1983 годзе ў маскоўскім выдавецтве «Молодая гвардия». У пачатку яго Ю. Бондараў прызнаецца: «... Всякая книга начинается гораздо раньше, чем написана первая строка. Много лет назад я задумал написать не повесть, не роман, не хронику, а книгу — мозаику человеческой жизни...»*

*Значна раней, чым быў напісаны першы радок, нарадзілася і гэтая мая кніга «Былое, але не думы». Дарэчы, падштурхнуў мяне на напісанне яе мой*

---

***Марціновіч Алесь (Аляксандр Андрэевіч)** нарадзіўся 18 жніўня 1946 года ў вёсцы Казловічы Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1968) загадваў аддзелам пісем і масавай работы драгічынскай раённай газеты «Запаветы Леніна». Служыў камандзірам мотастралковага ўзвода ў Забайкальскай ваеннай акрузе. Пасля звальнення ў запас працаваў у рэдакцыях капыльскай і слуцкай газет. 29 гадоў аддаў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». З лістапада 1999 года — у рэдакцыі часопіса Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Беларуская думка». Быў намеснікам галоўнага рэдактара часопісаў «Нёман» і «Маладосць». Цяпер у часопісе «Полымя».*

*Аўтар кніг крытыкі «Мастацкі летапіс сучаснасці» (1983), «Далучанасць» (1990), «Пад небам вечнасці» (1990), «Дарога ў запаветнае» (1992), «Сувязь» (1994), «Шляхам праўды» (1994), «Дзе ж ты, храм праўды?» (1996), «Святло чароўнага ліхтарыка» (у дзвюх кнігах, 1997 і 1998), «Іван Чыгрынаў» (1999) і іншых. Дзіцячых пра знакамітых беларусаў, а таксама некалькіх зборнікаў казак. Працуе над гісторыяй Беларусі ў асобах: «Зерне да зерня» (1996), «Хто мы, адкуль мы...» (у дзвюх кнігах, 1996 і 1998), «У часе прасветленыя твары» (1999), «Элегіі забытых дарог» (2001), «Сполахі далёкіх зарніц» (2005), «Свечка на золкім ветры» (2006), «Птушкі з пакінутых гнёздаў» (2007), «Хто мы, адкуль мы...» (працяг дзвюх ранейшых, 2007), «Маладзік над заснежаным шляхам» (2008), «Пяшчота апалага лісця» (2010), «Успамін пра будучыню» (2012). Усяго ў А. Марціновіча выйшла звыш 60 кніг.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, літаратурных прэмій імя М. Багдановіча і імя У. Калесніка, прэміі БСЖ «Залатое пяро», двойчы лаўрэат першай прэміі «Залаты Купідон». Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.*

* Часопісны варыянт.

*старэйшы сын Дзяніс. Перадгісторыя ж такая. Дзянісу, а таксама малодшаму Ягору, дый жонцы сваёй я нярэдка расказваў пра многія цікавыя выпадкі з уласнага жыцця. Дый не толькі з уласнага. Часам прыгадваў і тое, што адбывалася з маімі сябрамі ці з пісьменнікамі, якіх ведаў. Калі-нікалі чуў асобныя, чымсьці адметныя, выпадкі з іхняга жыцця дый жыцця не толькі літаратараў з вуснаў іншых людзей. Найчасцей усё гэта — як са мною, так і з імі — адбывалася дзе-небудзь у застоллі, за сяброўскай чаркай, а то і ўвогуле ва ўмовах, у чымсьці неардынарных.*

*Слухаў мой старэйшы сын гэтыя аповеды, слухаў, а аднойчы і прапанаваў: «Чаму б табе, бацька, не напісаць кнігу пра ўсё гэта?» Аднак праходзіў год за годам, а я ўсё ніяк не мог узяцца за пяро. Канечне, і іншых задумак было шмат, і розных, не толькі літаратурных, клопатаў, але прычына такой, не характэрнай для мяне, марудлівасці, хавалася і ў іншым. Пракручваючы ў памяці розныя гісторыі, усё больш упэўніваўся, што тыя, хто мае да іх дачыненне, не заўсёды паўстаюць, мякка кажучы, у выгадным святле. Зразумела, некаторыя прозвішчы можна не называць. Каму трэба, і так здагадаецца, пра каго ідзе гаворка. Калі ж не здагадаецца, то такой бяды — галоўнае, сутнасць.*

*Праўда, як у такім разе, быць самому? Хавацца за чужымі прозвішчамі не выпадае. Усё ж многае з таго, што не забылася, адбывалася менавіта са мной. Штосьці апусціць — таксама не выйсце, бо акурат гэтае «штосьці» нярэдка самае цікавае і адметнае. Апроч усяго не давала спакою і такая думка: ці не нашкоджу я празмернай сваёй адкрытасцю самому сабе, ці не знойдуцца тыя, хто захоча маю давяральна-шчырую споведзь выкарыстаць супраць мяне? У нас жа апошнім часам столькі розных пісак у жанры ананімкі развялося. У поце чала стараюцца тыя, хто ў сваім воку і бервяна не бачыць, а ў чужым спакою яму не дае і звычайная парушынка.*

*Ды чым больш праходзіла часу, тым часцей я спыняўся на тым, што кнігу «Былое, але не думы» ўсё ж трэба пісаць. Ёсць харошая прымаўка: «Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць». Той, у каго пастаянна жыве свярблівае жаданне каго-небудзь абавязкова абліць памыямі, у любым выпадку знойдзе прычыну зрабіць гэта. Чалавек жа разумны ўсё ўспрыме спакойна. Дзе пасмяецца, у іншым выпадку, магчыма, і зарагоча. Часам задумаецца, а то і здзівіцца. Дый як жа інакш, калі ўсё гэта се ля ві. Прыйшоўшы да такой, як мне здаецца, правільнай высновы, я ўжо не мог не ўзяцца за пяро.*

*Назву кнігі даў па аналогіі з Аляксандрам Герцэнам невыпадкова. Ні ў якім разе не падумайце толькі, што ледзь не збіраюся стаць з ім поруч. У яго, як вядома, ёсць кніга «Былое і думы» — адна з лепшых у рускай мемуарнай літаратуры, а асабісты лёс А. Герцэна ракрываецца ў шырокім гістарычным кантэксце. У мяне таксама былое, але гэта, канечне ж, не думы, а толькі пэўныя імгненні жыцця. Часцей нечаканыя. Часам з гумарыстычнай падсветкай. Без прэтэнзіі на нейкі шырокі аналіз і ахоп падзей.*

## Паэтэсы адметныя ...нагамі

Адразу ўзнікла пытанне, а з чаго пачаць? Запомнілася ж многае. Дый шмат што прэтэндуе на тое, каб пра яго расказаць у першую чаргу. Усё ніяк не мог вызначыцца наконт таго, якімі згадкамі адкрыць гэты свой аповед. Доўга думаў-разважаў. Штосьці адпрэчваў, нешта канкрэтызаваў. Так працягвалася да таго моманту думаў, пакуль у галаве маланкава не мільгнула думка: «А ці трэба Амерыку адкрываць?»

Пра што звычайна гавораць мужчыны, сабраўшыся за бяседным сталом? Канечне, шмат пра што. Але найперш... Вядома ж, абавязкова згадваюць прыгожую палавіну чалавецтва. Хтосьці хваліцца сваімі амурнымі паходжаннямі. Нехта ці не пагардліва крывіць вусны: маўляў, залівай, хвалько, ды меру знай. Знаходзіцца і той, хто, не звяртаючы ўвагі на гэта, чарговы раз рашуча налівае чаркі, даючы зразумець, што не дзеля гэтага сабраліся, каб траціць час на пустыя размовы: трэба любіць, а не пра любоў гаварыць. Тым не меш і пасля перакуленых чарак гаворка працягваецца ў ранейшым рэчышчы. Вельмі ж казытлівая гэтая тэма. Дый усё тое, што тычыцца жанчын на дзіва цікава.

То чаму б з разваг пра іх, прыгажунек, і не пачаць гаворку? З дзяўчатак, як назваў жанчын гадоў трыццаць назад вядомы пісьменнік К., калі я завітаў да яго ў кабінет браць інтэрв'ю для «ЛіМа». Ды цяпер гаворка не пра яго.

Было гэта даўнавата. У тыя часы яшчэ, калі ў «ЛіМе» фотакарэспандэнтам працаваў майстар сваёй справы светлай памяці Уладзімір Крук. Часам мы маглі пасядзець у ягонай лабараторыі пры чырвоным святле. Зразумела, не за чаем ці за кавай. Чай і каву можна і не ў лабараторыі піць, а ў кабінеце. Дый не пры чырвоным, а пры дзённым святле. Пры чырвоным жа святле, ды яшчэ не за чаем ці за кавай, розныя рамантычныя думкі прыходзяць. А якая рамантыка без дзяўчатак? Пытанне, думаецца, не проста рытарычнае, а больш чым рытарычнае.

Неяк Уладзімір Андрэевіч парыўшыся ў стосе здымкаў, выцягнуў з яго адзін з іх.

— Пытанне на засыпку, — сказаў ён, — паказваючы мне здымак, адначасова закрываючы ягоную верхнюю палову. — Вось зняў на адным з пленумаў нашых паэтэс. Ці не здагадаешся па нагах, каторая з іх стаіць?

Я адразу адмовіўся ад такой прапановы:

— Куды мне? У гэтым можа разабрацца той, — засмяяўся я, — хто ацэньвае паэтэс не толькі па іх творчасці.

— Слабак, — адказаў Крук і прапанаваў: — то пайшлі, пашукаем, хто лепей у гэтым разбіраецца, чым ты.

Выйшлі ў калідор. І трэба ж так здарыцца, што там у гэты час якраз стаяў паэт К.

— Гэты назаве, — узрадаваўся Уладзімір Андрэевіч.

— Пра што вы? — здзівіўся К.

Крук паказаў яму здымак, па-ранейшаму прыкрываючы ягоную верхнюю частку:

— Па нагах можаш вызначыць, каторай з паэтэс яны належаць?

— Па нагах? — адразу было відаць, што такая прапанова паэту спадабалася. К. усміхнуўся, як той кот, які толькі што з'еў смятану, пачаў уважліва прыглядацца да здымка. — Гэта, здаецца, ногі... — Ён назваў знакамітую паэтэсу. — А гэта ... — Прагучала яшчэ адно прозвішча. З пяці выпадкаў К. памыліўся толькі ў двух. Кінулася ў вочы тое, што калі называў некаторых уладальніц ног, ягоны твар расплываўся ў блазнаватай усмешцы.

## Месца «адсідкі» — камсамол

Пасля заканчэння факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна я трапіў па размеркаванні ў рэдакцыю драгічынскай раённай газеты «Запаветы Леніна». Знаходзілася яна на той час у двухпавярховым будынку, які можна назваць мясцовым Домам Саветаў. Аднак, хоць у асноўным у ім размяшчаўся сам райвыканкам і ягоныя аддзелы, ставала месца

і іншым арганізацыям. Прынамсі, апроч рэдакцыі на першым паверсе знаходзілася друкарня, райкам камсамола.

Я са сваім сябрам Расціславам Пратасевічам часцей завітваў да камсамольцаў. Яно і зразумела: райкамаўскія работнікі былі нам бліжэй па ўзросце, таму і больш было ў нас агульнага. Часам прымалі і ўдзел у мерапрыемствах, якія ладзілі яны. І таму, што гэта было цікава, але і для таго яшчэ, што з'яўлялася магчымасць напісаць які-небудзь матэрыял для газеты. А то і карысталіся іхняй машынай для паездкі ў камандзіроўку.

Аднак маё наведванне райкама камсамола ўсё часцей стала абмяжоўвацца сектарам уліку, у якім працавала нядаўняя выпускніца адной з драгічынскіх школ Валя. Яна не прайшла па конкурсе. Здаецца, паступала ў тагачасны Брэсцкі педагагічны інстытут, а паколькі ў школе з'яўлялася камсамольскім актывістам, то яе і ўзялі на працу ў райкам. Толькі ўбачыў яе, як яна мне спадабалася. І не заўважыў, як пачаў бавіць час у яе кабінеце. Дайшло нават да таго, што нярэдка, калі я тэрмінова патрабаваўся ў рэдакцыі, той жа Слава ішоў і клікаў мяне.

Так, для мяне Пратасевіч быў і па сённяшні дзень з'яўляецца менавіта Славам, хоць ці не ўсе завуць яго Росцікам. Калі Слава чарговы раз «прыводзіў» мяне з «камсамола» ў рэдакцыю, сёй-той пачаў пасмейвацца. Маўляў, што карысці з гэтых хаджэнняў «у камсамол». Аднак на гэтыя ўсмешкі я не крыўдаваў. Крыўдаваў тады, калі знаходзіліся ахвочыя, зразумела, з мужчын, недвухсэнсоўна намякнуць на што-небудзь такое, чаго і ў паміне не было. Яшчэ больш непрыемна станавілася, калі гаварылі, што яна з кім-небудзь сустракаецца.

Магчыма, і сустракалася. Жыла ж не ў самім Драгічыне, а ў бацькоўскай хаце, а гэта ў некалькіх кіламетрах ад райцэнтра. На работу штодня прыязджала рэйсавым аўтобусам, на ім жа вечарам ехала назад. Тады я нават сябру свайму нічога гэтага не гаварыў, а цяпер прызнаюся. Калі аўтобус набліжаўся да аўтастанцыі — яна знаходзілася ўсяго ў метрах ста ад райвыканкамаўскага будынка, я падыходзіў да акна і глядзеў, як Валя кіруецца да сябе на працу. Паколькі да пачатку рабочага дня заставалася яшчэ даволі шмат часу, крыху вычакаўшы, спяшаўся да яе ў кабінет.

Будучы на той час празмерна сарамлівым, я ніяк не адважваўся прызнацца ёй у сваіх пачуццях. Дый нам было пагаварыць і пра шмат што іншае. Ва ўсякім разе мне. Хоць яна, відаць, здагадвалася, што ў мяне на душы, але заставалася непрыступнай. На прапановы схадзіць у кіно, нязменна адказвала адмовай. Тлумачыла гэта тым, што трэба спяшацца дамоў, бо познім вечарам аўтобус у іхнюю вёску не ходзіць. Што было, канечне, праўдай. Але ж, пры жаданні, можна было ў каго-небудзь і пераначаваць. Балазе яе лепшая школьная сяброўка таксама не паступіла і жыла ў самым цэнтры Драгічына. У райцэнтры жылі і іншыя аднакласніцы, якія таксама нікуды не паехалі вучыцца.

Як на сённяшні мой розум, я пайшоў на крок… Не ведаю нават, як назваць яго. Ва ўсялякім разе дваццацідвухгадоваму журналісту можна было так і не рабіць, бо ўсё тое выглядала вельмі наіўна. Вядома, не само па сабе, а з-за таго, што мела канкрэтную прывязку. А пачаў я ў кожны суботні нумар раёнкі прапаноўваць пад рубрыкай «Таварыш песня» якую-небудзь з тых песень, што былі ў той час на слыху. Канечне, не рэвалюцыйныя, і не ўра-патрыятычныя. У гэтым, зразумела, нічога благога не было, аднак я спецыяльна падбіраў для публікацыі тэксты такіх песень, у якіх, па сутнасці, гучала прызнанне ў каханні.

Не ведаю, ці здагадвалася Валя, што менавіта такія песні я прапаноўваю ў друк невыпадкова. Хто ведае. Пра гэта я так і не асмеліўся спытаць у яе.

Толькі аднойчы яна паведаміла, што адна яе сяброўка прасіла, каб была надрукавана… Не памятаю, якая гэта песня.

— Дзе ж узяць тэкст яе? — я даў зразумець, што такое проста немагчыма.

— Іншыя ж песні ты знаходзіш, — здзівілася Валя.

— Дык гэта ж іншыя, — ухіліўся я ад адказу. Дый не стаў тлумачыць, чаму прапаноўваю іх у друк і з якой цяжкасцю знаходжу неабходныя тэксты.

«Пасядзелкі» мае ў кабінеце Валі працягваліся, а тое, што я адсутнічаю на сваім рабочым месце, у рэдакцыі ўспрымалі спакойна. Пры неабходнасці мяне можна было лёгка знайсці, а да ўсяго я пісаў шмат. Тады «выпрацоўка» кожнага супрацоўніка вымяралася радкамі — як уласных матэрыялаў, так і падрыхтаваных аўтарскіх — у месяц, дык я ці не заўсёды ў рэдакцыі займаў першае месца. То якія прэтэнзіі маглі да мяне быць?! Хай адбывае добраахвотную «адсідку» ў Валі.

Што я і рабіў з зайздросным пастаянствам на працягу ўсяго рабочага дня. За выключэннем, зразумела, паездак у камандзіроўкі, напісаннем матэрыялаў, дзяжурстваў па нумары. Дый тады яшчэ, калі ў Валі было шмат наведвальнікаў. Ці калі райкам камсамола арганізоўваў якія-небудзь мерапрыемствы. З тых, у якіх Валя прымала ўдзел. Хоць, паўтаруся, са Славам і мы стараліся не прамінаць іх. Аднойчы нават паехалі суправаджаць нейкую дэлегацыю ў Пружаны, перад гэтым сказаўшы рэдактару, што едзем на раён.

## Сябра — даяр, я — трактарыст

Неяк Слава паведамляе:

— Едзем у Пінск, — пры гэтым шматзначна ўсміхаецца: — Валя ж едзе, то няўжо без яе застанешся?

— Пры чым Пінск? — нічога не зразумеў я. — Тым больш Валя.

— А пры тым, што ў Пінску ў пятніцу і суботу праходзіць занальны семінар маладых работнікаў сельскай гаспадаркі.

— Калі ж гэта ты даяром стаў? — пакпіў я з яго, здагадваючыся, што, канечне ж, збяруцца на гэты семінар тыя, хто непасрэдна звязаны з сельскагаспадарчай вытворчасцю.

— Станеш і ты, калі зразумееш, што і да чаго, — засмяяўся Пратасевіч і накіраваўся да двярэй, запрашаючы і мяне: — Пайшлі да Надзі.

Надзя працавала другім сакратаром райкама камсамола. Хоць і была крыху старэйшай за нас, але мы хутка знайшлі агульную мову і з ёю, таму яна таксама стала для нас сваім чалавекам.

— Згодны, — сказаў Слава Надзі, ледзь толькі мы пераступілі парог яе кабінета.

Я раскрыў было рот, каб сказаць, што ніякай згоды не даваў, але Надзя сваёй рашучасцю спыніла маё жаданне запярэчыць.

— Добра, хлопцы, што гатовы нам дапамагчы, — яна з удзячнасцю паглядзела на нас, — а то паспей за некалькі дзён дамовіцца, каб начальства адпусціла сваіх работнікаў. Не так жа проста зрабіць гэта, — апраўдвалася яна. — Нехта ж мусіць падмяняць іх, а каму хочацца выконваць пры гэтым чужую работу.

— Слава згодзен быць даяром, — я хутка ўвайшоў у курс справы.

— Цудоўна, а ты?

Я задумаўся.

— Таксама даяром, — падказаў Слава.

— Два даяры на раён — гэта ўжо шмат, — адказала Надзя і прапанавала: — А трактарыстам згодзен стаць? — яна засмяялася.

— Трактарыстам дык трактарыстам, — адказаў я.

— Толькі, — Надзя па-змоўніцку паглядзела на нас, — нікому ні слова. І запомніце на ўсялякі выпадак свае новыя прозвішчы. Зразумела, гэта тыя, хто і ў сапраўднасці працуе на вёсцы. Па гэтых прозвішчах вы і будзеце праходзіць у дакументах.

— Ты што, сумняваешся у нас? — як больш ініцыятыўны заявіў Слава.

— На ўсялякі выпадак напамінаю, — адказала Надзя.

— Мы ж самі зацікаўлены, — падтрымаў я Пратасевіча, — каб нічога ў рэдакцыі пра нашу адсутнасць не даведаліся. Сама разумееш, пятніца — рабочы дзень.

Зразумела, пасля гэтага трэба было атрымаць згоду рэдактара нашай газеты. Вядома, не на тое, каб ехаць на міжраённы семінар. Мы нечакана заявілі яму, а гэта было пад вечар у чацвер, што заўтра хочам праехацца па раёне. Рэдактар ахвотна згадзіўся чарговы раз накіраваць нас удвух у адзін і той жа калгас. У рэшце рэшт, гэта і апраўдана было. Расціслаў працаваў у аддзеле сельскай гаспадаркі, а я ў аддзеле пісем і масавай работы. Адзін з нас пісаў артыкулы, асвятляючы поспехі працаўнікоў ферм і палеткаў, другі ў сваіх матэрыялах закранаў пытанні культуры.

У пятніцу раніцой, як і запланавана было, выдзелены для абслугоўвання ўдзельнікаў семінара «ЛАЗ», узяў курс на Пінск. Паколькі ніхто з супрацоўнікаў рэдакцыі яшчэ на работу не прыйшоў, дык нам не было асаблівай неабходнасці хавацца. Зразумела, былі сярод дэлегатаў і сапраўдныя маладыя работнікі палёў і ферм, але яны, у адрозненне ад нас са Славам, вялі сябе засяроджана, нават неяк скавана. Чаго не скажаш пра нас. Жартавалі, расказвалі розныя гісторыі. Тым больш, што ехалі, па-мойму (хоць, магчыма, і запамятаваў), усе райкамаўскія работнікі. Было пра што пагаварыць.

Праўда, гэтая нашая вольнасць (мая са Славам) у час работы семінара магла каштаваць дорага. Калі адбывалася агульнае пасяджэнне, на якое сабраўся не адзін дзясятак юнакоў і дзяўчат з некалькіх раёнаў, мы працягвалі перашэптвацца, штосьці гаварыць, за што неаднойчы атрымлівалі заўвагі і злыя позіркі ад той жа Надзі, якая была адказнай за драгічынскую дэлегацыю. Ды гэта паўбяды яшчэ.

Нехта, хто сядзеў за намі, жартуючы, казытнуў мяне. Чаго-чаго, а казытання вельмі баюся. А тут адразу пад абедзве пахі… Я так закрычаў, што ўсе павярнулі галовы ў мой бок. «Усё, — падумалася, — начальства запытае прозвішча, а ў час перапынку пачне высвятляць, чаму сябе так паводжу, і тады стане вядома, што ніякі я і не трактарыст». Аднак пранесла: яна хутчэй за ўсё таксама ведала, што сярод дэлегатаў ёсць і людзі выпадковыя, запрошаныя на семінар дзеля галачкі.

Многае з той паездкі забылася. Адно памятаю: як раўнаваў я, калі Валя з кім-небудзь з юнакоў размаўляла, смяялася, а на мяне па сутнасці не звяртала ніякай увагі. Асабліва раскавана яна вяла сябе з Г., які ўзначальваў, здаецца, арганізацыйны аддзел райкама камсамола. Г. здагадваўся, што ў мяне на душы, таму падышоў, супакоіў:

— Даю чэснае слова: у нас з ёю толькі сяброўскія адносіны.

Засталося верыць. Верыць і перажываць. І не толькі на семінары, але і пасля гэтага. Каб жа прызнацца Валі ў сваіх пачуццяў у мяне і думкі не было. Здавалася, пачуўшы прызнанне, яна проста пасмяецца і раскажа пра гэта ўсім. Яшчэ гэтага мне неставала. Я тады не ведаў таго: што ні робіцца, то робіцца да лепшага. Сам Усявышні, у чым сёння я ніколькі не сумняваюся, рабіў усё для таго, каб у Драгічыне я не застаўся. Каб адпрацаваў два неабходныя гады, а потым…

## Каньяк і канцы ў ваду

Мне ж тады, наадварот, хацелася ў Драгічыне застацца. І гэта не гучныя словы. Мой аднакурснік Віктар Захарчук (ён, на жаль, пайшоў ужо у вечнасць), працуючы на Брэсцкім абласным радыё, калі вызвалілася там адна пасада, прапанаваў на яе мяне. Кіраўніцтва ахвотна згадзілася, бо ў перадачах часта гучалі і мае матэрыялы. Трэба была толькі мая згода. Я адмовіўся, хоць у Брэст вельмі хацелася. Аб прычыне адмовы няцяжка здагадацца: у Брэсце не было Валі, а ў Драгічыне Валя была.

Яна мне настолькі падабалася, што я нават думкі не мог дапусціць, каб сустракацца з кім-небудзь з дзяўчат. Нават калі захады рабіліся з іхняга боку. У прыватнасці, на мяне звярнула ўвагу афіцыянтка драгічынскага рэстарана Галя, куды, скажу шчыра, са Славам мы наведваліся часта. Дайшло да таго, што калі ў нас не было грошай (а калі яны ў нас тады былі?) мы пазычалі ў яе пяць рублёў, за якія на той час можна было ў рэстаране не толькі выпіць, а і закусіць, і садзіліся за стол іншай афіцыянткі, бо я не хацеў быць залежным ад той, якой падабаўся.

Неяк Слава кажа:

— Слухай, а чаму б табе з Галяй не сходзіць у кіно?

— Табе хочацца, то і схадзі, — незадаволена адказаў я. — Хочаш, каб пра гэта Валя даведалася?

— Няўжо не заўважаеш, што ты для яе нуль? — маючы на ўвазе Валю, Слава са шкадаваннем паглядзеў на мяне.

— Гэта ўжо не твая справа, — са злосцю адказаў я. — А з Галяй у кіно ніколі не пайду.

— Ды не крыўдуй, у мяне цікавая ідэя з’явілася, — па-змоўніцку падміргнуў мне Слава.

— У цябе нават ідэі бываюць? — падкалоў яго я.

Ніяк не зрэагаваўшы на маю іронію, ён выклаў сваю задумку на адным дыханні:

— Ты ідзеш з Галяй у кіно...

— Я ж сказаў табе, — абарваў я Пратасевіча, — не па-й-ду!

— Даслухай да канца.

Мяне ўзяла цікаўнасць, што ж гэта такое ён прапануе.

— Так і быць, — кажу, — слухаю.

— Ты ідзеш з Галяй у кіно, а яна ў знак удзячнасці частуе нас у рэстаране. Самае галоўнае ў тым, што ты быццам пра гэта нічога не ведаеш.

Пратасевіч разлічваў, што пасля гэтага я адразу згаджуся з прапанаваным ім варыянтам. Аднак памыліўся.

— Не пайду я з ёю ў кіно, — паўтарыў я. — А ў рэстаран і так сходзім.

— У рэстаране без грошай няма чаго рабіць, — Славу цягнула на філасофію. — То, можа, у цябе яны з’явіліся? — недвухсэнсоўна ўсміхнуўся ён і як бы падагульніў свае развагі: — Слухайся мяне і ўсё будзе ў парадку.

— Што яшчэ за «парадак»? — здзекліва запытаўся я.

— Ты спачатку дай згоду, што пойдзеш з ёю ў кіно. А потым нейкае выйсце знойдзем.

Я задумаўся. А і сапраўды, чаму б і не згадзіцца. Колькі можна пазычаць у Галі па пяць рублёў, якія потым усё адно трэба аддаваць. А тут можна выпіць на дурніцу. Але, калі здавацца, маючы на ўвазе наведванне кінатэатра, то з «песняй».

— Так і быць: згодзен, — падвёў вынік сваім развагам я.

— Нарэшце, — з палёгкай уздыхнуў Слава. — Нельга, каб адразу згадзіцца.

— Пачакай радавацца. Згодзен толькі пры ўмове...

— Што за ўмова яшчэ такая? — мой сябра насцярожыўся, чакаючы нейкага падвоху.

— На стале павінна стаяць бутэлька каньяку, — я зрабіў паўзу. — Іначай не згодзен.

— Чаго гэта я раптам павінен ставіць табе каньяк, — здзівіўся Слава. — У мяне што, грошы лішнія?

— Ды не ты, а Галя, — супакоіў я Пратасевіча.

— Так бы адразу і сказаў. Пастаўіць, не сумнявайся, — ён адказаў так упэўнена, быццам усё ўжо загадзя абгаворана.

— У такім разе — французскі. Так і перадай ёй.

— Будзе французскі, — упэўненасць не пакідала Славу.

Сапраўды, Галя падала нам на стол французскі каньяк. Паставіла такую закусь, якой дагэтуль мы і не бачылі. Сама ж гаспадыня гэтай урачыстасці завіхалася ля нас, нібыта мы былі ў Драгічыне самыя шаноўныя госці і менавіта для нас у рэстаране ладзіўся прыём. Канечне ж, галоўная ўвага была скіравана на мяне. Толькі ні Галіна ўважлівасць, пачцівасць, ні яе ўсмешкі ў мой бок, не радавалі мяне. Калі ж думаў пра тое, што давядзецца вечарам ісці з ёю ў кіно, адразу станавілася не па сабе. А тут яшчэ Слава падліў масла ў агонь.

— Ён жа і білеты загадзя ўзяў, — паведаміў ён, даючы зразумець, што ўсё ідзе належным чынам.

— Канечне, пацвердзіў я, — выцягваючы з кішэні два квіткі.

Твар Галі засвяціўся радасцю. Яна хуценька пайшла ў буфет і прынесла нам яшчэ з паўбутэлькі каньяку. Больш і не трэба было, бо мы і так адчувалі сябе ўжо на добрым падпітку. Але гэта ніяк не магло паўплываць на маю пільнасць. Наадварот, я яшчэ больш упэўніўся ў тым, што ў кіно з ёю не пайду ні пры якой умове.

Затое, калі выходзілі з рэстарана, твар Славы ад радасці блішчэў, як начышчаны самавар — калі яшчэ ўдаецца так добра і культурна адпачыць. Прытым бясплатна. Мой жа твар, наадварот, станавіўся ўсё больш змрочным. Лёгка сказаць: не пайду! Аднак я ж быў звязаны абавязкам. Дакладней — паўтары бутэлькамі каньяку. Праўда, на двух, але ад гэтага сутнасць не мянялася. «Расплачвацца» трэба было мне. Прытым час непазбежнай расплаты набліжаўся. Значыць, заставалася толькі адно выйсце: дзейнічаць як мага больш рашуча.

Таму, калі мы адышлі ад рэстарана толькі некалькі метраў, я выняў з кішэні білеты.

— Пойдзеш ты, — заявіў я Славу.

— Ты гэта сур'ёзна? — запытаўся Пратасевіч, усё яшчэ ўпэўнены, што я перадумаю.

— Калі ты сябра мне, — я паставіў яму ўмову, — то пойдзеш сам з ёю. Зразумей мяне правільна…

Слава зразумеў мяне, бо быў сапраўдным сябрам. І штосьці прыдумаў наконт нечаканай маёй немагчымасці пайсці ў кінатэатр. Накшталт, што мне раптоўна блага стала. Не ведаю, ці паверыла Галя гэтаму. Але потым нічога ў мяне не пыталася. Я ж не бачыў неабходнасці штосьці тлумачыць ёй. Хоць, мабыць, яна і сапраўды была да мяне неабыякавай, бо аднойчы дала мне параду, чаму трэба быць ветлівым з афіцыянткамі. Тады я зайшоў у рэстаран адзін. Магчыма, гэта было ў суботу ці нядзелю — Слава ж на выхадныя паехаў да сваіх бацькоў, якія жылі ў вёсцы Какорыца Драгічынскага раёна.

Не ведаю, з якой нагоды, але яна сказала:

— Запомні, з афіцыянткамі ніколі не спрачайся.

Зразумела, я здзівіўся, чаго гэта яна закранула такую тэму:

— Хіба я з табой спрачаюся?

— Я проста папярэджваю цябе.

— Папярэджваеш? — я здзівіўся яшчэ больш.

— Ведаеш, — працягвала Галя, — як мы помсцім, калі наведвальнік чымсьці не спадабаўся?

— Як? — тое, што прагучала з яе вуснаў успрынялася мною як штосьці неверагоднае. Няўжо і афіцыянткі могуць помсціць?

— Ды проста, — спакойна адказала яна. — Перад тым, як прынесці, скажам, боршч, возьмем і плюнем у талерку.

— Няўжо? — я ніяк не мог паверыць у пачутае.

— Не хвалюйся, цябе гэта не тычыцца, — супакоіла мяне Галя. — Але на ўсялякі выпадак ведай.

Тады гэтаму «на ўсялякі выпадак» я не надаў асаблівага значэння. Дый пазней, калі каму-небудзь расказваў пра такое прызнанне адной з афіцыянтак, яе апошніх слоў не згадваў. Цяпер жа, пішучы гэтыя радкі, мне раптоўна стала не па сабе. Магчыма, тады і яна, пакрыўджаная тым, што я не пайшоў у кіно, гэткім чынам адпомсціла мне, як і яе сяброўкі помсцілі тым, хто ім чымсьці не падабаўся. Магла ж і неаднойчы зрабіць. Пры гэтым міла ўсміхаючыся. Ды што цяпер пра гэта турбавацца.

## Чаго не губляў, таго не знойдзеш

Калі ехаў па размеркаванні ў Драгічын, быў упэўнены, што адпрацую толькі небходныя два гады. Сумненне з’явілася толькі тады, калі ўбачыў Валю. Ды адпрацаваў усяго адзінаццаць месяцаў. Водпуск праводзіў у бацькоў, але да канца яго не дабыў: ваенкамат выклікаў тэлеграмай. А потым былі два гады службы ў Забайкальскай ваеннай акрузе лейтэнантам.

Забыў ужо, ці сказаў я Валі «да пабачэння». Хутчэй за ўсё так і не развіталіся мы, бо прызвалі мяне ў канцы жніўня, а гэта ж час водпуску не ў аднаго мяне. А што ўспамінаў яе часта, то праўда. Нават, даведаўшыся ад Славы, што яна нарэшце паступіла ў Брэсцкі педінстытут, паслаў пісьмо. Адказу не атрымаў. Магчыма, і не дайшло яно, бо дакладнага адраса я не ведаў. Хоць у гэта цяжка верыцца, усё ж пошта ў нас працуе добра. Нават некаторыя пісьмы «на деревню, дедушке» даходзяць.

Калі ж атрымаў доўгачаканы водпуск, то пунктам прыбыцця назваў Брэст. Выбраў яго невыпадкова. Звычайна да водпуску дабаўлялася колькасць дзён, якія знаходзішся ў дарозе. Каб выйграць у часе, адпускнікі ляцелі самалётам. Я, для прыкладу, да Мінска. А тут яшчэ дабаўляўся дзень на паездку ў Брэст. Але, зразумела, я выбраў яго і таму, што мне ўсё ж хацелася пабачыць Валю. Праўда, яе так і не пабачыў.

Прыехаў я ў Брэст не адразу, а толькі пасля таго, як адпачыў некалькі дзён у сваіх бацькоў. Дый то пасля гэтага спачатку завітаў у Стоўбцы да сябра Федзі Бандаровіча, які працаў у раённай газеце, а цяпер з’яўляецца намеснікам рэдактара. Сустрэчу адзначылі, як і трэба. Дый як жа іначай: маладыя, здаровыя, доўга не бачыліся. Толькі позна вечарам сеў я аўтобус, што ішоў у Брэст. Праспаў усю дарогу, лежачы на заднім сядзенні. Балазе аўтобус быў амаль пусты.

Зразумела, што па прыездзе ў Брэст выгляд меў далёка не лепшы. Тым не менш адшукаў інтэрнат педінстытута, нават зайшоў у ягоную сталоўку. Калі снедаў, бачыў, як прабягаюць адна за адной студэнткі, спяшаючыся на заняткі.

Нават падалося, што ў іхнім гурце прамільгнула і Валя. Але ніякага жадання высвятліць ці сапраўды гэта яна, не было. Як і таго, каб папытацца ў вахцёра, ці жыве яна ў гэтым інтэрнаце. А тым больш ісці ў дэканат высвятляць, у якой аўдыторыі ідуць заняткі.

Паехаў у Драгічын, дзе правёў некалькі дзён. Адкуль зноў накіраваўся да бацькоў, каб пасля заканчэння водпуску вярнуцца ў вайсковую часць, у якой служыў. Пасля звальнення ў запас ужо не было ніякага жадання вяртацца на працу ў Драгічын. Але пра тамашняе жыццё з большага ведаў, бо рэгулярна перазвоньваўся са Славам. Дый некалькі разоў наведваўся да яго: ці ў час камандзіроўкі, ці падчас водпуску. Ведаў, што Валя працуе ў адной з сярэдніх школ раёна піянерважатай, але так і не пазваніў ёй.

Аднак у час адной з паездак у Драгічын усё ж адважыўся зрабіць гэта. Трэба ж: такое супадзенне. Калі патэлефанаваў, Валя акурат знаходзілася ў настаўніцкай. На маю прапанову пабачыцца, адразу згадзілася.

— Прыязджай, — адказала яна ахвотна.

Дабрацца туды, дзе яна працавала, асаблівай цяжкасці не складала. Праз той населены пункт праходзіць дарога на Брэст. На той час у гэты абласны цэнтр рэгулярна хадзілі рэйсавыя аўтобусы.

— Еду, — паведаміў сябру.

— А чаму б не з’ездзіць, — адказаў Слава.

У іншым выпадку ён, магчыма, прапанаваў бы таксама паехаць разам, а то, можа, і адгаварыў бы. Маўляў, ці не лепей пабыць разам, бо ў мяне ў кішэні быў ужо білет на Мінск. Аднак Пратасевіча і іншае турбавала. Дамаўляўся, каб бацькам прывезлі паліва ў вёску. Таму пажадаў мне поспеху, а яшчэ сказаў, што калі яго ўжо не заспею ў рэдакцыі, каб па прыездзе ў Мінск абавязкова патэлефанаваў. Я хацеў нават пазычыць у яго грошай, а пасля падумаў — навошта. Сякая-такая капейчына ў маёй кішэні ўсё ж ёсць.

Праз якую гадзіну я дабраўся ў той населены пункт, дзе Валя працавала. Хутка знайшоў і яе самую. Толькі яна была не адна, а з адной ці… Правільней усё ж сказаць, што з дзвюма сваімі сяброўкамі. Такая сустрэча ў мае планы не ўваходзіла, але ж не вяртацца назад. Таму і гаворка прыняла не той накірунак, як мне ўяўлялася. Спадзяваўся ж, нарэшце, сказаць, як шмат яна значыць для мяне, а тут… Ведама што: дзе працую, як працуецца. А ты як працуеш?

Прайшло колькі хвілін і я пашкадаваў, што не пазычыў у Славы грошай, бо Валя нечакана прапанавала:

— За сустрэчу не грэх і выпіць, — і, звяртаючыся да сяброўак, дадала: — Як думаеце, дзяўчаткі?

Дзяўчаткі ў знак згоды заківалі галовамі і ці не ў адзін голас прамовілі:

— Шампанскага.

Мне стала не па сабе, бо грошай на бутэльку шампанскага ў мяне неставала. Валя інтуітыўна адчула гэта. Вопыт ёй падказваў, у якім няёмкім становішчы я апынуўся. Прыгадала ж, канечне, як мы са Славам, тады яшчэ, калі я працаваў у драгічынскай газеце, часам у дзяўчат з райкама камсамола пазычалі грошы.

— Я стаўлю! — яна сама знайшла выйсце з гэтага няпростага для мяне становішча і паспяшалася ў магазін.

Калі адкаркавалі бутэльку, у мяне міжвольна мільганула думка: «Дажыўся. Калісьці каньяк на дурніцу піў, а цяпер шампанскае — за чужыя грошы. Ды яшчэ за грошы той, да якой ніяк не можаш падступіцца».

Толькі тады я ніколькі не шкадаваў за такі ўчынак. Цяпер жа было сорамна. У апраўданне засталося хіба сказаць:

— Наступным разам бутэлька з мяне!

— Прыедзеш? — Валя засмяялася.

— Абавязкова прыеду, — запэўніў я і таксама засмяяўся: — Каб бутэльку паставіць.

Вяртаючыся паўпустым аўтобусам у Драгічын, уладкаваўся ля акна, прыціснуўся шчакой да шкла. Яно было халодным. За ім імжэў дробны восеньскі дождж. Але куды халадней было ў мяне на душы. Быццам нейкі цяжар наваліўся. То ціснулі далёка не радасныя думкі. Навошта была гэтая сустрэча? Дзеля чаго імкнуся туды, дзе я не патрэбны?

## Мінулае не адпускае

Гэтыя думкі сталі яшчэ больш невыноснымі, калі, завітаўшы ў рэдакцыю, даведаўся, што Слава павёз бацькам у вёску паліва. Праўда, на рабоце былі яшчэ супрацоўнікі, якіх я таксама ведаў. Аднак наўрад ці маглі б яны зразумець мяне ў гэтыя хвіліны так, як зразумеў бы ён. Заставалася пайсці на станцыю і чакаць свой аўтобус. Што я і зрабіў.

Пратасевічу так і не пазваніў. Праз некаторы час патэлефанаваў ён сам.

— «Твая», — з падколам паведаміў Слава, — замуж выходзіць!

— Якая мая? — знячэўку я не здагадаўся, пра каго ідзе гаворка.

— Што, Валю ўжо забыў?

Мне стала не па сабе. Атрымлівалася, што тое шампанскае, відаць, ёю было пастаўлена невыпадкова. А запыталася, ці прыеду, проста так. Не, відаць, каб лішні раз упэўніць тых, з кім была, як я не магу без яе, бо, канечне ж, усё пра мяне ім расказала.

Я запытаўся ў Славы, а хто яе муж, быццам для мяне гэта было так важна. Ён адказаў. Калі гаворка скончылася, я нічога лепшага не знайшоў, як пайсці на пошту. Магчыма б, і не зрабіў гэтага, але перад гэтым вечарам пасядзеў з сябрамі. У галаве яшчэ крыху шумела, а да ўсяго такая навіна.

На пошце ўзяў бланк тэлеграмы, на якім напісаў штосьці накшталт: «Жадаю шчасця, няшчасны Саша». Адрас пазначыў той вёскі, у якой жылі яе бацькі. Супрацоўніца пошты, якой я прапанаваў запоўнены бланк, паглядзела на мяне з вялікім здзіўленнем. Не толькі яна, але і іншыя ў гэтым аддзяленні мяне добра ведалі: я друкаваўся ці не ва ўсіх абласных газетах і часта прыходзіў атрымліваць пераводы. Ганарары з рэспубліканскіх выданняў лічыў для сябе зручней таксама атрымаць пераводам.

Супрацоўніца са здзіўленнем паглядзела, але ні слова не сказала, тактоўнасць праявіла. Дый і разумела, што ў чужую душу не трэба лезці, бо чужая душа — цёмны лес. Я ж праз некаторы час супакоіўся, цвяроза разважыўшы, што ўсё, бадай, ідзе да лепшага.

Можна ўявіць сабе, у якім становішчы я б апынуўся, калі б Валя паставілася для мяне прыхільна. Хто яго ведае, магчыма б, дайшло б і да таго, чым усё звычайна ў падобным выпадках канчаецца. Я ж на той час сам у Мінску не быў прапісаны. Зразумела, што і кватэры не меў. А калі ўдваіх... У кожнага свая чарга нават наконт гэтага. Адзін у сямнаццаць гадоў жэніцца, а другі… Я жаніўся ў ажно ў трыццаць дзевяць і што? Слава богу, сыны ўжо дарослыя.

Што я так і не прыжыўся ў Драгічыне, цяпер, на адлегласці часу, я магу сказаць дзякуй і пажадаць вечнай памяці роднай Валінай цётцы. Мы і не ведалі са Славам, што гэта тая буфетчыца, якая працавала ў рэстаране. Слава пра гэта даведаўся праз шмат-шмат гадоў, а потым і мне расказаў. Паколькі рэстаран знаходзіўся ў некалькіх дзясятках метраў ад рэдакцыі, то да гэтай буфетчыца мы завітвалі часта. Асабліва, калі трэба было ўзняць настрой, як

кажуць, «не отходя от прилавка», то і былі для яе заўсёды навідавоку. Бывалі ў рэстаране рэгулярна і іншыя супрацоўнікі рэдакцыі.

Я нідзе не напаткоўваў такіх гасцінных людзей, як на Драгічыншыне. Калі што якое, то адразу прапануюць «расслабіцца». Праяўлялася гэта і ў дачыненні да нас з Пратасевічам, маладых журналістаў. Што ж у такім разе казаць пра газетных ваўкоў, якіх на раёне ведалі многія. Частавалі не толькі ў камандзіроўках. Нярэдка ў рэдакцыю заходзілі і брыгадзіры, і загадчыкі, дый старшыні калгасаў таксама, калі па нейкіх справах наведваліся ў Драгічын. А хіба добраму чалавеку адмовіш, калі ён да цябе звяртаецца з гэткім добрым намерам? Таму работнікі рэдакцыі ахвотна адгукаліся на іхнюю прапанову схадзіць у рэстаран. А часам і на рабоце рабілі тое, што ўзнімае настрой. Канечне, не злоўжывалі гэтым, але і «манахам» ніхто не быў.

## Двесце грам... З кішэні

Запомніўся ўнікальны выпадак. Працаваў у рэдакцыі цудоўнейшы чалавек Л., сельгасаддзелам загадваў. Васілём Андрэевічам звалі яго. Вясной дый восенню ён звычайна хадзіў у доўгім паліто. У такім доўгім, што крысо яго ледзь не чаравікаў кранулася. Гэтае паліто было адметнае яшчэ і тым, што і кішэні адпаведныя мела — такія вялікія, якія што заўгодна маглі ўмясціць у сабе. У гэтым я аднойчы ўпэўніўся, калі Л. вырашыў зрабіць мне прыемнае.

Я стаяў у калідоры, паблізу ад уваходу ў будынак, і як дзверы адчыніліся, у іх паказаўся Васіль Андрэевіч. Ён чамусьці ішоў вельмі асцярожна, не вымаючы правую руку з кішэні, а ягоны твар свяціўся ўсмешкай. Убачыўшы мяне, Л. узрадаваўся:

— А ты мне, Сашка, якраз і патрэбен, — твар яго стаў яшчэ больш радасным. — Падаруначак табе падрыхтаваў.

— Што яшчэ за падаруначак? — заінтрыгаваўся я.

— Пайшлі да мяне, пабачыш, — з гэтымі словамі Л. па-ранейшаму асцярожна, быццам у кішэні было тое, што ён баяўся разбіць, накіраваўся ў свой кабінет.

Мне нічога не заставалася, як паслухацца яго.

— А цяпер, Сашка, глядзі, — Васіль Андрэевіч, калі я зачыніў за сабой дзверы, пачаў вымаць правую руку з кішэні свайго паліто. — Хоць бы не разліць, — ён не гаварыў, а шаптаў: — Хоць бы не разліць.

Толькі цяпер я заўважыў, што Л. крыху выпіўшы. Але пра сваю здагадку яму нічога не сказаў, бо было не да гэтага. Як зачараваны, я назіраў за ягонымі дзеяннямі. Тым часам растапыраныя пальцы правай рукі Л., павольна вылазячы з кішэні паліто, штосьці трымалі. Яшчэ імгненне — і я ўбачыў паўнюткую, да самых краёў шклянку, напоўненую, як адчуў па паху, гарэлкай. То была шклянка, якую яшчэ і сёння сёй-тое называе малянкоўскай, бо выпускаць іх пачалі пры Старшыні Савета Міністраў СССР Г. Малянкове — умяшчальная, у якую ўваходзіла 250 грам вадкасці.

Баючыся, каб Васіль Андрэевіч хоць бы не разліў гарэлку, я нават сцішыў дыханне, быццам ад яго Л. мог парушыць раўнавагу. А Васіль Андрэевіч, нібыта той маг, нічога не заўважаючы вакол сябе, але адначасова будучы ўпэўненым у тым, якое вялікае ўражанне робіць сваім дзеяннем, працягваў асцярожна даставаць шклянку з кішэні паліто. Нарэшце выцягнуў яе цалкам, пры гэтым, на маё здзіўленне, не праліў ні кроплі, і гэтаксама асцярожна паставіў яе на стол. Пасля гэтага, аддыхаўшыся, звярнуўся да мяне:

— Табе, Сашка.

Я працягваў пазіраць на яго, не ў стане прамовіць хоць бы слова. Л. быццам паралізаваў мяне. Толькі што ўбачанае так уразіла, што не ведаў, як і рэагаваць на гэта. Нарэшце знайшоўся:

— А вы?

— Паўтараю: табе гэта, — Васіль Андрэевіч чамусьці неяк загадкава ўсміхнуўся. Мне нават падалося, што ён хоча разыграць мяне.

— Вада? — насцярожана запытаўся я, хоць ўнутрана і разумеў, што такое пытанне недарэчнае, бо навошта дзеля розыгрышу, рабіць такі «трук». Куды прасцей непрыкметна за сталом падмяніць чарку гарэлкі шклянкай з якім-небудзь іншым напоем.

— Сашка, — Васіль Андрэевіч зрабіў выгляд, што пакрыўдзіўся. — Як ты мог такое падумаць? Ды я для цябе... Пі, кажу, а пасля ўсё раскажу.

Пасля гэтага я аднеквацца не стаў. Паверыў свайму старэйшаму таварышу. Дый што мне, маладому, камсамольцу, няхай і не прыгажуну, нейкія дзвесце з нечым грамаў? Не адрываючыся ад шклянкі, уліў у сябе гарэлку і зрабіў доўгі выдых. Па ўсіх тэхналагічных правілах ужывання таго, што, урачы кажуць, надта ж шкоднае для арганізма, а жартаўнікі прытрымліваюцца іншай думкі: калі б гарэлка была такая шкодная, то не пілася б гэтак лёгка. Толькі не падумайце, што я агітую за спажыванне гэтай вадкасці. Па-першае, рэклама сёння — справа платная, то чаго гэта я раптам на нейкі гарэлачны завод проста за так буду працаваць. А па-другое, нікому зла не жадаю. Хоць, прабачце, лепей самі разбірайцеся, бо калі так гавару, то антыалкаголнай прапагандай займаюся, а розныя грамадскія абавязкі не для мяне.

— Нюхні, — Л. хуценька паспяшаўся мне на выручку, выцягваючы з другой кішэні свайго паліто кавалак хлеба, і, не паспеў я выдыхнуць з сябе паветра, як хлеб аказаўся ў мяне ў руцэ.

Я паспяшаўся падзякаваць Васілю Андрэевічу:

— У вас абслугоўванне лепшае, чым у рэстаране. Галоўнае, што з дастаўкай на дом.

— Што дзякаваць, — адказаў Л. — Сябры ж мы, Сашка. Сёння я цябе выручу, заўтра — ты мяне, — і запытаўся: — Цябе, нябось, цікавіць, дзе гэта я гарэліцу ўзяў?

— І як данеслі яе, таксама, — адказаў я, не хаваючы свайго захаплення дзеяннямі Васіля Андрэевіча: — Каб былі маладзейшыя, то і ў цырк можна ісці.

— Навошта мне той цырк? — не зразумеў Л.

— Ды вы б маглі жанглёрам быць, — патлумачыў я. — Па тонкім дроце, падвешаным пад купалам, прайшлі б так упэўнена, як і па зямлі.

Пахвальба Л. спадабалася. Ягоны твар расплыўся ў шырокай усмешцы:

— Эх, Сашка, мне б твае гады, — летуценна прамовіў ён і сам жа сябе як бы асадзіў: — Ды што пра гэта гаварыць? Цябе ж цікавіць, адкуль у мяне гэтая шклянка з гарэлкай узялася.

— Цікавіць, — пацвердзіў я.

— То слухай, — пачаў Васіль Андрэевіч, — пайшоў я гэта ў рэстаран, каб крыху падлячыцца... Учора ж пад вечар мы удвух з Зушчыкам узялі, — ён назваў фотакарэспандэнта і адразу паспяшаўся апраўдацца: — І цябе з Росцікам маглі б запрасіць, ды вы пасля работы адразу зніклі. Сёння ж я ўвогуле пайшоў адзін. Нікога не клікаў, бо, ты сам ведаеш, мая магла заўважыць. І так косіцца пасля ўчарашняга.

Ягоная жонка працавала ў нашай рэдакцыі бухгалтарам і была нашмат маладзейшая за яго. Цікавала, як толькі магла. Ды хіба за кожным крокам усочыш…

Л., тым часам працягваў:

— Толькі сабраўся заказаць у буфеце сто грам, як хтосьці пацягнуў мяне за руку. Азірнуўся, а гэта адзін мой знаёмы старшыня, — Л. назваў калгас, у якім той працаваў. — Андрэевіч, кажа ён, што мелачыцца. І да буфетчыцы: «Калі ласка, бутэльку». Выпілі, потым яшчэ адзін знаёмы падышоў. «Усё, хлопцы, — кажу ім, — з мяне хопіць. Калі не шкадуеце, то дайце сябру свайму занясу». «Бутэльку?» — пытаюцца. «Навошта бутэлька, — адказваю. — Хопіць і шклянкі». — «І як ты яе панясеш?» — здзівіліся яны. «А без праблем, — адказваю. — Налівайце да краёў». — «Да краёў? — вылупілі тыя вочы. — Расплешчаш жа па дарозе». — «Эх вы, — адказваю, — нічога не ведаеце, кніг не чытаеце. Чым паўнейшы посуд, тым лепш вадкасць у ім трымаецца. Галоўнае несці асцярожна». З гэтымі словамі я ўзяў паўнюткую шклянку і асцярожна апусціў сабе ў правую кішэню. Паліто ж я не здымаў. І бачыш — данёс…

— З вамі не прападзеш, — задаволены пачастункам, прамовіў я.

Пахвальба Л. спадабалася.

— Мы павінны, Сашка, адзін аднаго падтрымліваць.

І, вядома, падтрымлівалі. Як адна сям'я жылі. Калектыў невялікі, усе навідавоку. Адзін ад аднаго асаблівых сакрэтаў не мелі. А што часам жартавалі, найперш самі з сябе, дык таксама апраўдана. Тым больш, што рабілі гэта нязлосна.

## Да свята — скібка з маслам

А гэта адбылося тады, калі я, служачы ў арміі, завітаў у горад сваёй журналісцкай маладосці. Здаецца, якраз напярэдадні 100-годдзя з дня нараджэння Леніна. Ва ўсякім разе перад нейкай важнай падзеяй, бо рэдакцыя тэрмінова рыхтавала нумар, у які было запланавана некалькі выступленняў перадавікоў аб дасягненнях за гады савецкай улады. Адзін матэрыял мусіў напісаць і Пратасевіч. У адрозненне ад мяне ён гэта рабіў больш марудна, а ў мяне ж іншыя планы — так і хочацца прагуляцца. То Слава і прапанаваў:

— А можа, ты напішаш?

Асаблівага жадання ў мяне, канечне, не было, але і не хацелася доўга чакаць. Тым больш, што яшчэ не вызначыліся, чыё выступленне падрыхтаваць.

— Так і быць, — згадзіўся я.

Пачалі думаць, чыімі б вуснамі прамовіць, что «и жизнь хороша, и жить хорошо». Сышліся, што лепш за ўсё даць выступленне Героя Сацыялістычнай Працы. Гэтая жанчына была ўжо на пенсіі, жыла ў Драгічыне, дарэчы, з'яўлялася цешчай наша рэдакцыйнага шафёра. З ёй мы нядаўна гутарылі. Калі разважыць, кандыдатура што трэба, лепшай не прыдумаеш.

Пратасевіч, каб не перашкаджаць, пакінуў мяне ў кабінеце аднаго. Я сабраўся з думкамі і пайшло-паехала. Выступленне гэтай жанчыны я напісаў не проста хутка, а вельмі хутка, бо асаблівай цяжкасці не было. А вось з загалоўкам узнікла замінка. Усё ж мне хацелася, каб ён быў хоць крыху арыгінальным, але, колькі ні думаў, нічога такога арыгінальнага ў галаву не прыходзіла. Як жа быць? Выйсце знайшоў у тым, што спачатку стаўлю якую-небудзь назву з тых, што пры ўсёй сваёй сур'ёзнасці адначасова выглядае і крыху смешнай, а пазней прыдумаем са Славам нешта іншае, зразумела, сур'ёзнае.

Калі падзяліўся з Пратасевічам такой задумкай, той засмяяўся:

— Цікава, а як успрыме такі варыянт Лазаравіч, — ён меў на ўвазе адказ-

нага сакратара рэдакцыі Эціна, які любіў, каб ўсе яго называлі Мікалай Лазаравіч, але за вочы часам казалі Калман Лазаравіч, як і было напісана ў ягоным партыйным білеце. — Заўважыць ці не заўважыць падвох?

— Але ж гэты варыянт трэба яшчэ прыдумаць.

— Ты пісаў, ты і думай, — Слава даў зразумець, што цалкам разлічвае на маю фантазію.

Давялося ламаць галаву, бо ўсё аказалася не так і проста. Некалькі варыянтаў перабраў. Нарэшце спыніўся на тым, які падаўся мне найбольш прымальным: і сур'ёзна, і з некаторым жарцікам. Назваў я гэтае выступленне «З нішчымніцы на скібку з маслам».

— Няблага, — пахваліў Пратасевіч.

— Цудоўна, — я быў больш высокай думкі пра тое, што нарадзіла мая фантазія. — Лазаравіч ніколі не западозрыць, што такі загаловак для выступлення ў святочным нумары Героя Сацыялістычнай Працы не падыходзіць.

Так і атрымалася. Прачытаўшы матэрыял, Эцін застаўся вельмі задаволены.

— Маладзец, — сказаў ён Пратасевічу, мяркуючы, што гэта ён, як і было задумана, паспяхова і своечасова выканаў рэдакцыйнае заданне. — Дый загаловак, што і трэба. Не заштампаваны, а свежы.

Пасля такой высокай ацэнкі працы не прагуляцца грэшна. Што мы і зрабілі з чыстым сумленнем. Калі ж вярнуліся ў рэдакцыю, убачылі, што паласа, на якой мусіла стаяць гэтае выступленне, ужо звярстана і яе чытае дзяжурны. Ён таксама не ўбачыў ніякага падвоху ў загалоўку і спакойна аддаў паласу адказнаму. Лазаравіч чарговы раз узрадаваўся, што ўсё ідзе па плане:

— Усе палосы гатовы. Прачытае рэдактар і будзем друкаваць.

— Мікалай Лазаравіч, — спахапіўся я, — дык гэты загаловак не падыходзіць і паказаў на выступленне Героя Сацыялістычнай Працы.

— Чым не падыходзіць? — Эцін засмяяўся. — Дасягненні савецкай улады навідавоку: «З нішчымніцы на скібку з маслам».

— Як быццам і правільна, — падтрымаў мяне Пратасевіч, — але ж адначасова крыху і смешна.

Эцін задумаўся.

— Сапраўды штосьці не тое, — нарэшце вырвалася ў яго. — Куды ж ты глядзеў, — маючы на ўвазе Славу, абурыўся ён.

— Не я такі загаловак прыдумаў, — пачаў апраўдвацца Пратасевіч, — а Саша.

— То чаму згадзіўся? — дапытваўся Лазаравіч. — Матэрыял жа твой.

— Пажартаваць хацелі, — патлумачыў я.

— Жартаўнікі знайшліся, — Эцін задумаўся. — А і сапраўды, лепей загаловак памяняць.

Так і зрабілі, знайшоўшы нешта гэткае ж правільнае, але больш сур'ёзнае.

## Не надта фарсі, калі маеш джэрсі

Пытанне на засыпку: вы ведаеце, што такое джэрсі? Адрасую гэтае пытанне, зразумела, у першую чаргу людзям майго пакалення, альбо крыху старэйшым ці маладзейшым, бо калі хто-небудзь з моладзі і паспрабуе адказаць на яго, то, хутчэй за ўсё, згадае востраў з такой назвай. Але я маю на ўвазе зусім не гэты востраў, а…

Тут жа людзі пажылыя і прыпомняць, што ў сярэдзіне шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя вялікае распаўсюджванне атрымала тканіна джэрсі. Дарэчы, назоў яе ўзнік менавіта ад назвы вострава Джэрсі. Каб лепш раска-

заць, што яна ўяўляла сабой тым, хто яе ніколі не бачыў, я вырашыў зазірнуць у Беларускую энцыклапедыю, у якой і прачытаў: «асновавязаная тканіна (трыкатаж) з шарсцяных, баваўняных, шаўковых ці сінтэтычных нітак, а таксама адзенне з такой тканіны». Толькі ў энцыклапедыі не сказана, што гэтая аснова была надта ж танюткая і наклейвалася на гуму ці на штосьці падобнае. Калі ж перавесці ўсё ў практычнае рэчышча, то яна прыгожая, практычная (не мнецца), аднак, па сутнасці, не грэе.

Аднак што нам са Славам было думаць пра тое, наколькі вырабы з джэрсі цёплыя. Нас, маладых, гарачых, гэта нікольki не цікавіла, затое вабіла прыгажосць гэтай тканіны. Убачыўшы ў раённым універмагу паліто з джэрсі, Славу адразу захацелася купіць яго. Мае ўгаворы, што зімой у ім будзе холадна, а акурат на зіму ён і збіраўся прыдбаць гэты цуд, нічога не далі.

— Купляю, — заявіў ён з такой упэўненасцю, быццам у ягонай кішэні ляжала 180 рублёў, якія неабходна было заплаціць за паліто, а гэта два тагачасныя месячныя заробкі. Гэтаксама рашуча дадаў: — І ты купляй.

Такое паліто, не сказаць, каб мне падабалася, але ж за сябра трэба і ў ваду, і ў агонь ісці, а тут нейкае адзенне. Не падтрымаць Славу было раўназначна здрадзе. Здрадзіць жа Пратасевічу я не мог, чаго б гэта мне ні каштавала. Адно мяне стрымлівала ў гэтым патрыятычным учынку— дзе ўзяць такія грошы.

— Грошы будуць, — не пакідала Пратасевіча ўпэўненасць.

Слухаючы яго, можна было падумаць, што ў ягоных кішэнях не вецер гуляе, а ляжыць непачатая пачка асігнацый і ён, доўга не ведаючы, што з імі рабіць, нарэшце знайшоў ім прызначэнне, таму нават гатовы падзяліцца часткай і са мной.

— Адкуль з’явяцца яны? — я не падзяляў ягонага аптымізму.

— Крэдыт возьмем, — Слава паглядзеў на мяне як на дзівака, у ягоным позірку прачытвалася: грошы на паверхні ляжаць, а ты яшчэ сумняваешся, ці браць іх.

Падобны варыянт, дарэчы, мне і ў галаву не прыходзіў. Дый, у рэшце рэшт, на той час я і слаба ведаў, што такое крэдыт і з чым яго ядуць. Аднак прызнавацца Пратасевічу ў гэтым не стаў. Моўчкі пацвердзіўшы сваю дасведчанасць, запытаўся:

— Думаеш яго нам дадуць?

— А хіба мы горшыя? — на пытанне пытаннем адказаў Слава.

Я не сумняваўся, што мы не горшыя. Я нават быў перакананы, што мы ў многім за шмат каго лепшыя. Але ж, у гэтым я таксама быў перакананы, крэдыт не даецца па прынцыпе: лепшы — горшы. Пры атрыманні яго дзейнічаюць іншыя крытэрыі. Дый суму нам трэба браць не такую і малую.

Прынамсі, бухгалтарша рэдакцыі, даведаўшыся пра наш намер — у курс справы яе ўводзіў Слава, а я сціпла стаяў збоку і маўчаў, ці то са здзіўленнем, ці з неразуменнем паглядзела на нас:

— Хлопчыкі, вы ўяўляеце сабе, якія гэта грошы?

Слава ўсміхнуўся:

— Думаеце, мы лічыць не ўмеем?

— Але ж грошы аддаваць трэба, — працягвала бухгалтарша.

— На гэта і ёсць крэдыт, — павучальна адказаў Пратасевіч.

— Яно то так, — пагадзілася бухгалтарша і тут жа спахапілася: — А ці дадуць яго вам?

— Чаму не дадуць?! — умяшаўся ў гаворку я. — Усім даюць, а нам не дадуць.

— Прабачце, — пачала апраўдвацца бухгалтарша, — мне трэба было гэта адразу вам сказаць. Як жа я і запамятавала, — яна пачала рыцца ў нейкіх сваіх

паперах. — Здаецца, гэтыя, — раскрыўшы папку, пачала ўважліва чытаць. — Сапраўды, — уздыхнула яна, — каб атрымаць крэдыт, трэба адпрацаваць год, а вы…

Мы працавалі ўсяго некалькі месяцаў.

— Не дадуць вам крэдыт, — адказала бухгалтарша і па тым, як гэта было сказана, адчувалася, што яна хацела б нам дапамагчы. —- Што ж рабіць? — задумалася яна.

Мы стаялі моўчкі. У Славы быў такі выраз, быццам пад пагрозай аказалася здзяйсненне самай галоўнай ягонай мары. Далёка не лепшае адчуванне было і ў мяне. Калі дагэтуль ніякага паліто-джэрсі мне не хацелася, то цяпер… Уявіў сабе, як мы са Славам у джэрсі з’явімся на вуліцах Драгічына. Глядзіце: «рэдакцыя» ідзе. Здаецца, я нават усміхнуўся сам сабе, быццам увачавідкі ўбачыўшы ўсё гэта. Аднак бухгалтарша праз нейкае імгненне вярнула мяне з нябёсаў на зямлю. Правільней, наблізіла да яе, бо выхад з таго незайздроснага становішча, у якім мы апынуліся, усё ж меўся.

— Калі рэдактар угаворыць старшыню райспажыўсаюза, — сказала яна, — то могуць для вас, як для маладых спецыялістаў, зрабіць выключэнне.

Гэта, канечне, быў варыянт, які даваў нам права на жыццё. Прабачце, права на набыццё паліто-джэрсі. Птушка-шчасця вось-вось магла апынуцца ў нашых руках, калі ўдасца ўгаварыць… Што рэдактар пойдзе нам насустрач, мы ніколькі не сумняваліся, але ці ўгаворыць ён старшыню райспажыўсаюза, гэта пакуль што знаходзілася пад пытаннем. Праўда, зноў жа сумняваўся толькі я. Пратасеіч жа быў упэўнены, што ўсё для нас абавязкова скончыцца добра.

Праўда аказалася на Слававым баку. Рэдактар наш Каваленка быў цудоўным чалавекам. Да тых рэдкіх людзей належаў, якіх трэба яшчэ пашукаць. Таму Антонавіч ахвотна пайшоў нам насустрач. Ён без асаблівай цяжкасці дапамог, бо ведаў па сутнасці ўсё раённае начальства, а раённае начальства добра ведала яно. Дый не апошнюю ролю, канечне, сыграла тое, што мы са Славам патрапплялі пад катэгорыю маладых спецыялістаў.

Праўда, бухгалтарша, афармляючы набходныя дакументы на атрыманне крэдыту, усё ж была менш аптымістычная.

— Вы хоць падумалі, як жыць будзеце? — яна па-мацярынску заклапочана паглядзела на нас. — Вам давядзецца штомесячна выплачваць не такую і малую суму.

Запярэчыць нам не было чым, але і адступаць не збіраліся. Адступленне ўспрымалася паражэннем. Нам жа неабходна была перамога, і толькі перамога. Няхай і такая маленькая, як набыццё паліто-джэрсі. Праўда, калі ва ўнівермагу пачалі прымерваць тое, што нам прапанавалі, я засмуціўся. Звычайна люблю светлыя колеры, але памерам мне падыходзіла толькі карычневае паліто. Аднак іншага выйсця не было — хто ведае, калі завязуць чарговую партыю. Дый ці завязуць яшчэ.

Гэта ж быў час суцэльнага ажыятажу на паліто-джэрсі, плашчы-балоння, кашулі з нейлону — на ўсё тое, што ў праклятым капіталістычным свеце выездзенага яйка не варта было. К слову сказаць, кашулю па знаёмстве ў тым жа ўнівермагу купіла мне Маркіянаўна, мая хатняя гаспадыня. Што да плашча, то прыдбаў яго толькі ва Улан-Удэ, калі трапіў у армію, але, як высветлілася, плашчы-балонні ўжо выйшлі з моды.

Таму давялося ўсё ж купляць карычневае паліто, затое Славу трапілася больш светлае. А праз колькі дзён мы ў сваёй абноўцы паказаліся ў рэдакцыі. Восень усё больш уступала ў свае правы, дні сталі халоднымі, то паліто-джэрсці і прыйшлося акурат. Супрацоўнікі рэдакцыі нашу абноўку ўспрынялі

належным чынам: і сучасная, і прыгожая, дый утульна ў ёй. Праўда, хтосьці запытаўся:

— Не баіцёся, хлопцы, што зімой у гэтых вашых джэрсі зуб на зуб патрапляць не будзе?

Акурат тое меў на ўвазе, што і я, калі з не надта вялікай ахвотай успрыняў прапанову Славы прыдбаць сабе гэтыя паліто. Ды тое, што можна казаць сябру, ні ў якім выпадку нельга давяраць усім.

— Мы што, мерзлякі якія? — на маім твары з'явілася здзіўленне.

— Праходзім зіму і не заўважым, — падтрымаў мяне Слава.

Той, хто выказаў сумненне наконт таго, што пальто-джэрсі добра падыходзяць для зімы, толькі ўсміхнуўся. Іншыя проста прамаўчалі. Відаць, не хацелі псаваць наш святочны настрой. А хутчэй разумелі, што становішча ўсё адно ўжо не выправіш: рэч куплена, выплата крэдыту пачалася, то трэба мірыцца з тым, што атрымалася. А, магчыма, хто-небудзь з іх добра ведаў і гісторыю, якую любіла расказваць мне мая бабуля.

Купіў даўным-даўно цыган на базары кавалак мыла, сядзіць на нейкай лаўцы і, крывячыся, есць яго. Мужык, які праходзіў міма, запытаўся ў цыгана:

— Што гэта ты робіш, чалавеча?

— Мыла ем, — яшчэ больш крывячыся, адказаў цыган.

— Дык мыла ж не ядуць.

— Э, бацю! — цяжка ўздыхнуў цыган. — Міла не міла, а калі купіў, дык трэба з'есці.

Незаўважна восень змянілася зімой. Тут вось мы і адчулі, што паліто нашы, мякка кажучы, не для такога сезона. Ды выйсця няма: што маем, тое і трэба насіць. Не такія багатыя, каб яшчэ і зімовыя паліто купляць. Не кажучы пра што-небудзь і больш цяплейшае. Дый пры ўсім жаданні з такой нашай задумы нічога не атрымалася б: папярэдні крэдыт не выплачаны, хто ж дасць нам яшчэ адзін. Заставалася не толькі хадзіць у джэрсі, але і рабіць выгляд, што ў іх нам цёпла. А тут і Новы год на носе.

— Едзем да мяне ў вёску, — прапанаваў Слава.

У ягонай Какорыцы я паспеў пабываць ужо колькі разоў. Спадабалася. Бацькі Слававы на дзіва шчырыя людзі, гасцінныя, у такіх адчуваеш сябе, як дома. Ды то восенню было. Здавалася б, якая розніца? А розніца вялікая. Да Слававай вёскі аўтобус не хадзіў, толькі да суседняга Бездзежа, а адтуль у Какорыцу яшчэ нямала кіламетраў. У цёплае надвор'е нічога, а зімой... Дый калі яшчэ дарогу замяце. Але ж і на выхадныя аднаму ў Драгічыне сумна.

— Едзем,— згаджаюся я.

— У такім разе, — прапанаваў Слава, — не адразу да маіх бацькоў, а завітаем спачатку да дзеда з бабай.

Перспектыва, не буду хлусіць, высвечвалася заманлівая, калі прыняць пад увагу, што мы любілі з ім, дзе толькі можна, належным чынам пагасцяваць. З другога ж боку, гэта выклікала і пэўныя праблемы. Какорыца — вёска вялікая. Праўда, не па колькасці насельніцтва, а па тым, што хаты ставіліся на ўзгорках, вакол жа было балота. Таму нярэдка ад адной да другой была не адна сотня метраў. Вясной жа тэрыторыя вакол іх увогуле ператваралася ў мора і ад хаты да хаты плавалі на лодках. Сам аднойчы дабіраўся так. Калі, служачы ў арміі, прыязджаў у водпуск і завітаў у Драгічын. Зімой — не намнога лепш. Наўкола снег і снег, а ісці даводзіцца ледзь не па суцэльным цаліку. Аднак было не было.

— Згодзен і на такі варыянт, — адказваю.

Як назло, той дзень, у які мы выбраліся ў дарогу, аказаўся надта ж халодны. Пад вечар яшчэ і снег пачаўся, а да ўсяго — ветрана. Выйшлі з аўтобуса,

мароз да касцей праймае. Мы ж мала таго, што ў джэрсі, яшчэ і без шапак. Фарсіць дык фарсіць. Развіталіся ж з аўтобусам, здаецца, нават не ў Бездзежы, а, не даязджаючы да яго, у вялікай вёсцы Хомск. Гэта ў ёй цяпер вырабляюць вядомую па ўсёй краіне і далёка за яе межамі мінеральную ваду «Фрост».

Тады ж ніхто і падумаць не мог, што літаральна пад нагамі такое багацце хаваецца. Хоць больш чым у дастатку было ў тамашніх населеных пунктах іншага багацця. Нідзе больш, нават на Драгічыншчыне, не ўмелі гнаць такую высакаякасную самагонку. Смела магу паклясціся, што яна дасць фору знакамітай старадарожскай. На слова паверце мне, бо каштаваў і тую, і другую, прайшоўшы экзамен на ўжыванне гэтага прадукта, зразумела, на драгічынскай зямлі. Дый як жа іначай, калі паехаў працаваць па размеркаванні, то і мусіў апраўдваць спадзяванні выкладчыкаў журфака. І ў творчасці, і ў жыцці.

Разумеючы, што да Какорыч яшчэ далекавата, мы са Славам, кіруючыся туды, не пагрэбавалі і крамнай. Дзейнічалі па прынцыпе: не чакай таго, што будзе, а ўжывай тое, што ёсць. Таму, нягледзячы на мароз, настрой у нас у чымсьці нагадваў вясновы. І хоць калючы снег шротам біў па твары, мы, спрабуючы закрыцца крысом сваіх джэрсі, настойліва прабіраліся наперад.

Прабачце, забыў сказаць: ішлі мы балотам. А ў Хомску вылезлі таму, што, як сказаў Слава, ад гэтай вёскі напрасткі бліжэй да хутара, дзе пражывалі ягоныя дзед і баба. Мушу, праўда, папрасіць і яшчэ аднаго прабачэння. Паколькі Славаў бацька быў намнога старэйшы за ягоную матулю, то ў Славы яшчэ меліся ці то прабабуля, ці то прадзед па матчынай лініі. Магчыма, нават абое з іх. Працуючы ў Драгічыне, у родзічах Славы я ўвогуле заблытаўся. Быў у яго нават дзядзька, старэйшы за свайго пляменніка, гэта значыць за Славу, усяго на некалькі гадоў. Але гэта не так істотна.

Істотна тое, што да каго б з ягоных родзічаў мы ні завітвалі, маглі быць упэўненымі: прывецяць як след. Каб лішні раз упэўніцца ў тым, што гэта на самой справе так, мы брылі і брылі балотам, непрыкметна адзін ад аднаго прыкрываючы рукой свае галавы, бо ад марозу, які мацнеў, было такое адчуванне, што нават мазгі могуць змерзнуць, а то і вымерзнуць. Праўда, калі б хтонебудзь знаёмы сустрэў нас у гэты час і даведаўся, што мы наўмысна выбралі для сябе такія блуканні па пакутах, ён падумаў бы, што ў нас мазгоў і так няма. Ва ўсякім разе з таго моманту, калі адважыліся на такую рызыкоўную авантуру. Але на балоце знаёмых мы, канечне, напаткаць не маглі. Разумныя людзі ў такое надвор’е сядзяць у цёплых хатах.

Між тым, ужо зусім сцямнела. Я пачаў хвалявацца, ці не заблудзіліся, але Слава супакоіў.

— Яшчэ толькі каля паўкіламетра, — патлумачыў ён.

— Паўкіламетра ці ўсё ж кіламетр? — засумняваўся я.

— А табе якая розніца? — спакойна адказаў Слава, быццам бы не зімовым балотам ішлі мы, а прагульваліся летнім лесам, слухаючы спевы птушак і на поўныя грудзі ўдыхаючы духмяную прахалоду. Увогуле, я заўсёды здзіўляўся ягонаму спакою. Здавалася, нішто не магло вывесці яго з сябе. Сёй-той магчыма ўспрымае падобныя паводзіны як вынік флегматычнасці характару. Мне ж думаецца, што прычына ў іншым: так ужо закладзена ад нараджэння ў чалавеку, што ён сваім спакоем быццам засцерагае сябе ад лішніх перажыванняў.

Я не знайшоўся, што і адказаць. Дый ніякага сэнсу гэта не мела. Заставалася адно: працягваць ісці, каб хутчэй апынуцца ў цяпле і… Было такое адчуванне, што дастаткова аднаго маленькага глытка какорыцкай, як ўсё нутро сагрэецца. Але пакуль пра гэта заставалася толькі марыць. Аднак як было пры савецкай уладзе? Правільна, усе мары збываюцца. Таму хутка мы, стомленыя, але радасныя ўваліліся ў хату Слававых родзічаў.

Тыя вельмі здзівіліся нечаканаму нашаму з'яўленню. Пачалі шкадаваць, як гэта мы, бедненькія, у такой апратцы вытрымалі такі доўгі шлях. Мы толькі ўсміхаліся, чакаючы галоўнага. А яшчэ і таму, што ведалі тое, чаго не маглі ведаць Слававы бабуля з дзядулем, ці прабабуля з прадзедам. Паўтараю: у ягоных родзічах я тады ўжо заблытаўся. А іхняе няведанне заключалася ў тым, што па нашых планах наперадзе было яшчэ адно гасцяванне, а пасля яго трэцяе і нарэшце — у Слававых бацькоў.

Калі, крыху пасядзеўшы за сталом, мы пачалі збірацца, не сказаць, каб нас надта затрымлівалі: ісці ж яшчэ далекавата дый час ужо не тое, што позні, а больш, чым позні. Аднак, даведаўшыся, што да бацькоў Славы адразу не пойдзем, пачалі ўмольваць, каб адмовіліся ад падобнай задумы. Але Слава настойваў на сваім. Я ж маўчаў, тым самым даючы зразумець, што цалкам падтрымліваю яго. Хоць чаму даючы зразумець? Так і было. Пасля некалькіх чарак какорыцкай той тормаз, што кантралюе колькасць выпітага, як звычайна ў падобных выпадках, перастаў працаваць. Канечне, да аўтапілота было яшчэ вельмі далёка, але ўсё адно хацелася новых сустрэч, новых уражанняў.

Таму і павёў мяне Слава аднаму яму вядомымі сцежкамі, якія адчуваў і пад снегам, да сваіх чарговых родзічаў. Праўда, там затрымаліся менш, бо ўсё ж разумелі, што, чаго добрага, і не дойдзем да канчатковай мэты. Зразумела, дайшлі і, зразумела, нас як след прывецілі, хоць, калі разабрацца, то і паўшчуваць трэба было б за такое авантурнае падарожжа. Толькі бацькі ёсць бацькі. Яны ўзрадаваліся з'яўленню сына. Дый да мяне паставіліся добра, як гэта рабілі неаднойчы.

Аднак самае памятнае наведванне Какорыцы ўсё ж не гэтае, а тое, што таксама адбылося зімой, але на выхадныя дні. Паколькі ж ехаў і рэдактар, то ўзялі рэдакцыйную машыну. Дарога была ачышчана ад снегу да самай Какорыцы, таму даехалі хутка. Наперадзе былі два дні. На добры лад пагасцяваць бы ў суботу, а ў нядзелю раніцай, у крайнім выпадку, пад вечар, вяртацца назад. Але нам так спадабалася, што вырашылі затрымацца да панядзелка. Не насцярожыла нават тое, што ў нядзелю, недзе ў сярэдзіне дня пачаў ісці снег.

Спадзяваліся, што ён хутка сціхне. Ды памыліліся. Калі адумаліся, то было позна. У такую бездараж, гледзячы на ноч, выязджаць не мела сэнсу. Заставалася дачакацца раніцы. А снег ішоў і ўсю ноч. Пад раніцу яго наваліла столькі, што не праехаць не прайсці. Становішча склалася крытычнае. Той, хто працаваў у раённай газеце, ведае, што ў панядзелак рыхтуецца нумар, які выходзіць у аўторак. Прычым некаторыя матэрыялы ставяцца, як кажуць, «з колаў». А тут адсутнасць двух супрацоўнікаў і рэдактара.

Каваленка ўсё ж неяк датэлефанаўся да Драгічына. Балазе, сувязь не была парушана, папярэдзіў, што затрымаемся. Толькі ніхто з нас не ведаў, якой доўгай будзе гэтая затрымка. Усё залежала ад таго, як хутка расчысцяць дарогу. Але гэта сёння рознай тэхнікі стае, а ў тыя гады... здаецца, нашу машыну (з намі, зразумела) з Какорыцы выцягнуў трактар. А як быць далей? На шчасце, з Бездзежа трактар на прычэпе вёз у Драгічын бітоны з малаком, якія, каб не замерзлі, былі ўцеплены. На гэты прычэп мы і селі. Як і хтось яшчэ, каму была пільная неабходнасць трапіць у райцэнтр.

Наперадзе было ні многа ні мала, а васямнаццаць кіламетраў. Віктару Антонавічу цяплей, у яго зімовае паліто, а нам у джэрсі... Колькі памятаю сябе, больш ніколі не даводзілася так мерзнуць. Хіба што на ваенных вучэннях падчас службы ў Забайкаллі, якія праходзілі ў Селенгійскім стэпе.

Каб крыху сагрэцца, спрабавалі ў прычэпе станавіцца ў поўны рост, рухацца, размахваць рукамі. Потым зноў садзіліся. Да таго змерзлі, што, калі б нехта сказаў, што можна раптоўна памерці і ўсе пакуты скончацца, бадай,

згадзіліся б і на гэта. Калі ж недзе ў сярэдзіне дня дабраліся ў Драгічын, то ніякіх сіл ісці ў рэдакцыю не было. Пайшоў дахаты і некалькі гадзін праспаў. У рэдакцыі ж з’явіўся толькі пад самы вечар.

## Капялюш пракурора і паўголенькая прыгажунька

Паліто-джэрсі для мяне аказалася нейкім нешчаслівым. У гэтым канчаткова ўпэўніўся, калі праходзіў раённы семінар лепшых дружыннікаў. Праводзіўся ён у зале райкама партыі. Ад рэдакцыі — непадалёку, усяго трэба перайсці праз вуліцу. Пачалася ўжо вясна, але яшчэ было халаднавата, таму я, хоць спачатку хацеў прабегчы гэтыя метры ў пінжаку, усё ж апрануў паліто. Як і мае быць, павесіў яго ў гардэробе. Выпадкова аказалася свабоднае месца поруч з шынялём і капелюшом пракурора раёна. Нумаркоў тут ніколі не было, усё ж выпадковыя людзі ў райкам не хадзілі, адпаведна і гардэробам не карысталіся. Праўда, так думалі райкамаўскія работнікі, але яны памыляліся.

Калі на пасяджэнні аб’явілі абедзенны перапынак, я, карыстаючыся вольным часам, вырашыў схадзіць у рэдакцыю. Заходжу ў гардэроб і вачам сваім не веру: майго паліто няма. Першае, што прыйшло ў галаву: пажартаваў Слава. Спяшаюся ў рэдакцыю і адразу да яго:

— Дзе маё паліто?

— Адкуль мне ведаць? — здзіўлена адказвае Слава. — Ты ж, здаецца, у ім на нараду пайшоў?

Расказваю, што здарылася.

— Можа, ты не заўважыў яго? — выказвае меркаванне Слава.

— Паліто ў гардэробе не заўважыць? Ты хоць думаеш, што гаворыш.

— Можа, хто-небудзь перавесіў на іншае месца?

— Дык дачакаўся, пакуль ўсе разыдуцца. Гардэроб свабодны, нічога з апраткі ў ім не засталося.

Не ведаем, што і рабіць. Але, аказваецца, абакралі не толькі мяне. Самае ж смешнае ў тым, калі падобнае сцвярджэнне ў дадзеным выпадку да месца, што прапаў капялюш пракурора. Ён спачатку пра гэта не гаварыў. Адбылося ж гэта ў час нарады лепшых дружыннікаў раёна! ЧП раённага маштабу, нічога не скажаш. Хоць, як гэта па-кашчунску і не гучыць, з-за таго, што абакралі і пракурора, я ... выйграў.

Як вядома, негалоснае супрацьстаянне з міліцыяй і пракуратурай існавала заўсёды. Не заставалася сумнення, што пры такой сітуацыі ён «раскруціць» іх на поўную катушку. Таму ў міліцыі не драмалі. Разумеючы, што крадзёж капелюша пракурора ім можа каштаваць дорага, супрацоўнікі яе прынялі ўсе захады, каб знайсці злодзеяў.

Толькі пачаў я разважаць, можа, лепей цяпер пайсці на кватэру і ўзяць плашч, бо пад вечар пахаладае, як у рэдакцыю прыйшла радасная вестка. Усё знойдзена. Праўда, як ні стараліся міліцыянеры, але спрацавалі яны ўсё ж не прафесійна. Украдзенае знайшлі, але саміх злодзеяў затрымаць не змаглі. Правільна вызначыўшы накірунак іх магчымага ўцёку — у бок Брэста, дакладна ўсё не пралічылі. Таму, калі аўтобус, што праходзіў праз Драгічын, спыніўся ў Кобрыне, міліцыянеры замест таго, каб, не выпускаючы з салона нікога з пасажыраў, папрасіць тых, у каго вялікія сумкі раскрыць іх, узяліся за гэта пасля таго, як некалькі чалавек выйшла. Сярод іх аказаліся і тыя, хто ўчыніў крадзеж. Зразумела, што сваю сумку пакінулі ў салоне.

Так зноў маё любімае паліто-джэрсі (ці ўсё ж не любімае, па сённяшні дзень канчаткова так і не вызначыўся з гэтым) зноў апынулася на мне. Аднак

кропку ў гэтай гісторыі ставіць было рана. У міліцыі, вядома ж, не маглі не разумець, што за недагляд у гардэробе некаму ўсё ж давядзецца адказваць. Але пакаранне стане слабейшым, калі пацярпеўшых акажацца менш, чым было заяўлена першапачаткова. Значыць, нехта павінен заявіць, што ён ніякіх прэтэнзій не мае, а, прасцей кажучы, у яго нічога не прападала. Пра пракурора, зразумела, і гаворкі не магло ісці. Таму для апрацоўкі выбралі мяне.

Выклікалі ў міліцыю, дзе следчы, не збіраючыся гуляць у хованкі, папрасіў:

— Скажы, што ў цябе паліто не ўкралі.

— Ды як я скажу, калі пра гэта ўсе ў рэдакцыі ведаюць?

Нават хацеў абурыцца, але следчы, бадай, быў вопытны, таму апярэдзіў магчымасць падобнай рэакцыі:

— Прабач, не дакладна сказаў. Нічога нікому не гавары, проста аб гэтым у заяве напішы.

— На такое я не пайду, — цвёрда заявіў я.

Следчы задумаўся, як быць далей, а потым нечакана прапанаваў:

— Я табе за гэта падарунак дам.

— Што за падарунак? — мне стала не па сабе: яшчэ гэтага неставала.

— Глядзі, — следчы падышоў да сейфа і адтуль выцягнуў складзены папалам аркуш паперы, — глядзі, — паўтарыў ён.

Глядзець было на што. Прабачце, на каго. На каляровым укладышы з нейкага, канечне ж, замежнага часопіса ляжала на жываце, у чым маці нарадзіла, няпісанай прыгажосці дзяўчына. Толькі невялічкі ручнічок прыкрываў яе попку. Канечне, сёння такімі здымкамі нікога не здзівіш, а тады…

— Пішы заяву, — яшчэ больш настойліва папрасіў следчы, — і забірай гэты здымачак сабе. Бачу, што падабаецца.

Я апынуўся ў незайздросным становішчы. Не буду хлусіць, гэты здымак мне хацелася мець, бо гэткія ілюстрацыі тады і днём з агнём было не знайсці. Гэта сёння падобнае ўспрымаецца чымсьці бязвінным. Нават порна падаецца як звычайная эротыка, а таму і дазваляецца. Тады ж наконт гэтага быў голад. Дый чаму толькі тады. Калі на світанку так званай перабудовы пачала выходзіць газета «Двое», то некаторыя кабеткі, нават бальзакаўскага ўзросту, куплялі яе па некалькі асобнікаў.

Сам неаднойчы мог у гэтым упэўніцца, падышоўшы да газетнага кіёска. Зразумела, у гэтым нічога благога: твая справа што купляць, а што не купляць. Ды знаходзіліся «цнатліўкі», якія перад кіяскёрам апраўдваліся, кшталту: «Дачка папрасіла, ці нявестцы куплю». Неяк не вытрымаў, стаўшы сведкам, як гэткая кабетка, у якой кроў з малаком ды яшчэ «шкура гарыць», пачалася даводзіць:

— Суседка папрасіла...

Гэтае яе, нікому не патрэбнае апраўданне, вывела мяне з сябе:

— Каго гэта цікавіць? Хочацца, купляйце... Сабе ж бярэце.

То гэтая «цнатліўка» мяне хамам абазвала.

Аднак гэта між іншым.

Мець фота прыгажунькі я быў не супраць, але напісаць заяву прапанаванага зместу не мог. Не хацелася хлусіць, што нічога ў мяне ў гардэробе райкама партыі не прападала. Калі следчы, нарэшце, зразумеў, што ўгаворы нічога не дадуць, усміхнуўся:

— Лічы, што ў нас з табой гэтай размовы не было, — і, мабыць, здагадваючыся, якое ўражанне на мяне зрабіў паказаны ім здымак, нечакана прапанаваў: — Забірай сабе.

Адмовіцца я не мог. У рэдакцыі мужчыны спрабавалі даведацца, адкуль ён у мяне, але я адказаў штосьці няпэўнае. Маўляў, якая розніца. Праўду набыцця

мною прыгажунькі ведаў толькі Слава. А разглядалі яе з непрыхаваным задавальненнем усе мужчыны рэдакцыі. Нездарма кажуць: «запретный плод сладок», а ў савецкія часы самы вялікі дэфіцыт быў акурат «клубнички», а чаго няма, таго асабліва хочацца. Гэта як той «Маніфест Камуністычнай партыі», які, калі ён быў забаронены, многія хацелі прачытаць. Цяпер жа пераважная большасць моладзі і не ведае, што гэта такое і з чым яго ядуць.

## Сорак пяць — сама ягадкі збіраць

Яшчэ колькі выпадкаў з майго драгічынскага жыцця. Самі па сабе яны, канечне ж, нічым асабліва не адметныя, бо ніякай такой важкасці ў сабе не нясуць. Тым не менш запомніліся мне. А запомніліся па той прычыне, што жыццё ў раённых гарадках усё ж намнога іншае, чым у вялікіх гарадах, бо гарадкі гэтыя ўжо і не вёскі, але яшчэ і не гарады. Таму і кожны ў іх навідавоку, а нярэдка бывае і так, што лёсы чужых людзей могуць нечакана сутыкнуцца. Сітуацыя ж, што ўзнікае пры гэтым, нават просіцца ў які-небудзь мастацкі твор. Хоць, калі глядзець у шырокім плане, то яна нібыта і шараговая. Аднак не для раённага гарадка.

Паколькі з Маркіянаўнай, у якой я кватараваў, адносіны былі вельмі добрыя, то звычайна ад яе асаблівых сакрэтаў у мяне не было. Найперш таго, што тычылася журналісцкай работы. Тым больш заўсёды папярэджваў, калі ехаў на раён. Часцей мы са Славам дабіраліся аўтобусамі. Часам і без білета.

На той час у раёнках, ва ўсякім разе ў драгічынскай, камандзіровак ніхто не афармляў. Проста кожнаму супрацоўніку выдзялялася на месяц пэўная сума грошай. Ці то дзесяць, ці то пятнаццаць рублёў, а ты ўжо, як хочаш, так імі і распараджайся. Атрымаўшы гэтыя грошы з зарплатай, мы нярэдка адразу растрачвалі іх, таму і ўзнікалі праблемы з паездкамі. Толькі не для нас са Славам. Ён якога хочаш шафёра мог угаварыць правезці нас без білета, бясплатна. Паколькі на Драгічыншчыне вельмі паважна ставіліся да супрацоўнікаў раёнкі, то Пратасевіч гэтым і карыстаўся. Праўда, нярэдка рэдактар даваў нам і машыну.

Тым разам я ехаў у адзін з калгасаў разам з нашым фотакарэспандэнтам Зушчыкам. Было гэта ўлетку. Калі я сказаў пра гэта гаспадыні, яна, пачуўшы ад мяне назву гаспадаркі, папрасіла:

— Вазьмі і мяне з сабой.

Нічога падобнага раней за ёй не назіралася.

— Вы што, Маркіянаўна, журналісткай хочаце стаць? — засмяяўся я.

— Там такія лясы, — сур'ёзна адказала яна. — Ягад шмат.

— Едзем, — пагадзіўся я.

Рэдактара папярэджваць не стаў, бо ў гэтым асаблівай неабходнасці не было, таму што адхіляцца ад вызначанага маршруту мы не збіраліся. Толькі, калі Маркіянаўна садзілася ў машыну, фотакарэспандэнт чамусьці ўсміхнуўся. Я строга глянуў на яго, баючыся, каб чаго-небудзь не ляпнуў. Для такой боязі ў мяне былі падставы.

Маёй гаспадыні было ўсяго сорак пяць гадоў. Незадоўга да майго прыезду ў Драгічын памёр яе муж, які працаваў рэдактарам нашай жа газеты. Два старэйшыя сыны Маркіянаўны, будучы жанатымі, жылі ў іншых гарадах, малодшы вучыўся ва ўніверсітэце ў Мінску. Дык рэдакцыйныя зубаскалы — больш стараўся Зушчык, але і Васіль Андрэевіч часам жарцік прапускаў.

Па пад'ездзе да вёскі, да якой кіраваліся, дамовіліся, як быць са збіраннем ягад. У часе нас ніхто не рэгламентаваў, таму сышліся на тым, што падвязём

Маркіянаўну да лесу, а потым шафёр забярэ яе. Так і зрабілі. Пакуль сустракаліся з героямі сваіх будучых матэрыялаў, мая гаспадыня спакойна збірала ягады. Калі ж шафёр забраў яе, мне заставалася пагутарыць яшчэ з адной даяркай, а Зушчык павінен быў яе сфатаграфаваць. Паехалі ці то да яе на ферму, ці то да яе хаты разам з Маркіянаўнай.

Знайшлі гэтую даярку, я пачаў размаўляць з ёю тут жа. Раптам з машыны выходзіць мая гаспадыня, глядзіць на гэтую даярку. Не, глядзіць — не тое слова. Яна страляе ў яе вачыма. Так страляе! Адчуванне такое, што з вачэй Маркіянаўны вылятаюць іскры, якія ператвараюцца ў вогненны паток. Са зваротнага боку накіроўваецца гэткі паток, бо страляе вачыма і даярка. Ад такой нечаканай рэакцыі дзвюх жанчын, я стаю, як аканямелы, не ведаючы, як паводзіць сябе ў гэтай сітуацыі.

На выручку прыходзіць Зушчык.

— Час ехаць, Саша, — кажа ён. — Чаго затрымліваецца? Здымак я зрабіў, ты пагутарыў.

— Едзем, — згаджаюся я і спяшаюся развітацца з гераіняй майго будучага нарыса.

Тая скрозь зубы кажа «Да пабачэння», але не на мяне глядзіць, а на Маркіянаўну. Правільней, на спіну глядзіць, бо мая гаспадыня, акінуўшы апошні раз спапяляючым позіркам яе, накіравалася ў машыну. Я паспяваю заўважыць, як Зушчык ва ўвесь рот смяецца. Праўда, не гучна, а моўчкі, бо ён то ведае, што гэта той выпадак, што празмернае праяўленне сваіх эмоцый можа дорага каштаваць. Жанчыны ёсць жанчыны, чаго добрага напаследак яшчэ счэпяцца. Здагадваюся ўжо і я, што для ўзаемнай нянавісці ў Маркіянаўны і гэтай даяркі ёсць нейкая вельмі важная падстава. Але ж не будзеш спрабаваць высветліць, у чым усё-такі прычына.

Па дарозе ў Драгічын таксама робім выгляд, што нічога не здарылася. Праўда, калі едучы сюды, увесь час размаўлялі, дык цяпер маўчым. Маркіянаўна то і ўвогуле адвярнулася да акна. Відаць, не хоча, каб мы бачылі, як ёй цяжка. Дый так і ўсё відавочна. Калі ж пад'язджаем да яе дома, яна хуценька выходзіць, запытаўшыся ў мяне:

— Ты ў рэдакцыю пад'едзеш яшчэ?

— Пад'еду, — адказваю, бо мне не церпіцца як мага хутчэй даведацца ад Зушчыка, у чым прычына такой узаемнай непрыязі маёй гаспадыні і даяркі.

Зушчыку ж, у сваю чаргу, гэтаксама не церпіцца пра ўсё расказаць. Таму ледзь машына кранаецца з месца, ён рагочучы, звяртаецца да мяне:

— І навошта ты Маркіянаўну браў?

— Маглі б папярэдзіць? — злосна адказваю я.

— Каб жа я ведаў, што яны сустрэнуцца.

— Не гуляйце ў хованкі, — падае свой голас шафёр. — Раскажыце, у чым прычына іхняй узаемнай нянавісці.

— З гэтай даяркай у мужа Маркіянаўны некалі былі шуры-муры, — скаліць зубы Зушчык. — У каго іх не бывае, — ён аблізнуўся, як марцовы кот, — але гэтым разам шырокая агалоска была. Дайшло ўсё і да Маркіянаўны. Яна, мабыць, са сваёй саперніцай недзе сустракалася, іначай адкуль бы ведала яе ў твар. Дый тая адразу пазнала яе…

Дарэчы, пра перадавікоў сацыялістычнага спаборніцтва. Дакладней, перадавічак. Працуючы ў Драгічыне і шмат пішучы пра іх, я заўважыў дзіўную заканамернасць. Пераважная большасць з іх з'яўляліся адзінокімі. Прыкмеціў і яшчэ адну заканамернасць: чым вышэйшая ўрадавая ўзнагарода, тым большы шанец быць упэўненым, што перад табой тая, якая не завяла сям'ю. Апроч таго, зноў жа заканамернасць, па меры ўзрастання ацэнкі працы па-

вялічваецца і верагоднасць, што ардэнаноска прыгажэйшая. Гэта аднак не значыла, што інтэлектуальны патэнцыял такіх перадавічак абавязкова мусіць быць большым.

У гэтым упэўніўся, калі гутарыў з адной гераіняй свайго будучага нарыса. Здаецца, яна таксама была даяркай. Маладая, прыгожая, адзінокая. Узнагароджана ордэнам Леніна. Узнагарода на той час вельмі высокая, другая пасля звання «Герой Сацыялістычнай Працы».

Задаю пытанні. Калі і дзе нарадзілася, зразумела, памятае. Хто бацькі — таксама. Пытаюся:

— А ў якім годзе ордэн атрымалі?

Замест адказу — маўчанне. Нарэшце, прызнаецца:

— Не помню.

— Як не помніце? Вам далі ордэн Леніна, а вы не памятаеце?

— А навошта? — у позірку прысутнічае сама непасрэднасць.

— Што навошта? — не разумею я.

— Навошта памятаць...

Так і пагаварылі. Каб даведацца, калі ўзнагародзілі яе, здагадаўся звярнуцца ў сектар уліку райкама партыі. Там маю просьбу паказаць яе ўліковую картку сустрэлі насцярожана. Хоць і назваўся, хто я. Давялося тлумачыць, для чаго яна неабходна мне. Толькі пасля гэтага задаволілі просьбу. Аднак папярэдзілі, каб нікому не гаварыў, бо парушылі інструкцыю.

Зушчык жа прасвяціў мяне, хто гэтая перадавічка, якая нават не ведае, калі яе ўзнагародзілі ордэнам Леніна.

— Яна — не тая даярка... Яе не рэдактары раёнкі цікавілі…

Ён назваў аднаго высокапастаўленага партыйнага чыноўніка.

Я не збіраюся сцвярджаць, што ўсе гэтыя жанчыны — кепскія. У кожнай з іх — свой лёс і кожная па-свойму шукае сваё шчасце і па-свойму бачыць яго. Як любіла казаць адна вядомая паэтэса, якая працавала ў «ЛіМе», калі я перабраўся ў сталіцу са Слуцка: «Хай кожны жыве з тым, з кім хоча сам». Тым больш, маралізатарства — не для мяне. Увогуле, з насцярогай стаўлюся да тых, хто збіраецца некага нечаму вучыць. Так і хочацца сказаць: лепей спачатку на самога сябе паглядзі, чым кагосьці асуджаць.

## Як я палюбіў актрысу Белахвосцікаву

Звяртаючыся у думках у сваё колішняе, драгічынскае жыццё, я найчасцей прыгадваю толькі смешнае, нечаканае, незвычайнае, што неяк разнастайвала маю паўсядзённасць, якая ў цэлым была не такая ўжо і радасная. Я і так належу да людзей, якія кепска прыжываюцца на новым месцы, а тут яшчэ і адарванасць ад бацькоўскага дома. Будучы студэнтам, да бацькоў мог ездзіць больш-менш рэгулярна, бо адлегласць не такая і вялікая, у абодва канцы кіламетраў трыста. Тым больш, што ад нашай вёскі да шасейкі, па якой ішлі аўтобусы ў бок Слуцка і Мінска, усяго нейкія тры кіламетры. Праўда, убіцца ў іх на святочныя дні было праблематычна. Прасцей, паехаць на тых, канчатковы прыпынак якіх у Слуцку, бо там давалі дадатковыя аўтобусы на Мінск. З Драгічына ж трэба было ехаць да Бярозы, а там ужо садзіцца на аўтобус, што ішоў на Бабруйск ці Магілёў. І часу шмат займае, дый нязручна. Таму на выхадныя ў асноўным ці ездзіў са Славам да ягоных бацькоў, ці адзін бавіў час у Драгічыне. Тады і напаткоўвалі мяне нялёгкія думкі. Адчувалася адзінота, увесь белы свет здаваўся нямілы. Прыгадваў і тую, якая мне падабалася. І ніякага выйсця з гэтага становішча не знаходзіў.

Цяпер жа ўсё больш лаўлю сябе на думцы, як гэта добра, што не змог упарадкаваць тады сваё жыццё. Іначай і мог бы засесць у Драгічыне назаўсёды. Яшчэ невядома, ці знайшоў бы сямейнае шчасце, а што жыццё творчае магло б не скласціся, так, як склалася, то пэўна. Так што застаецца толькі дзякаваць такой пільнай цётцы маёй знаёмай. Калі гэта, безумоўна, яна пастаралася. А можа, і ні прычым яна. Як не ўспомніць у сувязі з гэтым грубаватую прымаўку: «Любовь — зла, полюбишь и козла». Калі ж любові, кахання няма, то…

Не, супраць Драгічына я нічога не маю. Горад прыгожы, утульны, людзі добрыя, але лепей я адчуваю сябе ўсё ж у Мінску. А пра Валю не забыўся. Праўда, не тэлефаную ёй, бо разумею, што ні мне, а тым больш ёй, гэтыя званкі з мінулага не патрэбны. Але, калі некалькі гадоў назад знаходзіўся ў камандзіроўцы ў Драгічыне, вельмі хацелася з ёю сустрэцца. Ведаў, што ўжо не першы год працуе дырэктарам адной з сярэдніх школ раёна. А тут, як высветлілася, начальства хоча, каб абавязкова расказалі пра населены пункт, у які запланаваны быў прыезд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Як не напісаць! Тым больш, што мясцовая гаспадарка славіцца сваімі працоўнымі поспехамі, а вёска ператварылася ў адзін з лепшых аграгарадкоў у краіне. Да ўсяго гэты населены пункт знаходзіцца блізка ад той вёскі, у якой нарадзілася Валя.

У мяне чамусьці не заставалася сумнення, што яна акурат і ўзначальвае тамашнюю школу. Праўда, ужо быў якраз першы дзень чэрвеня, заняткі ў школе скончыліся. Настала пара выпускных экзаменаў. Ды паколькі гэта было ў першай палове дня, я не сумняваўся, што дырэктар будзе ў школе. Але па дарозе ад начальніка аддзела ідэалогіі райвыканкама, якая суправаджала нас у гэтай паездцы, я даведаўся, што дырэктарам гэтай школы працуе зусім не тая, якую мне так хацелася ўбачыць. Валя ўзначальвала тую самую школу, дзе некалі была піянерважатай.

Дзеля чаго я ўсё гэта згадваю? Ды таму, што гэта ўвогуле ўласцівасць чалавечай натуры, калі ёсць магчымасць не толькі ў думках, а і наяву паспрабаваць сустрэцца з тым чалавекам, які некалі прывабліваў цябе. Гэта, аднак, не значыць, што такая сустрэча абавязкова патрэбна. І не толькі табе самому, а і таму, да каго так імкнешся ў думках. Праходзіць час, людзі мяняюцца. Таму нярэдка тую радасць, якой жывеш у прадчуванні сустрэчы праз гады, на адлегласці, пры самой сустрэчы не адчуваеш. Нельга вярнуць тое, што было некалі. Наўрад ці запалае агонь былых пачуццяў. Хіба што можа з'явіцца кволенькае цяпельца, гатовае, не паспеўшы разгарэцца, згаснуць.

Красамоўны прыклад: народны паэт Беларусі Аркадзь Куляшоў праз шмат дзясяткаў гадоў вельмі ж загарэўся жаданнем пабачыць сваю колішнюю каханую Алесю (гэта пра яе, як вядома, знакамітая песня, што на дзіва непаўторна гучала ў выкананні тых першых «Песняроў», якія выступалі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Мулявіна). Таму і зрабіў усё, каб сустрэцца з ёю. Але спатканне так і не адбылося. Угледзеўшы здаля немаладую жанчыну, да якой ён прыехаў, Аркадзь Аляксандравіч не адважыўся да яе падысці. Гэта была ўжо не Алеся. Не толькі па ўзросце. Адсутнічаў той ранейшы вобраз, які вабіў яго да сябе, натхняў, абуджаў светлыя пачуцці.

Нездарма кажуць: двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма. У пэўнай ступені гэта тычыцца і ракі кахання. Нават такога кахання, якое ў рэальнасці не існавала, таму па сутнасці і не каханнем было, а толькі нейкім захапленнем, ці што. Хоць, бадай, і гэта недакладна. Ды мяркуйце самі, бо тое, пра што цяпер раскажу, тычыцца мяне. Гэта таксама згадка з даўняга ўжо часу. З таго самага, пра які пяецца: «Как молоды мы были...» Праўда, у дадзеным выпадку пра каханне гаварыць не выпадае, бо прысутнічала толькі захапленне. І то не ў сапраўднасці, а на адлегласці. Прытым нават без якой-небудзь спробы ўбачыць тую, да якой з'явілася нейкае асаблівае, незразумелае стаўленне.

Многія з тых, хто належыць да пакалення, узрост якога сёння блізку шасцідзесяці пяці гадоў, з некаторымі ваганнямі ў большы ці меншы бок, памятаюць, якое прыемнае ўражанне ў іх некалі выклікаў мастацкі фільм Сяргея Герасімава «Ля возера». Не ў апошнюю чаргу таму, што адну з галоўных роляў у ім выканала сямнаццацігадовая на той час Наталля Белахвосцікава. Такі ўзрост мела і яе гераіні Лена Барміна, якая разам з бацькам жыла на беразе Байкала. Лена заканчвала сярэднюю школу, бацька яе быў вучоным-байкала-знаўцам.

Фільм у цэлым атрымаўся яркім, але ў ім мне больш за ўсіх запомнілася менавіта Лена Барміна. Нягледзячы на тое, што поруч з ёю былі вельмі цудоўныя выканаўцы. Адзін з іх — дырэктар камбіната Васіль Чарных, у ролі якога зняўся Васілій Шукшын, чаго варты. Дый бацькам Лены стаў таксама цудоўны акцёр — Алег Жакаў. Таму, магчыма, для іншых гледачоў Белахвосцікава з яе Ленай Бармінай і адышла крыху на задні план. Хоць, калі лепей разважыць, не магла адысці, бо фільм шмат у чым усё ж трымаўся на ёй, як сказаў нехта з крытыкаў, «душы Байкала».

Бадай, яшчэ і таму надта запомніўся мне фільм «Ля возера», што незадоўга да ягонага паказу я змог убачыць Байкал. Прызваны на службу ў Забайкальскую ваенную акругу, я дабіраўся ў цэнтр яе, горад Чыту, хуткасным цягніком Масква—Уладзівасток, добра вядомым як «Россия». Мы, пасажыры, зразумела, загадзя ведалі, што ноччу ён будзе праходзіць ля самага «свяшчэннага мора». Многія не спалі, а, стоячы ля вагонных акон, чакалі, калі нарэшце пакажацца Байкал. Потым ніяк не маглі адарваць свае позіркі ад непаўторных краявідаў, якія мільгалі за вокнамі. А тут магчымасць пабыць ля Байкала і з Байкалам, дзякуючы мастацкаму фільму. Не магу залічыць сябе ў вялікія аматары кіно, але на той час, бадай, ніводзін фільм мне так не падабаўся, як гэты. У першую чаргу дзякуючы ёй, Лене Бармінай. Не, дзякуючы Наталлі Белахвосцікавай, якая настолькі запомнілася мне, быццам у сапраўднасці сустрэўся з ёю ля самога Байкала.

Як жа ўзрадаваўся, калі, атрымаўшы чарговы нумар часопіса «Советский экран», на адной са старонак убачыў здымак любімай актрысы. Не раздумваючы, выразаў яго і павесіў на сцяне, чым адразу выклікаў здзіўленне маіх сяброў па пакоі. Нібыта ніколі за мной ніякай сентыментальнасці не назіралася, а тут раптам расчуліўся, пачуццям стала цесна. Мог спыніцца перад партрэтам і любавацца Белахвосцікавай. Праўда, часцей рабіў гэта незаўважна, калі заставаўся адзін. Па сённяшні дзень не магу дакладна сказаць, што знаходзіў у ёй. Але яе прысутнасць мне была неабходна. І гэтым усё сказана.

Сябры і смяяліся з майго захаплення, і кпілі — маўляў, стаў падобным на нейкага хлапчука, але партрэт я здымаць не збіраўся. Тым больш, што неўзабаве па сутнасці і апраўданне падобнаму свайму ўчынку знайшоў. Адзін з маіх сяброў-лейтэнантаў павесіў на сцяне партрэт сваёй нявесты, якая засталася ў горадзе, адкуль яго прызвалі ў армію. То чым я горшы? Ён хоча штодня бачыць тую, якую сабраўся браць у жонкі, а мне прыемна сузіраць партрэт з фільма «Ля возера». Праўда, і той лейтэнант не падзяліў майго захаплення.

— Дык гэта ж мая нявеста, — даводзіў ён. — А яна хто табе?

Сапраўды, ніхто. Як кажуць, ні даць ні ўзяць. Але мне ў той атмасферы, якую я не ўспрымаў, бо яна была мне чужой (можа, калі-небудзь прыйдзе час расказаць пра службу ў арміі падрабязней), Белахвосцікава з'яўлялася, прабачце, тым промнем у цёмным царстве, які ўбачыў у асобе адной літаратурнай гераіні знакаміты крытык. Таму я працягваў цвёрда стаяць на сваім, і не збіраўся здымаць яе партрэт са сцяны. Не здагадваючыся, што неўзабаве давядзецца вытрымаць свайго роду экзамен на маральнасць, прыстойнасць…

## Усе аднолькавыя?

Праз год у нашай часці з’явіліся чарговыя «двухгодичники» — так называлі тых, хто, як і я, прызываўся на службу на два гады з запасу. З нейкай нагоды адзін з іх завітаў і ў наш пакой. Відаць, хацеў пазнаёміцца. Ды гэта не так і важна. Істотна тое, што ў пакоі я быў адзін, іначай…

Гэты лейтэнант, зразумела, не мог не звярнуць увагі на два партрэты на сцяне.

— А, Белахвосцікава, — прамовіў ён спакойна, зірнуўшы на здымак, на якім была выканаўца ролі Лены Бармінай, і адразу перавёў свой позірк на той, што вісеў насупраць яго, на другой сцяне. — Не можа быць?! — здзіўленне вырвалася з ягоных вуснаў. — Адкуль тут узялася Светка?

— Ты яе ведаеш? — не ў меншай ступені, чым ён, здзівіўся я.

— Чаму б і не ведаць? — задаволеная ўсмешка з’явілася на ягоным твары. — Дзеўчынёха, што трэба. Яе будучы муж таксама дзесьці служыць.

Ад такога прызнання мне стала не па сабе, бо з’явілася прадчуванне, што неўзабаве прагучыць такое прызнанне, якога б лепей не чуць.

— Ты ўпэўнены, што гэта твая дзеўчынёха? —- апошняе слова я наўмысна сказаў гучней.

— А чаго гэта ты так занепакоіўся? — ён насцярожана паглядзеў на мяне. — Можа, знаёмы з ёю?

— Ды не…

Гэтае маё прызнанне супакоіла мяне.

— А я падумаў…. Мала што бывае…Калі яна не твая, то слухай… Заканчвае істытут, які я сёлета скончыў, таму і апынуўся тут. Харошая дзяўчына, — працягваў лейтэнант, — і прыгожая. Хоць яна не толькі мая. Была, — дадаў ён.

— У якім сэнсе? — вырвалася ў мне, хоць я ўжо канчаткова здагадаўся, куды ён хіліць, але не хацелася, каб тое, што пачую ад яго, было праўдай.

— Табе што, як дзіцяці, трэба тлумачыць? — ён, як падалося мне, вось-вось гатовы аблізацца.

— Дык значыць…

Ён не даў мне дагаварыць:

— Усе яны аднолькавыя.

У пакоі запанавала цішыня.

Мабыць, па выразе майго твару ён зразумеў, што тут нешта не так, бо спалохана запытаўся:

— Я нешта не тое сказаў?

Магчыма, яму падалося, што тая, з жыцця якой ён ведаў пікантныя падрабязнасці, мая дзяўчына, і ён цяпер не ўяўляў, як выйсці з гэтай сітуацыі. Я прыйшоў яму на дапамогу:

— Шчыра кажу, — яшчэ раз запэўніў я яго. — Да гэтай дзяўчыны не маю ніякага дачынення. Толькі прашу цябе… Вельмі прашу. Нікому не расказвай тое, што толькі што расказаў мне. Не трэба…

— Не хвалюйся, не хвалюйся, — запэўніў ён, нават не спрабуючы высветліць, адкуль у мне такая рэакцыя на пачутае ад яго прызнанне.

Каб ён не працягваў знаходзіцца ў невядомасці, я вырашыў усё ўдакладніць.

— Гэта нявеста лейтэнанта, які жыве ў гэтым жа пакоі, — сказаў я і яшчэ раз папрасіў: — Нікому ні слова, будзь мужчынам.

— Слова афіцэра, — адказаў ён.

Сваё слова ён стрымаў. Тым больш ніколі не кранаўся гэтай тэмы. Маўчаў,

зразумела, і я. Нават тады, калі лейтэнант, чыя нявеста так паводзіла сябе, паранейшаму спрабаваў жартаваць з майго захаплення Белахвосцікавай. Так і хацелася паставіць яго на месца, але кожны раз я моўчкі даваў сабе клятву: не трэба, не трэба.

Потым ён паехаў у водпуск, у час якога і ажаніўся. А праз некаторы час ягоная маладая жонка прыехала да яго. Мы адзначылі гэты прыезд, я пазнаёміўся з ёю. Калі ў 1985 годзе ён, праўда, без сваё жонкі, знаходзіўся на экскурсіі ў Мінску — сам жыве ў Запаляр'і, заходзіў да мяне дамоў. Тады я жыў з жонкай і маленькім сынам на кватэры з агульнай кухняй. Жонка мая спецыяльна пайшла ў тэатр ці на канцэрт, каб не перашкаджаць нам пагаварыць. І мы шмат гаварылі. Успаміналі агульных знаёмых, я цікавіўся, як у яго сямейныя справы, прасіў перадаць ягонай жонцы прывітанне. А назаўтра зайшоў да яго ў гасцініцу «Мінск», дзе ён спыніўся з іншымі экскурсантамі, і мы доўга хадзілі па горадзе. Зазірнулі ва ўсе галоўныя кніжныя магазіны, бо ён, як і я, вялікі аматар кнігі. Я перапісваўся з ім да самага развалу Савецкага Саюза. Ён перадаваў мне прывітанні ад сваёй жонкі, я перадаваў прывітанні ёй.

Але пра Наталлю Белахвосцікаву. Надоечы трапіла мне ў рукі кніга «Владимир Наумов. Наталья Белохвостикова. В кадре», выдадзеная яшчэ ў 2000 годзе. Вядомы кінарэжысёр У. Навумаў — муж Белахвосцікавай. Кніга арыгінальная тым, што гэта рэдкі, магчыма, нават адзінкавы выпадак, калі ўспаміны двух людзей ідуць па чарзе, а некаторыя раздзелы напісаны сумесна.

Аднак перш чым знаёміцца з тэкстам, я ўважліва пазнаёміўся з ілюстрацыйным матэрыялам. Яго шмат, некалькі сшыткаў. Калі скласці разам, ці не пятая частка кнігі атрымаецца. Зразумела, у першую чаргу разглядаў тыя здымкі, на якіх Белахвосцікава. Быццам чакаў той сустрэчы, да якой імкнуўся праз гады. На жаль, сустрэча гэтая не апраўдала мае чаканні. Канечне, змешчана шмат цікавых здымкаў, прытым і рэдкіх, што сведчаць аб шматграннасці яе таленту, аб вялікай творчай працы. Толькі мне найбольш блізкія тыя нямногія з іх, якія вяртаюць у «мое далеко». Вяртаюць мне тую Белахвосцікаву, якая некалі так уразіла мне. Становяцца вяртаннем туды, куды звароту няма.

Няма звароту і ў тое, што перажываў у Драгічыне, калі спяшаўся ў другі канец калідора будынка, каб толькі пабачыць... Як не ўспомніць у сувязі з гэтым хрэстаматыйныя словы яшчэ аднаго класіка нашай літаратуры — Максіма Багдановіча: «Няма таго, што раньш было». У мяне ж па сутнасці нічога і ні было, хіба што, паўтараю, адно захапленне, якое хаваў у сабе. Не ведаю, ці яно засталося. А што памяць засталася, то магу сказаць пэўна. Іначай тое, пра што расказваю, не напісалася, не вынеслася б на чытацкі суд.

Мімаходзь не магу не зазначыць, наколькі карысна чытаць кнігі. Калі новая, праз некалькі дзесяткаў гадоў «сустрэча» з Белахвосцікавай, дзякуючы яе згадкам і ўспамінам яе мужа, абудзіўшы маю памяць, выклікала шчымлівую хвалю той нейкай незразумелай пяшчоты, якую ў больш чым сталым узросце наўрад ці можна адчуць так, як у маладыя гады — як бы прыемна гэта ні было, але такое вяртанне толькі ўспамін і не больш, то нядаўняе знаёмства з кнігай Мікаэла Тарывердзіева «Я просто живу» дазволіла паставіць сябе ўпоравень з… Не, не з Тарывердзіевым.

Чытачам старэйшага пакалення няма неабходнасці нагадваць, хто такі Тарывердзіеў, тым не менш, ім не лішне абнавіць сваю памяць. Не кажучы, пра моладзь, якая нярэдка нічога апроч сучаснай, мякка кажучы, музыкі, ніякай іншай музыкі і не ведае. Тарывердзіеў жа — аўтар тэм і песень да такіх знакамітых мастацкіх фільмаў, як «Кароль-алень», «Сямнаццаць імгненняў вясны», «Іронія лёсу, ці з Лёгкай парай!».

За напісанне ўспамінаў Мікаэл Ляонавіч узяўся яшчэ ў сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагоддзя. На жаль, завяршыць іх не паспеў: 25 ліпеня 1996 года яго нестала. Завяршыла ягоныя мемуары і падрыхтавала іх да друку ўдава кампазітара. Іх і выпусціла выдавецтва «ЭКСМО» ў 2011 годдзе да 85-годдзя з дня нараджэння Тарывердзіева.

Кнігу «Я просто живу» чытаць адно задавальненне. Што ж, такім людзям, як Тарывердзіеў, ёсць што ўспомніць, бо ягонае жыццё было надта багатым і на падзеі, і на сустрэчы з цікавымі людзьмі, і на незвычайныя выпадкі. Адзін з іх звязаны са славутым кінарэжысёрам, народным артыстам СССР Эльдарам Разанавым. Сярод мастацкіх фільмаў, пастаўленых ім, як вядома, і ўжо згаданы «Іронія лёсу…» Пазнаёміўся ж Мікаэл Ляонавіч са сваім будучым сябрам у Доме творчасці ў Піцундзе.

Тыя, каму даводзілася адпачываць у гэтым Доме творчасці, не маглі не запомніць так званы «овощной стол», на якім у час абеду заўсёды стаялі вялізныя міскі з рознай гароднінай — буракамі, морквай, зелянінай, а то і проста з вінегрэтам. Бяры, колькі душа пажадае. І бралі. Асабліва тыя, хто ўсё гэта вельмі любіў.

Сярод такіх незвычайных гурманаў быў і Разанаў. У адным закавыка: трэба было пастаянна ўставаць са свайго месца, ісці да гэтага стала, каб накласці сабе порцыю, а потым вяртацца назад. Праз некалькі дзён падобныя хаджэнні туды-сюды Эльдару Аляксандравічу надакучылі. Выйсце ён знайшоў у тым, каб паставіць каля «овощного стола» крэсла. Седзячы на гэтым крэсле, ён накладваў у сваю талерачку колькі хацелася таго ж вінегрэту і спакойна ўсё з'ядаў. Зразумела, гэта рабілася навідавоку ўсёй залы.

«Ясное дело, — піша Тарывердзіеў, — что нашлись люди, у которых это вызвало негодование: «За путевку все платят одинаково, а едят по-разному». Для большинства же это стало темой для подначек, на которые Эльдар реагировал весело и очень изящно. Он стал уверять, что так он худеет, сидя на овощной диете. Хотя обед он свой съедал все равно».

На гароднінную дыету, як на якія-небудзь іншыя дыеты, я, на жаль, ніколі не садзіўся, хоць, канечне, трэба было б усё ж неяк паспрабаваць, бо ўрачы даўно настойваюць на гэтым, але ці то сілы волі, ці чагосьці іншага мне заўсёды нестае. А вось дзякуючы кнізе «Я просто живу» я нечакана знайшоў у асобе Разанава сабе саюзніка, таму што гэтаксама, як і ён, не аднойчы мог упэўніцца ў тым, якім вялікім разумнікам быў той, хто прыдумаў «овощной стол». Праўда, у гэтым я ўпэўніўся не ў Піцундзе, а ў Ялце, дзе таксама быў Дом творчасці, у які я неяк трапіў дзякуючы намаганням сваёй жонкі. Як не хацелася мне туды ехаць, давялося ўсё ж згадзіцца.

Калі што і абрадавала мяне па-сапраўднаму па прыездзе, дык гэты самы стол.

Не ведаю, у чым і прычына: дома асаблівых прысмакаў ніколі не шукаю і не купляю, а калі прыязджаю куды-небудзь, то пастаянна адчуваю сябе галодным. Найперш мне заўсёды нестае хлеба. У сталовай, канечне, куды працей: бяры яго, колькі хочаш. У рэстаране ж даводзіцца па некалькі разоў напамінаць афіцыянтцы, каб прынесла яшчэ. У нейкім Доме адпачынку пад Кастрамой, куды я трапіў некалі са сваёй будучай жонкай, увогуле цікавы выпадак.

Патрываўшы дзень-другі, я, зразумеў, што, калі не прыму рашучых мер для вырашэння хлебнай праблемы, буду галадаць да завяршэння тэрміну пуцёўкі. Паколькі афіцыянткі чамусьці пастаянна забывалі выканаць маю просьбу, шукаць праўду я накіраваўся на кухню. На шчасце, мяне там хутка зразумелі і прапанавалі аптымальнае выйсце са становішча, якое склалася. Мне паказалі месца, дзе заўсёды ляжаў нарэзаны хлеб, і я, ні ў кога не пытаючыся дазволу, пры неабходнасці ішоў туды і браў яго столькі, колькі лічыў патрэбным.

У Ялце, праўда, з хлебам праблем у мяне не ўзнікла. Яны проста не маглі з'явіцца. За нашым сталом сядзелі яшчэ дырэктар Літфонда Васіль Вільтоўскі з жонкай, з якімі мы разам і прыляцелі з Мінска. Непадалёку ж сталаваліся Дзмітрый Бугаёў і Павел Дзюбайла. Ва ўсіх іх, як хутка высветлілася, хлебныя апетыты ў параўнанні з маім, можна сказаць, нулявыя, таму ўсе яны, у тым ліку і мая жонка, пры неабходнасці дзяліліся хлебам са мной. Часам раніцой аддавалі мне і сваю манку ці якую-небудзь іншую кашу. Ні манкі, ні іншай кашы я не любіў і не люблю, але ж не адмаўляцца, калі да цябе са шчодрай душой. Затое ў час абеду для мяне пачыналася сапраўднае свята жывата.

Паколькі ў тамашнім Доме творчасці прапаноўваўся толькі вінегрэт, я набіраў яго столькі, колькі магла ўмясціць мая талерка. Часам мог зрабіць да стала і другі «рэйс». Чые-небудзь зацікаўленыя позіркі ў мой бок ніяк не маглі збіць мяне з выверанага маршруту. Тым больш, я не збіраўся прыслухоўвацца да таго, што гавораць за маёй спінай — канечне ж, такія ахвотнікі таксама знаходзіліся. Галоўнае, што абед з ліхвой перакрываў калорыі, якіх я не набіраў ранкам ці ў час вячэры. Адно толькі бянтэжыла: няўжо я толькі адзін такі, каму пастаянна нестае таго ж хлеба, вінегрэту.

Аказваецца, такі і Эльдар Разанаў. Прыемна ўсё такі адчуваць сябе нароўні з вялікімі. Жартую, канечне. Ды нездарма ж кажуць: у любым жарце ёсць доля ісціны.

## Падвяла Таццяна Бялова

Важны ўрок пра тое калі трэба гаварыць, а ў якім выпадку лепей прамаўчаць, наконт гэтага я атрымаў яшчэ будучы першакурснікам. Памятаю, як на лекцыі па тэорыі літаратуры зайшла гаворка пра тое, што хто і што чытаў з кніжных навінках. Выкладчык Карабан, на жаль, ягонае імя і імя па бацьку, запамятаваў, пачуўшы некалькі адказаў, запытаўся:

— А хто чытаў з вас раман «Замужжа Таццяны Бяловай».

Зразумела, ён назваў і аўтара. Толькі і тут памяць мяне падводзіць, як ні сілюся, ніяк не магу ўспомніць, хто ж усё-такі напісаў «Замужжа Таццяны Бяловай». А твор гэты я чытаў у «Роман-газете». Калі вучыўся ў адзінаццатым класе, мае бацькі выпісвалі яе па маёй просьбе. Здаецца, з гэтым раманам у нашай студэнцкай групе я адзін і пазнаёміўся. Ведаў бы, якія «выпрабаванні» з-за гэтага знаёмства чакаюць мяне наперадзе, ні за што не прызнаўся б. А так: слова не верабей, вылецела — назад не вернеш. Пра тое, якую памылку я зрабіў, зразумеў праз некалькі тыдняў, калі даведаўся, што ў інтэрнаце Карабан праводзіць дыспут па гэтым рамане.

— Выступіш? — запытаўся ў мяне выкладчык такім тонам, што гэтае запытанне не прадугледжвала ніякага пярэчання.

Мне адразу стала не па сабе. Яшчэ ў школе я пазбягаў якіх-небудзь выступленняў, па сутнасці не прымаў, калі гаварыць афіцыйнай мовай, ніякага ўдзелу ў грамадскім жыцці. А тут незнаёмая аўдыторыя. Зразумела, што ў кагосьці ацэнка твора будзе іншай, чым мая.

— Не магу, — не паспеў я назваць якую-небудзь прычыну, чаму не прыму ўдзел у абмеркаванні рамана «Замужжа Таццяны Бяловай», як Карабан заявіў катэгарычна:

— Не забывай, што наперадзе экзамен.

Гэта, зразумела, прагучала не столькі як напамінак, а як добрая парада: ты — мне, я — табе. Іначай…

Я не хацеў, каб было «іначай», таму і пачаў старанна рыхтавацца да гэта-

га дыспуту, для чаго яшчэ раз уважліва перачытаў раман. У вызначаны час з ватнымі нагамі з'явіўся ў інтэрнаце, што знаходзіўся на тагачаснай Паркавай магістралі. Сабралася не сказаць каб шмат студэнтаў. Дый то былі ў асноўным студэнткі. Апошнюю акалічнасць, як выступоўца нявопытны, я не прыняў пад увагу. І гэта мне дорага каштавала.

Сітуацыя ў гэтым рамане такая, што да паводзін, жыцця галоўнай гераіні нельга паставіцца адназначна. Прычым відавочна, што жаночая аўдыторыя ўспрыме Бялову іначай, чым мужчынская. Я ж са сваім тагачасным юначым максімалізмам, дый з жаданнем да ўсяго падыходзіць з пазіцый празмернай правільнасці, падобную акалічнасць не ўлічыў, таму і пачаў рэзаць праўдуматку ў вочы. Правільней, выказваць, бо вельмі хваляваўся, але гэта не перашкодзіла мне адстойваць менавіта сваю пазіцыю.

Такое ж меркаванне, зразумела, не магла падзяліць жаночая палова аўдыторыі. Аднак калі некаторыя толькі ўнутрана не згаджаліся, то нейкая старшакурсніца выдала такое, што мне стала не па сабе. Карацей кажучы, па яе словах, я і жыцця не ведаю, і ў каханні нічога не разумею, і ўвогуле наіўны. Гэта я наконт таго, як не ўсё, што прыходзіць у галаву, трэба гаварыць. Не прызнаўся б, што чытаў раман «Замужжа Таццяны Бяловай», і не меў бы гэтых непрыемнасцей.

## Як Брэжнеў лячыў майго галоўнага рэдактара

А гэта ўжо з часоў рэдактарства Алеся Асіпенкі. Мушу сказаць, што прыходу ягонага я чакаў з бояззю. Жычка, беручы мяне на работу, хоць і паставіў умову, каб я прапісаўся як мага хутчэй, пасля не надаваў гэтаму ўвагі, рабіў выгляд, што пра ўсё забыўся. Таму справа з маёй прапіскай расцягнулася не на на месяцы, а на гады. Мае ж нядобразычліўцы, даведаўшыся, што галоўны рэдактар у «ЛіМе» мяняецца, ад радасці паціралі рукі. Тым больш, што Асіпенка знаходзіўся з Жычкам, мякка кажучы, у нацягнутых адносінах. Здагадваліся, што некаторых супрацоўнікаў новы галоўны заменіць. Такі лёс яны ўгатавалі і мне.

Пробны камень быў кінуты, калі Алесь Харытонавіч праз некалькі дзён пасля таго, як стаў галоўным рэдактарам «ЛіМа», разам з загадчыкам крытыкі і бібліяграфіі У. завітаў у Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. Прыйшлі дзеля наладжвання з навуковымі супрацоўнікамі творчых кантактаў, запрашалі іх актыўней пісаць у «ЛіМ». Тут адна крытыкеса і не вытрымала, каб не прайсціся па мне. Рэакцыя з боку Асіпенкі для яе аказалася непрадказальнай. Новы галоўны сказаў прыкладна так: быў бы яшчэ адзін супрацоўнік, як Марціновіч, я змог бы «ЛіМ» выпускаць толькі з імі. Так што з Алесем Харытонавічам мне працавалася вельмі добра. Таму, на мой погляд, ён быў адным з лепшых галоўных рэдактараў «ЛіМа». Гэта пры тым, што я высока цаніў і заўсёды буду цаніць Жычку.

Аднак і пры Асіпенку, як і пры іншых галоўных рэдактарах, на рабоце не было той строгасці, якая існуе цяпер. Не ў тым сэнсе, што яны былі надта добрыя. Час іншы быў. Таму ў рэдакцыях перыядычных выданняў, найперш у літаратурна-мастацкіх, панавала, я б сказаў, разняволеная творчая атмасфера. Гэтаназіралася «от Москвы до самых до окраин».

Аднойчы калі мы ўтрох крыху пасядзелі ў кабінеце зусім не ў рабочай атмасферы, у дзверы нехта пастукаў. Зроблена гэта было так асцярожна, што ніякага сумнення не заставалася: чалавек свой. Як такому не адчыніць. Адчынілі і не пашкадавалі. Завітаў да нас Станіслаў Пятровіч Шушкевіч. Для мяне дык гэта была асаблівая радасць. Аб тым, наколькі добрыя адносіны склаліся

ў нас, гаворыць ужо тое, што свае кнігі ён мне іначай не падпісваў як «старому сябру». У сэнсе даўняму сябру.

Станіслаў Пятровіч не адмовіўся ўзяць чарку, бо ў нас было не «чарніла», а «гарэлка». Пасля яму налілі яшчэ чарку. Таксама ахвотна выпіў. Была і трэцяя. Тады Шушкевіч і пытаецца:

— То, можа, я пазваню свайму сябру Ліхадзіеўскаму.

Паэт, даследчык літаратуры Сцяпан Ліхадзіеўскі, з якім Станіслаў Пятровіч сябраваў яшчэ з гадоў юнацтва, жыў у Ташкенце. Далекавата, канечне. Размова шмат каштаваць будзе. Ды хіба адмовіш? Адно папярэдзілі, каб доўга не гаварыў. Станіслаў Пятровіч, зразумела, паабяцаў. Але тыя, хто быў добра знаёмы з ім, ведалі, наколькі ён любіў пагаварыць. Асабліва, калі пачынаў сваё традыцыйнае: «А ведаеце....»

Ведаў Шушкевіч шмат, таму пры магчымасці і стараўся выказацца. А тут якраз падобная магчымасць і з’явілася. Дый паступова мы страцілі пільнасць. Станіслаў Пятровіч з Ліхадзіеўскім размаўляе, а мы паміж сабой. Быццам і няма яго ў пакоі. Шушкевічу ж гэта толькі на карысць. Ніхто не спыняе... Пагаварыў з Ліхадзіўскім, колькі хацеў.

Праходзіць месяц. Мы ўжо і забыліся пра гэты званок. Раптам галоўны выклікае да сябе А. Аказваецца, паступіла раздрукоўка тэлефонных размоў для аплаты. На ташкенцкі нумар налічана ажно 65 рублёў. Для параўнання: гэта адпавядала амаль палове тагачаснай зарплаты загадчыка аддзела. Не сказаць, каб надта строга ставіліся ў рэдакцыі да міжгародніх тэлефонных, але такая сума...

— Што ж, — сказаў Алесь Харытонавіч А., — будзеш плаціць са сваёй кішэні.

— Чаму я адзін? — здзівіўся той.

Падумаў галоўны:

— Так быць: палову плаціш ты, а палову С.

А. не хацеў мірыцца і з такім варыянтам.

— Але ж, — запярэчыў ён, — у кабінеце быў яшчэ і Марціновіч. Калі б не ён, то Станіслаў Пятровіч, магчыма б, і не зайшоў.

— Пакінь Марціновіча ў спакоі, — адказаў галоўны. — Вы з С. — загадчыкі аддзелаў, а ён радавы супрацоўнік. Вы і адказваеце.

Расказаў мне А. пра гэта.

— Не хвалюйцеся, — супакоіў я яго, — пайду папрашу, каб суму гэтую на трох падзялілі. Па справядлівасці.

Ды не тут было. Асіпенка і слухаць не захацеў. Паўтарыў тое, што і дагэтуль казаў. Маўляў, у загадчыкаў аддзелаў зарплата большая, таму з іх і спагнанне.

Так і вылічылі з А. і С. грошы. Ад такой справядлівасці я адчуваў сябе ніякавата, таму вырашыў кампенсаваць ім урон. Але паколькі трэцяя частка сумы была не такая і малая, то задавальненне расцягнулі на пару разоў. Зразумела, надта не афішавалі гэта, то ніхто і не здагадаўся. Ды нездарма кажуць: раз на раз не выпадае. Аднойчы на планёрцы галоўны, назваўшы нашу тройцу, заявіў:

— Вы ўжо зусім абнаглелі. Трэба ж дайсці да такога, каб паслаць далей жанчыну, якая патэлефанавала ў рэдакцыю.

— Не можа такога быць! — ледзь не ў адзін голас запярэчылі мы.

— Яна ж сама паскардзілася, — працягваў абурацца Асіпенка, — сказала, што тэлефанавала фотакару (у нас з Уладзімірам Крукам быў паралельны тэлефон. — **А. М.**). Хтосьці з вас паабяцаў паклікаць, а другі ў гэты час пачаў лаяцца. Буду прымаць меры, — прыгразіў галоўны.

Вярталіся мы ў свой кабінет, быццам вадой аблітыя. Зачыніўшы за сабой дзверы, пачалі думаць-гадаць, як падобнае магло здарыцца. Але чым больш разважалі, тым больш сыходзіліся на тым, што проста адбылося нейкае непаразуменне. Не маглі мы падобным чынам павесці сябе. Не маглі і ўсё. Магчыма, у гэты час знаходзіўся ў нашым кабінеце яшчэ хтосьці чацвёрты.

— Пачакайце, — успомніў я, — да нас жа заходзіў...

Я назваў С. Цудоўны паэт і празаік, ён часта знаходзіўся пад чаркай. Аднак не толькі такая слабасць была ў яго. С., будучы п'яным (менавіта п'яным, а не проста на падпітку), станавіўся агрэсіўным, мог каго хочаш і куды заўгодна паслаць. Праўда, у той дзень зайшоўшы да нас, ён сядзеў за сталом і драмаў. Тэлефон жа стаяў акурат поруч з ім. Калі раздаўся званок, С. прыўзняў галаву. Адзін з нас зняў трубку і, выслухаўшы просьбу, пайшоў зваць Уладзіміра Андрэевіча. Зразумела, што трубку ён паклаў каля тэлефоннага апарата. У гэты час С. узяў яе і, не разбіраючыся, хто на другім канцы провада, мацюгнуўся.

У нас адлягло на сэрцы. Усё ж ніякай нашай віны не было. Пра што і паспяшаліся сказаць Алесю Харытонавічу. Ён засмяяўся:

— З вамі не засумуеш!

Ніяк не магу сабе дараваць, што аднойчы адмовіў яму ў ягонай просьбе. Прытым яшчэ тады, калі ён працаваў галоўным рэдактарам. Праўда, гэта было зроблена не наўмысна, бо хіба мог я аслухацца свайго непасрэднага начальніка, які да ўсяго так прыхільна ставіўся да мяне. Аднак падвяло ж мяне тое, што сам часта люблю пажартаваць. А тут якраз склалася такая сітуацыя, што паспрабуй разбярыся — усур'ёз гэта сказана ці жартам. Было ж усё наадварот, выглядала так...

Я не належу да тых, хто гатовы паўтараць, як гэта робяць некаторыя, хто нечакана «прозрел» у тым, што пры Брэжневе ў жыцці савецкага грамадства быў так званы «застойны перыяд». Аднак і не магу пагадзіцца, што пры ім усё было добра. Праблем ставала, а шмат у чым і празмерна. Узяць хоць бы забяспечанасць насельніцтва прадуктамі харчавання. Канечне, Беларусь знаходзілася ў лепшых адносінах у параўнанні з некаторымі саюзнымі рэспублікамі. Але паколькі шмат чым мусіла з імі дзяліцца, асабліва са «старэйшым братам», дэфіцыт таксама адчуваўся. Калі свініну ці ялавічыну можна было купіць больш-менш спакойна, ва ўсякім разе пайсці на рынак, то высокагатунковых каўбас, іншых мясных вырабаў, дый шмат чаго яшчэ неставала. Як ні дзіўна, дэфіцытам з'яўляліся нават зялёны гарошак, маянэз.

Не сказаць, каб партыя спакойна ставілася да гэтага, аднак, разумеючы, што запатрабаванні ўсіх не задаволіш, выбарачна падтрымлівала некаторыя катэгорыі насельніцтва. Зразумела, пачынаючы з сябе самой, таму і адкрываліся для партыйна-савецкай наменклатуры спецыяльныя магазіны. Праўда, не забывала партыя і пра рабочы клас. На буйных прадпрыемствах працавалі так званыя сталы заказаў. Але цягам часу падобныя сталы з'явіліся і ў некаторых установах і арганізацыях.

Пасля гэтага пісьменнікі і задумаліся, а чым яны горшыя. Калі дагэтуль на сваіх пленумах, сходах, уключаючы, канечне, і сходы партыйныя, толькі гаварылі пра захаванне мовы, выданне кніг, то, нарэшце, зразумелі, што калі страўнік зранку напоўніць чымсьці дэфіцытным, то і думаецца, і пішацца лепш. Таму і пачалі прымаць захады, каб мець свой стол заказаў.

Хоць і з вялікімі цяжкасцямі, але свайго дамагліся. Аднак, паколькі ў спецзаказаўскі цягнік яны ўскочыліаднымі з апошніх, то Саюз пісьменнікаў БССР забяспечвалі значна горш, чым некаторыя іншыя ўстановы і арганізацыі, не кажучы ўжо аб мінскіх прамысловых прадпрыемствах. Але лепш хоць

што-небудзь, чым нічога. Дый часам перападала і нешта вельмі дэфіцытнае, як, напрыклад, індыйскі чай, балгарскія ці румынскія памідоры ва ўласным соку, закатаныя ў слоікі.

З такімі памідорамі і звязана тое, пра што хачу расказаць. Праўда, не абысціся без маленькага ўдакладнення. Калі сёе-тое з прадуктаў можна было выменяць у суседа па чарзе на штосьці іншае, то ахвотнікаў аддаць чай ці таматы ніколі не знаходзілася. Стаю гэта я, значыць, у чарзе, а чарга доўгая, але ўсведамленне, што няхай і праз якую гадзіну ў мяне будзе слоік памідораў і пачак індыйскага чаю самага высокага гатунку, пры тым не звычайны стограмовік, а вялікі, у якім паўкілаграма яго, надае ўпэўненасці ў тым, што трэба трымацца да апошняга.

Цяжка гэта для мяне, ой як цяжка — зусім жа не пераношу чэргаў, толькі ў выключных сітуацыях, калі ці пан, ці прапаў, стаю ў іх, аднак гэта якраз такая сітуацыя. Каб хутчэй бег час, як звычайна, што-небудзь расказваем адзін аднаму. Нарэшце, мэта дасягнута. Атрымаўшы жаданы пачак чаю, слоік памідораў і сёе-тое ў давесак, шчаслівы вяртаюся ў рэдакцыю. Ужо на выхадзе з Дома літаратара сустракаю свайго галоўнага рэдактара.

— Што даюць? — запытаўся Асіпенка.

— Чай, памідоры. — адказваю.

— Памідоры — гэта здорава, — Алесь Харытонавіч не хавае свайго захаплення. — Эх, — уздыхае ён, — шкада, што сёння не мой дзень.

Рэч у тым, што паколькі да стала заказаў было прымацавана шмат народу — самі пісьменнікі, члены іх сем'яў, работнікі перыядычных выданняў, заснавальнікам якіх з'яўляўся Саюз пісьменнікаў БССР, супрацоўнікі Дома літаратара, медыцынскі персанал пісьменніцкай паліклінікі і іншыя, то заказы выдавалі не ў адзін дзень, а замацаваных за гэтым сталом падзялілі на некалькі груп.

— А мо памідоры мне аддасі? — усміхнуўся Асіпенка.

«Жартуе, не іначай, мой галоўны рэдактар», — падумалася мне. Таму і сам я засмяяўся:

— Мне яны спатрэбяцца.

— Асабліва на другі дзень, — адказаў Алесь Харытонавіч з веданнем, — калі ўсё ўнутры гарыць.

— Лепей, чым піва. — згадзіўся я.

На тым і разышліся. Асіпенка збіраўся ехаць на канферэнцыю, што праводзілася ў Слуцкім раёне па адной з кніг Брэжнева. Дарэчы, у маёй роднай вёсцы Казловічы, але асвятляць яе быў накіраваны іншы супрацоўнік «ЛіМа». Не сумняваюся, што калі б Асіпенка ведаў, што я з гэтай вёскі родам, то паслаў бы мяне. Сам ён ехаў для таго, каб надаць гэтаму важнаму мерапрыемству большую вагу.

Мінулася шмат гадоў. Алесь Харытонавіч даўно ўжо знаходзіўся на пенсіі, але па-ранейшаму шмат пісаў. Калі выходзіла ягоная новая кніга, я абавязкова стараўся яе прарэцэнзаваць, адгукаўся і на часопісныя публікацыі. Пастараўся адзначыць і ягонае 70-годдзе. Не толькі для «ЛіМа» артыкул напісаў, але і для «Чырвонай змены», «Настаўніцкай газеты». Здаецца яшчэ для нейкага выдання. Не паўтараўся, шукаў іншыя варыянты. Праўда, павіншаваць яго па тэлефоне палічыў лішнім. Маўляў, навошта? Усё адно газеты чытае.

Неўзабаве быў надрукаваны і новы раман Асіпенкі. Аб'ёмны твор, у якім закраналіся і падзеі трыццатых гадоў мінулага стагоддзя, а таксама тое, што папярэднічала ім. У рэдакцыі «ЛіМа» вырашылі, што лепш будзе, калі я

раман не прарэцэнзую, а пагутару з аўтарам, задам яму шэраг пытанняў, што тычацца ўзнікнення мастацкай задумы і яе ўвасаблення. Алесь Харытонавіч на такую прапанову ахвотна адгукнуўся.

Гутарылі ў яго на кватэры. «Нагаварылі» ці не на цэлы лімаўскі разварот. Калі ж асноўная гаворка закончылася, я (ужо і не ведаю з якой нагоды) успомніў пра ягоны нядаўні юбілей. Пасля чаго выцягнуў са сваёй сумкі нумар «Чырвонай змены», аддаў яго Асіпенку.

— А я і не ведаў, што ты пра мяне пісаў не толькі ў «ЛіМе», — прызнаўся Алесь Харытонавіч.

Я назваў і іншыя газеты, у якіх расказаў пра яго творчасць у дзень ягонага 70-годдзя.

— Дзякую, — сказаў Асіпенка і нечакана перайшоў да іншага: — Памятаеш, як ты вяртаўся са стала заказаў з памідорамі?

Такое пытанне падалося мне больш чым дзіўным. Гэта ж трэба — знайшоў пра што гаварыць. Але паспяшаўся запэўніць свайго колішняга галоўнага рэдактара:

— Канечне, памятаю. А яшчэ вы пажартавалі. Маўляў, аддай памідоры мне?

Алесь Харытонавіч паглядзеў на мяне ўважліва і ўздыхнуў так, быццам я, як і тады, не хачу аддаць яму тыя памідоры:

— А я і не жартаваў, — нечакана прызнаўся ён.

— Не жартавалі? — мне не хацелася верыць у ягонае прызнанне.

— Якія маглі быць жарты? — гучна засмяяўся Асіпенка. — Усё нутро тады ў мяне гарэла, а ты мне нейкіх памідораў пашкадаваў!

— То трэба было б дзе-небудзь падлячыцца, — я так вінавата паглядзеў на яго, быццам тое, пра што мы гаворым, адбылося толькі ўчора.

— А я і падлячыўся. Дзякуючы Леаніду Ільічу.

— Як?

— Як-як? Як усе людзі. Пахмяліўся, але ж давялося чакаць, калі канферэнцыя закончыцца.

— А яна такая доўгая была...

— Для мяне, то пэўна.

Сапраўды ўжо: трэба ўмець не толькі жартаваць, а і разбірацца, дзе жарт, а дзе праўда. Прынамсі, аднойчы пажартаваўшы, я, сам таго не жадаючы, пакрыўдзіў вядомага нарысіста Сцяпана Кухарава, якому і так не соладка было.

## Ганарар, які «зняў» пенсію

Пра гэта я ўспомніў, калі Сцяпан Іванавіч памёр, і я пісаў для «ЛіМа» невялікі матэрыял у сувязі з ягоным адыходам у вечнасць. Калі што і суцяшала ў такую трагічную часіну, дык толькі тое, што ён, дзякаваць богу, пражыў амаль 92 гады. Усяго нейкі месяц не дацягнуў да гэтага ўзросту. Зразумела, пра тое, што збіраюся зараз расказаць, у тым сваім жалобным слове не згадаў. Як кажуць, не той жанр. А цяпер не магу не ўспомніць.

Стаім мы неяк каля «ЛіМа». Хто курыць, хто проста так. Пакрысе размова завязваецца і пра тое і пра сёе — мала што можна ўспомніць. Кожны стараецца прыгадаць як мага больш смяшнейшы выпадак. А тут якраз і Кухараў падыходзіць. Колішні сувязны, франтавік, дайшоў да Берліна. Вядомы нарысіст, які актыўна пачаў выступаць і ў прозе. Таксама падключыўся да нашай размовы. І таксама штосьці разказваў, з усімі жартаваў. Непрыкметна перайшлі і да літаратурных спраў. Нехта запытаўся ў Сцяпана Іванавіча:

— А вам як пішацца?

— Што з пенсіянера возьмеш? — паспрабаў ён ухіліцца ад адказу.

— Не прыбядняйцеся, — падаў я свой голас. — А нарыс у «Маладосці»?

— Чытаў? — абрадаваўся Кухараў і зрабіў рэверанс у мой бок: — Ты адзін, хто ўсіх нас чытае.

— Ды не пра мяне гаворка, — кажу, — а пра ваш нарыс.

— Спадабаўся, значыць? — яшчэ больш ажывіўся Сцяпан Іванавіч.

— А як жа іначай? — усміхнуўся я. — Адразу відаць, што майстрам напісана.

Заўважыўшы, што такая пахвальба Кухараву вельмі спадабалася, я нечакана затытаўся:

— Нябось і ганарар добры атрымалі?

Чаго хочаш мог чакаць, толькі не гэтага. Твар Сцяпана Іванавіча нечакана наліўся чырванню. Рэзка крутнуўшыся, Кухараў крыкнуў мне:

— Пайшоў ты... — і кінуўся ад нас, быццам далейшае знаходжанне ў гэтым гурце ўяўляла для яго нейкую небяспеку.

Усё здарылася настолькі нечакана, што я ў адказ не прамовіў ні слова. Астатнія ж таксама стаялі моўчкі, не ведаючы, як да ўсяго паставіцца. Толькі пасля таго, як ягоны і след прастыў, я, няўцямна агледзеўшыся па баках, сказаў, нікому канкрэтна не адрасуючы свае словы:

— Здаецца, нічога ж такога абразлівага ў маім запытанні не было?

— А ты хіба нічога не ведаеш? — нарэшце падаў свой голас Алесь Гаўрон, які ў часопісе «Маладосць» узначальваў аддзел публіцыстыкі.

— А што я павінен ведаць? — разгубіўся я.

— У Сцяпана ж Іванавіча пенсію за месяц вылічылі, — патлумачыў Алесь.

— Прычым пенсія? — нічога не разумею я. — Я ж у яго пра ганарар пытаўся.

— Дык жа з-за ганарару ў яго пенсію і вылічылі, — удакладніў Гаўрон. — А ты...

Усе сцішыліся ў прадчуванні, што ён раскажа нешта вельмі цікавае, звязанае з такімі неадэкватнымі паводзінамі Кухарава на маё запытанне наконт ягонага ганарару. Я дык і зусім адчуваў сябе ніякавата: гэта ж трэба пакрыўдзіць такога паважанага пісьменніка і чалавека.

Алесь тым часам працягваў:

— Ведаеце, хто ў нас адказным сакратаром працуе?

— Чаму ж не ведаць? — пачуўся чыйсьці голас.

— Раманіст века, — засмяяўся нехта, маючы на ўвазе вядомага паэта і празаіка Леаніда Дайнеку, які ўзяўся напісаць дзесяць раманаў. Таму хтосьці і пусціў пагалоску: «Леанід Дайнека — раманіст века», якая хутка ў пісьменніцкім асяродку стала добра вядомай.

— Лёня ж у сяброўскіх адносінах са Сцяпанам Іванавічам, а паколькі ганарар распісвае адказны сакратар, то ён і пастараўся не пакрыўдзіць Кухарава.

— Нічога не разумею, — пацiснуў я плячыма. — Я ж не пытаў у яго, колькі ён атрымаў. Дый калі б нават і пытаўся: не хочаш, не адказвай.

— Ты іншага не разумееш, — засмяяўся Алесь. — Хіба забыўся, што пенсіянер можа зарабіць у месяц толькі пэўную суму, калі ж болей, чым дазваляецца, у яго могуць за месяц вылічыць атрыманую пенсію.

Сапраўды: паводле пенсійнага заканадаўства, якое існавала ў савецкія часы, той, хто знаходзіўся на заслужаным адпачынку, па сутнасці не мог пра-

цаваць. Гэтае правіла распаўсюджвалася нават на журналістаў і пісьменнікаў. Толькі пазней для членаў творчых саюзаў абмежаванне было знята. Дайнека ж сваёй шчодрасцю аказаў Сцяпану Іванавічу благую паслугу, бо атрыманы ім ганарар усё ж атрымаўся ніжэйшы за суму пенсіі, якую за месяц вылічылі ў яго. Палічыўшы, што я з яго смяюся, ён і паслаў мяне...

Праўда, праз дзень-другі Кухараў, зразумеўшы, што я не збіраўся кпіць з яго, патэлефанаў і папрасіў прабачэння.

— Гэта ж, — ён збіраўся расказаць пра выпадак, які каштаваў яму столькі нерваў. Дый грошай...

— Усё ведаю, Сцяпан Іванавіч, — перапыніў я Кухарава, — і прашу прабачэння, што так атрымалася.

Цяпер, зразумела, для пенсіянераў падобныя абмежаванні зняты. Колькі хочаш, столькі і працуй. Што зарабіў, тое і атрымлівай. Праўда, калі б за кнігі яшчэ і ганарары плацілі. Ды гэта ўжо іншая тэма.

## Хочаш страляцца? Спярша пахмяліся

Пры галоўным рэдактары Алесю Жуку адбыўся не менш цікавы выпадак. Тады А. ужо не загадваў аддзелам крытыкі і літаратуразнаўства. Дый паэт С. ужо не сядзеў у гэтым кабінеце. Але часам заходзіў. Асабліва тады, калі была пільная неабходнасць. У той дзень такая неабходнасць якраз і з’явілася.

Перад гэтым С. так расслабіўся, што некалькі дзён падоўгу на рабоце не затрымліваўся. Прыйдзе зранку, крыху пасядзіць, а потым яго толькі і бачылі. Звычайна спяшаўся ў Дом літаратара. У Доме літаратара ж, як вядома, ёсць кафэ, а ў тыя гады працаваў яшчэ і бар. Паколькі ж выпіўшы паэт С. станавіўся не менш агрэсіўным, чым паэт і празаік С., то і трапляў у розныя сітуацыі. Мог і абразіць каго-небудзь. Дайшло да таго, што пакрыўджаныя па дапамогу звярнуліся да галоўнага рэдактара. Таму Алесю Аляксандравічу нічога не заставалася, як прымаць меры.

Сяжу я адзін у кабінеце і раптам адчыняюцца дзверы і на парозе з’яўляецца паэт С. Як ніколі засмучаны, панылы.

— Усё, — кажа ён заікаючыся, а заікаўся ён больш, калі хваляваўся, — быў бы пісталет, то застрэліўся б.

— Чаго гэта раптам? — пытаюся ў яго.

— Ды выклікаў Алесь. Каб вымову даў ці папярэджанне, а то пачаў выхоўваць. Маўляў, я табе ледзь не ў сыны даводжуся, а мушу ўшчуваць, не сорамна табе так сябе паводзіць.

— А ты?

— Кажу: больш не буду, — усмешка далася яму з неймавернай цяжкасцю. — А яшчэ сказаў, што больш піць не буду... Цяжка, — паўтарыў С. — І маральна, і фізічна. То, можа, грошы ёсць? — ён са спадзяваннем паглядзеў на мяне, — і адразу пабяцаў: — аддам.

Разумеючы стан С. — мала таго, што цяжка пасля ўчарашняга, дык яшчэ і пад выхаванне патрапіў, я запэўніў яго:

— Сам пастаўлю.

С. вельмі абрадаваўся такому павароту сітуацыі і адразу прапанаваў:

— То пайшлі ў магазін.

— Пайшлі.

Ідзём сабе, а С. глядзіць ужо і наперад:

— Бяром пляшку і ў парк Горкага.

— У які парк?! — ўскрыкнуў я. — Хочаш, каб злавілі і ў міліцыю забралі. Яшчэ гэтага неставала: у час рабочага дня распіваем спіртное ў грамадскім месцы.

Мой аргумент адразу падзейнічаў на С.

— Тады дзе? — задумаўся ён.

— У кабінеце, — спакойна адказаў я.

— Але я слова даў, — С., як чалавек сумленны, захваляваўся. — Сказаў Жуку, што больш піць не буду. А калі ён «накрые» нас у кабінеце?

— Дадзенае слова, — абнадзеіў я С., — будзе мець сілу з заўтрашняга дня. А сёння, — дадаў цалкам сур'ёзна, — яшчэ можна.

— Можа, і сапраўды можна, — настрой С. узняўся, але адразу ж С. і засумняваўся: — Не жартуеш?

— Якія могуць быць жарты? — супакоіў яго.

Узялі, што трэба. А ў якасці закускі пачак пячэння. Вярнуліся ў рэдакцыю. зайшлі ў кабінет. Тут С. і кажа:

— Можа, кабінет не будзем зачыняць.

— Сапраўды, — пагаджаюся з ім, — нават крыху прыадчынім. Маўляў, сядзім сабе і працуем. Ніхто нічога і не здагадаецца.

Хуценька зрабілі сваю справу, як ні ў чым не было жуём пячэнне, як тут на парозе з'яўляецца Жук. Ён уважліва паглядзеў на нас. Ад ягонага позірку, як мне падалося, С. ажно плечы ўціснуў. А Жук засмяяўся:

— Паспелі? — і пайшоў да сябе.

Аднак усё адно пасля добрай пахмелкі С. расхацелася страляцца.

## Народны артыст Ц. і лёс майго пашпарта

Уладзімір Крук, аддаўшы «ЛіМу» ці не сорак гадоў, па абавязку сваёй працы, зразумела, сустракаўся як з многімі пісьменнікамі, так і дзеячамі мастацтва, культуры. Таму ведаў нямала і таго, што, як кажуць, не для друку. Шкода, але ў мяне няма звычкі пачутае запісваць. Таму, згадваючы аповеды Уладзіміра Андрэевіча, даводзіцца спадзявацца на ўласную памяць. Яна ж «занатавала», прынамсі, тры гісторыі з жыцця народнага артыста СССР Ц., самім жа маэстрам і расказаныя. Гэтыя гісторыі нельга ўспрымаць без смеху.

Стаіць аднойчы Ц. на трамвайным прыпынку насупраць свайго дома, а жыў ён непадалёку ад Вайсковых могілак. Раніца марозная, таму Ц., каб хоць крыху сагрэцца, у адзін бок пройдзе, у другі. Людзей не так і шмат, то месца на пляцоўцы хапае. Выйшлі на вуліцу толькі тыя, каму, як і яму, неабходна ісці на работу, ці хтосьці выбраўся з цёплай кватэры па нейкіх пільных справах. Ходзіць Ц. узад-уперад, і пачынае заўважаць, што нейкі мужчына надта ж пільна да яго прыглядаецца. Нават не да яго самога, а глядзіць на ягоныя ногі. Быццам стараецца высветліць, што за абутак у яго.

Ад такога ўважлівага позірку Ц. нават не па сабе стала. Збіраўся ўжо штонебудзь сказаць мужчыну, але той апярэдзіў яго. Падышоўшы бліжэй, ён ціха, каб ніхто не пачуў, запытаўся ў яго:

— Прабачце, а вы ўсё апранулі?

Ц. ажно ўздрыгнуў, сабраўся абурыцца ад такой бестактоўнай, як яму падалося, цікаўнасці. А мужчына між тым працягвае:

— Вы на ногі свае паглядзіце...

— На ногі? — здзівіўся Ц., — а што, па вашаму, з мамі нагамі?

— З нагамі то нічога, — мужчына дазволіў сабе ўсміхнуцца, — але вы

забыліся.... —- Ён засмяўся, не ведаючы, ці трэба гаварыць усю праўду, аднак усё ж адважыўся: — Прабачце, даражэнькі, але вы штаны забыліся надзець.

Зірнуў Ц. уніз і...

Сапраўды, без штаноў стаіць. У адных кальсонах і, зразумела, у чаравіках і паліто. А штаноў... Штаны то не надзеў.

— Гэта ж спяшаўся, — сказаў ён, апраўдваючыся. — Вялікі дзякуй вам, вялікі дзякуй, — і паспяшаўся дамоў.

Паколькі Ц. чалавек быў знакаміты і аўтарытэтны, то яму з рознай нагоды нярэдка званілі і з ЦК КПБ. Так было і гэтым разам. Аднак да тэлефона падышоў не сам Ц., а ягоны малалетні ўнук. На просьбу паклікаць дзядулю, ён адказаў:

— Дзядуля заняты, — і, як добра выхаваны хлопчык, дадаў: —Ператэлефануйце, калі ласка, праз хвілін дзесяць.

Праходзяць гэтыя хвілін дзесяць, у кватэры Ц. зноў раздаецца тэлефонны званок. Як мае быць, зноў трубку здымае ягоны ўнук. І гэтаксама, як дагэтуль, праяўляе ветлівасць:

— Дзядуля ўсё яшчэ заняты. Калі няцяжка, патэлефануйце яшчэ праз хвілін дзесяць.

Праз дзесяць, дык праз дзесяць. Іншага выйсця няма, але і трэцім разам не ўдалося даклікацца Ц. Тады той, хто настойліва дабіваўся размовы з ім, не вытрымаў, пацікавіўся:

— А чым гэта твой дзядуля так доўга заняты?

— Як чым? — здзівіўся ўнук.— Ён у туалеце сядзіць.

Яшчэ праз некалькі хвілін давялося здзіўляцца ўжо самому Ц. Унук, калі дзед нарэшце выйшаў з туалета, паведаміў, што яму званілі з ЦК. Аднак не прызнаўся, што раскрыў «сакрэт» такой доўгай ягонай адсутнасці. Дый, хутчэй за ўсё, з-за свайго малалецтва ў гэтым не ўбачыў нічога незвычайнага. А тут якраз зноў зазваніў тэлефон. Ц. узяў трубку, а ў ёй голас работніка ЦК, з якім ён быў у добрых, зусім не афіцыйных адносінах. Можна ўявіць сабе становішча Ц., калі той, паздароўкаўшыся з ім, засмяяўшыся, а потым запытаўся:

— Са стулам у вас хоць усё ў парадку?

Прыехаў Ц. неяк па справах у Маладзечна. Паколькі гэты ягоны прыезд быў загадзя агавораны, то ён па прыбыцці адразу накіраваўся да першага сакратара райкама партыі. У прыёмнай сакратарка, пазнаўшы Ц., абрадавалася:

— Чакаем вас, чакаем, — яна замітусілася. — Іван Васільевіч, хоць і заняты, але сказаў, каб адразу заходзілі да яго.

— Магу крыху і пачакаць, — сціпла адказаў Ц.

— Што вы, якое чаканне, — з гэтымі словамі яна адчыніла дзверы ў кабінет першага сакратара: — Калі ласка...

Увайшоў Ц. у кабінет, а там, апроч Івана Васільевіча, знаходзіцца яшчэ невядомы мужчына, па выглядзе якога відаць, што ў яго нейкія непрыемнасці. Першы сакратар падняўся з крэсла, ці не подбегам накіраваўся да Ц. Паздароўкаўшыся, ён запытаўся:

— Вы не супраць, калі ў вашай прысутнасці завяршу гэтую няпростую размову? — ён паказаў у бок мужчыны з самотным выглядам.

— А што за размова? — пацікавіўся Ц. у першага сакратара.

— Дадумаўся партыйны білет згубіць, — ён паглядзеў на мужчыну так сурова, што той ажно ўціснуў галаву ў плечы.

— Можа, яшчэ знойдзецца, — ціха прамовіў віноўнік.

— Зной-дзе-цца, — перадражніў яго першы сакратар. — Галавой трэба было думаць. Дый піць меней.

Ц., які і сам быў не супраць узяць чарку, асабліва яму падабаўся партвейн,

таму па аналогіі з ім ён усё віно назваў «парційнае», пры апошніх словах сакратара ўздрыгнуў.

— Усё павінна быць у меру, — прагучала з ягоных вуснаў.

— Вось, бачыш, — развіў ягоную думку далей Іван Васільевіч, — разумна трэба піць, а ты нажраўся, — ён пагардліва паглядзеў на віноўніка. — А яшчэ перадавы механізатар...

Не сказаць, каб Ц. гэты выхаваўчы працэс асабліва падабаўся, але нічога не заставалася, як рабіць выгляд, што і ён неабыякавы да таго, што адбываецца. Таму і згадзіўся з сакратаром:

— Сапраўды, нягожа перадавому механізатару так паступаць.

— Вось бачыш, — узрадаваўся сакратар райкама партыі, — не да твару перадавіку губляць партыйны білет. І, увогуле, які гэта камуніст, калі губляе свой галоўны дакумент. Вы таксама, мабыць, такой думкі? — звярнуўся ён да Ц., чакаючы ўзамаразумення.

— Праўду кажаце, — згадзіўся Ц.

— Чуў? — запытаўся першы сакратар райкама ў механізатара.

— Хіба я глухі? — пацвердзіў той. — Кажу вам, выпраўлюся.

Пасля гэтага сакратар вырашыў выкарыстаць яшчэ адзін выхаваўчы аргумент, які, як здавалася яму, мусіць мець асаблівае ўздзеянне на віноўніка.

— Ты можаш уявіць сабе, каб народны артыст СССР Ц. згубіў партыйны білет?

Механізатар задумаўся, як бы лепей адказаць, але Ц. апярэдзіў яго.

— Ніколі не згублю, — на адным дыханні выпаліў ён і ўсміхнуўся: — Бо яго ў мяне няма.

Запанавала нямая сцэна.

Першы сакратар райкама партыі ад здзіўлення ўтаропіўся ў Ц., не ведаючы, як зрэагаваць на пачутае.

Перадавы механізатар, нарэшце, дазволіў сабе непрыкметна ўсміхнуцца.

Ц. ж, які ніколі не з'яўляўся членам Камуністычнай партыі, разумеў, што пасля гэтага размова, якая паспела надакучыць яму, скончыцца.

Маўчанне парушыў першы сакратар райкама партыі.

— Можаш ісці, — сказаў ён перадавому механізатару.

Калі ж той памкнуўся да выхаду, дадаў:

— Не знойдзецца білет, будзем дублікат выдаваць, — і цяжка ўздыхнуў: — Нарабіў ты мне клопатаў.

Ц. хацелася сказаць: «Не прымалі б гэтага перадавіка ў партыю, то і клопатаў не мелі б», але прамаўчаў. Чалавеку ж і так дасталося.

Мяне, у адрозненне ад гэтага механізатара, ніхто прымаць у партыю не спяшаўся. Таму, нягледзячы на шмат якія прыгоды, губляць партыйны білет, якога ў мне не было, не даводзілася. Затое не пашанцавала з пашпартам.

Трэба ж так здарыцца, што ён у мяне прапаў акурат тады, калі ў Мінску масава пачалі прапісваць усіх жадаючых. Пайшлі на гэта з-за таго, што паўстала пытанне аб будаўніцтве метро. Дазвол жа на гэта можна было атрымаць толькі ў Маскве. Там жа яго давалі толькі тым гарадам, у якіх колькасць насельніцтва перавысіць мільён чалавек. Таму і пачала ў Мінску спешна праводзіцца суцэльная прапіска. Дастаткова было толькі знайсці таго, хто згодзен прапісаць у сябе. Якая плошча будзе пры гэтым на аднаго чалавека, увагі не звярталі.

Паколькі я не быў прапісаны, то з'явілася магчымасць жыць у сталіцы не на птушыных правах. Знайшліся і знаёмыя, гатовыя прапісаць мяне ў сябе.

Аднак трэба ж так здарыцца, што акурат у гэты момант, калі «звезда пленительная счастья» гатова была вось-вось запаліцца на даляглядзе майго жыцця, з жахам даведаўся, што пашпарт знік. Спачатку падумаў, што, магчыма, ён дзе-небудзь заваліўся сярод папер і праз колькі дзён удасца знайсці яго. Аднак спадзяванні аказаліся марнымі.

Дый хутка ўпэўніўся, што шукаць больш няма сэнсу. Успомніў, што за некалькі дзён да прапажы мой сябар, з якім разам кватараваў, на падпітку згроб усё, што ляжала на стале, у тым ліку і паперы, а потым выкінуў у сметніцу. Тады я не надаў гэтаму вялікага значэння, а цяпер....

Трэба было тэрмінова атрымліваць новы пашпарт. Але аказалася, што не так усё і проста. Калі пайшоў у аддзяленне міліцыі раёна, на тэрыторыі якога тады пражываў, са мной і гаварыць не сталі: ты ў нас не прапісаны, звяртайся па адрасе сваёй ранейшай прапіскі. Апошні раз я прапісваўся толькі ў Драгічыне. Потым прызвалі ў армію, а пасля звальнення ў запас працаваў у Капылі, Слуцку, так і не прапісваючыся. Атрымлівалася, што трэба звяртацца ў Драгічын.

Я, праўда, пайшоў іншым шляхам. Пра тое, у якім становішчы апынуўся, напісаў у рэдакцыю маскоўскага часопіса «Человек и закон», рэдакцыя якога рэгулярна давала розныя юрыдычныя кансультацыі. Адказ, на маё здзіўленне, прыйшоў вельмі хутка. Самае галоўнае, абнадзейваючае для мяне: пашпарт мне павінны былі выдаць усё-такі ў Мінску. Зноў пайшоў у аддзяленне міліцыі, паказаў адказ з Масквы, але там настойвалі на сваім. Маўляў, у рэдакцыі «Человека и закона» памыляюцца. І нават паказалі мне нейкі дакумент, паводле якога я ўсё ж мусіў звяртацца ў горад, дзе быў раней прапісаны. Значыць, у міліцыю Драгічына. Кола замкнулася.

Шмат хто са знаёмых, дзякуючы прапісному паслабленню, пачаў ужо жыць у Мінску на законных правах, а я ніяк не мог знайсці выйсце са складанага становішча, у якое нечакана патрапіў. Ніхто не хацеў ісці мне насустрач. І наўрад ці чаго б дабіўся, калі б не расказаў пра свае блуканні па пакутах свайму колішняму рэдактару. Адбылося гэта ў час аднаго з маіх прыездаў у горад, дзе пачыналася мая прафесійная біяграфія.

Як і мае быць, зайшоў у рэдакцыю. Пасядзелі з Віктарам Антонавічам, пагаварылі. Здавалася б, настрой мусіць узняцца, а ён у мяне, як кажуць, на нулі. Гэта не прайшло незаўважным ад Каваленкі.

— Непрыемнасці нейкія ў цябе? — запытаўся ён.

Я і расказаў яму, у чым прычына такога майго гнятлівага настрою.

— Чаму раней не сказаў? — засмяяўся Віктар Антонавіч і адразу абнадзеіў: — Гэтую праблему мы імгненна вырашым.

— Не можа таго быць, — засумняваўся я.

— Ты мне не верыш? — ён пачаў набіраць нумар тэлефона начальніка драгічынскай міліцыі. Паздароваўся з ім, для прыліку колькі слоў пра надвор’е сказаў, здароўем пацікавіўся, а пасля і пытаецца ў яго:

— Ты вельмі заняты? Кажаш, што для мяне заўсёды свабодны? То мы зойдзем да цябе з адным харошым хлопцам.

Хутка мы былі ў прыёмнай начальніка міліцыі. Сакратарка памкнулася сказаць, што начальнік заняты, але Каваленка апярэдзіў яе:

— Сказаў, каб тэрмінова зайшлі да яго.

Увайшлі мы ў кабінет начальніка міліцыі, а ў таго сядзяць двое юнакоў. У чымсьці сітуацыя, падобная на тую, якую ўбачыў ародны артыст СССР Ц. у кабінеце першага сакратара Маладзечанскага райкама партыі. З адной толькі розніцай. Там партыйны кіраўнік распякаў перадавога механізатра, які згубіў

партыйны білет, а галоўны драгічынскі міліцыянер выхоўваў тых, каго прывялі п’янымі.

Пра гэта мы даведаліся, калі ён пры нас прадоўжыў свой урок «назидательности».

— Так і быць, — злітаваўся начальнік міліцыі, — на работу не паведамім, але штраф заплаціць давядзецца.

Задаволеныя такім зыходам, хлопцы з радасцю пакінулі кабінет. Як толькі яны зачынілі за сабой дзверы, Каваленка коратка патлумачыў сітуацыю, у якую трапіў я. Уважліва выслухаўшы яго, начальнік міліцыі сказаў:

— Пашпарт павінны выдаць усё ж у Мінску, ёсць жа, — патлумачыў ён, — наконт гэтага яшчэ адзін дакумент, — ён палез нават у сейф, каб пераканаць нас, што не хлусіць, але Віктар Антонавіч спыніў ягонае памкненне:

— Ды верым мы табе, але дапамажы хлопцу.

— Калі ты просіш, адмовіць не магу, — адказаў начальнік міліцыі і, звяртаючыся да мяне, пачаў: — Так: ехаў ты ў поездзе, павесіў пінжак...

— Ды не ехаў я ні ў якім цягніку, — запярэчыў я.

— Не перабівай, — строга сказаў начальнік міліцыі. — Значыць, ты ў вагоне павесіў пінжак і пайшоў у тамбур. Вярнуўся, а пінжак укралі. Разам з пашпартам... Зразумеў?

Я нічога не зразумеў, але пацвярджальна кіўнуў галавой.

— То бяры ручку і пішы на маё імя заяву. Толькі падрабязней раскажы, як усё гэта было…

Каваленка перапыніў яго:

— Саша што хочаш напіша.

— Што хочаш — не трэба, — сур’ёзна зазначыў начальнік міліцыі, і да мяне: — Паўтараю: у заяве ўсё падрабязна раскажы і папрасі замест украдзенага выдаць новы пашпарт.

Узяўшы ў рукі тэкст маёй заявы, ён, уважліва прачытаўшы яе, застаўся вельмі задаволены:

— Сапраўды, пісаць умее.

— Мой кадр, — радасна засведчыў Віктар Антонавіч.

— То і далей такіх хлопцаў выхоўвай, — пажадаў яму начальнік міліцыі. — Праз месяц пашпарт будзе гатовы, — і, быццам апраўдваючыся, дадаў: — Раней не магу, такое правіла.

## Самагонка на кухні і партбілет у кішэні

Паўтараю: камуністам я не быў, таму і згубіў не партыйны білет, а пашпарт. Але праходзіў час і я ўсё больш пачаў думаць, а чым я горшы за іншых. Няўжо па-ранейшаму так і не гатовы далучыцца да кагорты тых, хто з’яўляўся «розумам, гонарам і сумленнем» эпохі. Як быццам розумам не абдзелены. Сумленне маю. Не надта ганарлівы? Дык гэтага гонару з лішкам у іншых. Атрымліваецца, што для стварэння агульнага партрэта вернага ленінца якраз і падыходжу. Ды не тут было. Як кажуць, тварам не падыходзіў.

Гэта цяпер усе тыя, хто некалі займаў розныя пасады, дзякуючы свайму членству, у грудзі грукаюць, што іх, бедных, маўляў, сілком туды цягнулі, а тады, «бедалагі» самі рваліся, ў яе, быццам у атаку ішлі, не шкадуючы нікога, хто трапляўся на іхнім шляху. І, зразумела, стараліся, каб ніхто не стаў камуністам з тых, каго яны не адносілі да сваёй.... Прабачце, хоць гэта прагучыць і грубавата, але слова «хеўра» ў дадзеным выпадку самае дакладнае.

Памятаю, як аднойчы з Алесем Пісьмянковым на вуліцы выпадкова сустрэліся з тагачасным сакратаром партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР, вядомым празаікам К. Гэты празаік, заўсёдны аптыміст, весяльчак — з тых, пра каго кажуць: «улыбка до ушей, хоть завязочку пришей», убачыўшы Алеся, расплыўся ва ўсмешцы:

— Дзе гэта ты прапаў?

— Як дзе? — здзівіўся Пісьмянкоў. — Як хадзіў на работу (ён тады працаваў у «Полымі». — **А. М.**), так і хаджу.

— Я не пра гэта. Ты ж абяцаў напісаць заяву аб уступленні ў партыю...

— Няўжо? — Пісьмянкоў зрабіў выгляд, што чуе пра гэта ўпершыню. — А можа, не трэба?

Тыя, хто добра былі знаёмы з Алесем, неаднойчы маглі ўпэўніцца, што ў яго была даўняя звычка: калі штосьці збіраецца зрабіць, абавязкова мусіць з кім-небудзь некалькі разоў абмеркаваць гэта. Так было і тады, калі рыхтаваў да друку сваю першую кнігу вершаў «Белы камень». «А мо ранавата?» — неаднойчы даймаў ён і мяне дый іншых гэтым пытаннем. Выбіралі яго сакратаром Саюза пісьменнікаў БССР — тое ж самае: «Ці трэба? Пойдуць размовы: малады яшчэ». З уступленнем у партыю аналагічная сітуацыя. Усё аднекваецца, сумняваецца, хоць і разумее, што ўступаць трэба. Такі ўжо характар чалавек меў. Яму заўсёды трэба было, каб хтосьці пераконваў яго ў неабходнасці таго, у чым ён і сам не сумняваўся, але рабіў выгляд, што вагаецца.

Сакратар партыйнай арганізацыі, не атрымаўшы ад Пісьмянкова пэўнага адказу, тым часам пачаў гаварыць і пра тое, і пра гэта — чалавек ён гаваркі, чымсьці падобны на Пісьмянкова. Па натуры гэткі ж вясёлы, таму лёгка пераскокваў з адной тэмы на другую. Нават дагаварыўся да таго, што пачаў расказваць нам пра тое, як гнаў на кухні ... самагонку. Мы ажно раты раскрылі: як проста, аказваецца, усё і які добры вынік можна атрымаць за такі кароткі час. Да ўсяго з невялікімі фінансавымі затратамі.

— Трэба паспрабаваць, — загарэўся жаданнем Алесь.

К., будучы ўпэўненым, што Пісьмянкоў ужо «созрел» і для працягу той сур'ёзнай размовы, з якой пачалі, з упэўненасцю сказаў:

— То заўтра чакаю цябе з заявай.

Алесь усміхнуўся:

— А навошта спяшацца? — і нечакана для К., дый для мяне таксама прапанаваў: — Прыміце спачатку Марціновіча.

Сакратар партыйнай арганізацыі не чакаў ад яго падобнай прапановы. Тым больш не гатовы быў для адказу на яе. Таму, прамаўчаўшы наконт прапановы Пісьмянкова, не знайшоў нічога лепшага, як паспешна развітацца з намі.

— Прабачце, хлопцы, — пацiснуў ён нам рукі, спачатку Алесю, потым мне, — можна было б яшчэ пагаварыць, толькі спяшаюся дахаты.

На тым і развіталіся.

Так і было вырашана маё пытанне з членствам у КПСС.

Да гэтага пытання я не звяртаўся нават тады, калі сакратаром партыйнай арганізацыі СП БССР стаў празаік С., чалавек сумленны ўжо хоць бы таму, што не збіраўся хаваць прычыну сваёй згоды заняць гэтую пасаду ў той час, калі так званыя «перабудавачныя вятры» дзьмулі ўжо ва ўсю моц, узнімаючы на паверхню розную брыдоту, якая нічога іншага не ўмела рабіць, як кляйміць камунякаў. Гэты С. ва ўсякім разе мне сказаў: «Чуў, што партыйным кіраўнікам зарплату падымаюць у два разы. То чаму б не папрацаваць, а далей што будзе, то будзе».

Што далей было, кожнаму вядома: развал СССР, руйнаванне КПСС. Перад гэтым жа самыя ўвішныя партыйныя пацукі пачалі разбягацца, не сумняваю-

чыся, што хутка іхні карабель патоне. На іх месца прыходзілі тыя, хто не расстраціў яшчэ веры ў савецкую ўладу. Яны належалі да тых, каго гэтыя пацукі, маючы ўладу і сілу, на адказныя пасады стараліся не пускаць. Адзін з такіх пісьменнікаў, паэт П. і ўзначаліў партыйную арганізацыю Саюза пісьменнікаў БССР у гэты складаны час, а потым стаў працаваць і ў ЦК КПБ.

То ён і прапанаваў мне:

— Уступай у партыю. Я і з В. перагаварыў, — ён меў на ўвазе галоўнага рэдактара «ЛіМа». — Ён не супраць.

— А ці трэба? — шчыра засумняваўся я. — Тым больш цяпер, калі паўсюдна такі раздрай.

— Гэта ты так думаеш, а ў некаторых думка іншая.

Такое сцвярджэнне мяне заінтрыгавала.

— І хто гэтыя «некаторыя», у каго іншая думка? — пацікавіўся я.

— Вельмі ў партыю рвецца Т., — ён назваў аднаго маладога супрацоўніка «ЛіМа», які потым стаў адным з самых агалцелых «сведамых».

— Зразумей, — працягваў П. — На рэдакцыю выдзелена адна вакансія. Ты ўступаеш, а Т., — П. засмяяўся, — будзе чакаць.

Чаго-чаго, а каб Т. уступаў у партыю, я не хацеў. Вельмі ж не падабаўся ён мне. Вечна насуплены, пануры. Да ўсяго нейкі ўнутрана ваяўнічы. Калектыў штотыднёвіка невялікі, усе адзін аднаго добра ведаюць, а ён ходзіць па калідоры, амаль ні з кім не здароўкаецца, на ўсіх глядзіць пагардліва. Каму-каму, падумалася мне, а яму трэба перакрыць клапан.

— Уступаю, — не вагаючыся заявіў я П.

Але аказалася ўсё не так проста, як думалася мне. Менавіта ў гэты час трэба было паслаць каго-небудзь на вучобу ва ўніверсітэт марксізму-ленінізму пры Мінскім абкаме КПБ. Да «перабудовы» жадаючых вучыцца ў ім было дастаткова, хоць і даводзілася на заняткі хадзіць пасля вучобы, а цяпер ніхто не хацеў з гэтым універсітэтам звязвацца. Само сабой зразумела, што ад «ЛіМа» прапанавалі вучыцца ў ім мне. Давялося згадзіцца. Адбылося ўсё, як у той даўняй песні «Партия сказала: «надо», комсомол ответил: «есть!»

Каштавала мне нерваў тая вучоба! Яшчэ якіх нерваў каштавала. Толькі што нарадзіўся ў мяне другі сын. Жонка просіць, каб дапамагаў. Пасля работы стамляюся як ніколі, бо ноччу з-за плачу малога не высыпаюся. А тут яшчэ гэтыя заняткі. Праўда, на іх я надта і не хадзіў. Тым больш, што праз некаторы час з адным музыкальным крытыкам, які таксама рыхтаваўся стаць «марксістам-ленінiстам», знайшлі прымальнае выйсце. Пачалі заняткі наведваць па чарзе, адзін аднаго адзначаючы.

У час жа заняткаў чым толькі не займаліся: і штосьці чыталі, і красворды разгадвалі, і нават пісалі свае матэрыялы. Выкладчыкі, якія на падобным навучанні зубы з’елі, ставіліся да ўсяго спакойна і з разуменнем. Для іх галоўным было адчытаць чарговую лекцыю і спраўна атрымаць свой заробак.

Аднак аднойчы з’явіўся ў нас новы выкладчык. Штосьці па эканоміцы чытаў, якая, зразумела, мне, як і, дарэчы, шмат каму іншаму неабходна была, як таму сабаку мыш. Выкладчык жа той, які перабраўся нядаўна ў Мінск з нейкага абласнога цэнтра, быў ці то наіўны, ці то палахлівы. Хоць, бадай, у ім спалучалася і тое, і другое, у чым я хутка ўпэўніўся, калі ён пачаў сваю чарговую лекцыю, а кожны з нас заняўся сваёй справай. Іншыя выкладчыкі рабілі выгляд, што нічога не заўважаюць, а гэты пачаў хадзіць паміж радамі.

Падыходзіць да мяне. Я спакойна чытаю газету, нібыта поруч нікога і няма. Ён жа, не адыходзячы, працягвае лекцыю, даючы зразумець, што я павінен адкласці газету ў бок. Але я працягваю рабіць выгляд, што ні пра што не здагадваюся. Нарэшце, ён не вытрымлівае.

— Вы хіба не збіраецеся здаваць экзамен? — пытаецца ў мяне.

— Канечне, — адказваю з такой рашучасцю, быццам гатовы зрабіць гэта хоць зараз.

— І як вы будзеце здаваць? — дапытваецца ён.

— А гэта ўжо ад вас залежыць, — спакойна кажу я, нават не ўзняўшы галаву.

Да яго, мабыць, даходзіць бессэнсоўнасць гэтага дыялогу, бо, нічога больш не сказаўшы, пайшоў да свайго стала, называючы нейкія лічбы — лекцыя працягвалася.

Вучоба прабегла непрыкметна, прыйшоў і час здаваць экзамены. Сталася так, што першы экзамен я здаваў менавіта яму. Пры тым нечакана для сябе. Атрымалася так, што прапусціў заняткі два разы запар, таму і не ведаў, што курс лекцый ужо прачытаны. Як нічога і не было спяшаюся ў знаёмую аўдыторыю. Захожу і — вачам сваім не веру: у ёй сядзіць за сваім сталом толькі адзін гэты выкладчык.

— А дзе астатнія? — пытаюся ў яго.

— Падыдуць, — адказвае ён, — вы што, не ведаеце, што сёння экзамен?

Давялося прызнацца, што гэта сапраўды так. Ён, зразумела, чакаў, што я запытаюся, калі можна будзе прыйсці здаваць іншым разам, аднак падобны варыянт у мае планы не ўваходзіў

— То можна здаваць? — пытаюся.

— Як здаваць? — ён паглядзеў на мяне такімі вачыма, што мне ажно шкода яго.

Падумаць толькі: ёсць жа наіўныя людзі, якія ўсур'ёз вераць, што мне, які адпрацаваў на той час у «ЛіМе» амаль трыццаць гадоў, неабходны веды па эканоміцы. Але, канечне ж, прамаўчаў. Толькі, уважліва паглядзеўшы на яго, даўшы зразумець, што ўспрымаю яго разумным чалавекам, нібыта сам сабе сказаў:

— І які білет лепей узяць?

Ён на гэта нічога не адказаў. Я ж узяў першы білет, што патрапіўся мне пад руку, і нават не чытаючы, што ў ім напісана, усміхнуўся:

— Я працую ў газеце «Літаратура і мастацтва». Літаратура і мастацтва, — паўтарыў я.

— Разумею, — адказаў ён.

Да яго нарэшце дайшло, што мне ўся гэтая эканоміка, як зайцу стоп-сігнал. Мы пагаварылі з ім крыху на «отвлеченныя темы» і разышліся так, як разыходзяцца людзі, якія разумеюць адзін аднаго з паўслова. Усё ж я не дацэньваў гэтага выкладчыка. Ён аказаўся чалавекам разумным. Вельмі разумным: у маёй залікоўцы з'явілася першае «выдатна». Дарэчы, не дурнейшымі былі і іншыя выкладчыкі. Таму і атрымаў я дыплом аб заканчэнні ўніверсітэта марксізму-ленінізму з адзнакай. Гэтак высока былі ацэнены веды яшчэ аднаго журналіста з нашай групы. На жаль, яго ўжо няма ў жывых. Грошы таленавітага чалавека загубілі. Заняўся нейкім ценевым бізнесам і яго забілі ў Ялце ці ў нейкім іншым паўднёвым горадзе. Відаць, грошы не падзялілі. На шчасце, я бізнесам не займаюся…

Пытанне аб прыёме мяне ў рады КПСС, праўда, канчаткова вырашылася яшчэ да заканчэння мною ўніверсітэта марсізму-ленінізму. Праходзячы навучанне ў ім, я, канечне, думаў, што ніякіх праблем з гэтым не будзе. Але гэта я так думаў. Дарэчы, гэтаксама меркавалі галоўны рэдактар В. і сакратар партыйнай арганізацыі П. Аднак у кіраўніцтве СП БССР знайшліся і тыя, хто не асабліва радаваўся такой маёй перспектыве. Пра што я і даведаўся ад П. Праўда, ён жа і запэўніў, што ўсё будзе ў парадку. Маўляў, В. перагаварыў з Нічыпарам.

Гэта быў адзін з тых галоўных рэдактараў П., які ўзначальваў «ЛіМ» яшчэ да маёй працы ў штотыднёвіку. Гэты Нічыпар, як сказаў сакратар партыйнай арганізацыі, хоць і без асаблівай ахвоты, але згадзіўся падтрымаць маю кандыдатуру. Першы ж сакратар праўлення СП БССР Г. павінен прыслухацца да меркавання В.

— Так што тэрмінова збірай рэкамендацыі, — сказаў П.

— Як тэрмінова? — удакладніў я.

— Дзень-другі і каб былі.

Часу — у абрэз. Першым, да каго звярнуўся, быў вядомы паэт Браніслаў Спрынчан. Браніслаў Пятровіч, не вагаючыся, згадзіўся даць рэкамендацыю. Толькі перапытаў:

— Чаму раней не звярнуўся?

— Не ад мяне залежала.

— Не хвалюйся, — адказаў ён і слова сваё стрымаў, назаўтра неабходная рэкамендацыя для ўступлення ў рады КПСС была ў мяне на руках. А вось яшчэ з адной выйшла праблема.

Ніколькі не сумняваўся, што яе дасць той паэт С., з якім столькі працавалі ў «ЛіМе». Я шмат яму дапамагаў з адказамі пачынаючым аўтарам. У «ЛіМ» на той час лістоў прыходзіла шмат, асабліва актыўнасць праяўлялі тыя, хто спрабаваў пісаць вершы. Менавіта спрабаваў, бо пераважалі такія творы, якія пры ўсім жаданні нельга прапаноўваць у друк. За тыдзень-другі такіх гора-аўтараў набіраўся не адзін дзясятак. Кожнаму неабходна было своечасова адказаць. З гэтым у той час было строга. Таму С., узяўшы кіпу канвертаў, заходзіў да мяне ў кабінет.

— Зноў назбіралася. З мяне належыць, — гэта гучала, як пароль.

Я садзіўся за пішучую машынку. Працэс адказаў у нас быў даўно настолькі адрэгуляваны, што працавалі, быццам вопытныя рабочыя ля канвеера. Там неабходна хутка ўставіць чарговую дэталь у неабходнае месца, а нам гэтаксама хутка адказаць чарговаму аўтару. Тэкст быў па сутнасці адзін і той жа. Прыкладна такі: «Вялікі дзякуй за ўвагу да нашай газеты. Вельмі прыемна, што спрабуеце сябе ў літаратуры. На жаль, пакуль што вашы творы слабыя ў мастацкіх адносінах. Больш чытайце сапраўднай літаратуры. З павагай загадчык аддзела літаратуры С.». Толькі ўверсе ставілася ў залежнасці ад прозвішча аўтара: «Шаноўны тав. Іваноў», ці «Шаноўны тав. Сідараў» і г. д.

Праўда, аднаму аўтару, які вельмі ўпадабаў пісаць вершы, прысвечаныя Брэжневу, даводзілася адказваць крыху інакш. Тэма ж далікатная, чаго добрага паскардзіцца ў ЦК КПБ. А пасля такога адказу паспрабуй паскардзіся: «Паважаны тав. Іваноў! Вельмі прыемна, што Вы прысвячаеце свае творы Генеральнаму сакратару ЦК КПСС Л. І. Брэжневу. Сапраўды, Леанід Ільіч сваёй дзейнасцю на карысць партыі і краіны заслугоўвае такой высокай пашаны. Зразумейце, аднак, нас правільна. Паколькі тэма гэтая на дзіва адказная, хацелася б, каб, дасягнулі большага майстэрства, пераканальнасці. З павагай…»

Пасля гэтага, зразумела, як кажуць, пайшла пісаць губерня. Гэты Іваноў дасылаў нам чарговыя вершы, прысвечаныя любімаму Леаніду Ільічу. Мы давалі чарговыя адказы. І ніводзін бок не заставаўся ў крыўдзе.

Адным словам, я думаў, што С., не задумваючыся, дасць мне рэкамендацыю. На жаль, памыліўся ў ім. Як, дарэчы, памыляўся ў многіх людзях. Як і цяпер працягваю памыляцца. Пачуўшы аб маёй просьбе, С. пачаў нешта казаць наконт таго, што вельмі заняты. Я разумеў: чалавек ён быў не тое, што асцярожны, а нейкі нерашучы.

Я не стаў угаворваць. Дый не стаў доўга шукаць яшчэ каго-небудзь, хто даў бы мне рэкамендацыю. Як не хацелася мне адрываць ад работы шаноўнага Івана Пятровіча Шамякіна, патэлефанаваў яму.

— Алесь, з задавальненнем зраблю гэта, — пачулася ў трубцы.

— Калі зайсці? — пытаюся.

— З’езджу ў Маскву, вярнуся, то і заходзь.

— Але мне трэба тэрмінова.

— Тады пішы і прынось на подпіс.

С. вагаецца, а народны пісьменнік Герой Сацыялістычнай Працы гатовы дапамагчы не задумваючыся.

— Дзякую, Іван Пятровіч, — кажу. — Але ў мяне не атрымаецца. Вопыту не маю ў напісанні.

— То што рабіць? — задумаўся Шамякін.

— Хуценька накід, Іван Пятровіч, зрабіце, — падказваю, — а я забяру і передрукую і прынясу вам на подпіс

Шамякін згадзіўся, толькі запытаўся:

— А якую-небудзь грамадскую нагрузку ў Саюзе маеш?

— Член групы народнага кантролю.

— Гэта добра.

Праз колькі часу чарнавы варыянт рэкамендацыі быў у маіх руках. Берагу яго як рэліквію: не ў кампартыі справа, — была яна і няма яе, а дарагая для мяне гэтая рэкамендацыя тым, што гэта яшчэ адно сведчанне таму, наколькі Іван Пятровіч Шамякін быў не толькі выдатным пісьменнікам, а і цудоўным чалавекам. Не магу не прывесці яе цалкам:

## Рекомендация

*Я, член КПСС с июня 1943 года, партбилет № 12098008, Шамякин Иван Петрович, главный редактор Белорусской советской энциклопедии, знаю тов. Мартиновича Александра Андреевича по совместной творческой и общественной работе в Союзе писателей Белоруссии с сентября 1972 года. Тов. Мартинович А. А. является сотрудником газеты «Літаратура і мастацтва», в настоящее время работает заведующим отделом информации. Активный, принципиальный, требовательный журналист, критик, постоянно выступающий со статьями по актуальным проблемам литературы и жизни. Тов. Мартинович принимает активное участие в общественной работе в редакции, Союзе писателей, в настоящее время является членом группы народного контроля Союза писателей. Повышает свою политическую и профессиональную подготовку, является слушателем университета марксизма-ленинизма Минского обкома партии, в котором занимается успешно.*

*Тов. Мартинович пользуется авторитетом в коллективе редакции и среди писателей. Иногда выступает слишком эмоционально, но считаю, что это проявление активности, желание сделать все в работе как можно лучше и больше.*

*Рекомендую принять Мартиновича Александра Андреевича в члены Коммунистической партии Советского Союза.*

*Подпись.*

Забыўся сказаць, што разам са мной у партыю ўступаў і паэт Ш. Перад ім, у адрозненне ад мяне, адразу было запалена зялёнае святло. Адразу спрацаваў двайны стандарт. Хоць, здаецца, на той час гэты тэрмін і не атрымаў распаўсюджання, ды справа не ў тэрміне, а ў сутнасці.

Нават у той дзень, калі прымалі нас кандыдатамі, давялося пахваляваціца. Яму адразу — зялёная вуліца, а мяне, як высветлілася, усё яшчэ «вывучаюць». Вось-вось павінна пачацца пасяджэнне бюро, а ўсё яшчэ невядома, як паставіцца да майго ўступлення першы сакратар праўлення СП БССР. Ягоны голас рашаючы. Чамусьці не старшыні творчага Саюза Максіма Танка, а менавіта яго. Відаць, больш сумленны і шчыры ленінец, чым Яўген Іванавіч, які ў былой Заходняй Беларусі быў адным з самых вядомых рэвалюцыянераў і, як вядома, нават у турмах сядзеў.

Чаканне зацягнулася. У мяне ўжо нават з'явілася адчуванне, што дарэмна ўвязаўся ва ўсю гэтую авантуру. Магчыма, і грубавата гучыць такое сцвярджэнне, але ж атрымліваецца, што да апошняга моманту чакаю для сябе нейкую паблажку. Спадзяюся, што добры дзядзька ў асобе першага сакратара праўлення ўсё ж уважыць мяне, дасць дабро на ўступленне ў партыю. Можа, і авансам у ягоным разуменні. Інакш, чаму так доўга сумняваецца, ці заслугоўваю я таго, каб быць камуністам. Гэтае чаканне паступова пачало мяне злаваць, хоць і стараўся выгляду не паказваць, але ў душы ўсё мацнела жаданне рэзка падняцца і пайсці. Даводзілася апошнім намаганнем волі стрымліваць сабе. Разумеў, што падобны ўчынак можа мець для мяне непрыемнасці.

Нарэшце, у кабінет заходзяць мой галоўны рэдактар В. і той самы Нічыпар, якога перад гэтым В. папрасіў падтрымаць маю кандыдатуру. Цяпер яны ўдвух ўгаворвалі першага сакратара праўлення, у якога і затрымаліся. Нічыпар захоўвае на твары строгасць, а галоўны рэдактар «ЛіМа» падміргвае мне, даючы зразумець, што ўсё ў парадку.

Адразу ж пачалося пасяджэнне бюро. Нічога адметнага на ім не было, усё ішло па загадзя вызначаным плане. Адзначалі мае заслугі перад журналістыкай і літаратурай, задавалі нейкія пытанні. Я на іх адказваў. Рашэнне бюро, як і трэба было чакаць, стала станоўчым: прыняць кандыдатам у члены партыі. Мяне і паэта. Гэтае рашэнне пацвердзіла і бюро Партызанскага райкама партыі горада Мінска.

Наперадзе быў год, пасля якога кандыдатаў прымалі ў члены партыі. Зразумела, калі адпаведным чынам зарэкамендвалі сябе. Пра апошняе не думалася. Галоўнае было спраўна ўзносы плаціць. Яны ж у мяне былі немалыя, паколькі друкаваўся шмат у якіх перыядычных выданнях — як газетах, так і часопісах, выступаў па радыё. Таму партыйную казну папаўняў годна.

Калі што і трывожыла, хіба толькі тое, што надта ж прыдзірлівыя члены бюро райкама партыі. У першую чаргу старыя камуністы, якія часам задавалі бязглуздыя пытанні, на якія, тым не менш, трэба было даваць адказ. У гэтым упэўніўся, калі праходзіў кандыдатам. Ды, Бог з імі, тымі старымі камуністамі. Яны ж усё ж людзі добрыя. Што за пытанні яшчэ могуць прыдумаць? Хіба накшталт таго, які лозунг вісіць на будынку музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, а які — на будынку, што абрамляе плошчу Перамогі ў Мінску. Лозунгі гэтыя сапраўды амаль падобныя, можна і заблытацца. Ды, паколькі пра гэта пытаюцца некалькі гадоў запар, то перад пасяджэннем бюро лёгка запомніць, каб падстрахавацца, а ў астатнім...

Хто стане цяпер асабліва прыдзірацца. Краіна бурліць — мітынгі, на якіх кляймяць камуністаў, гучыць незадаволенасць нізкай зарплатай. Дайшло да таго, што ўжо назіраюцца не толькі выхады з партыі. Сёй-той дзейнічае і больш радыкальна, спальваючы свой партыйны білет. Паэт жа, які разам са мной стаў кандыдатам, паступіў абачлівей — адмовіўся з кандыдата пераходзіць у члены КПСС. У рэшце рэшт гэта ягоная справа. Я ж сам сабе даў слова не адступаць ад рашэння, якое прыняў, калі падаваў заяву

аб уступленні ў рады КПСС. Тым самым збіраўся даказаць, што ў мяне наконт гэтага ёсць свая думка і ніякія павевы часу не могуць прымусіць мяне змяніць яе.

Нарэшце ад сакратара партарганізацыі даведаўся, што вызначаны дзень пасяджэння бюро, на якім мяне будуць прымаць з кандыдатаў у члены КПСС. Як і патрабуецца па статуце, пішу адпаведную заяву. Але, ведаючы, што Нічыпар прадузята ставіцца да мяне, захацелася паказытаць яму нервы. Знарок пішу не па-беларуску, як гэта рабіў, калі падаваў першую заяву, а па-руску. Здагадваючыся, што гэта выкліча ў яго нервозную рэакцыю. Так і атрымалася. Не паспелі на пасяджэнні бюро дачытаць да канца маю заяву, як ён абурыўся:

— Чаму не па-беларуску напісана?

— Па-мойму, — стараюся адказваць як мага спакайней, — асаблівай розніцы няма. — Першы раз заяву пісаў па-беларуску, цяпер па-руску.

Не здагадваюся, што тым самым, падліваю алею ў агонь.

— Калі няма розніцы, то і пішыце па-беларуску, — Нічыпар пачынае ўзбуджана гаварыць аб любві да роднай мовы.

З такім запалам гаворыць, што, слухаючы яго, можна падумаць, быццам я беларускую мову не люблю. Іншыя члены бюро здагадваюцца: па-руску я напісаў наўмысна. Сёй-той хутчэй за ўсё баіцца, каб я ўвогуле не перадумаў уступаць у партыю. Аднак спробы супакоіць Нічыпара, запэўніванні яго ў тым, што ў дадзеным выпадку гэта не істотна, на якой мове пісаць, нічога не даюць. Да яго так і не даходзіць, што не трэба абвастраць сітуацыю. Чалавек не разумее гэтага, дый і разумець не хоча. Старая закваска, нічога не скажаш: хоць і правільна гаворыць, але дзейнічае па-лабавому.

Дарэчы, многія на той час былі перакананы, што менавіта толькі пры Нічыпары «ЛіМ» з'яўляўся «сапраўдным». Галоўныя рэдактары, якія працавалі следам за ім, маўляў, заніжалі планку патрабавальнасці. Я ніколі з падобнымі меркаваннямі не згаджаўся. Спецыяльна знаёміўся з падшыўкамі газеты за некалькі гадоў ягонага рэдактарства. Не ў сувязі са сваім уступленнем у партыю. Задоўга да гэтага рабіў, калі мяне абуралі несправядлівыя наскокі на Жычку. Нічога такога асаблівага, няма асабліва чым захапляцца.

Ды гэта, як кажуць, да слова. Зразумела, перавялі мяне на тым партбюро з кандыдатаў у члены партыі. Без складанасцей прайшоў і на бюро райкама партыі. Партыйны ж білет вырашылі ўручыць ва ўрачыстай абстаноўцы на адным з партсходаў, на якім прысутнічаў сакратар ЦК КПБ Аркадзь Русецкі. Аркадзь Уладзіміравіч тады курыраваў пытанні ідэалогіі.

Сеў у зале я поруч з Алесем Пісьмянковым, як гэта рабілі часта, калі яму не трэба было займаць месца ў прэзідыуме. Але «ганаровым» ён стаў пазней, калі выбралі намеснікам старшыні праўлення СП БССР (сакратароў на некаторы час чамусьці «памянялі» на намеснікаў). Бадай, на тым сходзе абмяркоўвалася нешта не вельмі істотнае, бо нічога не запомнілася. Дый мы з Алесем не надта ўслухоўваліся, што прамаўляў той ці іншы выступаючы.

Сядзім сабе, размаўляем, жартуем. Часам робім гэта нават празмерна гучна. Так, што дзве работніцы Партызанскага райкама партыі, якія сядзелі наперадзе нас, не вытрымалі, павярнуліся, зрабілі заўвагу.

Ды што нам іхнія заўвагі! Ззаду ж за намі сядзіць сам Русецкі і да ўсяго ставіцца спакойна. Ён жа перад пачаткам сходу, задаволены тым, што я ў апошні момант не адмовіўся ад уступлення ў партыю, сказаў, што, калі з'явіцца якая-небудзь неабходнасць, то магу прама звяртацца да яго. Гэтай навіной

я, безумоўна, падзяліўся з Пісьмянковым. Таму ён і прапусціў заўвагу райкамавак міма вушэй. Больш за тое, вырваўшы з блакнота лісток паперы, пачынаў на ім штосьці старанна пісаць.

— Розум, гонар і сумленне эпохі ўслаўляеш? — я нахіліўся да сябра, стараючыся разабрацца, што гэта за радкі такія нечакана пачалі ў яго нараджацца.

— Не перашкаджай, дзядзька Саша, — Алесь адхінуўся крыху ў бок. — Калі закончу, прачытаю.

Крыху падумаўшы, ён дапісаў яшчэ адзін радок.

— Гатова, — сказаў радасна і прапанаваў лісток мне.

Гляджу, а гэта экспромтам напісанае чатырохрадкоўе. Не так даўно, перабіраючы свае паперы, я адшукаў яго. З хваляваннем узяў памятны лісток у рукі, бо гэта ўжо і частка памяці аб маім сябру:

А. Марціновічу
ў знакавы дзень яго жыцця.

Ах, колькі выпіта віна!
Але не каюся ў гэтым:
Было ўсё шчырасцю сагрэта,
Бо кожны раз пілі да дна.

*25. 1. 89 г. Партсход.* *Подпіс*

З таго, памятнага для мяне пісьменніцкага сходу, газета «Звязда» апублікавала справаздачу. Аб тым, наколькі яму надавалася вялікае значэнне (зразумела, не ў сувязі з маёй персонай), сведчыць тое, што гэты матэрыял быў змешчаны на першай паласе. У справаздачы, між іншым, гаварылася прыкладна так: у той час, калі многія выходзяць з партыі, Алесь Марціновіч, наадварот, уступіў у яе. Што ж, як кажуць, і за гэта дзякуй. Усё ж дакументальна засведчана, што я ў складаны час не стаў флюгерам, як многія з тых, хто не хацеў прымаць мяне ў партыю. Але, прызнаюся шчыра, з гэтага ўступлення ніякай выгоды для сябе не шукаў. Таму, калі неўзабаве мне прапаноўвалі нават ісці працаваць у ЦК КПБ інструктарам, катэгарычна адмовіўся, сказаўшы, што гэта не для мяне.

***Працяг у наступным нумары.***





Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА

# ЛЕГЕНДАРНЫЯ АПАВЯДАННІ

## З БЯЗДОННАГА БАГАЦЦЯ…

Пявун-звон трымцеў ціха, тужліва. Як жаліўся ды плакаў, як шкадаваў. Пра што? Я не мог яго зразумець. Хоць і бачыў тое самае, чуў тое самае, перажыў тое самае…

— Не падманвай сябе! Як ты можаш нешта перажыць? — гэта ён мне азываецца з бяздоннай глыбіні, угадаўшы маю таемную думу.

Можа стацца, што і не зусім таемную. Ды і чаго таіцца… З таго, што быць нам давеку розныμі? Часам такім паразумецца прасцей, як самым блізкім.

— І не думаў падманваць, — шапчу з верасамі ў адказ. — Толькі не жалюся, не плачу. Хопіць і табе ўжо нудзіцца. Проста падумай, пачакай.

— Не веру, не веру табе, — гнеўна трымцяць азёрныя хвалі, не хаваюць сваёй нязгоды.

І смешна робіцца тады. Так, як было ў самым пачатку…

— Бом, бом, бом! Ну, і з чаго мы смяёмся? З саміх сябе?

А чаму б і не? Ты ж не засмяешся. Хоць і спеўны, хоць і гаваркі. Ды не ўмееш заходзіцца звонка…

— Умеў! Некалі… А ты ж — маўклівы, ты ж — пануры…

— Я не заўсёды быў такім.

— Я памятаю. Бом, бом, бом! Памятаю!

І мне тое не забыць. Толькі якое ў гэтым шчасце? Паўсталі курганы, задымелі ціхімі верасамі там, дзе я некалі прайшоў. Веліч ды ўзнёслы спакой калышуцца ветрам, як азёрныя хвалі. Там яднаюцца і радасць, і боль… Гэта я. І я б хацеў пазбавіцца гэтага. Адно ніколі не змагу, як ты не зможаш пазбыцца песні.

— Не змагу, бо не хачу! — выгукваеш мне ў адказ.

— Не веру табе!

І тады смяешся ты, звонкагалосы. Добры. Ціхмяны. Лагодны. Не такі, як я. Ды ўсё ж не з тых, якія даруюць. Мы абодва і прабачалі, і каралі. І забываліся пра тое. А ці адмовіліся ад гэтага? Не ведаю… Пявун кажа мне зноў, што пазбыўся ўжо летуцення і спачування. А я зноў яму не веру… Занадта доўга бачыў, занадта доўга ведаў… Ды і сам ты ці верыш, ясны?

---

*__Навасельцава Ганна Віктараўна__ нарадзілася 11 мая 1983 года ў горадзе Віцебску. Скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры ВДУ імя П. М. Машэрава (2006) і аспірантуру пры ім (2009). Кандыдат філалагічных навук, працуе на кафедры беларускай літаратуры ВДУ імя П. М. Машэрава.*

*Аўтар міфалагічнай аповесці «Святло зямлі Неўрыда» (2011), друкавалася ў часопісе «Маладосць», абласных перыядычных выданнях.*

— А што не верыць? Успомні, як з’явіўся княжы курган…

— Не забыў. Ды ці не быў гэта адзіны раз, калі на крыўду ты азваўся крыўдай?

Помню, як ты спяваў-звінеў над слаўным горадам. І сам быў жаданым, і сам стаўся слынным. Цябе слухалі, твайго голасу чакалі. Акрыляў, спавядаў, будзіў… Азываўся ў самых прарочых сэрцах. Ды і як не з таго ў самога цябе забілася сэрца… Жывое, чулае.

— Не, ніколі не займее сэрца жалезны звон…

Пярэчыш мне. А ўсё ж я думаю, што абудзілася ў табе сэрца. Інакш чаго ж ты спужаўся, як прыйшоў той грозны ваяр… Хоць не, зусім ты не баязлівец. Спудзіўшыся ад нечаканасці, не змаўчаў, а стаў клікаць абаронцаў горада. І яны пачулі цябе.

— Нядоўгай была абарона…

— Вось, чуеш сам сябе? І дагэтуль памятаеш, і дагэтуль шкадуеш… Значыць, маеш сэрца. Ці зноў мне, твайму вечнаму саперніку ды зласліўцу, веры не дасі?

— А што верыць ці не верыць… Ты ж там быў, усё бачыў.

Гэта праўда. Я быў і бываю ўсюды, дзе ўспыхвае бойка. А тады звінеў і на сценах, і ў дзядзінцы. Кароткае, адчайнае змаганне, яшчэ больш упартае ад таго, што прыйшлі адна да адной няроўныя сілы. Накацілася чужынская, злавесная, вынішчальная. Бясконцая, нібы азёрныя хвалі. Паўстала супраць яе нам абодвум блізкая… Узялася за зброю тая, што не ўмела нападаць, а толькі баранілася ды не хацела саступаць… Я памятаю тых, хто быў з ёю. Што ж з таго, як было іх мала? Але яны перамаглі.

— Іх перамаглі, ты хацеў сказаць…

— Не, зусім не памыліўся. Можна перамагчы, паміраючы. І можна стаць назаўжды зганьбаваным ды пераможаным, застаўшыся жыць.

Веру, што цяжка табе гэта зразумець… Вось чаму мы такія розныя… Але ж якая ўчынілася тады бойка! Тыя, чужынцы, былі і моцнымі, і рашучымі. І не аднойчы лёгкім наступам бралі горад. Не сумняваліся, што ды як рабіць… Але ж такога прагавітага змагання, не, зусім не чакалі. Былі здзіўлены. А я даўно ўжо ўведаў, што здзівіць — гэта значыць перамагчы. І доўга-доўга пасля не бачыў я такой смеласці…

— Сапраўднай смеласці?

— І не пытайся. Табе ёсць, чым ганарыцца. Ёсць што славіць у песні.

— Я і славіў. Не маўчаў, пакуль хоць хто заставаўся жывы. Каб чулі яны, каб спадзяваліся…

— О, так! У той дзень я чуў цябе ўсюды.

Але загінуў апошні з абаронцаў, і ты замаўчаў. Ціха. Жалобна. Скрушна. Так, як цяпер плачаш… Ты не вытрываў. Ды што я кажу? Зможаш-здолееш усё, вечны, жалезны… Не змагло ў той дзень тваё жывое сэрца…

— Не змагло…

Той, злавесны волат, пачуў цябе. Пазнаў у тваім голасе выклік, зразумеў непакору. Не мог адчуваць сябе пераможцам, пакуль ты быў… Проста быў панад сваім светам. І таму загадаў скінуць цябе са званіцы, утапіць у глыбокім возеры. Каб назаўжды пазбавіць голасу зваяваны горад…

— Толькі ці можа ўтапіцца жалезны…

Ты не ўтапіўся. Салёнай зрабілася вада ад слёз. Ці гэта яны трымалі цябе? І не магло паглынуць твой звон вялікае возера. Не змагло выпіць твой голас… Адчайна разліваў ты свой гнеўны неспакой, калі ў непрагляднай глыбі хавалася сонца. Клікаў чары, адкрытыя толькі табе… Уцякалі ад скаргі-звону ў пушчанскія нетры ўсе жывыя… Як адчулі тое, што здарыцца…

— Здагадаліся пра мой намер…

Толькі яны, злавесныя, не маглі здагадацца. Ці былі яны жывымі? Зусім не былі… Дыхалі, хадзілі, рабавалі… Шукалі золата-срэбра… І знайшлі, каб застацца з ім навечна…

— Бом, бом, бом! Багаты горад. Нямала ўсяго…

Ды ўдаўся багаты яшчэ і помстлівым. Чорным шарам лётала апоўначы па спустошаным горадзе чума. Не шукала багаццяў. Не глядзела на іх, нежывых… Адно рабіла так, каб сталася ўсё правільна. Не ўтрымае жыцця той, хто нішчыць жыццё… Толькі дагэтуль цяжка мне даўмецца, як ты, добры, спагадлівы, аддан Сварогаву вітанню жыцця, змог даклікацца Чарнабогаву служку? Бо скажу па шчырасці: я баюся яе. І не мне аднаму страшна глядзець на тыя доўгія кашчавыя рукі…

— І я баюся яе. Не цярплю. Не выношу. Таму і чую яе крокі за многія вёрсты. За многія зімы-леты…

— Мог бы мне і прызнацца…

— Няма ў чым… Павер.

— Не, зноў не веру.

— Значыць, не пакінеш злasлівіць.

— Не, і не падумаю ўганараваць цябе спакоем… Не будзе спакою табе!

Азываецца звонам самае пявучае возера. І тады ад вясёлых пераzоваў прачынаюцца сінія вочы зямлі. Глядзяць табе ў душу. Як быццам кажуць, што не забудуцца на твае шляхі-падарожжы ля іх, вечных. Што ніколі не забудуць цябе, колькі б часу не мінулася… Не хочуць цябе забыцца, не хочуць цябе пакінуць. Навошта ім спакой? Радыя ўсім песням, якія зможа стварыць чалавечае сэрца…

Не забывайцеся, не трэба. Што мне вам сказаць? Як не жадаў, так і не жадаю спакою. Звоняць сінія званы. Звоняць-будзяць… І тады зноў пытаецца ў мяне самы чарадзейны з усіх:

— Той, злавесны ваяр, які ўцёк, кінуўшы ўсе нарабаваныя багацці, ён баяўся ў сваю астатнюю хвіліну?

Што мне сказаць… Уцёк, кінуўшы ўсё золата-срэбра, дзеля якога прыйшоў. Пабег, страціўшы ўсіх, з кім хацеў падзяліцца. Ці былі ў яго чалавечыя пачуцці? Пэўна ж, былі. Сябры, з якімі ён хадзіў у паходы, заваёўваў гарады, — ягоная сіла ды вера… Якая? У што? Я б мог расказаць, ды не хачу дадаваць большай скрухі…

— Яму было страшна, як ніколі. Ён шкадаваў пра кожнае забранае жыццё… Звaніце пра гэта, званы! Кажыце свету праўду…

Яму было страшна. Але ж бег-уцякаў далей і далей… Не, зусім не хацеў схавацца. Проста зразумеў, хто за ім ідзе. Думаў сустрэць як роўны Чарнабогаву служку. Там, дзе вырашыць сам… Звыкся вырашаць усё па-свойму, моцна звыкся. Некалі я прывячаў такіх, моцных, самастойных. Але не цяпер, не цяпер…

Я трымаў яго за руку, трымаў увесь нядоўгі час. Ведаў, пра што ён думаў. Не шкадаваў пра знішчаны горад, не сумаваў па сябрах, якія памерлі за яго. І ўжо спазнаўшы, што ў сваёй астатняй бітве не зможа перамагчы, не баяўся, не нудзіўся. Я б мог амаль ганарыцца ім… А тады проста сказаў:

— Памятаеш мяне? Ты выбраў мой шлях… Але я ў табе памыліўся…

— Навошта ж даравaў мне перамогі? Навошта рабіў моцным? — мовіў хоць і здзіўлена, але спакойна.

— Не даравaў… Перамогу забірае варты.

— Значыць, ты нічога не зможаш без мяне…

— Не змагу. Ды прыйдзе іншы. Я буду доўга яго чакаць…

— Ты не хочаш. Ты не любіш чакаць. Ты прагнеш бітвы болей, чымсьці я…

— Не люблю. Не хачу. Але я прагну бітвы, а не крыві…

— Кроў ліецца ў бітве… Бітва — гэта кроў. У чым жа рознасць?

— У табе… У такіх, як ты. Ва ўсіх тых, хто прыходзіць змагацца і хто застаецца пасля…

— З абаронцаў горада нікога не засталося… Якая ім розніца? Не разумею цябе. З першага позірку я адчуў, што гэта незвычайны горад. Таму і захапіў яго. Таму і забіў усіх… Ты сам ад іх адступіўся. Ты сам убачыў, што яны нявартыя…

— Я б хацеў падараваць ім жыццё. Але я змог падараваць ім толькі перамогу…

— Перамогу? Я разрабаваў твой горад… Я знішчыў ягоны голас…

— А чаму, пераможца, уцякаеш ты, страціўшы ўсіх, каго прывёў з сабою? І дзе твае нарабаваныя скарбы? А голас… голас трэба чуць…

— Я страціў усіх і ўцякаю, таму што ідзе за мной нешта, з чым не можа змагацца смяротны. Я не збаяўся б змагацца з цэлым войскам…

— Я памятаю. Ты некалі гэта рабіў…

— Дык падаруй мне варты скон… Ты ж ніколі не пакідаў мяне…

— Я і цяпер цябе не пакіну… Адно, што я табе ўжо не патрэбны.

— Гэта твая адплата? За што?

— За ўсе забраныя табой жыцці… А як жа ты думаў? Вечна перамагаць і забіваць?

— Не, вечна змагацца, як і цяпер… Не баяцца. Не маліць… Годна сустракаць скон… Мне спадабалася гэта ў абаронцах твайго ўлюбёнага горада. Ды ты сам усё бачыў…

— Бачыў… Я ж быў усюды…

— Ды ў іх не было шанцу… Няшчасныя няўмекі. Што табе ў іх? Ты ж ніколі не быў жаласлівым?

— Не быў жаласлівым. І не буду. Да цябе.

— Не падманвайся. Ты ж такі самы, як і я…

І шмат казаў яшчэ. Хацеў слаўна памерці… Даказваў, што варты доўгай памяці. Немалой пашаны за справы свае. Высокага пачэснага кургана ў шырокім зялёным полі. Будзе табе курган… Не, зусім не высокі, не пачэсны. Зарасце ён хвоямі ў цёмных лясах. А табе векаваць пры ім ценем, палохаць ды здзіўляць, адно не пазбавіць жыцця анікога… І ўсё гэта я паспеў сказаць, перш чым з апошнім водбліскам сонца цябе дагнаў чорны шар… Выпусціў свае прагавітыя страшныя рукі… Ты не плакаў, не маліў. Адно кінуў мне на развітанне:

— Я памыліўся ў табе. Думаў, што ты даеш майстэрства… А ты даў толькі пакаранне за мой выбар… Ты нават горшы за мяне.

Горшы. Я ўпэўніўся ў гэтым, слухаючы бясконцы плач твайго ценю. З'яўляешся ты на заходзе сонца, ляціш па-над цёмнымі ляснымі шатамі. Крадзешся звярынымі сцежкамі, дзе не з'явіцца чалавечаму следу. Кажаш, што хочаш мяне знайсці. Кажаш, што хочаш мяне забіць. Я смяюся табе ў адказ, кажу, каб лепей шукаў, бо я да цябе бліжэй, чым здаецца. Адзіны ва ўсім свеце, хто цябе ўчуе. Хто гаворыць з табой, зноў і зноў паўтараючы, што кожны выбар мае адкупленне… А ты гнеўна крычыш, каб не казаў табе ні пра выбар, ні пра адкупленне. Іх няма для мяне, і чаму ж тады нешта такое павінна быць для цябе. Смяюся зноў і зноў не згаджаюся… Ты ж не разумееш нічога.

— Бом, бом, бом! А ці ты на мяне забыўся?

— На цябе забудзешся, пявун! Не дасі ні імгнення спакою.

— І не падумаю! Не будзе спакою табе!

— Я і не спадзяваўся… Ведаеш, пра што я падумаў? Мы абодва супыніліся ў чаканні на самай літасцівай зямлі… Дзе б яшчэ такое ўчынілася? Дзе б яшчэ ўсё так учынілася?

Гэта той княжы курган, які яшчэ не зусім забыты. Пазбавілася памяць самага цяжкага — імя таго волата, але не знікла яго апошняя дзея… Не паўстаў нанова разбураны горад. Ды аніхто не паквапіўся на пакінутае недзе там золата-срэбра. Заносіць яго вецер сухім пяском. Азёрная ж вада ля той паўвыспы, дзе некалі жылі людзі, дагэтуль салёная… Вада ўсё памятае. І зямля памятае. Там агортваюцца тужлівымі ценямі промні вечаровага сонца. Там не пяюць птушкі. Не славяць жыццё. Ды не паглынуць вада з зямлёю зарослы лесам курган, дзе спачывае злавесны… Які хацеў багаццяў. Які ўсё пакінуў. Хіба гэта не літасць? Не прабачэнне? Я ведаю, у цябе ёсць што сказаць пра гэта, звонкагалосы. Можа, некалі і скажаш…

— А ведаеш, у чым я ўпэўніўся, бом, бом, бом? Што і ў табе б’ецца жывое сэрца… Яшчэ мацней, чым ува мне…

— Не смяшы мяне, звонкі. Гэта нават не смешна… Ты ж сам казаў…

— Бом, бом, бом! Казаў, што ты аніколі не паспагадаеш. Казаў… Але і вяшчунныя званы памыляюцца.

— Не веру табе!

Падняўся зарослы лесам курган, а ты яшчэ доўга адчайна трызніў. Вінаваціў мяне, наракаў на белы свет. І праўда была ў тваіх словах-скаргах. А я хутка пайшоў-павандраваў далей. Множыць роспач, дадаваць слёзы да слёз. Я заўсёды хадзіў з людскім гневам, з цёмнымі навалямі. А ты заўсёды гучаў у сэрцах песняроў, заставаўся ў іхніх жывых словах… Мы сустрэліся зноў хутчэй, чым можа здацца. І тады я цябе зразумеў…

— Бом, бом, бом! Ты заўсёды разумеў мудрых… Памятаеш мудрага?

— Не забыў. Але не ён, князь, падаўся мне такім…

Мудрэйшым за князя быў і шчыры, і просты.

Мусіў і служыць, і бараніць. Ісці першым пакручастымі шляхамі. Але заўсёды вяртаўся да сваёй зямлі, самай блізкай, самай важнай. Не шанаваў свайго ўладара, хоць быў адданым яму. Што і казаць, я раней нячаста бачыў такое… «Чаму ж тады верна служыш?» — пранік у чалавечыя думкі. І прызнаўся не мне, а сабе: «Не яму служу, свайму краю». Магло быць і горай. Я ж не забываў пра таго, злавеснага… Цяжка мне забыць.

А небяспечнае чакае нас усіх бліжэй, чым здаецца. Хадзілі чорнымі навалямі адданыя князю, многія не вярталіся. Тыя, хто здабываў перамогу, станавіліся гордымі і няўважлівымі. Але і на сваёй зямлі можа адбыцца страта… Пра гэта пыхлівыя забываюць так часта. Уганараваным быў і мудры ўладар. Іхнімі перамогамі, іхняй самаўпэўненасцю. І што з таго, як годна трымаў тураўскі пасад? Здарыцца ж такое, што на паляванні застаўся без анікога. І тады да яго, тураўскага, выйшаў вялізны раз’юшаны тур…

Не выйшаў, напаў. Не пабачыў у чалавеку сваёй іскрынкі. Але была тая маленькая ў простым, адданым. Бо зразумеў адразу, што трэба ўчыніць…

— Бом, бом, бом! Не бараніў, заступіў. Проста стаў перад турам, які ад таго і не схацеў біцца. Хутка знік без следу ў непраходных лясных нетрах. Мне спадабалася гэта…

— І мне спадабалася гэта… Вось чаму той просты, мудры, хутчэй твой, чымсьці мой.

— Наш. Ён наш, бом-бом!

— Няхай будзе нашым…

— Пярэчыш мне?

— Цяжка з табою, гаваркі, спрачацца…

Таму спрачацца не буду. У тую часіну моцна здзівіўся мудры князь, раней не бачыўшы такога. Спытаў пра ўзнагароду, але найбольш хацеў паказаць сваю вучонасць. Маўляў, паглядзі, колькі золата маю, толькі жыццё даражэй за ўсё, дык бяры, сколькі зможаш падняць… Не ўразіўся княжай вучонасці просты. Не паквапіўся на здабытае ў цёмных навалах золата. Ды і ліслівіць не схацеў…

— Не, зусім не схацеў… Не ўмеў ён таго.

Не жадаў таго… Памятаю, як весела разляцеліся бліскучыя грошы, быццам непатрэбная драбяза. Гнеўна ўскінуўся ўладарны, але запыніў яго просты сваім словам. Пачуўшы яго, сумеўся князь, бо дзе ж яму ды знайсці вечнае багацце… Лёгка знікае яно, хуткаплыннае, і ў самых багатых княжых сховах не так і доўга шукаць дна. А ён, просты, не сумняваўся. Быў і цвёрдым, і пэўным… І слухаў яго ўладны, прагавіта думаючы пра незлічоныя скарбы, схаваныя глыбока-глыбока… Прадчуваў бязмежную радасць валодання ўсім гэтым.

— Не завалодаў надзвычайным скарбам… Бом, бом, бом!

— Не кожны здолее такі скарб адшукаць. Утрымаць… Спазнаць…

— Не кожны скарб можна ў скрынях жалезных схаваць… Гэта я зразумеў яшчэ тады, як падаваў голас са званіцы.

І я зразумеў гэта даўно… А скарб той чарадзейны. Не ў кожныя рукі і дасца. Ды ведаў мудры князь, што ўсялякай справе свой чалавек патрэбны А хто ж найлепей такое ўчыніць, як не сэрцам чысты, душой просты? Не думаў сам, звыкнуўшы загадваць, што нехта на княжую волю не зважыць, што не збаіцца пагроз… Маўляў, не служыў бы табе, ясны княжа, каб ведаў, што падзяка твая ды адзавецца пагрозным загадам…

— Пагрозным загадам знайсці чарадзейны калодзеж, у якім першае дно ды медна-мядзянае, другое ж срэбна-срэбранае, а трэцяе залатое. Тры дны, бом-бом-бом! І з кожнага ўхапіць…

О, той пагрозны загад… Прыгадай, просты, людскую паказку… Зрабіў той калодзеж сам Тур, які горад заснаваў, чары моцна ведаў, ды схаваў таемным словам у цёмнай лясной глушэчы. З тых пракавечных часоў вартуе Тураў калодзеж звярыная лютасць, не дазваляе наблізіцца анікому. Можа быць, на ловах тых выпадкам наблізіўся да чарадзейнай сховы, дык і перастрэў мяне раз’ятраны, мабыць, самім Турам закляты. Ой, не так сабе ты, шчыры, апынуўся паміж намі. Ведаеш, хаваеш… Лепей схову тую ды па-добраму пакажы. А то, бач, разгаварыўся пра вечныя скарбы…

— Паказаў князю чарадзейнай сховы шчыры, а просты…

— Не мог не паказаць… Але застаўся верным сваёй зямлі.

Быў і застанецца. Ляціць з верасовым шэптам яго чалавечая радасць па-над зямлёю, па-над светам. Што ёй гняўлівая княская воля… Цэлую вечнасць быць той радасці, не знікнуць, не мінуцца. Знайшоў чалавеча найвялікшы скарб, і аніхто таго скарбу ў яго не адбярэ, не адніме. І няхай сабе няўцямна чакае князь. І з чаго толькі яго празвалі мудрым?

— Глянь, княжа, вось яно, вечнае багацце… Ніхто яго не скрадзе. Ніхто не прап’е, не прагуляе…

А я трымаю, яго, простага, за руку. Гляджу ва ўсе вочы на бяскрайні абшар палёў і зубчатых лясоў, якія просяць назаўжды з імі застацца. Мяккая, лёгкая зямля пад нагамі. І ведаю, пэўна ж, толькі я адзін, што калісьці тут пралілася злая чорная кроў… Некалі прыйшлі многія, з раскосымі вачамі, з жорсткімі сэрцамі. Здабывалі палоннікаў, множылі попел, пакідалі смерць.

Я так узлаваўся на іх за гэта… Яны засталіся тут назаўсёды. Ніколі не дараваў пажадным… А цяпер проста бачаны-перабачаны мною абшар. І табе, просты, наканаваны…

— Добра князю адказаў, добра людзей павесяліў! А як большага багацця-скарбу не просіш, то атрымай сабе гэты, вечны… Міласцю сваёй княскай дарую!

І загадаў князь закапаць простага ды дзёрзкага ў дол. Ды насыпаць курган на цвёрды напамін ды навуку… Любіў вучонасць, не быў бы мудрым. Мабыць, спадзяваўся, што ходзіць мудрасць там, дзе адкрываюць сваю пашчу пагарда і помста… Хацеў слабыя чалавечыя сэрцы заваяваць. Каб аніхто болей не пасмеў сказаць нязгоднага слова…

Мне заўсёды падабаліся дзёрзкія. Толькі гэты, шчыры, а просты, хоць і хацеў удацца, але такім не быў. Абяцаў вярнуцца да князя, прыйсці зноў да ягоных дзяцей, да ягоных унукаў.

— Чакай мяне і вер, што нічога не мінецца. Будзе пакутаваць род твой… Не мая помста, але твая да цябе вернецца. Чакай, не спадзявайся на выкупленне.

Засмяяўся пагардліва князь. І споўнілі верныя ягоны загад… А я ўсё трымаў таго простага за руку, ведаў апошнія думкі. І спытаў яго многа часу апасля, як забылася ў народзе княжае імя, як мінулася слава мудрага роду:

— Што ж не выканаў ты свайго абяцання? Ты ж мог тое зрабіць…

— Мог… Стацца такім жа, як уладарны. І калі б гэта здарылася, я б пасапраўднаму памёр. А хто ж пажадае сабе смерці?

— А калодзеж чарадзейны ты навошта паказаў?

— Паказаў. І цяпер паказваю ў глыбокі-глыбокі дол. Яму ды і ўсім такім. Ён жа марыў пра вечнае багацце… Неабсяжнае, найвялікшае. Хто ж я, ціхі, малы, каб пазбаўляць князя ягонай мары?

Паказваеш. У глыбокі-глыбокі дол, дзе табе назаўжды застацца. Блізка-блізенька ад цябе меднае дно, дзе хаваюцца ўсе чары тваёй і маёй зямлі. Жывуць, дыхаюць, твораць. Мацуюцца кожным учынкам нашчадкаў… Блізка ад цябе, просты, і сярэбранае дно. Хавае яно ўсё, што мінулася. Усіх тых, якія не маглі мінуцца. Не маглі знікнуць у небыццё. Чакаюць свайго вяртання ў свет. Блізютка ад цябе, шчыры, залатое дно. Нічога там няма. Не было. Не будзе. Плёхаюць бязмежныя воды, вялікія, як само чалавечае цярпенне. Чакаюць, пакуль перапоўніцца мера людскіх пакут, пакуль выбухне самы страшны гнеў, пакуль спляжыць усё самая лютая нянавісць. Тады парвецца залатое дно, выпусціць сваю сілу. І паглыне вада ўвесь чыста свет, залье, як не было яго ніколі.

— Паказваеш, паказваў чарадзейны калодзеж. Хіба ты вінаваты, што не ўбачыў яго князь? Хіба ты вінаваты за тых, прагавітых…

Чую над светам толькі тваю радасць… І трошкі шкадавання. Твайго і майго. Я б лёгка яшчэ пахадзіў з табой па зямлі. Без крыўды. Без страты. Адно баронячы тое, што належыць бараніць. А ты, просты, лёгка паціскаеш мне руку. Гаворыш, што хапіла падарожжаў на тваю долю. І мне хапіла. Толькі… Шкада…

— Не шкадуй, гартаваны…

Гэта ты, просты, а шчыры, азываешся мне. Ды я і не шкадую… З пашанай побач не ходзіць шкадаванне. Мы зразумелі гэта даўно…

— Праўда, звонкагалосы?

— Бом, бом, бом! Пярэчыш нямала… Не веру табе!

— Ды я сам сабе ўжо не веру…

— Не падманвай мяне, галасістага, ты, гартаваны. Мы абодва ніколі не страцім ні пэўнасці, ні зацятасці. Для гэтага занадта доўга на белым свеце.

А цябе не падманеш… Звонкі, разумны. Ведаеш мяне навылёт. Як і я цябе. Спрачаліся мы з табою і змагаліся. Многа-многа…

— Бом, бом! Многа-многа…

— І аніяк не здолее адзін з нас перамагчы другога.

— А гэта трэба, перамагчы?

— Вось і я думаю… Але навошта ж тады зноў ідзём адзін на адзін?

— Не ведаю, бом!

— І я не ведаю.

Мабыць, мы адобва павінны тое ведаць. Быць пэўнымі, не сумнявацца ані кроплі. Бо паўставалі, як непахістныя ратныя… Бо зноў паўстаём у свеце, не дорым яму спакою. Але мы не ведаем. І не хаваем таго…

Я, гартаваны, першым пайшоў па-над светам. І доўга быў адзін. Толькі як з’явіўся ты, звонкі, галасісты, зразумеў, што цяжка трываць адзіноту. І быў рады табе. Апекаваў твайго стваральніка. Памятаеш яго?

— Бом, бом, бом! Ён — гэта я!

І мне так думаецца. Толькі дагэтуль здзіўляюся, як магло вяшчуннае слова ўдацца ў чалавечае аблічча, як магла стацца жывой праніклівая думка. Але што ж! Поўніцца дзівамі свет. З таго толькі неспадзяванкі…

І ніколі апасля не бачыў я, каб нараджала зямля такі талент. Пясняр, прарок, званар. Сэрца роднага краю, яго надзея, ягоны голас. Мне спадабалася, што мог ён ісці дарогай і бездаражжу, сустракаць і прывячаць. І ўсюды, дзе б ён не крочыў, знаходзіў і пакліканне, і чаканне. І я ведаў, што ён павінен быць… Проста быць з маім светам…

— І таму адводзіў ад яго самых лютых. Бараніў, шануючы яго, іншага, бом-бом… Схаваўшыся, бярог песню ў нашым свеце.

Ён не заўважаў, што часам я дапамагаю яму. Крыху… Зусім трошкі. Я рады быў так чыніць, рады хоць бы таму, што ўпершыню свет падараваў роўнага мне. З ім было нясумна. І я ўспомніў, што такое горыч страты, калі скончыўся адпушчаны яму век…

— Кароткі век, наканаваны лёс… Бом, бом, бом! Не сумуй! Нам з табою няма страты, няма растання!

І я нібы зноў вярнуўся, калі пачуў ягоны голас з высокіх званіц. Многа-многа званіц… Твой голас, звонкі. Кожны раз, як учую цябе, нібы птушкай узлятаю над абшарамі палёў і лясоў. І лёгка мне далёка-далёка ляцець, і проста мне пранізліва бачыць… Верыць. Чакаць. Прызыўна азываецца пакінутай песняй самая мілая мне зямля.

— А ты, галасісты, чакаеш?

— Павер, што чакаю. І я падарожнічаў па самай мілай зямлі. Глядзеў, як проста ты ломіш крывую шаблю, хіліш долю крыжацкія кіпцюры… Зайздросціў табе, бо сам я так не магу. Але ведаеш, што…

— Што, звонкі?

— Гэта я вёў цябе. Клікаў песняй далей і далей. І часам нават не ведаў, дзе пачынаешся ты, дзе знікаю я… Ці я не знікаю зусім? Ці ты ёсць усюды?

— Мы ёсць побач, галасісты. Блізка, блізка…

— Не веру табе. Можа, як кажаш, ёсць мы і блізка… Але ж чаму тады і я, і ты чулі няраз, што песня праганяе вайну? Што там, дзе ёсць песня, не ўспыхне бойкі? І супыняецца бойка, калі загучыць песня… Гэта ж мы спрачаемся, як заўсёды.

— Таму што мы — розныя… Але ў нас блізкі лёс…

— Раскажы пра свой лёс, гартаваны. Колькі ж табе спатрэбілася часу, каб стаць такім … такім халодным…

Не так ужо і многа. Як ні дзіўна… Ты не маўчыш, бо ты не зняверыўся. Я зайздрошчу табе. Зайздрошчу за твой талент — спадзявацца і верыць. Сам я так не магу. Гартаваны, не выношу жаль… Не люблю чуласці. Гэта ўсё — тваё… Калісьці я палічыў тое за слабасць і адмовіўся раз і назаўжды. Але вось жа цудоўная праява: я ніколі не лічыў слабым цябе, звонкагалосы. Што ж тут зробіш…

Ты некалі быў чалавекам, я быў… Зведаў і майстэрства, і душы зброі. Так, не спрачайся, і ў зброі ёсць душа… Цёмная, трывожная, спавядальная. Моцна памятлівая. Яна ніколі не забывае тых, хто трымае гартаваную… Збірае па драбніцы іхні гнеў. Збірае, тоіць, каб аднойчы ўлеўна абрынуцца. «На каго?» — спытаеш ты, галасісты. А на саміх гнеўных, неміласэрных, недаравальных. Можа быць, што і смелых, адважных. Але жорсткіх. За гэта і прыходзіць адплата…

— І табе прыйшла? — ціха пытаешся, галасісты. Смешна гучыць твой шэпт…

— І мне. А чым я лепшы…

— Чаму ж не стаў ты жахлівым ценем, як той ваяр? Не знік за гады і стагоддзі?

— Ведаеш пра яго… Усё?

— Здагадаўся. Не паверыў у тое, што ён баяўся. Ты ніколі не важдаўся з палахліўцамі, бом, бом, бом! А мне ж гэта падабаецца ў табе.

— Славіш песняй смелых? Нават такіх? Ды чаго я дзіўлюся… Памятае людское сэрца пра волата, які ўчыніў нешта злое… Памятае, не можа забыць. Часам называе яго і Княжам… Дык ці мала што зрабіў? Але ж волат… Але Княжа…

— Не пагарджай смеласцю. Нават такою. Не зневажай літасць. Нават да такіх… Ты нічога не сказаў пра сваю адплату…

— А мая адплата — не знікаць у гадах і стагоддзях. Можа, і вельмі б хацеў, але не магу… Не супыняюцца звады і кроў. Зноў і зноў цягнуцца да гартаваных… Да такіх, як я. І зноўку я шукаю самае страшнае ў бяздонні чалавечай душы.

— І што знаходзіш, бом?

— Нічога не знаходжу. Там тое ж, што я бачыў многа разоў. Ад чаго даўно стаміўся. І мне зусім не здаецца страшным, што жахае іншых… А ты, што ты, звонкі, знаходзіш у чалавечым бяздонні?

— Новую надзею. Больш моцную, чым азывалася раней. Новую палымяную веру! Стакроць мацнее раней ледзьве чутная песня… І міла мне разганяць цемру гучным звонам… Не смейся, чуеш!

— А я і не смяюся. Проста надакучыла ўжо казаць, чакаць… Нават не верыць табе, самы літасцівы.

— Бом! А ты не жалься, не плач, не нудзіся. Проста падумай, пачакай.

— А я і думаю…

Пра тое, што заўсёды зайздросціў трыпутніку. Таму, хто вядзе да маіх курганоў, да тваіх азёр. Трывушчы, гаючы. Прайшоў трыма шляхамі-пуцявінамі, поўнымі варажнечы і гневу, але не страціў сваёй дабрыні, і надзеі, і веры. Лёгка і проста знаходзіць тых, каму патрэбны. Дапамагае… Лекуе. Не памыляецца, абіраючы нявартых.

Я ведаю гэта так добра, як і цёмную душу бразатлівага жалеззя, прагнага да бітвы… Лячыў параненых, што вярталіся героямі да свайго народа. Акры-

ляў надзеяй знявечаныя душы. Спапяляўся ад чужога болю і адраджаўся зноў… Цяжка. Але ж трывушчы. І моцны. І праніклівы. Пазнае, пазнае нявінных…

І ты пазнаеш лепшых, звонкагалосы. Не хочаш адно пра гэта казаць… Ды няўжо думаеш, што гартаваны, пануры, не здагадаўся? Я ж не заўсёды такім быў… І ніколі не быў маўклівым. Не спяваў, як ты, звонаў-песняў, але ж не, зусім не маўчаў. У гэтым ты, мой вечны сябра, мой верны сапернік, змыляешся…

Чакацьмем лепшага. Самага-самага… Аддадзім яму песню, падаруем сілу, каб аніколі болей не ўшчынілася боек на белым свеце. Будзе і літасцівым, і моцным. Будзе абраным. Каб адно дарогу да патопленых у азёрах званоў, да верасовых курганоў знайшоў… Ды не, не баюся за гэта. Бо не памыліцца трыпутнік. Сам шляхі спазнаўшы, прывядзе яго, прывядзе…

— Проста падумаем, пачакаем. Не будзем жаліцца на цёмную памяць. Не будзем плакаць пра страчаных… Не будзем нудзіцца пра саміх сябе… Не будзем…

— Бом, бом, бом! Веру табе! Бом, бом, бом!..

## СЛЕДАВІКІ, СЛЕДАВІКІ…

Мы — моцныя… Нас — многа… Мы сонна глядзім на зямлю. Не трывожым яе кароткімі летамі, калі ўсе імгненныя так радуюцца жыццю. Маўчым дажджлівымі лістападамі, калі такімі блізкімі робяцца нашы нябесныя сёстры. Вялікія шэрыя хмары. Цяжкія, здаецца, вось-вось упадуць долу. Анічога не кажам завейнымі сцюжамі, калі кружыць ды гуляе ў белым халодным балі ўвесь свет… І чаму тады найболей сумуюць тыя, імгненныя, кволыя? Гэта ж весела, падпяваць гуллівай мяцеліцы. Ані зрушымся цёплымі вёснамі, калі адчуваем радасць вакол сябе. Вялікую радасць. Спадзяванні. Спадзяванні. Хіба ж можна тады патрывожыць, адабраць хоць каліва шчаслівых чаканняў у тых, якія мільгаюць каля нас яркімі зямнымі зоркамі… Імклівымі. Імгненнымі. Часам нам робіцца за іх крыўдна. Мы ж — трывалыя… Мы ж — вечныя… І мы сталі жывымі, бо нас пабудзілі маленькія зямныя зоркі.

Яны чуйныя, слабыя. Цягнуцца да святла і баяцца цемры. І вечнасць, глыбокая сіняя вечнасць палохае іх… Яны баяцца, што не здолеюць пакінуць слядоў на гэтай зямлі… Што іншыя, мацнейшыя і лепшыя, забудуць пра іх і ніколі не ўспомняць. Нам смешны такі страх. Але ж якое прагавітае жаданне памяці… Якое адчайнае імкненне яе пакінуць… Імгненне. Памяць, няпамяць… Яны вартыя ўспамінаў хоць бы за гэтую смеласць. Яны, адчайныя, ганарлівыя, самаўпэўненыя ды невінаватыя ў тым. Ім жа не хапіла часу зразумець, што памятаць — значыць пакутаваць. Многа памяці — нямала пакут. Але мы — трымаемся. Мы ж — дужыя… Мы ж — магутныя… Мы ж — справядлівыя… Да іх, яркіх, трывожных, але смелых зямных зор.

Мы не адразу зразумелі іх палымянае гарэнне. Здаецца, не разумелі і тады, як пабудзілі наш вечны сон нябесныя агніскі. Агніскі. Агніскі…

— Колькі ж вас? — у захапленні спыталіся мы. — Колькі ўжо мінулася вашых пакаленняў?

Нам важна было дазнацца, што мы не адны такія. Вечныя… Пра што ведалі ад самага пачатку… І шмат пыталіся ў нябесных агнісак. Але не пачулі яны нашых слоў. І дагэтуль нічога нам не адказалі. Ды мы ж — вечныя… У нас ёсць час пачакаць… Ёсць час падумаць, што падобныя зямныя зоркі да агнісак. І зноў хочацца спытаць у іх, імгненных:

— Як трываеце вы такое зыркае мігценне?

Такое моцнае, амаль знішчальнае… Але гэтага мы не пыталіся. Не запытаемся ніколі. Не хочам пакрыўдзіць. Не хочам зашкодзіць. Мы самі зразумеем. Мы ж — мудрыя… Нам аддаў сваю мудрасць час. Халодны, нелітасцівы. Пакутлівы. Тужлівы. І векапомны, і даравальны, і справядлівы. Не, зусім не так сабе справядлівы. Час пакідае легенды ў нашых сэрцах. Каб зрабіць іх мацней? Каб зрабіць іх слабей? У гэтым мы яшчэ не разабраліся…

Пра тыя легенды мы думаем і летамі, і вёснамі, калі глядзім на радасных, летуценных. Яны нават і не паверацць, што некалі самі могуць стацца легендай. Можа, узрадаваліся б таму? Але дарма. Дарма. Нам так шкада, што вялікі час дарэшты спляжыць іхнюю радасць… Мы навучыліся яе бачыць і пазнаваць за безліч стагоддзяў. Як жа мы хочам пра ўсё гэта расказаць! Ды не маем змогі падысці да іх, імгненных, не маем змогі мовіць слова. А хто падыдзе да нас? Мы ж — амаль незаўважныя. У азёрах ды рэках, у лясах, на ўзгорках… У вялікім мінулым, якое ўсё чыста бачылі, якое ўсё чыста чулі…

Мы зноў і зноў успамінаем усё, што бачылі-пачулі, дажджамі і завеямі. Каб яшчэ раз перажыць тое, з чаго ўсё пачалося. Каб нанова адчуць радасць і боль… Мы ж тады не ведалі пачуццяў, мы тады яшчэ не навучыліся спачуванню і гневу. Але, пэўныя цяпер, што толькі тады былі па-свойму раднымі ды летуценнымі. Яшчэ не спазналі нічога з таго, што нам трэба было спазнаць. Але ўжо былі вечнымі. Пачувалі ўжо сябе мудрымі. І веднымі, як аніхто на зямлі. Можа, як на сталы одум, дык не моцна мы і памыляліся… З усёй жа зямлі была толькі неабсяжная белая прастора. Халодна-марозлівая. Але тады мы не ведалі пра холад, бо ніколі не адчувалі цяпла. Мы нарадзіліся і жылі, колькі памяталі сябе, на вялізных гордых вяршынях. Ад таго і самі былі гордымі. Пагардліва глядзелі долу, на тое далёкае, цьмянае, нявартае нашай высокай увагі.

Іншая справа — недасяжная вышыня. Сіняя, то цямнейшая, то святлейшая. Але тады заўсёды халодная. Пахмурная. Мы не хутка, зусім не хутка назвалі яе небам…

— Глядзіце, глядзіце… Якія бліскучыя мігатлівыя іскрынкі! Што ж гэта такое? Што?

Так мы першы раз убачылі агніскі. Не ведалі яшчэ, што яны амаль такія ж, як і мы. Але памяталі іх столькі, колькі памяталі сябе:

— Яны, яны — вечныя. Ды яшчэ сягаюць вышэй за нас… Давайце пазнаёмімся…

Але пазнаёміцца з высокімі, загадкавымі нам тады не ўдалося. Здарылася непрадказальнае. Нечуванае… Здрыгануліся нашыя гордыя вяршыні, здрыганулася з імі сляпуча-непраглядная бель. Здрыгануўся ўвесь свет, які яшчэ не стаўся светам… Затрымцеў, спалохаўся. Але мы не спалохаліся. Нечаканая, непрадказальная забаўка? Дык хто ж адмовіцца ад такога…

І паплылі мы з белым мроівам далёка ад гордых вяршынь. Нас вабіла неаглядная белая далеч. Нам не верылася, што яна бяскрайняя, што за ёю нічога няма. Так спакушалі новыя падарожжы… Паціху аддаляліся ад нашых стромкіх вяршынь, шукалі сабе новы свет, не такі белы, не такі аднастайны. Мы тады яшчэ не ведалі, што новы свет нікога не чакае, нікога не прывячае… Аддаляліся, як знікалі. Шукалі, не знаходзілі. Паўсюль адна сляпучая бель… І тады ўпершыню за сваё вечнае жыццё мы адчулі нешта, такое падобнае да смутку… Узгадалі пра такія знаёмыя, такія мілыя вяршыні. З гэтым як найвялікшае адкрыццё прыйшло спазнанне свайго, роднага… Не, пакуль не радзімы… Мы яшчэ не называлі тую старонку радзімай, а толькі адчувалі лучнасць

з ёю, які б час, якая б пратора не паўсталі між намі. Мы яшчэ не ведалі, што такое пачуццё — першае і лепшае, чаму пакуль што навучыў нас свет.

Але мы ўсё ж знайшлі новую радзіму. Так, радзіма можа быць і новай… Тады прыгрэла жаўталявае сонца, і зрабілася так невыносна горача, як не было ніколі. Пачала таяць халодная снежная бель, якая несла нас некуды наперад. Мы супыніліся. Мы даўно хацелі спыніцца, бо ўжо стаміліся ад бязмэтных вандраванняў. І тады нам адкрыўся новы свет…

— Глядзіце, як прыгожа навокал… — сказалі мы тады, яшчэ не прадчуваючы, што безліч разоў вернуцца да нас нашыя словы.

Мы ж не можам усяго прадбачыць… Ды і не думалася тады пра гэта. Мы проста радаваліся, што знайшлі новы свет, які, адчулі ўжо ўсе, зробіцца і блізкім, і важным. Як глядзеліся ў саміх сябе… А тады любаваліся на іскрыстыя агніскі і маўчалі. Хоць нам хацелася сказаць:

— Усё ж тыя самыя і ўжо іншыя. Скажыце, што ж так непапраўна ў вас змянілася?

Але мы не спыталі. Няварта было парушаць тое велічнае імгненне. Мы ўжо зразумелі, што яго не заўсёды можна вярнуць. Глядзелі. Маўчалі. Захапляліся. Іх — многа… Яны — мудрыя… Яны — вечныя… Зусім як мы. Ды не паспелі як след на іх нагледзецца.

Нас пабудзілі. Нечакана. Раптоўна. Мы не ведалі, хто яны былі. Мы не разумелі, чаго яны ад нас чакалі. А яны плакалі, пакутавалі, прасілі… І хуткахутка знікалі. Змяняліся, прыходзілі новыя. І зноў новыя… І зноў… Пакуль не ўцямілі мы, што яны нам маліліся, што жадалі абароны ды спагады. І ці мала чаго яшчэ… Мы доўга не маглі да ўсяго дайсці. Але яны нас здзівілі. Мы былі і моцнымі, і трывалымі, ды толькі дадаць сваёй сілы іншым, слабым ды кволым, не маглі.

А яны прасілі… Хадзілі вакол нас спеўнымі карагодамі. Прыносілі тое, што самі называлі дарункамі. Станавіліся на калені, утрапёна цягнулі рукі… Яны спадзяваліся. Яны чакалі. А мы… А мы не адразу здагадаліся, як так учыніць, каб падзяліцца сваёй веднасцю. У веднасці ж сіла… І цяпер нам шкада толькі пра адно… Шкада, што нам не толькі маліліся, шкада, што нам прыносілі кроў…

— Навошта, навошта яны гэта робяць, калі самі жывуць усяго імгненне? — нам хацелася заплакаць з крыўды, каб яны пачулі нашыя галасы.

Але занадта кароткімі былі іхнія імгненні, каб нас пачуць. Нас і цяпер цяжка пачуць, на вялікі жаль… Мы ж не мовім… Але лятуць, лятуць нашыя думкі па-над светам. Нашыя ўспаміны. Жаданні. Жаданні…

— Не шукайце каля нас заклятых скарбаў. Не спадзявайцеся марна. Схавалі мы іх глыбока-глыбока… Маеце ўжо найдаражэйшы скарб. Шануйце яго!

А яны, яны забываліся. Тады, як зырка ўспыхнуўшы, падалі долу нябесныя агніскі, яны марнавалі дарэшты дарагія імгненні, вынаходзячы новую зброю. Камяні хутка змяніліся мячамі. На мячах пачалі біцца… За лепшую зямлю, як быццам малы белы свет… За гонар і славу, як быццам патрабуюць яны крыві… За мяккае жалеза колеру сляпучага сонца…

— А яно ж тут пры чым? — не маглі мы зразумець, хоць і вельмі хацелі.

Мы сталіся халоднымі межамі, пазначаючы шляхі варажнечы. Шляхі здабытку сонечнага жалеза. Шляхі роспачы і пакут. Шляхі страт такіх каштоўных імгненняў… Падалі нябесныя агніскі, стаміўшыся гладзець на ўсё гэта. І мы чулі, як нават самыя жорсткія называлі агнісак зоркамі ды знічкамі. Верылі, што суладныя яны з нейкім кароткім імгненнем… Верылі, хацелі дакрануцца вечнасці… Толькі не ведалі, што пазбаўляе вечнасці пралітая

кроў. Ад таго паўсталі мы на высокіх курганах, рукатворных, нават прыгожых… Паўсталі не па сваёй волі. Яны хацелі, каб мы, вечныя, пазначалі курганы, сталі напамінам пра тых, хто дарэмна страціў сваё каштоўнае імгненне… Хто павінен знайсці ў тых курганах вечны спачын… Яны падманваліся. Яны непапраўна памыляліся. Мы так гневаліся на іх за гэта…

Моцна. Адчайна… Хоць і хацелі гэта змяніць. Не ведалі, не ведалі, як учыніць такое. Навучыліся іх разумець. Навучыліся думаць, як яны… Але не ведалі. Ды зусім нечакана нам дапамог адзін з іх, імгненных. Ясных, нібы сапраўдная агніска. Можа, ён і стаўся нашай зоркай… З'явіўся раптоўна, як ляскатлівы Пярун, што цаляе ў нас сваімі стрэламі. Не, зусім не Пярун. Гэта проста азываецца нам вітаннем высокае неба.

Мы не прадказвалі яго нараджэння. Мы яго не чакалі. Хоць апасля яго мы здолелі навучыцца і прадказанню, і чаканню… А ён прыйшоў да нас на зломе часоў, калі яшчэ было шмат тых, якія нам спявалі, якія нам маліліся. І калі ўжо прыходзілі іншыя… Схіляліся перад крыжам. Пакутавалі. Здзекаваліся. Думалі пра сваё кароткае імгненне, але берaглі яго яшчэ меней, чым нашыя першыя… Але ён не быў ні першым, ні другім…

Заснаваў горад, назваўшы сваім імем, сын чарадзея. А імя яго азначала барацьбу… Але не шмат і змагаўся, хоць меў неспатольную прагу да жыцця. Спрабаваў вынішчаць старое, але яму ж самому мізэрнымі здаліся тыя справы. А калі зразумеў гэта, прыйшоў да нас. Убачыў. Знайшоў. Мы адчулі дотык прагных рук і біццё халоднага сэрца…

Чамусьці тады здалася-згадалася халодная бель нашай снежнай радзімы, непаўторнай, першай. І доўгае падарожжа, якое аніяк не магло скончыцца. І шчырая чуласць да першай пачутай малітвы. Як быццам можа быць меней чуласці да ўсіх астатніх малітваў… Як быццам не новае падарожжа адкрывае новы свет, такі важны, такі патрэбны… Як быццам першыя снягі даражэй нам за пабачаныя тут імгненні… Як быццам… Мы ўспомнілі яго прадзеда, вясёлага, маладога. І яго самога малым… А цяпер ён выбіў проста на нас, што просіць дапамогі… Не, ён ніколі не ўмеў прасіць. Назваўся рабом. Назваўся адным з тых, якія пакланіліся крыжу. Не, ён не ведаў, што такое пакора. Прабачэнне. Літасць… І не хацеў ведаць ніколі. Нам не было балюча. Мы ж — моцныя…

Мінулася ягонае імгненне. А мы панеслі сказаныя ім словы. Абдуманыя, узважаныя. Няхай яго памятаюць. Ён жа так баяўся забыцця. Назваў горад сваім імем… І доўга-доўга пасля маладыя, наіўныя ды чыстыя сэрцам іх чыталі, супыняліся, скаланаліся ад роспачы… Адкуль прычакаць дапамогі? Што зрабіць за сваё кароткае імгненне? Дакраналіся да нас рукамі. І тады чулі нашыя галасы… А мы падказвалі, суцяшалі. Мы памятаем іх, памятаем усіх… Нам цяжка, але мы — памятаем…

Апасля мы сустракалі нямала такіх, як ён… Не рабоў… Уладарных. Праніклівых. Каменных… Здольных скамяніць… Гэта лягчэй, чым здаецца. Прыходзілі і сыходзілі імклівыя, імгненныя зямныя зоркі. Самыя ясныя, зыркія… Мы хацелі, каб яны даўжэй затрымаліся побач з намі. Але каб камянець… Мы не жадалі гэтага для іх. Мы б не пагадзіліся пусціць у іхні свет нашую сілу…

— За справы свае застанься стаяць тут, пакуль не буду вяртацца назад, — сказала тая, якую мы не маглі не пачуць.

Па праву любові да сваёй зямлі. Раней намі ніколі не бачанай. Незвычайнай… Яна выправілася ў далёкае падарожжа. Мы ўжо ведалі, што яна не вернецца. Яна ведала, што не вернецца, хоць і марыла вярнуцца болей за ўсё… Яе прысуд таму, хціваму, быў справядлівым. А можа, за гэта трымалася яе надзея…

— А ты будзеш стаяць тут, у прыдзвінскіх хвалях, ды чакаць яе… Тады атрымаеш сваё сонечнае жалеза. Тады зноў зможаш цягнуць рукі да таго, што не тваё… Зможаш хадзіць па цёмных дарогах… Адбіраць у іншых імгненні… А пакуль што пабудзь з намі, — сказалі мы таму.

Заплакаў. Загаласіў. Папрасіў літасці — забраць яго імгненне. Але не былі мы літасцівымі… Тады, як пайшла нашая сіла ў свет, мы пабачылі, што і той, хто стаў каменем, усё ж можа спачуваць. Асабліва, калі спадзяецца на ратаванне… А яшчэ мы зразумелі, што можам будзіць… Можам стаць жывым голасам зямных зор, які гучыць праз час. Які гучыць у часе… Той, хто пачуе яго, будзе мудрым, моцным, вечным…

— Вечным?

— Такім… У вечнасць прабіваюцца зямныя зоркі…

Адзін прабіўся. Быў гонарам цэлага краю. Хоць чаму быў? І будзе. Ганарлівейшы за таго, не раба… Мы стаміліся ад здрадніцтва, ад падманаў. Здаецца, мы чакалі толькі яго. Мы не так сабе прадказалі нараджэнне:

— Вітаем цябе, вітаем…

Ён пачуў наш голас. Нездарма ж меў вітальнае імя. Вітаўт. Прывечаны… Абраны. І супыніў час па-над сваёй зямлёй. Пакінуў яго ў песнях, у сказах, у кнігах… Прыходзіў да нас. Хацеў застацца з намі. А хто ж мы такія, каб адмовіць у такім простым?

Калі скончылася ягонае кароткае імгненне, мы спыталі ў нябесных агнісак:

— Усё тыя ж самыя ды ўжо іншыя. Што, што змянілася? Змянілася назаўсёды… Змянілася непапраўна…

І тады падалося нам, што яны адказалі. Адказалі так ціха, ледзьве чутна, як угадалі нашыя думкі… А можа, гэта і было схаванае, нявыказанае… Нічога не змянілася, але змяніліся мы самі. Ці не ўпершыню мы смяяліся да самазабыцця. Мы ж — вечныя. Мы ж — моцныя. Нас жа многа. Стаім на зямлі зімы і леты. Хаваем сляды імклівых зямных зор. І не мяняемся, не зменімся аніколі, як бы не пляжылі нас імклівыя зямныя зоры…

Пазначаем месца, дзе правалілася пад зямлю царква. За іхняе гора, за іхнія страты… Камянім тых, хто здзекаваўся, хто пагарджаў… Імі, яснымі. Меней усё тых, уладарных і годных. Болей усё тых, уладарных і гнеўных. Астатнія ж не шукаюць каля нас скарбаў. Не водзяць каля нас спеўных карагодаў. Адно спрабуюць на злом, кажучы:

— Паночак, пашый мне хоць якую адзежыну…

Як жа мы стаміліся быць шаўцамі ды краўцамі… Не заўважылі таго. Просяць саламяныя стрэхі. Адзежу. Абутак. Бедныя, бедныя… Туляцца да зямлі. І мы хаваемся ў зямлю. Абутак, адзежа…

Ледзьве-ледзьве здзіўляемся нечаканым галасам:

— А ёсць жа недзе на зямлі залаты алень шчасця…

— Ды не мані. Дзе ж тое шчасце падзелася…

— Ёсць. Ёсць! Чуў мой прадзед ад свайго прадзеда, а той — ад свайго, што некалі, як былі маладымі вось гэтыя каменныя волаты, бегаў па зямлі залатарогі алень. Там, дзе ён прабягаў, цяплела ад радасці зямля, берагла яго сляды. А людзі, якія іх знаходзілі, рабіліся веднымі, моцнымі. Можа, і не ад таго, але станавіліся шчаслівымі…

— Мані болей… Як гэта чалавек можа узяць ды зрабіцца раптам і ведным, і моцным?

— А ты далей паслухай… Многім людзям падараваў алень і веднасць, і моц… Доўга, нябачаны людскім вокам, скакаў па-над зямлёй… Але знайшоўся такі цёмны, такі злы чалавек, які забіў залатарогага аленя…

— Значыць, не ўсе хацелі веднасці ды моцы. Не ўсе хацелі шчасця…

— Значыць, не ўсе. Але кажуць, што той злы чалавек не хацеў шчасця іншым. А цудадзейны алень ведаў пра сваю смерць. Доўга шукаў сабе памятку. Незнішчальную. Незабыўную. І знайшоў. Пакінуў след свайго капытка на валуне-волаце, уклаўшы ў той слядок усю чарадзейную сілу…

— І што далей? Шукалі, знайшлі гэты след?

— А далей нічога. Згубіўся чарадзейны аленеў слядок у безлічы іншых, і светлых, і цёмных… Ніхто яго, кажуць, пакуль не знаходзіў. Але ж ёсць недзе, ёсць… І, мабыць, гэтыя вечныя волаты ведаюць, дзе яго шукаць. Дык хіба ж нам скажуць…

След залатарогага аленя. Ты і нам падараваў шчасце… Хоць мы — вечныя — сумняваемся, што нешта такое ёсць. Але хіба ж не шчасце тыя сляды, сляды… Яркія. Добрыя. Прамяністыя. Не былі ўладарнымі, ды сталі нечым большым… А мы… мы ніколі так моцна не спадзяваліся. Ніколі за ўсе стагоддзі…

Мы збіраліся разам. Казалі, што любілі навуку, шанавалі дабрачыннасць. Глядзелі ў мінулае, слухалі галасы легендаў. Хацелі вярнуць былую славу, хацелі ўшанаваць памяць. У нас было слова. І слова было нашай зброяй. І зброя была словам… Мы нібыта зноў сталі маладымі, такімі, якія толькі што глядзелі на талую сляпучую бель. І мы зноў вярнулі нашыя стагоддзі, калі яны зведалі выгнанні. Выгнанні, як забыццё. Доўгае. Доўгае. Але не зніклі прамяністыя сляды, як і сляды залатарогага аленя. Аленя шчасця. Мы памятаем пра цябе…

Ты паспеў прыбегчы да нас, адчуўшы хуткую страту. Сваю страту…

— Ратуйце, ратуйце мяне, я хачу жыць…

І мы адказалі табе, як адказалі б заўсёды:

— Ратуем, дапаможам. Мы, вечныя, магутныя, можам так учыніць… Ты не памрэш…

І прыйшоў за табой нехта… Можа, і цёмны, можа, і злы. Яму невыносна было глядзець на шчасце. Спакойна ўзяўся за зброю:

— Я прыйшоў забіць цябе, залаты… Я не магу цябе бачыць…

І паляцела атрутная страла. Паляцела. Вярнулася. Забіла таго, цёмнага.

Толькі і цудадзейны алень упаў на пярэднія ногі. Стукнуў аб нас капытком, выбіў іскры. Прасіў берагчы ягоную славу, ягоныя чары…

— Мы — зберажом… Мы ж — моцныя… Мы ж — мудрыя… Мы ж — вечныя… І ты не памрэш. Хадзем з намі ў вечнасць…

Знік залатарогі алень. Але не зніклі ягоныя сляды. Як не могуць так проста знікнуць імклівыя з гэтага свету. Успыхваюць ярка, асвятляюць шлях, клічуць за сабой іншых… Палымнеюць, палымнеюць. Не мінаюцца без следу. Пакідаюць сляды. Сляды. Сляды. Многа слядоў. Так многа…

Мы — следавікі… Хто сказаў вам, што мы — каменныя? Мы — трывалыя ды магутныя. Мы — мудрыя. Мы — вечныя. Нас так многа… Як зімаў і летаў, што праляцелі па-над зямлёй. Як высокіх нябесных агнісак. Але усё ж меней, чым імклівых зямных зор… Адчайных, смелых, добрых. Мы памятаем іх усіх, яны ж праляцелі так блізка ад нас. Доўгае імгненне. Кароткая вечнасць… Ды сказалі яны, зыркія, а мы паспелі пачуць:

— Свет не пракінецца бядою, як след не згасне скрозь вякі. Да зораў мкнёмся мы з табою, сляды ж слядзяць следавікі… Што радасць з новаю журбою? Наш час такі, наш лёс такі… На стрэмцы з вечнасцю самою сляды слядзяць следавікі… Хай не жадаю, хай не мрою, знікае след негаваркі. Ды па-над светлаю зямлёю сляды слядзяць следавікі…



Алёна ПАПКО

# МРОІВА СНЯЖЫНАК ПРАД ВАЧЫМА

## ЯК ВЫПАДЗЕ СНЕГ...

А ты напішы мне, як выпадзе снег,
Чым сэрца жыве, чым баліць.
На долю злавацца, ты ведаеш, грэх,
І шчасця да донца не спіць.

А вусны кранае ледзь бачны адчай,
За гэта мяне не журы.
За сэрца пажар ты мяне выбачай,
Як промень у сцямнелым бары.

Прысядзь на дарогу. Але цішыню
Я першай парушу сама —
Чакала калісьці скупога дажджу,
А зараз так прагну цяпла.

Балюча і лёгка глядзець на цябе,
Нібы праз туман на шашы.
Як выпадзе снег, ты ўсё ж такі мне,
Чым сэрца жыве, — напішы.

---

*__Папко Алёна Мікалаеўна__ нарадзілася 24 лютага 1990 года ў в. Сакалова Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыла факультэт замежных моў Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна (2012). Працуе настаўніцай у Агароднікаўскай сярэдняй школе Бярозаўскага раёна.*

*Друкавалася ў абласной газеце «Заря», раённай «Маяк», часопісе «Маладосць» і штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у альманаху Саюзнай дзяржавы.*

*Лаўрэат Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу імя Максіма Багдановіча ў намінацыі «Паэзія» (2014 год) і абласнога літаратурнага конкурсу для дзяцей і юнацтва, прысвечанага 70-годдзю вызвалення Брэстчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (2014 год). Пераможца конкурсу маладых літаратараў Саюзнай дзяржавы «Мост сяброўства» (2014—2015 гг.).*

*Член Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

* * *

Каго паклічу ў госці
                    да сябе,
Каго ў дарогу-далячынь
                    збіраю.
Віхуры намяце-перамяце
І чыстым снегам
                    плечы ахінае
                              Зіма…

І не ў даўгу ні перад кім —
Нягоды-бальшакі і нашы святы.
Сняжынак густа-срэбраны кілім…
Да дна дап'ём кахання ўспамін.
Зіма…
Хто з нас застаўся вінаваты?

Услед гляджу — не клічу болей,
Не…
За пасівелай снежнаю вярстою —
Мне б капяжынку шчасця па вясне,
І сонца цёплага над галавою.

* * *

Мінулае і будучае спрэс,
Як мроіва сняжынак прад вачыма.
Вясну чакае ў  пухкай белі бэз,
І я чакала, як было магчыма.

Кахала, але ўсё-ткі для цябе
Ні на хвіліну так і не збылася.
…Як ціхія грымоты па вясне,
Нядоўга тая нітачка вілася.

У адзіноце век не каратаць,
І не знікаць ў жальбе сваёй бясследна.
Дай Бог нам навучыцца выбачаць
І пражываць
                    дзень кожны
                              не дарэмна.

* * *

Мы мяняем з табою гады —
Зноў чарговы стаіць на парозе.
Мы мяняем з табой гарады,
Быццам птушкі ў далёкай дарозе.

На раскошу мяняем любоў,
Часам дзелім зайздросна інтрыгі.
І мяняем надзейных сяброў
На сустрэчных — імклівых, бы крыгі.

Явар моўчкі застыў над вадой…
Прысмак горычы, прысмак спакусы…
Мы, здаецца, мяняем з табой
Не гады — нашы ўласныя душы.

* * *

І ў россып зорнага святла —
Наперад марам кроч усмешна!
Каб расказаць, як я жыла,
Мне хопіць верша.

Як плён няспеленых гадоў,
З якой вясны ізноўку разам?
Каб выказаць сваю любоў,
Зашмат мне сказа.

Святлеюць ночы, як і дні,
Жывой размовай.
Лунаць бясстрашна ў вышыні, —
Мне досыць слова.

І спорным дождыкам у сне —
Супроць маўчання:
Пачуць бы роднага цябе —
Адно жаданне.





Алена ТУЛУШАВА

# АПАВЯДАННІ

## У ДОБРЫЯ РУКІ

— Паважаныя члены камісіі! Пачнём, нарэшце!

Гамана тых, што сабраліся ў вялікім пакоі пачала сціхаць. У расчыненыя вокны — ні ветрыка, толькі крыкі дзятвы са спортпляцоўкі.

— Рыжык, давай жа, з’язджай! — хлопчык, твар якога быў у вяснушках, упіраючыся ў парэнчы, спрабаваў спіхнуць разгубленага сабаку з горкі.

— Сам ты — Рыжык! А ён — Мустанг! Муста-а-а-анг, ідзі да мяне, ну давай, ну скаціся, табе спадабаецца! — дзяўчынка год васьмі прыманьвала сабаку каля падэшвы горкі, быццам у яе руках ёсць нешта смачнае.

— Такога імя наогул няма, не выдумляй! Ну давай, я адразу ж за табой з’еду, гэта не страшна! — хлапчук пагладзіў сабаку па холцы.

— Калі хочаш ведаць — ёсць такое імя! І ён на яго адзываецца! Давай, піхні мацней! — дзяўчынка пайшла па горцы, адцягваючы ўвагу сабакі. Хлапчук выпраміўся, сабака ўлучыў момант і, праскочыў пад яго рукой, нязграбна заскакаў уніз па прыступках лесвіцы.

— Не ўдалося зрабіць дабро! — засмяяўся малады хлопец, павярнуўшыся ад акна да дзяўчыны, якая стаяла побач. Потная сарочка прыліпла да яго спіны. Дзяўчына дакранулася да яго пляча і ўсміхнулася ў адказ.

---

*Тулушава Алена Сяргееўна нарадзілася ў 1986 годзе ў Маскве. Скончыла Інстытут псіхатэрапіі і клінічнай псіхалогіі і Інстытут псіхааналізу. Працавала ў Францыі і ЗША. Цяпер — старшы медыцынскі псіхолаг у Цэнтры па рабоце з падлеткамі (г. Масква).*

*Друкавалася ў часопісах «Наш современник», «Московский вестник», «Подъем», «Вертикаль — XXI век» (Расія), «Белая вежа», «Нёман», «Новая Немига литературная» (Беларусь), у літаратурных выданнях шэрагу замежных краін. Лаўрэат V міжнароднага форуму славянскіх літаратур «Залаты Віцязь».*

*Апавяданні для «Полымя» прадастаўлены часопісам «Наш современник», які пастаянна знаёміць чытачоў Расіі з творамі літаратараў Беларусі розных пакаленняў. Намеснік галоўнага рэдактара «Нашего современника» Аляксандр Казінцаў, характарызуючы творчасць Алены Тулушавай, адзначае, што «ў яе апавяданнях прываблівае дынамізм, лёгкасць пісьма, жывыя дыялогі, дакладная мова... Гэта жорсткія, цалкам пазбаўленыя сентыментальнасці тэксты, дзе прысутнасць аўтара мінімальная, а ўся ўвага накіравана на герояў з іх паводзінамі і драматычнымі лёсамі».*

— Аня, хопіць гарэзнічаць! Працаваць трэба! Знарок гучна аб'явіла цётка гадоў пяцідзесяці з барадаўкай на брыве — яна была за старшыню.

Дзяўчына збянтэжана шчыгнула за столік сакратара.

— І вы, Ігар Аляксеевіч, прысядзьце таксама, — задаволеная эфектам, працягвала чыноўніца. — Мы падбіраем час, у тым ліку і пад вас, таму зацягваць не будзем. Што ў нас сёння?

— У нас Саша Савельеў... — на століку паспешліва зашамацелі аркушы. — Сашы дзесяць. На права апекі падаў дзед, Віктар Анатольевіч Савельеў. Яго старэйшая дачка, маці хлопчыка, скончыла жыццё самагубствам у п'янай гарачцы. Там гісторыя такая: не разлічыла, хацела напалохаць, але аступілася і выпала з дванаццатага паверха. Так бы мовіць, гэта быў не суіцыд, а няшчасны выпадак. Пасля гэтага над хлопчыкам апеку ўзяла цётка, малодшая сястра загінуўшай, яна таксама піла. Праз тры гады яна памерла...

— Гэта ўсё мы ўжо ведаем, што там па факце: аддаваць — не аддаваць, вырашайце хутчэй. Што з дакументамі?

— Так-так, Таццяна Міхайлаўна, я проста падумала... у нас жа тут запрошаныя спецыялісты, каб яны таксама былі ў курсе справы.

— Спецыялістам усе гэтыя дэталі не патрэбны. Ігар Аляксеевіч — псіхолаг, а не следчы.

«Псіхолаг? А гэта яшчэ што? — Саша з трывогай узняў вочы. — Хлопцы ў прытулку казалі, што гэтыя псіхолагі заўсёды што-небудзь навыпытваюць, а потым у псіхушку садзяць!»

— А Аляксандра Ільінічна з дзіцячага пакоя паліцыі, — раздражнёна працягвала цётка, — патрэбна нам, каб пацвердзіць станоўчую характарыстыку на падлетка. Каб дзядуля ведаў, што хлопчыка мы аддаём зусім нармальнага, ён не стаіць на ўліку, і адказнасць апекуна перад краінай — захаваць такі статус дзіцяці, — на гэтай фразе цётка перавяла незадаволены погляд з худой дзяўчыны на Сашу з дзедам.

«Пагляд у яе непрыемны. Раней ласкава гаварыла, абяцала, што ў крыўду не дасць, што ў мяне ўсё ў жыцці будзе добра. А зараз палохае. Псіхолаг, паліцыя... Сандалі дурацкія, ступні ад поту слізгаюць, цяпер мазоль натруць».

— Так, значыць, вы, Віктар Анатольевіч, вырашылі забраць Сашу да сябе? — цётка выразна паглядзела на дзеда паўзверх акуляраў.

— Але, вунь дакументы, — дзед кіўнуў галавой у бок сакратаркі, якая шамацела паперамі.

— Так-так, мы ўжо азнаёміліся. А чаму?

— Што «чаму»? — спахмурнеў дзед.

«Навошта яна задае пытанні? Калі вырашыў, дык навошта цягнуць. Раптам ён перадумае і пойдзе!» — Саша сядзеў, скрыжаваўшы пальцы. Ён загадаў, калі так прасядзіць да канца, то яго абавязкова аддадуць дзеду, а калі не зможа, дык усё прапала. Так ужо было ў шэсць гадоў. Ён папрасіў у Дзеда Мароза паліцэйскую машыну з сірэнамі. Ён хацеў запускаць яе на кухні, калі маці і цётка будуць сварыцца, спадзеючыся, што гук сірэны прымусіць іх замоўкнуць. Тады ён загадаў, калі па дарозе дадому наступіць на ўсе рысачкі між пліткамі тратуара, то жаданні абавязкова збудуцца.

Дворнік расчышчаў ад снегу дарогу. Саша хацеў перачакаць, але маці была не ў настроі і, рэзка тузануўшы яго за руку, пацягнула да пад'езда. Машыны ён так і не атрымаў. У той Новы год ён наогул нічога не атрымаў. Раніцою 1 студзеня маці сказала, што ён дрэнны хлопчык, і Дзед Мароз яму нічога не прынёс. Да самага вечара ён яшчэ спадзяваўся на падарунак. А вечарам, працверазеўшы, маці падышла да яго і, пагладзіўшы па галаве, сказала,

што Дзеда Мароза няма. «Ты цяпер дарослы, Сашачка. А гэта казкі для дзяцей. Проста бацькі купляюць дзеткам падарункі і кладуць пад ёлачку. І я табе так клала. А ў гэтым годзе ў мамачкі грошыкаў няма, ты ж ведаеш. Мамачка цябе любіць. Але цяпер давай без падарункаў».

Наступнай зімой за тыдзень да Новага года маці памерла. Падарункаў ён больш не атрымліваў.

— Чаму вы вырашылі ўзяць Сашу да сабе менавіта цяпер? Чаму не раней?

— Дык жа маці ў яго была і цётка, — дзед дастаў з кішэні вібрыруючы тэлефон і паглядзеў на экран.

— Але, у маці былі праблемы з ужываннем алкаголю. Хлопчык рос у некамфортных абставінах. Чаму раней не забралі? — настойліва працягвала старшыня.

— Я з імі не меў зносін.

— З-за таго, што яны пілі?

Дзед націснуў клавішу і схаваў тэлефон у кішэню. Цётка змоўкла, дзед стаяў спакойна. Саша вырашыў, што трэба абавязкова сказаць нешта добрае пра яго. Але нічога не мог успомніць, апрача самазвала, які дзед падарыў яму даўно.

— Ён мне падарункі даваў, дзядуля мой! — зачасціў Саша высокім ломкім голасам. — Самазвал! Кузаў паднімаўся.

— Ну вось бачаш, — старшыня мімаходзь глянула на Сашу, спрабуючы ўсміхнуцца. І ўжо звяртаючыся да дзеда, жорстка спытала: — Вы не маглі б удакладніць, з якой прычыны перасталі з імі сустракацца? Мы павінны ўяўляць, якая сітуацыя. Зразумейце правільна, родных больш у Сашы няма. Вас адшукалі з цяжкасцю толькі праз месяц пасля смерці Сашавай цёткі.

— Калі аддаваць не хочаце, — прабурчаў дзед, — так і скажыце...

— Не-не, вы не зразумелі. Дзіця дзяржаўнае. Ёсць вызначаныя нарматывы, як трэба весці справы. Ніхто ж не хоча, каб потым Сашу ў вас забралі, вырашыўшы, што вы не падыходзіце.

— А навошта забіраць? Калі ім трэба, хай робяць, як хочуць, — дзед засунуў рукі ў кішэні і пачаў пакалыхвацца.

Саша спалохаўся, што калыхнуўшыся ў чарговы раз, дзед пойдзе да выхаду.

— Віктар Анатольевіч, вы не раздражняйцеся. Гэта фармальныя патрабаванні. Мы абавязаны сабраць інфармацыю. Уласна, нават калі скажаце няпраўду — мы ж і праверыць не зможам! — прымірэнча працягвала цётка. — Спытаць больш няма ў каго.

— А навошта мне казаць няпраўду? — зноў насупіўся дзед. — Я і не падманваў ніколі. Як зацяжарала яна, так і пайшоў.

— Хто, прабачце?

— Ды Маша, хто ж яшчэ, старшая. Зацяжарала яна ў шаснаццаць. Я ёй: «Ідзі пазбаўляйся, дурніца!» А яна: «Нараджаць буду!» Ну я і гаркнуў, маўляў, не дазволю. Сам да ўрача завязу, ганьба якая! А тут маці яе знайшла прычыну заступіцца: грэх гэта, грэх.

— Значыць, вы былі супраць таго, каб дачка нарадзіла?

— А вы б дазволілі сваёй нарадзіць у шаснаццаць? Школу нават не скончыла! Наперадзе экзамены, інстытут, або тэхнікум хоць бы. «Усё жыццё зламаеш!» — кажу.

Дзед пачырванеў. Сашы стала яго шкада. Ён пра гэта не ведаў.

— Канешне, вы перажывалі за дачку...

— Казаў жонцы: я з такім сорамам жыць не змагу! Ды і каму яно патрэбна будзе — дзіцянё гэтае бязроднае? Але ж не, хто ж мяне паслухаў! А вынік? — дзед выцягнуў руку і пачаў загінаць пальцы. — Я з сям'і пайшоў, жонка праз тры гады памерла, дачка спілася, ды яшчэ і сястру спаіла! І вось, — дзед торкнуў пальцам на ўнука, — сядзіць: каму ён цяпер патрэбны?

Словы дзеда не адразу дайшлі да свядомасці Сашы. Дык, значыць, ён пайшоў... З-за яго?!

— Ну што вы, нам кожнае дзіця патрэбна! — прытворны голас старшыні абудзіў Сашу.

— Ды не прыдзірайцеся да слоў! — раздражнёна махнуў рукой дзед. — Вы ж разумееце, пра што я... Што ў яго цяпер — ні дома, ні бацькоў, ні жыцця нармальнага.

— Але ў яго ёсць вы, калі вырашылі забраць.

Псіхолаг пры гэтых словах выразна хмыкнуў.

«Чаго ты лыбішся, — раззлаваўся на яго Саша, — быццам што смешнае кажуць! Лезуць усе не ў сваю справу».

— Ды чаго ён па прытулках будзе бадзяцца, — ужо больш спакойна вымавіў дзед.

— Але чаму бадзяцца, — сказала старшыня. — Дзяржава ўладкоўвае сірот, дае добрыя ўмовы! Але вы родны чалавек, будзеце клапаціцца аб ім як след.

— Вырасцім як-небудзь...

— Цяжкасцей не баіцеся? Падлеткавы ўзрост усё-такі, нялёгкія часы хлопчык перажыў.

«Нялёгкія. Табе дзякуй! — яхідна падумаў Саша. — Адразу ты мне не спадабалася, яшчэ тады, калі вырашалі пра прытулак. Наабяцала ўсяго: ты там толькі на некалькі тыдняў, там будзе добра, сябры з'явяцца, у цырк зводзяць, у тэатр, на экскурсіі...»

У першую ноч у прыбіральні яго абступілі хлапчукі. Ён паспрабаваў схавацца ў кабінцы, але ўсе зашчапкі былі даўно выбіты, і хлапчукі смеючыся, пачалі яго біць. Так было з усімі новенькімі. Саша тады не ведаў, што першая бойка — гэта як праверка, пасля яе ўсім стане зразумела, чаго ты варты... На ўвесь наступны месяц — самы жахлівы месяц у яго жыцці — за ім замацавалася рэпутацыя даносчыка. Ён спрабаваў скардзіцца, але станавілася горш. Праўда, ужо не білі. Помсцілі інакш: налівалі ваду ў ложак, маглі і памачыцца. Саша трываў, спадзеючыся толькі на тое, што хутка забяруць. А зараз... Дзіцячы дом? Ды ён нічым ад прытулку не адрозніваецца: народ там такі ж, і лупцуюць таксама...

Успомніў як білі і ўсё ўнутры сціснулася. Абрыўкі гутаркі з цяжкасцю даходзілі да яго.

— У мяне ўсё ёсць, вось спіс дакументаў: кватэра двухпакаёвая, машына айчынная, зарплата нармальная, можаце праверыць, на ежу хапае.

— Так-так, вы малайчына, усе дакументы ў парадку. Вы ж апеку захацелі аформіць, а не ўсынаўленне, — значыць, дзяржава будзе выплачваць на Сашу дапамогу, льготу прадаставіць...

— Дапамогу зараз афармляць будзем, або асобна прыходзіць?

— Ну вы пачакайце, — усмешка нязграбна слізганула па твары старшыні. — Мы спачатку павінны вырашыць, застаецца Саша ў вас ці не.

— А што, у дзіцячы дом яго вырашылі, ці як?

Саша здрыгануўся. Калі ў дзетдом — уцячэ, ён ужо вырашыў. Яму Косцік расказваў, як потым уладкавацца. У прытулку Косцік з'яўляўся раз у тры

месяцы. Ён быў нібы сам па сабе, хлопцы яго не чапалі, бо ведалі, што Косцік сябруе са злодзеямі Казанскага вакзала. А яго бацька ў турме,— выйдзе, усім адпомсціць. Косцік прыходзіў у прытулак сам, атрымліваў поўны камплект адзення, абутку, крыху ад'ядаўся, адпачываў ад зладзейскага жыцця і праз месяц зноў знікаў. Ён менавіта ішоў, не спяшаючыся, усё абдумаўшы, загадзя акуратна склаўшы ўсё дабро, якое яму належала. Рэчы ён адразу ж прадаваў, а выручку траціў на іґравыя аўтаматы. А потым жыў і «працаваў» на вакзале, пакуль зноў не цягнула туды, дзе цёпла.

— Ды не, нам бы не хацелася, канешне.

Саша спалохаўся, што з-за ўспамінамі прапусціў нешта важнае, і не мог зразумець, што менавіта «не хацелася б» цётцы. У нейкі момант ён перастаў разумець, чаго зараз трэба баяцца. У дзіцячы дом? Не, туды дакладна не... Дзед?..

«Ды адвяжыцеся вы ў рэшце рэшт ад мяне! Усе, усе! — ярасць, невядомая яму дасюль, авалодала ім. — Цётка, бач, паказвае, якая яна клапатлівая: "Нам кожнае дзіця патрэбна", а ёй жа на яго напляваць, — Саша гэта зразумеў адразу. — І дзед не лепшы! За столькі гадоў нават не пацікавіўся, як там унучак. Іншым падарункі да кожнага свята. А яму — за ўвесь гэты час — самазвал: дзверцы не адчыняюцца, аганёчкі не запальваюцца... Адзін пражыву! З Косцікам на вакзале!»

Саша быццам зазірнуў у бяздонную палохаючую невядомасць. Яму стала шкада сябе. Азлобленасць знікла. Ён разгублена прыслухоўваўся да размовы дарослых.

— Мы тут для таго і сабраліся, каб вырашыць пытанне пра апеку, — старшыня напружана агледзела прысутных. — Паважаныя члены камісіі, ці ёсць у каго пытанні?

Мяркуючы па сумуючых тварах, пытанняў не было.

— Вы тады пачакайце ў калідоры, а мы абмяркуем і вам скажам.

— Зараз скажаце? А то мне яшчэ на працу сёння трэба заехаць.

— Так-так, мы сёння прымем рашэнне. Вы пакуль можаце пайсці перадыхнуць.

Як толькі дзверы прычынілі, дзед пачаў названьваць на працу, нешта раздражняльна тлумачыць. Саша паглядам праводзіў яго да лесвіцы і прыхіліўся да шчыліны, якую пакінулі, каб быў скразняк.

— Ну што, я так разумею, будзем аддаваць? — пасля таго, як дзед з унукам выйшлі, усе заварушыліся, нехта здымаў пінжак, нехта прагна піў ужо нагрэтую ваду. — Праблем з дакументамі, я так разумею, няма, Вольга Анатольеўна?

— Няма, ён усё прынёс. З дастаткам усё нармальна, кватэра на яго аформлена, ніхто больш не прапісаны. Калі хлопцу споўніцца васямнаццаць гадоў, яму не трэба будзе выдзяляць жыллё, дзедава жылплошча будзе лічыцца за ім.

— Добра, менш інстанцый, менш папер. А астатнія — што скажаце? Дзед быццам нармальны? Ды ўвогуле па ім не зразумееш, — адкашляўся зусім змакрэлы Ігар Аляксеевіч. — Можа, нам трэба больш пра яго даведацца, запрасіць іх на нашы трэнінгі або кансультацыі, а там і вырашаць?

— Вось вы, псіхолагі, малайцы якія! — уз'елася старшыня. — І куды ж мы яго павінны падзець, пакуль яны да нас будуць хадзіць? Зараз канец мая, калі не аддадуць дзеду, то Сашу трэба будзе ўладкоўваць на нейкі час або ў прытулак, або ў дзетдом. А яны ўсе з чэрвеня раз'язджаюцца па лагерах. Яму тэрмінова трэба будзе пуцёўку афармляць. Вы ўявіце сабе, як на дзяржаўнае

дзіця за тыдзень аформіць пуцёўку? Гэта немагчымая гонка: хадзіць, выпрошваць, выбіваць — спіскі ж усе афармляюць ледзь не з зімы. А калі не возьмуць — тады ў інфекцыйную прыйдзецца здаць, сядзець хлопчыку як мінімум месяц, калі на ліпень змогуць уладкаваць! Вы лічыце, гэта лепш будзе?

— Ды не тое каб... — ужо менш упэўнена працягваў псіхолаг. — Можа, абавязаць іх пахадзіць да нас у бліжайшыя месяцы. Незразумела, дзе раней дзед быў, чаму раптам аб'явіўся? Восем гадоў з сям'ёй не меў ніякіх адносін, не цікавіўся ні кім, а цяпер раптам вырашыў хлопчыка ўзяць. Апека мае някепскае фінансаванне ад дзяржавы, гэта таксама насцярожвае. Усё ж не кацяня аддаём...

— Пры чым тут кацяня? Вы тут адзін заклапочаны лёсам дзіцяці? Мы ўсе шукаем найлепшы варыянт для хлапчука. Ці мала якія спрэчкі могуць быць у сем'ях? Дочкі алкагалічкі, вось і не хацеў з імі знацца, што тут незразумела! Вам патрэбны кансультацыі, каб пра гэта ведаць? Чалавек у будні працуе, вось асабіста вы гатовы ў выхадныя з ім займацца?

— У выхадныя не хацелася б... Але давайце хаця б прапануем? — Канешне, прапануем, параім, пракансультуем. Усё як звычайна, прыкладзём максімум намаганняў!

— Але, як звычайна... — ухмыльнуўся псіхолаг.

— Вы хочаце нешта канкрэтнае прапанаваць, Ігар Аляксеевіч? — голас старшыні прагучаў азлоблена.

— Не, канкрэтнага пакуль нічога, трэба падумаць...

— У нас няма часу думаць! — абарвала яго жанчына. — Мы павінны прыняць рашэнне зараз. Запрасіце іх, калі ласка.

...Зайшлі. Думкі ў галаве Сашы круціліся, ён не ведаў, за якую ўхапіцца.

— Віктар Анатольевіч, на сённяшні момант камісія вырашыла перадаць вам правы апекі. Віншую! — сказала старшыня. — Вы поўнасцю падыходзіце па ўсіх параметрах. Мы спадзяёмся, што ў вас усё атрымаецца. Дакументы будзем афармляць нейкі час, так што вам яшчэ давядзецца да нас прыехаць, такая ўжо сістэма.

— Ці доўга гэта будзе рабіцца? — дзед метадычна ўкладваў у папку паперы. — Каб з работы адпускалі, трэба дамаўляцца.

— Так-так, мы разумеем. Уся працэдура зойме каля месяца. Але забраць Сашу можаце ўжо зараз!

— Месяц, добра. Зразумеў, забіраю.

— Мы яшчэ хацелі б вам парэкамендаваць заняткі ў псіхолага...

— Гэта навошта? Ён жа нармальны, — буркнуў дзед, пастукваючы аркушамі па стале, выроўніваючы стос.

— Гэта для вас абодвух, каб лепш прывыкнуць адно да аднаго, усё-такі доўга не мелі ніякіх зносін, могуць быць канфлікты.

— А без гэтага ніяк? — ён перастаў складваць паперы і здзіўлена паглядзеў на старшыню. — Праца ў мяне.

— Але не тое, што б ніяк, — заспяшалася тая, быццам таксама баялася, што дзед перадумае. — Гэта нашы рэкамендацыі. Можна і пазней, у ліпені...

— Не, у ліпені ў мяне адпачынак. Мы на дачу паедзем да майго сябра, — дзед паклаў паперы ў партфель.

— А, на дачу — гэта цудоўна. Адпачнеце на свежым паветры. Ну што, Саша, я ж казала табе: усё будзе добра! Ты рады?

Саша моўчкі глядзеў у падлогу — у прытулку гэта стала для яго прывычным. Ён хацеў паглядзець на цётку, але ніяк не мог узняць вочы. Адчуўшы, што на яго глядзяць і чакаюць адказу, ледзь прыкметна хітнуў галавой.

— Што ж, тады ўсяго вам добрага. Астатнія паперы вам зараз перададуць у 102 пакоі. Поспехаў вам!

Калі дзед і ўнук выйшлі на вуліцу, пачынала ўжо цямнець. Хмары, якія збіраліся ўвесь тыдзень, здавалася, вось-вось астудзяць нагрэты асфальт. Маці спяшаліся забраць дзяцей з пляцоўкі і збіралі раскіданыя цацкі, пакуль разгарачаная дзятва спрабавала нагуляцца.

Рыжы сабака туляўся па пляцоўцы, праводзячы паглядам дзяцей.

— Рыжык, Рыжык, на, нешта дам! — закрычаў яму Саша.

Сабака падбег да незнаёмага хлапчука, нібы ведаў яго цэлую вечнасць. Сашы раптам захацелася ўваткнуцца тварам у гэтую доўгую пульхнатую поўсць, адчуць цёплы дотык, мокры нос... Сабака ўсміхнуўся адкрытай пашчай, абнюхаў працягнутую руку.

— Не трэба дражніць сабаку, калі ў цябе нічога няма, — спахмурнеў дзед.

— Я проста хацеў пагладзіць... — Саша памкнуўся прысесці на кукішкі, каб пагладзіць сабаку, але спыніўся і перавёў пагляд на дзеда, баючыся, што той гэта не ўхваліць. Толькі цяпер хлопчык зразумеў, што зусім не ведае гэтага чалавека. Не ведае, што можна рабіць, а чаго нельга. А яшчэ не ведае, ці любіць дзед футбол, ці ўмее смажыць бульбу, і як яго трэба зваць: дзед, дзядуля, або па імені і па бацьку.

— Бяздомны сабака — навошта яго гладзіць, яшчэ падхопіш штонебудзь, — дзед паглядзеў на гадзіннік. — На працу не паспеў, — ён яшчэ раз адчыніў партфель, праверыў паперы і, кіўнуўшы Сашу галавой, пайшоў да машыны.

Саша выпрастаўся і пасунуўся за ім. Пад яго нагамі замільгалі бледныя ад засухі рысачкі тратуарнай пліткі.

## ТРЭБА БУДЗЕ НЕЯК ПАГЛЯДЗЕЦЬ

— Добры дзень, Максім Іванавіч!

— Добры дзень, праходзьце, калі ласка. Прынеслі? — ён акуратна прайшоў, прыціскаючыся да сцяны. Дзверы, зачыніўшыся, упіхнулі ў прыхожую пах вільгаці.

— А як жа! Думала, спазнюся! Апошні адарвала!

— Але нічога сабе! — сказаў ён проста, каб неяк запоўніць паўзу.

— Вось, трымайце! Мокры толькі, снег з дажджом — не схавацца, запакаваны! — пакет з кропелькамі, з шамаценнем лёг у нецярплівыя далоні.

— Ну, што там сёння... Не-не, не кажыце, паспрабую сам. Праходзьце, калі ласка, я зараз...

Ён хутка прайшоў на кухню, па-звычцы падсунуў нагой табурэтку, сеў за стол і пакратаў шоў пакета. Затым правёў пальцамі па ўпакоўцы і ўсміхнуўся... Доўгачаканы момант: можна крыху пафантазіраваць, напрыдумваць нешта асаблівае, выцягнуўшы з памяці паблаклыя малюнкі, пакуль рукі асцярожна адкрываюць шаматкі заводскі цэлафан. Дзеля такіх момантаў ён умее чакаць.

— Васямнаццаць гадзін, — механічна прагаварыў гадзіннік.

— Усё, іду-іду! — сказаў ён машынальна. Праца заўсёды заставалася на першым месцы, нягледзячы на маленькія слабасці. — Але ж і агідны ў цябе голас, — камічна раззлаваўся ён на бяздушны апарат.

— Ну як, адгадалі? — дзяўчына глядзела на яго дапытліва.

— Смеццявоз! — задаволена азваўся ён. — Не дарэмна чакаў, на цэлы тыдзень затрымалі! Незвычайныя дэталі, мацаю і адчуваю.

— Пачытаць вам, як звычайна?

— Не-не, дзякуй. Сёння да мяне Іра зойдзе.

— Малайчына, зараз дзеці рэдка клапоцяцца пра бацькоў.

— Пра мяне не трэба клапаціцца! — бяскрыўдна, хоць і з націскам, вымавіў ён. — Сам усіх цягну! Былую жонку, і цяперашнюю, і Ірышку.

— Колькі ёй?

— Дваццаць чатыры. Але бацькава дапамога ў любым узросце патрэбна. — Яго твар асвяціўся пяшчотай. І быццам сумеўшыся, ён падкрэслена дзелавіта прамовіў: — Леглі? Зараз пачнём.

— І як вашы справы? — падышоў ён да масажнага стала.

— Ды як заўсёды, адны праблемы. І за акном агідна: раніцай устанеш — цёмна, з працы выходзіш — зноў цёмна. Сум, хоць у вокны не глядзі, — яна збоку наглядала за ім. — А што гэта за мадэль? Я такіх не бачыла, здаецца.

— О, гэта ўжо ўдасканаленая. Выканана, дарэчы, цудоўна, на здзіўленне!

— Усё на месцы ці як тады?

— Ды не, тут яны пастараліся. У мінулы раз таксама ўсё было на месцы, але выканана ўжо схематычна. Ды і сама мадэль — «Школьны аўтобус» — згадзіцеся, зусім не цікавая. Нават дворнікі паленаваліся прымацаваць. — Ён расцёр рукі крэмам і пачаў працаваць. Па пакоі рассыпаўся водар летніх лугавых кветак.

— А вы *бачылі*? — здзівілася яна, адразу ж засаромеўшыся ад не зусім прыстойнага пытання.

— Так, старыя аўтобусы — паспеў. І смеццявозы заспеў. Кабіны ў іх спачатку былі зялёныя, а потым іх сталі фарбаваць у аранжавы.

— Па-мойму, як іх ні фарбуй, усё роўна агідна пахне. Ніколі не разумела, чаму людзі выбіраюць прафесію — прыбіраць смецце, — яна зморшчыла нос і коратка выдыхнула.

— Так-так, пах ад іх ва ўсе часы быў даволі агідны. Але ідэя. Смеццявозы, бетонамяшалкі, асфальтаўкладчыкі — усё гэта тварэнні інжынернай думкі... Нешта я загаварыўся, — супыніў ён сябе. — Так не балюча?

— Нармальна!

— Вось і выдатна, — масажыст працаваў не спяшаючыся, вывеўранымі плаўнымі рухамі. Затым дастаў з кішэні насоўку, каб не выпацкаць апаратуру, падышоў да музычнага цэнтра і праз тканіну акуратна пачаў націскаць кнопкі, выбіраючы нешта пад настрой. — Шапэн. Супакойвае.

Лежачы, яна разглядала стэлажы, якія былі застаўлены мадэлямі машын, танкаў, самалётаў. Іхнія роўныя, нібы выстаўленыя па лінейцы, шэрагі не мяняліся гадамі, толькі дабаўляліся новыя паліцы. Плаўна змяняючы адна адну мелодыі і мерныя рухі масажыста супакойвалі. Пакой быццам драмаў у гэтым звыклым запаволеным рытме.

— А серыю верталётаў яшчэ не выпусцілі?

— Ды не дай бог, што вы! — засмяяўся ён. — Гэта ж мне прыйдзецца заказваць новую шафу, — усмешка вельмі пасавала яму, твар станавіўся маладзейшым.

— А вы толькі тое, што поўнасцю даведзена да ладу, калекцыяніруеце? Ай, балюча! Ці можна сёння так, каб не хрусцела? Мне нават страшна.

— Канешне, можна. Хто ж вас прымушае — не трэба хрусцець, — дабрадушна ўсміхнуўся ён. — Але, цяпер магу толькі тыя, якія не трэба дарабляць.

Гадоў пятнаццаць таму, напэўна, мог бы сабраць, але тады не выраблялі простыя ў зборцы мадэлі. Неяк заказаў падводную лодку, але дэталі аказаліся зусім дробнымі. Сябру аддаў, — няхай папакутуе. — Падбародак яго рухаўся адпаведна такту рук.

— Ай-ай, праўду кажу, балюча, Максім Іванавіч!

— Не звяртайце ўвагі!

— Але гэта мае пальцы, як не звяртаць увагі: раптам зламаюцца — хадзіць не змагу! — пры кожным храбусценні яна зажмурвалася, уціскаючыся ў мантажны стол.

— Пакуль яшчэ ўсе самі ішлі ад мяне. Вось і ўсё, выдатна справіліся! Апранайцеся, а я пайду адпачну.

— Дзякуй!

Да наступнага наведвальніка заставалася дваццаць хвілін, яго рукі пацягнуліся да тэлефона. Пакуль наліваў чай, пустыя гудкі, што раздражнялі, перарваліся:

— Але, пакуль!

— Ірыш, прывітанне! Як у цябе справы? Усё як дамаўляліся? — ён любіў слухаць голас дачкі, але ўвесь час стрымліваўся, каб не тэлефанаваць часта, баяўся, што надакучыць.

— Та, я не паспела набраць! Справы жахлівыя! Па машыну на сэрвіс прыехала, а яны, уяўляеш, зафарбавалі драпіны, а на святле бачна, што колер наогул не паклапаціліся падабраць! Пляма на паўдзвярэй! Хіба так можна? Элементарную вішнёвую змяшаць не могуць, зафарбавалі звычайнай малінавай.

— Крыўдна, напэўна. Але не перажывай. Можа, будзе не вельмі прыкметна. Гэта не самае галоўнае ў машыне. Галоўнае — што едзе.

— Жартуеш?! Яшчэ як прыкметна! Скандал ім учыніла, выклікала дырэктара. Абяцалі за тры дні выправіць.

— Ого, ты малайчына, баявая. Тут у мяне апошні пацыент застаўся. Якраз паспею ў кандытарскую. Табе як звычайна? — ён усміхнуўся, прадчуваючы вячэрнія пасядзелкі з яе любімымі пірожнымі і доўгімі размовамі.

— Тату-у-уль, — прамовіла яна па-дзіцячы. — Я не змагу сёння. Бачаш, як з машынай атрымалася. Я з-за гэтага з Міхаськам не ўбачылася, а мы з ім дамовіліся сёння схадзіць у кіно, ён так даўно чакаў — пакрыўдзіцца...

Усмешка саслізнула, пакінуўшы на твары выраз няёмкасці. Ён заспяшаўся супакоіць дачку.

— Ірыш, вядома, схадзі з ім. А мы з табой у наступны раз.

— Праўда, та? Ты не пакрыўдзішся? Бачыш, хто ж ведаў!

— Так-так, — заспяшаўся ён. — Калі там у цябе будзе час, тады і ўбачымся. Навошта мне крыўдзіцца, я ўсё разумею.

— Дзякуй, татуль! А то ён нейкі крыўдлівы стаў, сварымся пастаянна. Фільм ужо два тыдні ідзе, а я ўсё выбрацца не магла. Міхаська злуе, маўляў, не на баявік жа мяне цягне, як звычайна мужыкі, нармальнае кіно, а я ўсё часу не знайду.

— Раскажаш потым?

— Для вас, як заўсёды, уключаны падрабязнейшы пераказ: сюжэт у дэталях, спецэфекты, аператарская работа, кіналяпы, усё, што ўспрыме ваша ўсюдыіснае вока! — парадыйна прапела яна ў стылі вядучых ток-шоу.

— Калі ласка! — засмяяўся ён. — І яшчэ салодкі пап-корн.

— Не, ад нас толькі дыктарскія паслугі. Дарэчы, табе хто-небудзь зможа часопіс пачытаць?

— Так, якраз толькі што пацыентка прапаноўвала. Мы з ёй чаю пап'ём. Усё нармальна, не перажывай. А ты са сваім будзь дабрэйшай, сваркі — яны ж, Ірыш, — усё паступова разбураюць... — яму захацелася абняць яе мацней, і твар зноў засвяціўся ўсмешкай, пяшчотнай і мяккай.

— Вось і выдатна! А мы ў аўторак убачымся! Цалую!

— Да аўторка! Беражы сябе! — Дачка адключыла сувязь, ён дагаворваў ужо ў тэлефон, той ужо маўчаў: — Абдымаю, вельмі замаркоціўся.

Да аўторка яшчэ заставалася чатыры дні. Чакаць ён прывык з дзяцінства, пасля таго, як перахварэў на грып, калі маці пачала заўважаць, што ў яго сшытках распаўзаюцца радкі. Тады, пралежваючы тыднямі ў бальніцах, яму нічога не заставалася, як чакаць, пакуль чарговы ўрач вынесе свой вердыкт. Чаканне было цяжкім, прыгнятаючым. Кожны дзень яго апаноўваў страх, і толькі зрэдку з'яўляліся праблiскі надзеі. З гадамі ён зжыўся са сваімі дзіцячымі ўспамінамі, перастаў адганяць іх, заглушаць музыкай і аўдыякнігамі, перастаў выбіраць з іх толькі нешта прыемнае. Ён навучыўся цаніць усё, што калісьці паспеў убачыць, гадзінамі ўспамінаў нават бальнічныя дэталі: узоры на піжаме, зялёныя сцены палат з аблезлай фарбай, вясёлых звяроў з Айбалітам, што ўпрыгожвалі лесвічныя пралёты, калекцыю машынак, якую яны збіралі ўсім аддзяленнем, дзіўную бурую жыжу на сняданак. Формы, колеры, абрысы складваліся ў прадметы, прадметы — у карціны, карціны — у фільмы. Ён любіў глядзець сваё «відэа». Гэта адзінае, што ў яго засталося ад таго відушчага жыцця, якое цяпер нагадвала пра сябе толькі паўценямі.

— Максім Іванавіч, я пайшла! — ён не адразу ўспомніў чый гэта голас.

— А, так-так, іду!

— Вось, трымайце. Дзякуй!

— Здаецца, мнагавата. Тут тры паперкі.

— Гэта тры па пяцьсот, усё правільна.

— А, тады добра, — ён схаваў шаматкія купюры ў кішэню.

— Дык вам не трэба пачытаць? У мяне ёсць час!

— Не-не, дзякуй. Да мяне зойдзе Іра, я яе папрашу. Усяго добрага!

Ён зачыніў дзверы і вярнуўся на кухню. Чай астыў. Націснуўшы на гадзінніку кнопку апавяшчэння, пачуў: «Дзевятнаццаць гадзін дваццаць хвілін». Яшчэ заставалася дзесяць хвілін. Ён прайшоў у пакой, намацаў часопіс, удыхнуў пах глянцавай паперы і схаваў яго ў шафу. Ён пачакае Іру, усяму свой час. Ён адчыніў сервант і лоўка дастаў сённяшнюю навінку. Пальцы слізгалі, абмацваючы дэталі.

— Смеццявоз... Цікава, у колькі ў нас звычайна смецце забіраюць?

Кожную раніцу, выходзячы з дому ў палове шостай, каб ужо ў сем прыняць першага пацыента з тых офісных працаўнікоў, што вечна спяшаюцца, ён чуў яшчэ сонны горад. Вечарамі ж, пасля дзесяці, ён адчуваў горад. Такім, якім ён рыхтаваўся да сну. Жыццё праходзіла за вокнамі яго кабінета, пакуль ён працаваў. Ён успамінаў, што даўно не чуў гукаў будоўлі, нецярплівых сігналаў у скучанасці машын, шоргату веніка дворніка, і неяк засумаваў па гэтых галасах звычайнага рабочага жыцця. Яму захацелася апынуцца ў цэнтры гэтых гукаў і пахаў, выбудоўваючы ў сваёй фантазіі рознакаляровыя малюнкі таго, як усё гэта магло б выглядаць.

— Смеццявоз, значыць... Трэба будзе неяк схадзіць паглядзець! — падміргнуў ён сам сабе.

## Мамы

— А завуць чаму цябе так, ведаеш?

— Не ведаю, дзед.

— Багдан — Богам дадзены.

— Ды я ведаю, дзед, сто разоў казаў!

— Бог — ён у душы ў кожнага, вакол нас, у кожным дні. Ва ўсялякай справе. Ён з табой.

Размовы дзеда з кожным годам станавіліся ўсё больш сумнымі, эпізоды і жарты паўтараліся, і Багдану, які станавіўся ўсё больш дарослым, кампанія старога пачынала ўжо здавацца нудным абавязкам.

— І таму ў царкву хадзіць трэба, каб бліжэй да Бога быць, — працягваў дзед, засяроджваючы ўвагу на грэчневых крупах, што ляжалі на стале. Скура на яго далонях мазолістая, і, здавалася, пальцы не маглі да канца разагнуцца, не парваўшы гэтую тугую падэшву. Грэчка аказалася кепскай, і дзед увесь час ківаў галавой, выбіраючы дрыжачымі пальцамі чорныя зярняты.

— І людзі там, у царкве, яны душой святлейшыя, дапамогуць яны, калі што, дабрэйшыя яны ў сэрцы.

У адказ на словы аб людской дабрыні памяць Багдана пачынала пракручваць эпізоды ўспамінаў. Яму было гадоў шэсць, калі яны з маці і хроснай паехалі ў Угліч да родных. Гарадок быў цёплы, ветлівы. Яны ўвесь дзень гулялі па яго парках, потым зайшлі на вячэрнюю службу ў царкву. Багдан ужо ведаў, навошта патрэбны цэрквы, умеў хрысціцца і ставіць свечку з вельмі важным выразам на твары. Гэтая не была падобная на іх маскоўскую: нізкая столь, цьмяныя драўляныя іконы ў патрэсканых рамках, зваленыя на паліцы пакеты і скруткі, і ўсяго чалавек пяць прыхаджан, якія нядобра паглядзелі на іх. Багдану царква не спадабалася, нават разглядаць не было чаго, і яго пагляд, шукаючы нешта асаблівае, спыніўся на маці. Яна стаяла крыху збоч, і праз вузкія акенцы на яе падалі дробныя промні святла, яны пачыналі слізгаць па твары і сукенцы кожны раз, калі вецер звонку гойдаў дрэвы. Багдан глядзеў на маці з захапленнем і любасцю. Яна была такая прыгожая, усмешлівая, да яе хацелася падбегчы і абняць. Але ён ведаў, што ў царкве трэба стаяць ціха, і працягваў уздыхаць ад сумоты, пераступаючы з нагі на нагу.

Да хроснай падышла нейкая цётка і нешта спытала. Хросная ледзь кіўнула галавой і адышла ў бок. Цётка пастаяла і накіравалася да маці, а Багдан з цікавасцю асцярожна наблізіўся да іх, каб лепш было чуваць, пра што яны гавораць.

— Вы свечкі браць будзеце?

— Не, дзякуй. Мы яшчэ заўтра зойдзем, паставім.

— А?..

— Не, дзякуй. Сёння не будзем.

— Не патрэбны вам свечкі?! — цётка так паглядзела на маці, што Багдану падалося, быццам мама зрабіла нешта кепскае і яе зараз аблаюць. Ён хуценька ўзяў маці за руку.

Праз некалькі хвілін цётка вярнулася і стала перад імі, нахіліўшыся да Багдана.

— На вось, трымай, калі яны не могуць табе купіць, — гучна і злосна сказала яна, працягнуўшы пагнутую чырвоную свечку. — Пайшлі, паставім Казанскай.

Багдану ісці не хацелася, але мама маўчала, і ён вырашыў, што свечку паставіць трэба, калі даюць. Тым больш, цётка так гучна гаварыла, што ён

пабаяўся, што яна ўсё-такі насварыцца на маці, калі ён не пойдзе з ёй. Цётка сагнулася і абхапіла Багдана за плечы. Яе валасы непрыемна казыталі шчокі, з рота агідна пахла. Праз некалькі крокаў Багдана асцярожна пацягнулі назад. Азірнуўшыся, ён з палёгкай уздыхнуў, убачыўшы маці.

— Не трэба, дзякуй...

Але цётка ўхапілася за Багдана яшчэ мацней і загаварыла яшчэ грамчэй:

— Не чапай дзіця! Як сябе паводзіш у царкве! Ганьба!

— Гэта вы адніміце рукі ад майго дзіцяці, — маці цяпер гаварыла жорстка і таксама громка.

— Ды ты што кажаш?!

— Адніміце рукі ад майго дзіцяці! Ён чужога браць не будзе і нікуды з вамі не пойдзе!

Разгубленага Багдана цягнулі ў розныя бакі, свечка выпала, і свабоднай рукой ён ухапіўся за маму, баючыся, што яна адна без яго дапамогі з цёткай не справіцца. Мама згрэбла яго ў ахапак, падняла на рукі і, моцна прыцiснуўшы да сябе, развярнулася да выхаду. Цётка ж усё не супакойвалася, ішла ўслед за імі і амаль крычала:

— Свечку купіць не могуць! І не сорамна так у царкве сябе паводзіць! Прыклад які дзіцяці! Прыехалі тут!..

— Не трэба чапаць наша дзіця, ён прывучаны ў чужых людзей нічога не браць, — заступілася хросная.

— А ты хто такая? Як выхавалі!

— Мяне вельмі добра выхавалі, і вам дай бог так сваіх дзяцей выхаваць...

Што гаварылі далей, Багдан ужо не чуў, толькі спалохана глядзеў праз плячо маці, як цётка сварылася на хросную. Плячо маці смачна пахла, а шчака хлопчыка церлася аб яе мяккую шыю. «Як добра, што ў мяне і мама ёсць, і хросная мама. Разам яны, вядома ж, мацней за цётку!» — думаў ён, адчуваючы, як закалыхваюць любыя рукі...

Дзіцячыя ўспаміны зноў узнялі ўнутры нейкую трывогу. Апошнім часам ён усё часцей адчуваў яе. Здаралася, яна нават перарастала ў страх і спускалася да самага жывата. Чаму і адкуль яна з'явілася, Багдан не мог зразумець, і ад гэтага станавілася яшчэ больш непрыемна. Ад бацькоў ён пастаянна чуў пра пераходны ўзрост.

— Дзед, а я нешта маму не вельмі помню, калі зусім маленькі быў. Яна што, працавала шмат?

Дзед працягваў перабіраць грэчку, быццам і не чуў.

— Дзе-ед! Пра маму пытаюся, чаму не помню? — паўтарыў Багдан на самае вуха старому.

— Ды чую я. Вось збяры, што засталося, — дзед працягнуў бляшанку для круп, а астатняе згроб у каструлю.

Багдан млява ссыпаў неперабранае зерне ў бляшанку, чакаючы чарговую дзедаву гісторыю.

— Дык вось, як табе сказаць. Быццам ужо дарослы ты ў нас, вырас які, разумець павінен...

— Што разумець?

— Ды пра маці памятаць, — дрыжачыя рукі некалькі разоў безвынікова чыркнулі запалкамі аб карабок, але іскра не з'явілася.

— Дай я! — запалка лоўка слізнула па кардоне, успыхнула полымя, і ярка засвяцілася сіне-аранжавымі языкамі.

— Вось памочнік, кажу, вырас ты ўжо, дванаццаць гадоў!

— Трынаццаць, дзеда. Дванаццаць у тым годзе было, калі велік падарылі.

— Яно так, тым больш, трынаццаць ужо, зразумееш...

— Што зразумею?

— Ды пра маму. Яны, відаць, заматаліся зусім, сказаць табе забыліся.

— Ды хто яны? І што сказаць?! — Багдан пачынаў ужо злавацца на дзеда: той пастаянна забываў пра сутнасць таго, што гаварыў. Апошнім часам нават свае старыя гісторыі ён расказваў зблытана, збіваючыся з адной на другую, і Багдан сам нярэдка падказваў дзеду працяг сюжэта.

— Не твая яна.

— Хто? — Багдан так задумаўся пра дзеда і яго старасць, што забыўся, аб чым ішла гаворка.

— Мама твая... Яна не твая, разумееш?

— Ты што, дзед? Як гэта? — у горле зноў з'явілася тое дзіўнае адчуванне. «Напэўна, гэта ад суму, што дзед зусім стары і дурнее. Такія глупствы іншым разам кажа!» — Багдан пастараўся адагнаць непрыемныя думкі.

— Калі нарадзіўся ты, другая ў цябе маці была. Яна цябе нарадзіла, але не склалася потым у іх з бацькам. Вось другая мама цябе і гадавала.

Багдан замёр, ён не мог зразумець, што адчувае.

— Гэта як жа, дзед? — гаварыць ён не мог, нейкае дзіўнае адчуванне быццам сціснула горла і словы прагучалі амаль шэптам. — Як жа так выйшла? Ты блытаеш нешта!

— Як выйшла... Што пасварыліся? Але здараецца так, ты павінен ужо разумець. Любілі яны адно аднаго. Затым Жэнька ў іх з'явіўся. А потым выпіваць яна пачала. Непрыгожа гэта, жанчыне піць, разумееш? Мы тады яшчэ ўсе ў Кузаўцы жылі, вёсцы, значыць. А там жа не так, як тут, у Маскве, там усе ўсё бачаць, не схаваешся. Суседзі ж шэпчуцца, перагаворваюцца, бацьку потым усё, што чулі, даносяць. А Жэнька не разумее, маленькі яшчэ. Нібы пакінуты ён быў зусім.

— Хто ён? — словы дзеда гучалі, нібы з радыёпрыёмніка. Быццам нехта адтуль, са скрынкі, расказваў чарговую заблытаную гісторыю.

— Жэнька маленькі тады быў.

— Ды хто гэта?! — на імгненне Багдан падумаў, што дзед і сапраўды расказвае гісторыю пра чужога, далёкага хлопчыка і яго маці, якая п'е.

— Але ж ты яго не запомніў, напэўна. Брат твой — Жэня. Першынец у іх быў. Добры такі хлопчык, а вочы ўвесь час сумныя, — з такой маці.

— Брат? А як жа Лёша?

— Лёша, ён не твайго бацькі сын, гэта мамін сын, той, якая выгадавала цябе. Калі яна з бацькам тваім сышлася, гадоў дзевяць яму было, старэйшы за Жэню.

— Дык Лёша не мой брат?!

— Але не родны, а так брат — зводны. Разам жа раслі, у адных бацькоў. Калі Ксеня, гэта маці твая, якая нарадзіла цябе, зусім співацца пачала, бацька твой яе да бацюшкі павёз, да святых месцаў. Гэта ён яе так вылечыць хацеў. Ды ты не хмурся, вялікі ўжо, разумець павінен. Вось вярнуліся яны адтуль, а яна, значыць, зацяжарала. Гэта табой, значыць. І як яна тут уся перайначылася! Дапамаглі, відаць, у царкве. Піць кінула, ветлівая стала, акуратная, з Жэнькам цэлымі днямі валаводзілася, да школы яго рыхтавала. І ён радаваўся, што мама яго так змянілася, ажно ззяў увесь, калі з ёй па вуліцы ішоў.

— А што з ім сталася?

— З Жэнем? Нічога не стала, цьфу-цьфу, жывы-здаровы, дзякуй богу.

— А дзе ж ён?

— Дзе быў, там і ёсць. Ён жа з ёй застаўся, з Ксеняй.

— Як застаўся?! А як жа я? — у Багдана ўнутры нібы ўсё патанала, знікала. З кожным новым словам дзеда быццам адкрываўся іншы свет або, наадварот, рушыўся, такі любімы, зразумелы, звыклы. Перад вачыма ўзнікла карціна жанчыны з дзіцем, якія быццам з другога берага махаюць яму рукамі, але да сябе не клічуць. А ён праплывае міма. Ім так добра дваім, яны там разам... І яму раптам захацелася туды...

— А чаму я не з імі?!

— Дык ты ж і дагаварыць не даеш. Не з імі... З татам ты застаўся, а ён з ёй. Ты як нарадзіўся — свята якое для ўсіх было! Здаровы, моцны — яна ж увесь час, як была цяжарнай, не піла, не курыла, як цуд які. Вось цябе і вырашылі назваць, маўляў, Богам ты пасланы ім быў, разумееш? Богам дадзены. А потым зноў пачала піць, ды толькі горш, чым раней. Вас з Жэнькам кіне і пойдзе. А ён з табой на руках да мяне прыбягаў. Маша мая злегла тады, бабуля ваша, я і не выходзіў амаль з дому, яе глядзеў. Вось прывалачэ цябе Жэнька, а сам плача, за маці перажывае. Я накармлю вас, цябе пакладу, а яго ў магазін пашлю або на пошту, прынесці што. Памочнікам ён мне быў на той час. Вось па хлеб, памятаецца, пашлю, а ён гадзіны на дзве пойдзе. Прыбягае ўвесь захаканы, сандалі пыльныя. І я, значыць, разумею, што гэта ён зноў бегаў маці шукаць па ўсёй вёсцы. А мне казаць не хоча, сорамна яму за маці. Вось так і жылі... Пакуль яна на тры дні не знікла. Яе потым участковы прывёз на сваёй машыне, каб людзі не бачылі сораму. Яна брудная ўся, без абутку, у чужых лахманах, п'яная. Вось тады твой бацька і не вытрымаў. Пайшоў на наступны дзень падаваць на развод. А самому цяжка, столькі гадоў разам, усё шкадаваў яе...

Дзед застыў, гледзячы некуды паверх Багдана... А ў хлопца ў галаве быццам з'явілася частка мазаікі, якой не хапала. Яму здавалася, што ён пачаў успамінаць тыя эпізоды, пра якія гаварыў дзед, — фрагментамі, успышкамі... Сінія з чырвоным сандалі з адарванымі раменьчыкамі, збітыя каленкі, светлыя кучаравыя валасы. Але ўсё гэта быццам з боку, нібы не яго. «Напэўна, гэта быў Жэнька! Напэўна, я яго памятаю!»

— А сандалі ў яго, яны якія былі?

У вачах дзеда застылі слёзы, а галава манатонна пагойдвалася.

— Што ты кажаш? — ён дастаў, па старой звычцы, адпрасаваную насовачку і прыклаў да вачэй. — Захварэю я... Вочы заслязіліся зусім.

— Сандалі ў Жэні сінія з чырвоным былі? Яшчэ з раменьчыкамі адарванымі?!

— Сандалі? — дзед ніяк не мог успомніць, думаючы аб сваім. — У Жэні? Ды адкуль жа я  памятаю, якія яны былі...

— Шкада, — Багдану падалося, што вельмі важна даведацца пра сандалі, што ад іх шмат залежыць.

— Хаця, напэўна, парваныя былі. Ксеня ж зусім за вамі не глядзела. Так і хадзіў ён, у чым давядзецца, пакуль бацька не заўважыць. Нялёгка тады ўсім было.

На кухні зноў павісла пустая цішыня. Вада закіпала, але хлапчук і дзед быццам і не чулі, як пастуквае алюмініевая накрыўка.

— Маша мая памірала. А бацька твой мне так і кажа: «Мне, тата, ад сораму ў вёсцы не схавацца. Толькі мама і трымае, не магу вас тут адных пакінуць». — Дзед памаўчаў некалькі хвілін. — А потым памерла бабуля ваша. Як сорак дзён адзначылі, так ён і надумаў пераязджаць. А Ксеня пакрысе

пачала разумець, што ён хоча забраць у яе дзяцей, вас з Жэнькам. І давай яна тады Жэньку жалобіць. Усё плакалася яму, як яна адна загіне, як не справіцца з горам. А ён усё суцяшаў яе. Узяў ды сказаў ёй: «Я цябе, мамачка, ні за што не пакіну! Я табе абяцаю!» — гэта ён мне ў той вечар расказаў, што маці паабяцаў. А сам плача: і маці яму шкада, і з бацькам быць хоча.

— Значыць, ён усё ж маму выбраў? А як жа я? А мяне — мяне не спыталі? — Багдан не разумеў, што з ім робіцца. Яму хацелася то расплакацца і схавацца ў кут, то закрычаць моцна-моцна, разбіць усё, а то ўцячы далёка, каб ніхто не знайшоў.

— Табе два гады было, малеча зусім! А як бацька ўсё ўладкаваў, вырашыў пераязджаць з вамі. А Жэнька — ні ў якую: плакаў, крычаў, з дому да самай ночы знікаў. Вось і не вытрымаў бацька. Вырашыў даць яму час: хай, маўляў, супакоіцца. Думаў, будзе наведваць яго, можа, сам і папросіцца. А цябе ён Ксені не пакінуў. Баяўся, што не дагледзіць. Вось і вырашылі мы з ім: удвух ужо неяк справімся. І пераехаў ён у Маскву. Спачатку да нас Насця часта прыязджала, хросная твая. Яна ж стрыечная сястра твайму бацьку. Баялася за нас: як мы, два мужыкі, з дзіцем справімся. Прыедзе, бывала, на выхадныя, і ўвесь дзень ад цябе не адыходзіць. Цацак навязе, у парк зводзіць — песціла, адным словам. І ўсё татку твайго даводзіла, маўляў, без маці хлопчыку нельга расці.

— А мама, мама прыязджала да нас?

— Ды не! Ён ні адраса ёй не даў, ні тэлефона. Баяўся вельмі. Ты спачатку ўсё плакаў, шукаў яе. А калі ты жыў з ёй, яна амаль і не бачыла цябе: піла ды гуляла. А ты сумаваў па роднай душы. Вось бацька і баяўся, што ўбачыш маці — зусім цяжка стане. Дык ён больш цябе да яе і не вазіў.

— Ніколі?

— Атрымліваецца, ніколі. Ды і ён потым усё радзей і радзей у вёску выбіраўся. Спачатку Жэньку хацеў забраць, баяўся за яго. Але ён заўпарціўся, маму вырашыў аберагаць. На тым і супакоіўся: Жэнька з ёй, а ты з бацькам. Ён яго раз у месяц наведваў, цацкі вазіў, вопратку. А як падрос — і грошай падкіне. Жэнька ўжо ў арміі адслужыў. Бацька мне яго фотаздымкі паказваў. Ганарыцца...

— Яны і зараз сустракаюцца?

— Канешне, чаго ж ім не сустракацца — сын усё-такі.

Дзед не стаў распісваць унуку, як яго бацька шукаў сабе новую жонку, як пакутаваў, запрашаючы ў дом то адну, то другую. Дзеду ні адна не падабалася: усе яны, калі бачылі Багдана, быццам расчароўваліся... Не хацелася ім чужога дзіцяці. Зразумела, навошта ім у прыдачу да мужыка няроднае малое. А потым з'явілася Вера. Дзеду яна адразу спадабалася: больш дарослая, чым папярэднія, сур'ёзная, памяркоўная. І, галоўнае, вочы ў яе добрыя, задумлівыя. Калі ў дом прыйшла — быццам заўсёды з імі жыла. І з Багданам так лоўка спраўлялася. І Насці яна спадабалася, сяброўкамі сталі. Насця дзеда падштурхоўвала паўздзейнічаць на сына: маўляў, чым не пара, жаніўся б. А сын усё не мог рашыцца, адмоўчваўся. Аднойчы прыехаў, мабыць, пасля сустрэчы з Верай, усхваляваны:

— Тата, размова ў мяне да цябе. Парады тваёй спытаць хачу. Хачу з Верай ажаніцца.

— І слава Богу! Навошта цягнуць. Добрая яна, і Багдану з ёй добра.

— Пачакай, тут праблема ёсць.

— Зараз навыдумляеш... Што там у вас?

— Дзіця ў яе. Ужо вялікае, дзевяць гадоў.

— А дзе яно?

— З ёй жыве. Сёння знаёміцца ездзіў, Аляксеем завуць, добры, быццам, хлапчук.

— А ў чым тады ж праблема?

— Ты думаеш, не страшна? — вочы сына засвяціліся. — Я за Багдана перажываю, як яму будзе?

— Кінь ты, малы ён яшчэ. Прывыкне, як да роднага, і не ўспомніць потым.

Паступова Багдан і праўда прывык. Спачатку падоўгу маўчаў, усё да нечага прыслухоўваўся. Але і гэта паступова прайшло. Першыя месяцы дзед часта забіраў Багдана на выхадныя да сябе, стараўся даць адпачыць сыну з нявесткай. Але паступова Вера пачала ўсё больш прыхільна ставіцца да малога і настойліва прасіла не разлучаць дзяцей: разам і ў парк, і ў лес, і на мора. І жыццё пацякло спакойна. Упершыню пасля смерці Машы дзеду здалося, што ўсё наладжваецца. Бывалі і спрэчкі. Ды ў каго іх няма. Але так прывыклі адно да аднаго, што ўсё ішло, нібы так і павінна быць.

Дзед паглядзеў на разгубленага ўнука. Шкада яго стала, быццам і вялікі ўжо. Зашыўся ў кут, як верабейчык ускудлачаны.

— Як жа так, дзеда?

— Вось так ужо атрымалася...

— Яны ж павінны былі мне расказаць! Абавязаны былі! Як жа гэта яны?!

— Ды не хацелі, каб перажываў. Хацелі як лепш...

Каму лепш? Яны ж ведалі! Гэта ж... Гэта ж атрымліваецца, усе ведалі? Усе вы ведалі?! — Багдана працяў боль ад такой здрады блізкіх.

— Мы ж за цябе баяліся. Баяліся, што не зразумееш, дзівак-чалавек.

— І хросная, значыць, Насця таксама ведала? — ён ужо не чуў дзеда, а толькі перабіраў у памяці ўсіх родных і сяброў сям'і, спрабуючы разабрацца, хто з іх таксама ведаў, але маўчаў.

У дзверы пазванілі. Два кароткія, адзін доўгі. «Гэта яна! — мільганула ў галаве Багдана. — Яна заўсёды так звоніць, каб дзверы чужым не адчыняў!»

— Адчыніш? — дзед дапытліва паглядзеў на ўнука, засяроджанага на сваіх думках і, крэкчучы, пайшоў адчыняць сам.

«Гэта ўсё не праўда!» — раптам успыхнула думка. Зараз яна ўвойдзе, яго мама, і ўсё гэта акажацца дурнотнай гісторыяй старога дзеда. Яна паглядзіць на яго, і ўсё адразу стане ясна.

— Прывітанне, Вера!

— Вы чаму так доўга не адчыняеце? Я падумала ўжо: ці не здарылася што. А ты чаго такі пануры? Падлеткавы бунт на караблі? — маці ласкава ўсміхнулася Багдану.

— Ты... ты чаму мне не сказала? — ён хацеў, каб пытанне гучала цвёрда, па-дарослаому, каб яна не змагла падмануць. Але голас дрыжаў і гучаў піскліва, як у дзяўчынкі.

— Што не сказала, родны мой? — яна пяшчотна глядзела на яго, спрабуючы адной рукой расшпіліць басаножку. — Ногі зусім ацяклі: восень на дварэ, а спякота якая.

— Ніякі я табе не родны! — здаўлена прахрыпеў Багдан.

Усё ўнутры напружылася, як спружына. «Скажы, што ўсё гэта не так! Ну!.. Хутчэй скажы, што дзед зусім з глузду з'ехаў! Ну чаго ж ты!» — думкі праносіліся ў галаве, пакуль яна ўздымала пагляд ад непаслухмянага раменьчыка.

— Што ты маеш... — яе вочы сустрэліся з вачамі Багдана, пагляд пачаў паступова напружвацца, быццам спрабуючы нешта разгледзець.

Яна рэзка павярнулася да дзеда, і на яе твары застыў выраз страху. Дзед разгублена адвёў вочы, пачухваючы патыліцу. Мама зноў паглядзела на Багдана і замерла... Усе яго надзеі разбіліся. Усё было праўдай, дзед не маніў. Ён усё прачытаў па яе твары.

Вера асцярожна сцягнула басаножкі, зачыніла дзверы і пайшла на кухню, села насупраць Багдана. Дзед выключыў святло ў калідоры і паволі паплёўся за ёй.

— Ты цяпер усё ведаеш, так?

Багдан глядзеў на яе, не адчуваючы ўнутры ні цеплыні, ні пяшчоты. Яе валасы прыліплі да лба і шчок, пад носам выступілі кропелькі поту, на скуры з’явіліся чырвоныя плямы. Яна цяжка дыхала, ад яе пахла пыльнай вуліцай. Яе рукі, абсыпаныя вяснушкамі, нервова пацiралі край стала. Багдан спыніў пагляд на пальцах у мазалях і задзірынках каля каратка пастрыжаных пазногцяў — сляды ад мыцця бялізны.

— Нам трэба ўсім пагаварыць.

Пагляды іх зноў сустрэліся, і яна паспешна адвяла свой убок, на пліту, па якой расцякалася яшчэ не згуслая каша. Ён убачыў, як шмат зморшчын вакол яе крышачку падфарбаваных вачэй. Зморшчынкі разбягаліся праменьчыкамі ад носа да скроняў і ўніз да шчок. Яны беглі па ўсім твары, ледзь заўважанай павуцінкай, акрэсліваючы яе лоб, шчокі, падбародак. Ён глядзеў на яе бледныя тонкія вусны, яны нешта вымаўлялі, на маршчынкі вакол іх. Ён зноў вывучаў гэты чужы твар.

***Пераклад з рускай Максіма ПЯТРОВА.***



**Фрыдрых НІЦШЭ**
**(1844—1900)**

# З «ПЕСЕНЬ ПРЫНЦА ФОГЭЛЬФРАЯ»

*(дадатак да кнігі «Вясёлая навука»)*

## ДА ГЁТЭ

Тое, што вечнае,
ты ўсё прымарыў!
Бог Небяспечнага
нарыфмахлярыў…

Свет-Кола носіцца,
новы штодня:
Клопаты — злоснаму,
дурню — Гульня...

Свет-Гулька змешвае
яву і сон:
Вечна-пацешнае
цягне ў палон!

## ПРЫЗВАННЕ ПАЭТЫ

Быў галодны я нядаўна
І ў цяньку пад’есці сеў,
Нешта цікае так плаўна,
У памер і такт, як спеў.
Я на спеў скрывіўся гэты, —
Ды нарэшце злагаднеў,
Не падобны да паэты,

Нібы ў нейкім дзіўным танцы
Заскакаў за складам склад,
Ажно мусіў я смяяцца
Чвэрць гадзіны акурат.
Ты паэта? Ты паэта?
Ці ты не здурэў падчас?

— «Так, спадару, Вы — паэта», —
Дзяцел зверху мне ў адказ.

Я ў хмызы, бы звер, забіўся,
Каб ахвяру ўпільнаваць.
Новы вобраз дзе з’явіўся —
Рыфмай спрытна асядлаць.
Поўзае ці скача гэта —
Прышпілю да верша ўраз.
— «Так, спадару, Вы — паэта», —
Дзяцел зверху мне ў адказ.

Мае рыфмы, нібы стрэлы,
Б’юць дакладна, далібог!
Нават яшчарцы — у цела —
Я пацэліць імі змог.
Як дрыжыць нябога гэта
Ў свой перадсмяротны час!
— «Так, спадару, Вы — паэта», —
Дзяцел зверху мне ў адказ.

Мітуслівыя прыпеўкі,
Слоўцы коўзкія я ўзяў
І радкамі неўспадзеўкі
Ў ланцужок цік-так звязаў.
Слоўцаў жорсткая вендэта
На мяне за сказам сказ.
— «Так, спадару, Вы — паэта», —
Дзяцел зверху мне ў адказ.

Ах ты здзеквацца, мярзотнік?!
У мяне штось з галавой,
Ды з душой было гаротней?
Бойся лютасці маёй! —
Хоць быў злы я на ўсё гэта —
Рыфмы плёў сярод абраз.
— «Так, спадару, Вы — паэта», —
Дзяцел зверху мне ў адказ.

## НА ПОЎДНІ

Вось на галінцы крываватай,
павіс я й стому стаў гайдаць.
Гняздо мне стала роднай хатай,
братамі сталі птушаняты.
Дзе ж я? Нялёгка адшукаць!

Бялее мора ў сне глыбокім,
і ветрык ветразь не кране.
Уцёс і вежа, порт і смоквы,
авечкі і спакой навокал, —
Цнатлівы Край, прымі мяне!

Ды я свой век правесці ў маршы
з муштрой нямецкай не схацеў
і, ветру ўзняцца загадаўшы
ды з птушкамі палёт пачаўшы, —
паўз мора ў вырай паляцеў.

Здаровы сэнс? Занятак прыкры,
да мэты йсці хутчэй хаця!
Адчуў за спінаю я крылы, —
і, для гульні знайшоўшы сілы,
лячу да новага жыцця...

Сам-насам думаць — вельмі слушна,
але ж адзін я не пяю!
Вакол мяне сядайце, птушкі!
Пакіньце вашыя дрындушкі
і песню слухайце маю!

На дзіва штучныя казяўкі,
ад кожнай справы ды забаўкі,
ад усяго зазналі плён?
На Поўначы — скажу з ваганнем —
да Ісціны я меў каханне,
старой, страшэннай, як дракон...

## ПАБОЖНАЯ БЭПА

Пакуль тугія грудзі,
пабожнай варта быць.
Такія толькі людзі
ў Хрысце патрапяць жыць.

Прабачыць Бог манаху,
якому кроў кіпіць,
што гэткага даў маху —
са мною хоча быць.

Не дзед айцец вялебны!
П’яненькі часцяком,
у бок адклаўшы трэбнік,

шасць да мяне цішком.
Я не люблю дзядуляў,
а ён бабуль — не змог:
нікому не намуляў,
зрабіўшы гэтак, Бог!

З царквою я сябрую,
бо мне той грэх малы
яна заўжды даруе, —
закон яе не злы!
Раты малітву ладзяць,
лабы паклон кладуць,
чарговы грэх адвадзяць —
і новыя ідуць.

Будзь ухвалёны, Божа,
што любіш нас і сам,
і тое, што прыгожа,
заўжды даруеш нам.
Пакуль тугія грудзі,
пабожнай варта быць.
як буду страхалюддзе,
пайду да чорта жыць!

## ТАЯМНІЧЫ ЧОВЕН

Уначы паснула ўсё,
толькі вецер скрушна-скрушна
распачаў сваё выццё.
Не прынеслі сну падушка
і сумленнае жыццё, —
мне было занадта душна.

Сон прыходзіць не жадаў.
Я пабег на бераг мора.
Цьмяна ў небе месяц ззяў, —
на пяску, пазбыўшы гора,
чалавек у чоўне спаў: —
двух сяброў зваліла змора.

Мо гадзіну ўсё было,
мо цягнулася гадамі? —
І пачуцці й думкі самі
ўпалі ў бездань, дзе святло
не з'яўлялася вякамі: —
ды ўсё раптам адышло!

— Вось і ранак: сярод мора
човен стаў і спіць ізноў…
Што тут адбылося ўчора?
Крык пачуў я. Што за кроў? —
— Усё добра! Проста гора
Мы пазбылі паміж сноў!

## ПРЫЗНАННЕ Ў ЛЮБОВІ

*(пры якім, на жаль, паэта ўпаў у яміну)*

Як можа ён ляцець?!
Усё вышэй, крылом не варухне!
Я не магу даўмець
куды ён апантана так імкне?

Бы зорка ў вышыні,
далёкі ад будзённага жыцця,
заззяў між мітусні
людской — нябёсаў гожае дзіця!

О птушка альбатрос!
Настаўнік мне ў жыццёвай барацьбе.
Я ўвесь прамок ад слёз —
ах, дружа, як жа я люблю цябе!

## ГЭТЫМ НЕНАДЗЕЙНЫМ ДУШАМ…

Гэтым ненадзейным душам
я бы ў горле косць.
Ад пашанаў іхных — скрушна,
ад пахвал няшчырых — толькі млосць.

Што да іх не сеў я ў лодку,
плыць асобна стаў,
ядам пoглядаў салодкіх
кожны з зайздрасцю мяне вітаў.

Дык аблайце мяне смела
і далоў шпарчэй!
Каб мне не блукаць век цэлы
пасярод зусім пустых вачэй.

## RIMUS REMEDIUM[1] АЛЬБО: ЯК СУЦЯШАЮЦЦА ХВОРЫЯ ПАЭТЫ

Зыходзіць слінай,
павольна-вольна час-чараўнік,
гадзіну за гадзінай.
Я ад агіды ўвесь панік.
Праклёнам вечнасці мой крык!

Свет — гэта медзь:
нагрэты бык[2], што крыкі чуць
не здатны. Боль у касцях шалець
стаў і цягнуць:
«Нашто шумець?
Без сэрца свет, што губы дзьмуць?!»

Пралі ўсе макі!
Яд, ліхаманка, лі ў мазгі!
Я ад цябе зусім благі.
Якое хочаш ты падзякі?
Лепш рэж кругі,
як ад сабакі!

Не! Не знікай!
Знадворку дождж ідзе халодны —
я да цябе не быў лагодны?
Вазьмі! Тут золата — трымай! —
Ты — шчасце? Хай!
З усім я згодны.

Ды дзверы — бах!
Тушыць святло віхура стала!
А дождж імжыць мне па руках!
Сто бед! — Сто рыфмаў (хай нямала)
я ўжыў удала,
і смерці — крах!

## НА ШЧАСЦЕ МНЕ!

Я зноўку галубоў Сан-Марка[3] бачу:
спакойны пляц, дзе ранак лёг паспаць.
Пустыя песні ў неба я наўдачу,
нібыта галубоў, пачаў пускаць —
хвіліны не міне,
зноў прылятуць, я рыфмы ім значу

— на шчасце мне!
Ты, вежа, узнялася пераможна,
ільвіцаю застыўшы на бягу!
Пляц заглушаеш — па-французску можна
было б цябе назваць accent aigu[4]?
Ніколі не міне
любоў мая, прыгожая бязбожна
— на шчасце мне!

Прэч, музыка! Дай напачатку ценям
заліць усё начною цеплынёй!
Зашумна, залатым упрыгажэнням
яшчэ блішчэць не паміж руж красой,
яшчэ шмат дзён міне,
адданых вершам, жартам, летуценням
— на шчасце мне!

Прэч, музыка! Дай напачатку ценям
заліць усё начною цеплынёй!
Зашумна, залатым упрыгажэнням
яшчэ блішчэць не паміж руж красой,
яшчэ шмат дзён міне,
адданых вершам, жартам, летуценням
— на шчасце мне!

## ДА НОВЫХ МОРАЎ

Я хачу туды, дзе трудна —
выбар мой заўжды са мной!
І нясе ў сінечу судна
генуэзскі ветразь мой.

Мне ўсё ззяе хуткабежна;
час, прастора, поўдзень спіць —
ды бясконцасці драпежна
вока на мяне глядзіць!

## СІЛЬС-МАРЫЯ[5]

Тут я сядзеў, чакаў чаго ці не? —
не думаў пра дабро ды зло, мяне
гульнёю цешылі святло ды цень,
жыццё без мэты, возера ды дзень.

Сяброўка, тут падвойвацца я стаў —
і ў госці Заратуштра завітаў…

## МІСТРАЛЮ[6]

*(Танцавальная песня)*

Хмараў кат, журбы знішчальнік,
неба шумны ачышчальнік,
мне, містралю, любы ты!
Мы з табой аднога роду
лёс адную нагароду
даў нам — вечныя браты…

Вось праз горныя дарогі
да цябе нясу я ногі
і не чую ўжо зямлі:
ты імчыш марскія воды,
як свабодны брат свабоды
абганяеш караблі.

Чуў твой крык я, як прачнуўся
і да ўступаў скал памкнуўся,
мора жоўтае сцяны.
Дыяментаў россып светлы,
пралятаеш ты ў паветры
смелым подыхам вясны.

Бачыў я — праз шлях нябесны
твае коні спрытна неслі
найхутчэйшы ў свеце воз,
ты маланкаваю пугай
спіны коней выгнуў дугай —
шмат удараў ім нанёс.

Бачыў я — ты з воза скокаў,
апускаўся, без аблокаў
пакідаўшы небасхіл,
уздымаўся зноўку, дужы, —
промнем залатым праз ружы
золак ранішні спаліў.

Там, дзе спіны, нібы хвалі,
мы з табою танчыць сталі —
творца танцаў, будзь здароў!
І няма за нашы штукі
весялейшае навукі,
як у вольных двух майстроў!

Квецень мы ад кожнай кветкі
забяром за танец гэткі
і два лісцікі ў вянок!
Танчым, нібы трубадуры,

паміж святасцю і юрам,
Богам і сспляценнем ног!

А не танчыць хто з вятрамі,
абматаны ўвесь бінтамі,
недалужны інвалід,
хто заўжды ў лякарні душнай,
дурань важны, крывадушны,
з раю нашага валі!

Вулічным віруем пылам
усім хворым проста ў рыла,
уцякайце прэч хутчэй!
Узбярэжжа вызваляем
ад грудзей мы хударлявых
і спалоханых вачэй!

Палявацьмем мы на цемру,
хмарных фабрыкантаў хеўру,
свету вораг нам не друг!
І Нябеснае нам Царства,
дзе святла ды шторму брацтва,
усіх вольных духаў Дух!

Як жа я табе аддзячу?
Напамінкам аб удачы
мой вянок вазьмі ды лезь
ты па лесвіцы нябеснай!
І на самым версе з песняй
сярод зор яго павесь!

***Пераклад з нямецкай Андрэя КАСЦЮКЕВІЧА.***

## Заўвагі перакладчыка:

[1] Лячэбная рыфма (*лац.*).

[2] Легендарны тыран Фалярыс (паводле іншых крыніц, Фалярыд) уладарыў у сіцылійскім горадзе Агрыгенце ў 570—554 гг. да Н. Х. і ўславіўся сваёю неверагоднаю жорсткасцю. Асуджаных на смерць Фалярыс змяшчаў у медным быку, якога пасля награвалі, пакуль бык не пачынаў «мычэць».

[3] Цэнтральны пляц Венецыі.

[4] Дыякрытычны знак французскай мовы (дазваляе чытаць гук э напрыканцы слова — é).

[5] Вёсачка ў Швейцарыі, дзе Ніцшэ задумаў ды пачаў пісаць «Так казаў Заратуштра».

[6] Містраль — паўночны ці паўночна-заходні халодны вецер, які дзьме ўвесну з гор Паўднёвай Францыі на Міжземнаморскае ўзбярэжжа.

**Немат КЕЛІМБЕТАЎ**

# ЗАЙЗДРАСЦЬ*

*Трынаццаць дыялогаў*

***Немат Келімбетаў*** *нарадзіўся 4 красавіка 1937 года. У 1959 годзе скончыў Ташкенцкі фінансава-эканамічны інстытут, у 1966 годзе — Казахскі дзяржаўны ўніверсітэт імя С. М. Кірава. Вучоны-цюрколаг, пісьменнік, перакладчык, доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік Акадэміі гуманітарных навук Рэспублікі Казахстан, заслужаны дзеяч Казахстана.*

*Працоўную дзейнасць пачаў карэспандэнтам, літсупрацоўнікам шэрагу газет. Затым — малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі АН Казахстана (1962—1965), супрацоўнік газеты «Социалистик Казахстан» (1965—1970), рэферэнт кіраўніцтва справамі Саўміна КазССР — адказны сакратар камісіі па прысуджэнні Дзяржаўных прэмій Казахскай ССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры (1970—1973), рэдактар выдавецтва «Казахстан» (1976—1979), выкладчык, дацэнт, прафесар кафедры казахскай літаратуры АДУ (1981—1998), прафесар Алмацінскага інстытута міжнароднай журналістыкі (1995—1996). З 1998 г. — прафесар кафедры казахскай мовы КазДТУ.*

*Член Саюза пісьменнікаў СССР і Казахстана.*

*Узнагароджаны Ганаровай граматай Рэспублікі Казахстан, лаўрэат прэміі імя Кюль-Цегіна, лаўрэат Міжнароднай прэміі імя Франца Кафкі ў галіне літаратуры за 2010 год.*

*У розныя гады пабачылі свет яго фундаментальныя працы «Старажытнацюркская паэзія і пераемнасць традыцый у казахскай літаратуры», «Вытокі казахскай літаратуры», «Пераемнасць мастацкіх традыцый», «Літаратура старажытнага свету» і г. д. Ён з'яўляецца аўтарам шэрагу падручнікаў і навучальных дапаможнікаў для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў па праграме старажытнага перыяду казахскай літаратуры.*

*Яго аповесць-маналог «Не хачу губляць надзею», эсэ «Лісты да сына» і іншыя кнігі сталі папулярнымі не толькі на радзіме. Многія з іх перакладзены на розныя мовы народаў свету, высока ацэнены ў асяроддзі інтэлектуальнай эліты.*

*Мастацкая спадчына Немата Келімбетава ўключае ў сябе і нямала перакладаў. У іх ліку — «Наш мілы Шушыкент» армянскага пісьменніка Леаніда Гурунца, раманы ўзбекскіх пісьменнікаў — «Зорныя ночы» Прымкула Кадырава і «Далягляды» Саіда Ахмада, «Маланка» ўкраінскага пісьменніка Васіля Казачэнкі.*

*Амаль сорак гадоў жыцця ён правёў спярша нерухома ў ложку, затым — у інваліднай калясцы. Але ніколі не скардзіўся на лёс, не губляў надзеі, заставаўся аптымістам з вялікай літары. Болей таго, сваёй каласальнай працай дамогся вялікіх вышынь і ў навуцы, і ў літаратуры.*

---

* У хуткім часе «Выдавецкі дом «Звязда» выпусціць у свет кнігу Немата Келімбетава «Зайздрасць (трынаццаць дыялогаў)». Часопіс «Полымя» прапануе чытачам пазнаёміцца з урыўкам — першым дыялогам.

## 1

## «Калі не хочаш пакутаваць, не будзь зайздросным»

«Калі не хочаш пакутаваць, не будзь зайздросным» — з гэтых слоў Унсуры аль-Маалі, мудраца, які жыў у старадаўнія часіны, я пачаў гутарку з маім старым сябрам.

*— Можа быць, і гаварыў. Аднак, хаця з таго дня, як былі вымаўлены гэтыя павучальныя словы, прайшло нямала стагоддзяў, а ўсё ж зайздрасці, нянавісці, злосці, зласлівасці не паменшала ў свеце,* — адказаў мой сябра.

І размова пра зайздрасць, распачатая за абедам, распалілася з новай сілай.

— Правільна гаворыш! Зайздрасць, якую ў народзе яшчэ называюць «чырвонымі вачыма», заразная. Быццам полымя, якое спярша ціха цепліцца і затым распальваецца ў ветраны дзень, расцілаецца наўкола. Часіны, быццам палепшыліся, народ стаў жыць багацей, але многім гэта, як не дзіўна, дадало дыскамфорту — яны не толькі працягваюць зайздросціць адно аднаму, але пачынаюць ужо ненавідзець бліжняга. А ты як думаеш?

*— Зайздроснікі падобныя жанчынам, якія неўзлюбілі адна другую. Але жаночую непрыязь яшчэ можна зразумець. Скажам так: мужчын менш, чым жанчын, і бываюць выпадкі, калі адзін мужчына падабаецца некальким жанчынам і яны не могуць яго падзяліць. Але чаго не хапае тым мужчынам, якія зайздросцяць амаль усім вакол?*

— Так, зайздросным душам даводзіцца цяжка. Ім заўсёды чаго-небудзь ды не хапае. Няма чалавека, якому б яны не зайздросцілі.

*— Зайздроснага можна назваць сквапным да чужога, раўнівым да чужых дасягненняў?*

— Не. Паміж зайздроснікам і раўніўцам адрозненні, як паміж зямлёю і небам. Зайздроснік зайздросціць нават тым, у каго ёсць тое ж самае, што і ў яго самога. Раўнівец жа толькі заўзята ахоўвае сваю здабычу. У гэтым і розніца паміж імі. Усе мы ходзім па гэтай чорнай зямлі, усе мы грэшнікі. І раўнівага чалавека зразумець не так ужо і цяжка. А для зайздроснага тое, што маецца ў руках у іншага, падаецца амаль сваім, як быццам аднятым у яго.

*— Як гэта можа быць? Ён што, зайздросціць таму, што ў іншага ў прыватным валоданні ўвогуле нешта маецца? Не магу гэтага зразумець.*

— Што тут такога незразумелага? Да прыкладу, ты купіў «мерседес» самай апошняй мадэлі. А ў твайго суседа-зайздросніка такога няма. Дык вось, з таго дня, як ты купіў гэты аўтамабіль, твой сусед-зайздроснік перастае днём смяяцца, а ноччу — спаць.

*— Чаму? Калі дазволяць сродкі, і мой сусед можа купіць такі ж самы аўтамабіль.*

— Ты мяне зноў не зразумеў. Твайму суседу-зайздросніку такая машына насамрэч і не патрэбна зусім. Ён нават і не марыў набыць «мерседес», не планаваў гэтага.

*— Тады чаму зайздросціць?*

— У гэтым і заключаецца тайна зайздрасці. У гэтым яе сутнасць і сэнс.

*— Што ж гэта за тайна?*

— Я толькі што казаў табе: зайздроснік зайздросціць таму, чаго ў яго няма, затое ёсць у іншых.

*— Так, ты гэтак і сказаў.*

— Дык вось, мы зараз падышлі да таго, пра што ў народзе кажуць:

«Сутнасць дзевяноста слоў у адной маленькай костачцы». Твой сусед марыць пра тое, каб у цябе, таксама, як і ў іншых, гэтага аўтамабіля, «скакуна», не было. «Няхай не будзе!» — дзень і ноч пасылае ён малітвы Богу. І каб так і здарылася, ён прадпрымае ўсё, што ў яго сілах. І на гэтым шляху не перад чым не спыніцца, нічога не баіцца. Калі трэба, сабой ахвяруе дзеля гэтага... Ты зразумеў зараз? Зайздрасць бывае і такой.

*— І што, чалавек зайздросціць усім іншым, кожнаму, каго сустрэне, і ўсім жадае зла?*

— Не. Не кожнаму, каго сустрэне, а толькі тым, чые магчымасці, дабрабыт, служба-работа куды вышэйшыя, чым у яго самога.

*— І чаму менавіта ён зайздросціць?*

— Усяму, чаго ў яго самога няма. Аўтамабілю, дому, прыгажуні жонцы, разумным дзецям, працы, за якую шмат плацяць, годнаму службоваму становішчу, нават моцнаму здароўю і добраму колеру твару, пародзістаму сабаку — усяму-ўсяму зайздросціць. Не можа гэтага трываць і бачыць.

*— Божа мой, дык гэта ж ненажэрны монстр! Які зайздросціць усяму, што толькі здольны ўбачыць ягоныя вочы...*

— Так. Зайздрасць шматгаловая...

*— А ці можа яна нашкодзіць грамадству, дзяржаве?*

— Яшчэ як! У тым і ўся справа, праблема. Увесь сакрэт...

*— А я ж думаў, што зайздрасць — толькі тое, што можа быць прадметам сваркі паміж дзвюма асобамі, супярэчнасці паміж суседзямі ці суседкамі...*

— Ды не. Зайздрасць — не сварка-бойка паміж дзвюма асобамі.

*— І якая менавіта шкода можа быць грамадству ад зайздрасці, хіба яна можа яму нашкодзіць?*

— Можа! Дык жа ты і сам пра гэта ведаеш. Яшчэ ў незабыўныя, старажытныя эпохі ў грамадстве ўжо былі багатыя і тыя, хто нічога не меў, бедныя. Як і сёння.

Дык вось, з таго часу бедныя думалі: «Чаму гэта я — не багаты? Што я павінен зрабіць, каб стаць багатым і заможным?» Больш за тое, шукалі канкрэтныя і практычныя адказы на канкрэтныя пытанні. І ў рэшце рэшт знайшлі! Грамадству прапанавана было «зноў падзяліць пароўну» (матэрыялістычная ідэя) усю маёмасць, каб кожнаму засталося гэтулькі ж, колькі і іншаму. Супярэчнасці паміж беднымі і багатымі, народжаныя зайздрасцю і незадавальненнем, і выключна матэрыялістычная ідэя (адмаўленне рэлігіі, веры ў Бога, агульначалавечых нормаў, гонару, сумлення) прывялі да таго, што ў XX стагоддзі распачаліся самыя значныя сутыкненні, паўстанні, грамадзянскія войны. Яны адбываюцца і сёння.

Пра гэта добра сказана ў даследаваннях вядомага рускага вучонага, філосафа І. А. Ільіна. Адно з якіх — «Зайздрасць як крыніца бедстваў» — у свой час нарабіла шмат шуму.

Увогуле, пра зайздрасць напісана мноства трактатаў і прац, якія склалі тоўстыя тамы. Зайздрасць як з’ява была ўсебакова даследавана з пункту гледжання фізіялогіі, псіхалогіі, філасофіі і іншых навуковых дысцыплін. Нягледзячы на гэта, яна ўсё яшчэ застаецца вельмі загадкавай з’явай, і яе вывучэнне далёка не завершана.

*— Сапраўды — неапазнаны дракон.*

— У гэтых словах ёсць доля праўды. Хаця зайздрасць бывае і рухавіком умацавання ўласнага дабрабыту. І ўсё ж зайздрасць з моманту стварэння чалавека Богам адносіцца да сямі смяротных грахоў, што запісаныя на лбе ў

чалавека да яго нараджэння. Пры гэтым яна — самы цяжкі, самы небяспечны, самы падступны і самы хітры грэх, які пярэчыць усім разуменням гонару і сумлення. І гэта відавочна. Што характэрна, зайздросным можна назваць любога чалавека, у кожным яна знойдзецца (праўда, у аднаго ў меншай ступені, у другога ў большай). І бясспрэчна тое, што яна сапраўды адносіцца да сямі смяротных грахоў, між іншым, да самага «грэшнага». А ці помніш ты, якія яны, іншыя «смяротныя грахі»? Нагадаю ўсе сем. Гэта:

зайздрасць,
рэўнасць,
ганарлівасць,
гнеў і запальчывасць,
лянота,
сквапнасць,
пажадлівасць.

У буйных сусветных рэлігіях, якія маюць старажытныя культурныя традыцыі, гэтым сямі смяротным грахам супрастаяць сем чалавечых цнотаў-святыняў. Гэта:

розум і культура,
спакой (вытрымка),
сумленнасць,
цярпенне,
давер,
надзея (мара),
спачуванне.

— *А як на іх глядзіць наша грамадства?*

— Казахскі народ прытрымліваецца блізкіх паняццяў. Да прыкладу, вядомы паэт-прамоўца Балцірык сказаў некалі так:

Зайздрасць — ёсць такое пачуццё, сцеражыся яго.
Помслівасць — ёсць такая рэч, сцеражыся яе.
Фанабэрыстасць — ёсць такая рэч — будзь ад яе чым далей.
Сквапнасць — ёсць такая рэч, не набліжайся да яе.
Ганебнасць — ёсць такая рэч, будзь ад яе чыстым.
Паклёп — ёсць такая рэч, будзь і ад яе, як мага далей,
Прагнасць — ёсць такая рэч, сцеражыся яе.

Добра прамоўлена. Нашы продкі яшчэ ў старажытныя часіны дасканала разбіраліся ў сакрэтах і асаблівасцях зайздрасці. Падобна на тое, што і тады яна тлуміла галовы многім людзям.

Зайздрасць як побытавая і сацыяльная з'ява была заўважана і ў нашага паўночнага суседа. У рускай народнай творчасці маецца мноства прымавак і прыказак пра зайздрасць.

Дзе шчасце, там і зайздрасць.
Зайздрасць наперадзе нас нарадзілася.
Чужая доля пад бокам коле.
Зайздросны сваіх вачэй не пашкадуе.
Жалеза іржа з'ядае, а зайздросны ад зайздрасці гіне.
Вохкаў дзядзька, на чужыя грошы пазіраючы.
Божухна! Божухна! Забі таго да смерці, хто лепей нашага жыве!
Не гэтулькі свае страты бянтэжаць, колькі чужыя здабыткі...
Зайздросныя вочы не ведаюць сораму.

Так яно і ёсць. Але вось што цікава: усялякі чалавек гатовы прызнаць у сабе наяўнасць шасці з гэтых «сямі грахоў», вядомых і зразумелых яму. А вось

прызнацца, што ён зайздросны ды завідушчы, ніхто не спяшаецца. Больш за тое, кожны імкнецца як мага даўжэй хаваць ад другога зайздрасць, а ў выпадку выкрыцця адбіваецца, як толькі можа. І менавіта гэтая акалічнасць добра даследавана і вывучана навукоўцамі мінулага.

*— Дык, можа, гэта і ёсць рэўнасць?*

— Не. Зусім не рэўнасць. Бясспрэчна, зайздрасць і рэўнасць вельмі блізкія, роднасныя, падобныя адна да адной якасці, аднак іх нельга змешваць, падмяняць адну другой.

*— Кажуць, зайздросны кожны дзень пакутуе ад сваёй няпаўнацэннасці...*

— Праўда. «Калі не хочаш пакутаваць, не зайздросць», — недарэмна казаў вялікі мудрэц старажытнасці Унсур аль-Маалі.

*— А таму зайздросны ходзіць кожны дзень чарнейшым за хмару?*

— Так. Інакш ён ужо не зайздроснік.

*— О, Божухна, хіба ў адзін з блаславёных дзён не атрымае ён ад цябе тыя рэчы, пра якія марыў? Хіба яго рукі не змогуць зрабіць тую ж самую работу! Не дасягне ён сваіх мэт? І пасля гэтага — не супакоіцца?*

— Ён можа дасягнуць усяго таго, чаго жадаў, пра што марыў. Але пры гэтым не перастане зайздросціць другому, які больш удачлівы. Нават тады, калі здзейсняцца ўсе яго магчымыя і немагчымыя мары — і тады зайздроснік пачне шукаць такога моцнага і дужага, якому будзе зайздросціць. А моцных і дужых у свеце нямала. Знойдзе такога, хто багацейшы за яго, ці работа ў яго лепшая, больш прэстыжная і прыбытковая, ці жонка больш прыгожая, чым уласная, словам, будзе шукаць і абавязкова знойдзе... А як толькі знойдзе, адразу ж пачне параўноўваць, узважваць годнасці і заганы, самае лепшае і самае кепскае. А пасля параўнання абавязкова адшукае нагоду для зайздрасці.

З гэтага моманту і пачнецца барацьба зайздросніка з уяўным апанентам. Цяпер ягоная мэта — чаго б там ні каштавала абагнаць саперніка, якога ж сам і прыдумаў. Калі мэта будзе дасягнута, зайздроснік не спыніцца, ён адновіць пошукі наступнага аб’екта для зайздрасці. І зноў знойдзе! І зноў пачне барацьбу. Калі вочнае ці завочнае саперніцтва з «праціўнікам» зайздроснік прайграе, то ён пачне шукаць прыхаваныя магчымасці для сваёй перамогі. Выкарыстае ўсе сродкі, якія ў яго ёсць, каб знішчыць, звергнуць аб’ект сваёй зайздрасці. Можа знішчаць рэчы, якія належаць супрацьлегламу боку і, калі магчыма, сацыяльныя ўмовы існавання аб’екта сваёй непрыязі. Галоўнае тут: «Таго, чаго няма ў мяне, не павінна быць і ў цябе» А гэта могуць быць і званне, і пасада, прэстыжная работа, прыгожая жонка, яшчэ прыгажэйшая — каханка і г. д. Асноўны прадмет зайздрасці, галоўная яе задача — не валоданне нейкай добрай рэччу ці сацыяльным становішчам. Галоўнае і самае істотнае — зрабіць так, каб у аб’екта зайздрасці не было таго, чаго зайздроснік і сам не мае. Няхай таксама не будзе, вось і ўсё!

*— Ты можаш назваць, якіх менавіта людзей пераследуюць зайздроснікі, каму яны не даюць жыцця сваёй зайздрасцю?*

— Зайздросцяць усім і пераследуюць літаральна ўсіх. Усім, хто жыве лепш, чым яны, — зайздросцяць.

Зайздросцяць усім, хто валодае значнымі багаццямі і здабыткамі. Тым, хто здолеў стварыць вакол сябе дабрабыт, камфорт.

Поруч з гэтым зайздросцяць і тым, хто валодае выключнымі здольнасцямі і талентамі, хто дамогся высокіх дасягненняў у сваёй галіне ведаў, у рабоце, выявіўшы незвычайныя здольнасці.

Яшчэ адна мэта, у якую цэляцца зайздроснікі, — гэта людзі з прывабнай знешнасцю, разумныя, стыльныя, вытанчаныя, незалежныя.

Такім, прыгожым і вытанчаным, зайздроснікі зайздросцяць употай, хаваючы сваю непрыязнасць, не паказваючы свае пачуцці на людзях. Пры гэтым у іх знутры літаральна ўсё гарыць, і гэта добра адлюстравана ў рамане «Кроў і пот» вядомага казахскага пісьменніка Абдзіжаміла Нурпяісава. Ён па-майстэрску адкрывае псіхалогію зайздроснікаў: «Сёлетні год, на самай справе, склаўся для Акбалы вельмі цяжка. З таго дня, як яна прыехала нявесткай у аул рыбакоў, на яе напала самота. Усялякае жаданне ў яе прапала. Не зойдзе без важкай прычыны ў суседскі дом. Да таго ж у ауле знайшлося шмат такіх людзей, якія сталі кідаць на Акбалу нядобрыя позіркі. Зайздросныя жанчыны пачалі высмейваць літаральна ўсё, нават тое, як яна ідзе ці стаіць. Такія, як Каракатын, сталі высмейваць нават колер яе твару. Жанчыны пачалі плёткарыць наконт таго, што яна ўсё яшчэ захавала дзявочую фігуру і прыгажосць, што аказалася прыгажэйшай за аульных незамужніх дзяўчат і маладзіц, што апраналася з густам і лепш за іх. Усе гэтыя размовы і плёткі даходзілі да Акбалы. Вушы яе ўлоўлівалі такія словы, як «пагардлівая», «ганарлівая», «незалежная», менавіта імі «ўзнагароджвалі» яе зайздросніцы. Аднак Акбала не звяртала на іх увагі, быццам і зусім нічога не чула. Наадварот, яна стала ганарыцца той прыгажосцю і вытанчанасцю, якімі ўзнагародзіла яе прырода на зайздрасць іншым, і праходзіла ўзбоч жанчын-зайздросніц з высока, з гонарам прыўзнятай галавой».

Разам з гэтым зайздроснікі моцна зайздросцяць і начальнікам, у руках якіх шмат улады і якія свавольнічаюць над сваімі падначаленымі. Зайздросцяць удачлівасці і зусім незнаёмых ім людзей, якія здолелі зрабіць кар’еру. Лічаць, што тыя займаюць месца, на якое самі зайздроснікі не змаглі ўзысці, таму што ім — перашкодзілі.

Але больш за ўсё пакутуюць ад чужой зайздрасці майстры сваёй справы, прафесіяналы, людзі, якія валодаюць недасягальнымі для іншых навыкамі, здольныя ў сваёй галіне на адкрыцці і вялікія дасягненні. Не любяць зайздроснікі майстроў і ўмельцаў, пераследуючы іх, каб знішчыць, сцерці ў парашок. Колькі трагедый з-за гэтага! Майстру зайздросцяць амаль усе.

Яшчэ адна катэгорыя людзей, якую бяруць пад прыцэл зайздроснікі, — разумныя і высокакультурныя, самастойныя, з неардынарнымі думкамі, людзі з шырокім кругаглядам, тыя, хто шмат ведае, валодае багатым вопытам.

Асабліва колюць вочы нядобразычліўцам, горкай зайздрасцю з’ядаюць ім нутро, даводзяць іх да духоўнай агоніі — буйныя асобы, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё краіны і грамадства, якія стаяць у асаблівым, высокім і асобным шэрагу: геніі, суперталенты, творцы!

Але не толькі вядомым людзям зайздросцяць злосныя пыхліўцы. Зайздросцяць і маладым, якіх сам юны ўзрост робіць моцнымі, поўнымі здароўя і энергіі. Нядобразычліўцы пачынаюць шкодзіць маладым, перашкаджаюць ім жыць і плённа развівацца. Зайздрасць да чужой маладосці, шчасця, кахання, радасцей юных гадоў і багацця самога жыцця — можа быць, самая распаўсюджаная.

Выходзіць, ты зразумеў, хто гэтыя няшчасныя? Зразумеў, што яны за людзі?

*— Зразумеў. Але я, дзякуй богу, не адношу сябе да гэтых няшчасных. Я, як кажуць, таксама не дурань. У мяне ёсць нейкія неабходныя мне маёмасць і сродкі. І на тым дзякуй Тварцу. Але вось калі верыць тваім словам, то нават у нашым паселішчы ёсць такія, хто зайздросціць і мне.*

— Яшчэ як ёсць! Такія людзі і бываюць часцей усяго сярод блізкіх родзічаў. Не забывайся пра гэта.

*— Няхай зайздросцяць! Што яны ўмеюць, акрамя як зайздросціць блізкім? Я пра іх нават і не задумваюся.*

— Няхай так і будзе! Дык ты і зараз яшчэ ўпэўнены і моцны. Жыццё цябе загартавала, як клінок шаблі, і стаў ты вострым, як наканечнік дзіды.

*— Не захвальвай! Ты дужа мяне расхваліў. І ўсё ж у тваіх словах маецца доля ісціны. Калі кожны дзень не змагацца з гэтымі нявартымі і зайздроснымі людзьмі, калі не супрацьстаяць ім, калі не перашкаджаць іх цёмным справам, не спрачацца з імі, тады нават у нашым маленькім паселішчы немагчыма будзе свабодна і кроку ступіць. Жыць будзе немагчыма.*

— Што ж, відаць, словы пра тое, што жыццё — барацьба, праўда.

*— Так яно і ёсць, дарагі мой. Колькі разоў я плакаў, але ніводнага разу не прайграў ім у барацьбе. Колькі разоў падаў пад ударамі зайздроснікаў і, тым не менш, заставаўся жывым і здаровым. Адным словам, няхай так-сяк, няхай нават ледзь-ледзь, некага абыходзячы, ад кагосьці адстаючы, але галоўнае — жывём, справу сваю робім...*

— Вось кажаш «Ад некага адстаючы, некага абыходзячы», і самі гэтыя словы — доказ таго, што ты не адносішся да зайздроснікаў. А зайздросны чалавек — ён не хоча жыць, некага абыходзячы альбо ад некага адстаючы. Ён заўсёды хоча быць вышэй за ўсіх, адхіліцца ад усіх, падняцца над усімі. І гэта памкненне пазбаўляе яго спакою. Менавіта таму дзень і ноч, круглыя суткі ходзіць ён незадаволены жыццём, змрочны, нібыта хмара.

Такім чынам, аб’ектам зайздрасці з’яўляюцца наступныя катэгорыі людзей:

заможныя,
якія маюць уладу,
прыгажуны і прыгажуні,
таленавітыя і здольныя людзі, майстры-ўмельцы,
інтэлектуалы, вучоныя, геніі,
тыя, якім проста пашанцавала,
маладыя людзі, поўныя здароўя і сілы...

Ёсць, вядома ж, і шмат якія іншыя катэгорыі людзей, што рызыкуюць стаць аб’ектамі для зайздрасці, але ў асноўным менавіта гэтыя.

*— Так яно і ёсць... А цяпер скажы мне, вось гэтыя лепшыя людзі нашай краіны, якія сталі аб’ектам зайздрасці недалёкіх і злосных, адкуль у іх здольнасці і таленты, адкуль у іх веды, багацце, майстэрства, улада, лідарскія якасці, красамоўства і шмат іншага, што выдзяляе іх з агульнай масы? Дзе яны ўсё гэта атрымалі?*

— Як гэта дзе? Кожны з іх празнымі жыццёвымі шляхамі прыйшоў да свайго дабрабыту, вядомасці і багацця. Адны нарадзіліся з талентамі паэтаў, спевакоў, музыкантаў, асілкаў-спартсменаў, гэта значыць, у іх генетычна закладзены выключныя здольнасці. Другія ж дамагліся гэтых якасцей і вышынь самі, прыкладваючы на працягу многіх гадоў вялікія намаганні, губляючы шмат энергіі. Мы ўжо гаварылі пра тое, што ўладальнік нават толькі аднаго якога-небудзь таленту ці здольнасці ўжо з’яўляецца на дзіва «ўдачлівым і паспяховым»...

*— Лічыш, чалавеку для дасягнення поспеху дастаткова адной толькі каштоўнай якасці альбо аднаго таленту?*

— Думаю, цалкам дастаткова. Канечне, лепш, калі чалавек markнабакова таленавіты, ці, як кажуць у нашым народзе, «мае восем здольнасцей і адзін

сакрэт». Як правіла, так і бывае, жыццё напоўнена прыкладамі таго, як Бог надзяляе чалавека не адным талентам, не абмяжоўвае яго. Таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім. Але я ўпэўнены, што і адной здольнасці, аднаго сакрэту дастаткова, каб чалавек сам развіў у сабе ўсе астатнія моцныя бакі.

Цяпер хачу расказаць табе аб прыгожых, прыкметных і станістых людзях. Часцей за ўсё жанчыны, якіх прырода ўзнагародзіла прыгажосцю, надаюць асаблівую ўвагу сваёй знешнасці і забываюцца пра важнасць іншых добрых якасцей. Больш за тое, некаторыя лічаць, што ўсе іх недахопы, адмоўныя рысы характару будуць незаўважнымі на фоне знешняй прыгажосці і мілавіднасці. І тое праўда — прыгажосці мы многае даруем. Але ў выніку тыя, хто ўзяў на ўзбраенне толькі сваю прыгажосць, таксама аказваюцца ў лагеры пакрыўджаных на белы свет людзей.

Але калі аднаму дадзена прыгажосць і станістасць, то другому, як правіла, дастаюцца розум і ўнутраная культура, трэці надзелены такой сілай, што здольны горы звярнуць. Хіба не так? Нават адна выдатная здольнасць, талент, падараваны чалавеку Усявышнім, ужо з’яўляецца праявай вышэйшай справядлівасці.

— *А як быць з зайздроснікамі?*

— О! — тыя жадаюць валодаць усімі годнасцямі і станоўчымі якасцямі. Так, у іх ні насычэння, ні задавальнення не бывае. Жадаюць узяць ад жыцця ўсё, усё пабачыць, служыць адразу на ўсіх высокіх пасадах, прызначацца на ўсе галоўныя ролі, атрымліваць асалоду ад кахання ўсіх прыгажунь, перастраляць на паляванні ўсіх звяроў і ўпрыгожыць іх дзікімі галовамі сцены сваіх дамоў. Узыходзіць, як сонца над зямлёю, атрымліваць усе перамогі, разбурыць вароты і брамы ўсіх замкаў і брамы цнатлівасці таксама. Такая яна — ненаеднасць зайздроснікаў, якая ўсё праглынае і ўсё жадае ахапіць.

— *Усё кепскае ў чалавеку — узаемазвязана.*

— Так, усё кепскае, адмоўнае, як і ўсё добрае, прарастае адно з другога, вылупліваецца з зайздрасці, як куранятка са шкарлупіны яйка. Наяўнасць у чалавеку няхай сабе і адной рысы, уласцівай грэшніку, ужо нядобра. А калі чалавек надзелены самай небяспечнай, як для індывідуума, так і для грамадства рысай — зайздрасцю, гэта шмат горш. На жаль, няма сілы, здольнай супрацьстаяць ёй, яна аб’ядноўвае ўсе самыя дрэнныя чалавечыя якасці, патурае ім, кіруе імі, прымнажае іх з дапамогай сваёй чорнай сілай шматкрат. І яны пакараюцца яе заступніцтву.

Уласна кажучы, зайздрасць не мае аднаго прыкметнага аблічча. Яна шматгаловая і часта хавае свой сапраўдны твар за іншымі якасцямі. Напрыклад, за маскай вытрымкі і спакою, поўнай упэўненасці ў сваёй праваце можа хавацца твар ганарлівасці. Зайздроснікі, як правіла, па-майстэрску стрымліваюць свае эмоцыі, часта робяць уражанне моцных людзей і ўводзяць у зман акружэнне. Аднак, як бы яны ні спрабавалі схаваць дурную энергію, што перапаўняе іх сэрцы, сапраўдная сутнасць іх у пэўныя моманты становіцца відавочнай.

Ёсць адзін досыць паказальны анекдот. Жылі-былі тры жанчыны-сяброўкі. Адна з іх англічанка, другая — францужанка, а трэцяя — з нашых мясцін. Аднойчы гэтыя тры сяброўкі гулялі па беразе мора і знайшлі старую закаркаваную бутэльку. Калі жанчыны адкаркавалі тую бутэльку, з яе вылез страшны аднавокі джын.

— Гэй, жанчыны! Назавіце мне адно ваша запаветнае жаданне. Я выканаю ўсё, што вы пажадаеце! — закрычаў джын.

Тады англічанка сказала:

— У адной маёй сяброўкі за горадам ёсць домік-катэдж. Пабудуй мне

дакладна такі самы. Але няхай у гэтым доме на адзін пакой, на адну ванную, і ўвогуле — на ўсё па адным — будзе больш, чым у сяброўкі. І домік павінен стаяць не на пустэчы, як у яе. Няхай паўз домік працякае прыгожая рака.

Прыйшла чарга француженкі. І тая сказала:

— У маёй лепшай сяброўкі ёсць вельмі прыгожы малады чалавек. Знайдзі мне дакладна такога. Але няхай мой юнак будзе нават прыгажэйшым, чым у сяброўкі, разумнейшы, высакароднейшы...

Падышла чарга выказаць пажаданне і трэцяй жанчыне. І тая пачала хваліць карову сваёй суседкі:

— Вельмі добрая, выдатная карова ў маёй суседкі, шмат малака дае. І малако густое, тлустае. З яго атрымліваецца вельмі смачная смятана, выдатнае масла з яго робяць. Такой каровы ні ў каго няма.

І так яна доўга хваліла суседскую карову, што джын стаміўся яе слухаць, раззлаваўся і закрычаў:

— Гэй, жанчына, што ты ў пустую хваліш чужую карову, замест таго, каб выказаць сваё пажаданне. Гавары чаго жадаеш? Што я павінен выканаць?

— Дык я ж менавіта гэта і хачу сказаць. Няхай гэтая добрая карова маёй суседкі ў хуткім часе здохне! — сказала жанчына.

Бачыш, да чаго можа прывесці помслівая зайздрасць? А нараджаецца гэтае жаданне помсты ў зайздросніку тады, калі чалавек гаворыць сабе, пераконвае сябе ў тым, што ў гэтым свеце няма справядлівасці.

*— Ой, Божухна! Гэта жахліва!*

— Такая вось хітрасць зайздроснага чалавека. І кіруючыся гэтай здабытай «ісцінай», гледзячы на свет цераз прызму «несправядлівасці», ён абясцэньвае заслугі іншых і апраўдвае ўсе свае заганы, учынкі, а часам і злачынствы. Скідвае з сябе груз праблем, якія прыгнятаюць яго, «ачышчаецца», вызваляецца ад усіх грахоў. Бо ён жа ні ў чым не вінаваты, проста «справядлівасці на свеце няма!» Чаму адзін багаты, другі — бедны? Адзін разумны, другі — бязглузды? Адзін — прыгожы, другі — вырадлівы? Адзін моцны, а другі — слабы, нямоглы? Адзін таленавіты, другі — бяздарны. Таму, што сам Усявышні несправядлівы! Такія высновы робіць зайздроснік!

І, уявіўшы сябе чалавекам, здольным гэту справядлівасць устанавіць, ён пачынае нацкоўваць аднаго чалавека на другога, сварыць іх паміж сабой. Нашэптваць аднаму, нашэптваць другому, і людзі пачынаюць глядзець адзін на аднаго злоснымі вачыма. А сам ён — як мінімум ва ўласных вачах — выглядае «бялейшым за малако, чысцейшым за ваду».

*— Я вось слухаю цябе, і мне робіцца страшна. Пачынаю баяцца зайздроснікаў.*

— Можаш не баяцца. Калі сам не зайздросціш, над тваёй галавой не пачнуць збірацца чорныя хмары.

*— Кожны раз, калі ты заводзіш гэтую размову, я ўспамінаю сваіх сяброў, калег і таварышаў і бачу: гэта светлыя, чыстыя, адкрытыя душою і сэрцам, людзі, якія жадаюць дабра не толькі сабе, але і іншым, выдатныя людзі. І, слухаючы твае прамовы, пачынаю паважаць і любіць іх яшчэ болей. Дзякую ім за тое, што яны такія, і хачу аддзячыць ім так, як яшчэ не паспеў зрабіць. Дзякуй богу, вакол мяне добрапрыстойных, разважных, з шырокімі і добрымі сэрцамі людзей нашмат болей, чым зайздроснікаў. Будзем жа ўдзячны лёсу за гэта. А зайздроснікі няхай коцяцца ад нас чым далей! Няхай іх чорныя думкі абарочваюцца на іх такія ж чорныя галовы. Усявышні, стварыўшы зайздросніка гэтакім, тым самым і пакараў яго. Кожны дзень яго чорны, як цемра. Што можа быць страшней?*

— Так, сапраўды. Але, на вялікі жаль, ад зайздрасці пакутуюць і тыя, хто побач з зайздроснікам. Дзеянні аднаго чалавека, што асеплены зайздрасцю, могуць нанесці шкоду не толькі асобным людзям, але і грамадству. А нагод для зайздрасці звышдастаткова. Пагадзіцеся, са старажытных часін вядома: калі адзін багаты, то другі — бедны. На жаль. Калі адзін працавіты, то другі — гультай. Там, дзе знаходзіцца шчодры, ёсць і скнара. Калі сустрэнешся з таленавітым чалавекам, імгненна разгледзіш і бесталаннага. Двух аднолькавых людзей не бывае. Усе розныя. Так было, ёсць і будзе.

А цяпер глядзі: бедны хоча стаць багатым, не здольны ні да чаго — жадае быць надзеленым асаблівымі талентамі. Несамавіты, непрыгожы — марыць быць першым сярод прыгожых і моднікаў.

*— Дык гэта ж добра, калі людзі імкнуцца стаць лепшымі! Хіба не так?*

— Несумненна, гэта так. Людзі з чыстымі памкненнямі, якія валодаюць высокім узроўнем унутранай культуры, разумеюць годнасці іншых, імкнуцца развівацца, расці, удасканальвацца.

Але ж нашая размова пра хітруноў-зайздроснікаў. Пра людзей, якія не здольны прызнаваць свае недахопы. Пра тых, хто на шляху да сваёй мэты гатовы здрадзіць, падмануць, ачарніць любога, назваць белае чорным, а цёмнае — светлым. На мой погляд, самае жахлівае, што зайздрасць аднаго чалавека да другога здольная паўплываць на сацыяльныя, культурныя, рэлігійныя і палітычныя працэсы ў грамадстве.

*— Да гэтага часу я ўсур'ёз не задумваўся пра гэты бок праблемы. Звычайна, кажучы пра зайздрасць, мы маем на ўвазе жанчын, якія раўнуюць і зайздросцяць адна адной.*

— Я гэтаксама думаў. Але гісторыя сведчыць, што менавіта зайздрасць была прычынай многіх трагедый і прывяла да гібелі сотняў тысяч людзей. Вось што піша пра гэта Іван Ільін: «Усе крывавыя інцыдэнты, якія мелі месца ў сусветнай гісторыі (народныя выступленні, многія бунты і паўстанні, палацавыя перавароты і г. д.), калі разабрацца, у аснове сваёй маюць прычынай зайздрасць асобных людзей адзін да аднаго, а вось гэтыя самыя асобныя людзі, зайздроснікі, прыстасоўваюцца падманваць простых людзей, што вядзе да яшчэ болей крывавых сутыкненняў. У падобных сітуацыях зайздроснікі думаюць не пра народныя бядоты, а толькі пра ўласную выгаду».

*— І як яны не баяцца Бога?*

— Не баяцца, больш за тое — яны не думаюць пра Бога. У іх душах няма месца для Усявышняга, і ў апраўданне свайго недаверу яны прыводзяць аргументы пра тое, што Бог сябе ў рэальным жыцці, маўляў, нічым не праяўляе. Менавіта ў гэтым бязбожжы і хаваецца корань усялякага зла, што прычыняюць зайздроснікі. Выдатна ўсведамляючы, што бязвер'е прыводзіць да жорсткасці, бесчалавечнасці, анархіі, краху маральных норм, такія людзі імкнуцца пахіснуць веру і ў іншых людзях. Знішчэнне рэлігіі, веры ў Бога — святы абавязак зайздросніка.

*— Так, такое і сапраўды бывае.*

— Бывае. Зайздроснікі не спыняюцца на тым, што разбурае душу аднаго чалавека — яны спрабуюць усё грамадства зрабіць бязбожным, нерэлігійным, атэістычным, без сумлення і годнасці. Падманваюць моладзь, дураць людзей сярэдняга ўзросту, заклікаюць іх да рознага роду бясчынстваў. І ў гэтым майстэрстве скажэння вычварэнне рэчаіснасці, у здольнасці ману выдаваць за праўду, зайздроснікі дасягаюць віртуознасці. Мэта іх бязбожных дзеянняў — хаос, разбурэнне традыцый, асноў жыцця.

А пачынаецца ўсё з прадузятага параўнанняі сябе з іншымі. Зайздроснік, супаставіўшы сябе з іншымі, нават у лепшыя гады свайго жыцця, абавязкова прыходзіць да высновы, што ён самы няшчасны, абдзелены лёсам чалавек, якому яшчэ і не шанцуе ніколі. У ім пачынаюць распальвацца нянавісць да тых, хто, па яго меркаванні, аказаўся болей шчаслівы, удачлівы, таленавіты, чым ён, багацейшы і прыгажэйшы за яго, больш красамоўны. У сваіх фантазіях, у сваіх распаленых мазгах зайздроснік прайграе «праціўніку» магчымыя бітвы, а чалавек, які ў нечым яго абагнаў, абышоў яго — становіцца мішэнню праследванняў зайздросніка. Прыдуманыя «паразы», пракручаныя ва ўяўленні пабоішчы, надаюць зайздросніку сілы для новай барацьбы. І вось ён ужо не заўважае, як перастае кіраваць сваімі пачуццямі. Кіруемая зайздрасцю тройка ягоных эмоцый імчыць, змятаючы ўсё на сваім шляху. Здараецца, што сам Тварэц ужо няздольны спыніць зайздросніка ў гэтым свеце, і той паміраe, згараючы ад зайздрасці…

*— Гэта нешта неверагоднае…*

— Бывае. Усявышні менавіта так усталяваў гэты свет… Калі прызнацца, я не магу зразумець у характары зайздросніка яшчэ адну асаблівасць.

*— Якую?*

— Чаму чалавек зайздросны недаацэньвае сябе, чаму ён не можа радавацца сваім дасягненням? Чаму не шануе сваіх годнасцей, не ўсведамляе свайго шчасця, не можа безаглядна і шчыра радавацца яму?

*— У такім выпадку, калі ж ён радуецца?*

— Зайздросны чалавек заўсёды сочыць за тымі, хто ўладкаваўся ў жыцці лепей іншых (нават калі ён і не знаёмы з імі), і можа радавацца толькі тады, калі яго непрыяцеляў, тых, хто яго апярэдзіў ва ўсім, спасцігае нейкае няшчасце. Гора — па прычыне непрафесіяналізму, напрыклад, альбо як наступства іншых, магчыма, эканамічных прычын. Напрыклад, ён можа моцна радавацца краху непрыяцеля, які патрапіў пад кола фінансавага крызісу. І калі такое адбываецца, гэтыя людзі, зайздроснікі, так моцна радуюцца, што набываюць нейкую сілу, атрымліваюць ад няшчасця іншага энергію, натхняюцца гэтым. Зайздроснікі ў чорныя для ўсіх дні могуць аказацца сапраўднымі красамоўцамі. Яны здольныя прыцягнуць да ўласных персон увагу многіх людзей, пагарджаючы пры гэтым тымі, хто побач, ставячы сябе вышэй за ўсіх. Прабіла часіна іх урачыстасці, як жа яе не выкарыстаць! Трагічныя для іншых абставіны для зайздроснікаў нярэдка — самыя шчаслівыя ў жыцці дні.

*— Ратуй нас Божа! Адкуль у людзях гэтулькі злосці і нянавісці?*

— А, нарэшце! Ты правільна мысліш і зараз знаходзішся на подступах да яшчэ аднаго «сакрэту» з запаветнай скрыні, відаць, шукаеш, ключык, каб яе адчыніць.

*— Які сакрэт? Які ключык?*

— Зайздросны, знайшоўшы, што побач з ім шмат такіх, хто апярэдзіў яго ва ўсім, пачынае адчуваць сябе бяссільным, нікчэмным чалавекам, уяўляе, што яму не месца сярод людзей. Пераканаўшы сябе ў сваёй безгрунтоўнасці, неадпаведнасці, ён пачынае выконваць ролю няшчаснага, што спрачаецца са сваім лёсам, змагаецца за лепшую долю, не даючы спакою сваёй беднай душы. Яго нутро гарыць. Усё сваё жыццё ён ходзіць змрочны, зайздросцячы іншым, праклінаючы сябе за паражэнне ў …бітве, якая не адбылася. Хамут прыдуманых ім самім бядот і няшчасцяў застаецца з ім навечна.

*— Гэты няшчасны, аказваецца, яшчэ пры жыцці гарыць у пякельным агні!*

— Так, зайздросных, сквапных, нядобрых людзей Усявышні карае яшчэ пры жыцці. Зайздроснік асуджаны да пажыццёвага пошуку адказу на пытанне:

«Чаму тое, чаго я так не магу дасягнуць, маецца ў іншых? Чаму не я на месцы гэтага шчасліўчыка?» — гэтае пытанне папругай падсцёбвае яго ўсё жыццё. На жаль, зайздроснікі не здольныя разгледзець у гэтым волю Усявышняга, а выбіраюць сваім ідалам матэрыяльныя выгоды. Матэрыяльны здабытак становіцца для іх самым галоўным у жыцці, а ўсё, што не датычыць матэрыі — духоўнасць, маральнасць, вера ў Бога — адыходзяць на іншы план.

Абапіраючыся на ідэалагічныя пастулаты «ў жыцці ўсё толькі матэрыяльнае», «няма ні душы, ні Бога», «усе пытанні чалавецтва павінна вырашаць з матэрыялістычных пазіцый» і іншыя, у многім памылковыя тэорыі, і стваралася матэрыялістычная гіпотэза. Яна выключае такія святыя катэгорыі, як чалавечнасць, добрапрыстойнасць, маральнасць, адмаўляе Бога, прапаведуе атэізм ( у тым ліку навуковы), штурхае грамадства ў вір гібельнай распусты.

*— Цяжка паверыць, няўжо гэта так?*

— Так. Зайздрасць здольная нарабіць многа бяды. Чалавек зайздросны мала таго, што не здольны да стваральніцтва сам, ён імкнецца знішчыць здабыткі іншых, болей таленавітых людзей. Разумеючы, што яму не дадзена, узмахнуўшы крыламі, высока ўзняцца, зайздроснік знаходзіць сродак скінуць на зямлю таго, хто якраз на гэтае здольны, звергнуць, абрынуць таго, хто, акрылены сваімі талентамі, лётае ў нябёсах. Каб дасягнуць сваёй нізкай мэты, зайздроснік здольны пайсці на любыя подласці, не спыніцца ні перад чым, нічога не пасаромеецца. Ён, не задумваючыся, пусціць у ход усю сваю нянавісць і азлобленасць на жыццё, зробіць сваёй зброяй свой злы характар, сваю помслівасць і хітрасць. Увесь «букет» адмоўных рыс стане зброяй у барацьбе бяздарнага з таленавітым.

«Зайздросны чалавек — нібыта дзікі звер у дзікім лесе, ён заўсёды гатовы разарваць вострымі ікламі, быццам сталёвымі шаблямі, усіх, хто стаіць вышэй за яго»,— сказаў выдатны нямецкі філосаф А. Шапенгаўэр.

*— Божа ты мой! Дык такая ж зайздрасць — гэта форменнае няшчасце! Можа прыжыцца і ў нашым грамадстве, распаўсюдзіцца і стаць сапраўдным бедствам…*

— Можа. Калі мы дадзім яму дарогу…

*— А ці ёсць спосаб супрацьстаяць гэтай бядзе? Як яе спыніць?*

— Перш-наперш, патрэбна, каб нашы дзеці і ўнукі раслі ў духу павагі і любові, чалавечнасці і сумленнасці. Падрастаючае пакаленне патрэбна навучаць асновам рэлігіі, павагі да Усявышняга і яго святыняў, важна, каб маладыя людзі ўмелі адрозніваць дабро ад зла, паважалі традыцыі і звычаі свайго народа.

*— Але гэта ўжо вельмі вялікая і сур'ёзная праца.*

— Так, гэта нялёгкая задача, яна патрабуе шмат намаганняў, як ад афіцыйных улад, так і ад рэлігійных дзеячаў, ад грамадства ў цэлым. Мы — казахстанцы — ганарымся тым, што менавіта ў нашай краіне з 2003 года рэгулярна праводзяцца з'езды міравых і традыцыйных рэлігій. Знакамітыя рэлігійныя, палітычныя і грамадскія дзеячы збіраюцца на казахстанскай зямлі, каб аб'яднаць намаганні па пабудове талерантнага, стабільнага свету, пераадольванні сіндрому адчужэння.

*— Так, гэта сур'ёзны прарыў. Чалавек, які жыве з Богам у душы, няздольны на подласць, вольны ад зайздрасці.*

— Жыць у грамадстве, быць вольным ад зайздрасці — мая вялікая мара! Але, на жаль, зайздрасцю заражана практычна ўся творчая інтэлігенцыя. Паэты, пісьменнікі, мастакі, кампазітары, скульптары, акцёры ўсур'ёз хварэюць гэтай немаччу. Відаць, што ў нашым уразлівым ва ўсіх сэнсах ася-

роддзі няма імунітэту да зайздрасці. Служкі муз, як правіла, не хочуць ні з кім дзяліцца сваёй шырокай вядомасцю і славай. З такіх вышынь як «самы таленавіты пісьменнік», «самы ўмелы мастак», «самы лепшы акцёр» добраахвотна і пры жыцці ніхто не сыходзіць. Званні «народнага пісьменніка», «народнага артыста», «народнага мастака» сталі часткай іх біяграфій, і яны іх другому, нават болей таленавітаму чалавеку, ніколі не аддадуць. Пакуль жывыя, зразумела.

Гісторыю пра тое, як адзін выдатны творчы дзеяч, з-за зайздрасці, загубіў другога вялікага музыканта, паведаміў нам Аляксандр Пушкін у трагедыі «Моцарт і Сальеры». Вялікі рускі паэт вельмі выразна апісаў гісторыю адносін двух выдатных музыкантаў аднаго часу, двух геніяў, якія прыўзняліся на самую вяршыню сусветнай музыкі, сталі ў гэтым мастацтве роўнымі багам. Пушкін глыбока даследаваў прычыны зараджэння зайздрасці, якая распаліла агонь нянавісці і прывяла ў выніку да трагедыі.

Так, Сальеры — служка муз. Калі гаварыць ягонымі словамі, сам сваім розумам і талентам «падняўся на самы верх мастацтва, якое па-сапраўднаму бязмежнае», гэта значыць — на нябёсы музыкі, куды могуць узысці толькі самыя адораныя музыканты. Ён — майстар, здольны сапернічаць з самім Моцартам. І па праве хваліцца тым, што ўсё сваё жыццё прысвяціў музыцы:

Я адвярнуўся ад пустых забавак;
Навукі, што да музыкі не мелі
Ніякіх дачыненняў, мне былі
Чужымі, непатрэбнымі. І толькі
Я музыцы адной служыць пачаў.

Пачуўшы адну з мелодый, якую выконвае Моцарт, Сальеры не можа схаваць свайго шчырага захаплення, і радуецца за таварыша:

Якая глыбіня!
Якая смеласць і якая стромкасць!
Ты, Моцарт, бог, ды толькі вось аб гэтым
Я ведаю адзін.

Сальеры разумее, што Моцарт болей адораны, чым ён, але не жадае прызнаваць гэтага. Ён, быццам выпіўшы смяротнага яду, становіцца шэры тварам, зайздрасць ужо пранікла ў ягоную кроў і ў сэрцы гарыць агонь жорсткай помсты.

Бачыш, як бывае? Хвароба, што завецца зайздрасцю, калі і не губіць чалавека канчаткова, то наносіць цяжкія душэўныя траўмы, падчас, на самай справе, даводзіць да духоўнай паразы, разлажэння і нават гібелі.

— *Божа праведны! Для жывога чалавека не можа быць пакутлівейшага пекла, чым гэтакае. Але ж павінна быць нейкая мера, нейкая норма ці форма насычэння?!*

— Так, мой дарагі дружа, павінна быць, але яе няма. Пра што гаварыць. Некаторыя нявольныя грэшнікі не задавальняюцца высокімі ўзнагародамі і пашанотамі, якімі ўзнагароджвае іх Бог, не задаволены рэгаліямі, званнямі і ордэнамі, нават лёсам сваім шчаслівым незадаволены. Узяць таго ж Сальеры, які ў сваёй справе, у музычным мастацтве, пераўзышоў многіх, узняўся на самыя вяршыні творчасці. Атрымаў усе магчымыя для таго часу званні і ўзнагароды. Але ў глыбіні душы ён разумеў, што Моцарт — нават без гэтых рэгалій — стаіць вышэй. «Чаму Бог зрабіў мяне горшым, чым ён?» — муча-

ецца Сальеры, і гэтае пытанне не дае яму спакою. Пакуты ягоныя настолькі моцныя, што ён нават не заўважае, як раптам аказваецца пратэстуючым супраць волі боскай.

Пушкін апісвае нам сумненні Сальеры, яго ўнутраную барацьбу, яго перажыванні. Сальеры разважае сам-насам:

Ніколі зайздрасці не ведаў я,
Так, так, не ведаў!..
…Хто скажа, што Сальеры — ганарлівец,
Што быў калі зайздроснікам нікчэмным,
Змяёй, якую людзі растапталі,
Якая пыл, пясок грызе ад злосці?
Ніхто!.. А зараз — сам скажу — я зараз
Зайздроснік. Я зайздрошчу; я глыбока,
Пакутліва зайздрошчу. — О, нябёсы!
Дзе ж справядлівасць, калі вы даслалі
Свяшчэнны дар і геній бессмяротны —
Не як узнагароду за служэнне,
За самаадрачэнне, за стараннасць,
А галаву вар'ята азарылі,
Гулякі марнага?.. О Моцарт, Моцарт!

На жаль, зайздрасць аказаваецца мацнейшая за дружбу. Няздольны стрымаць свой гнеў, сваю азлобленасць, Сальеры шукае магчымасць пазбаўлення ад таго, хто лепшы, болей адораны. І ён знаходзіць гэтую магчымасць. Гэты шлях — забойства лепшага сябра, Моцарта, якому ён сам пакланяецца як Богу. Больш за тое, Сальеры пераконвае сябе, што прыйшоў у гэты свет не дзеля музыкі, а — дзеля таго, каб забіць Моцарта. «Гэта запісана на скрыжалях майго лёсу, і гэта непазбежна»:

Не! Не магу супраціўляцца лёсу.
Мяне ён выбраў, каб яго спыніць!
Інакш усе мы, як адзін, загінем,
Усе, хто служыць музыцы аддана…

Для пасрэднасці геній небяспечны. І пасля пакутлівых перажыванняў Сальеры падсыпае Моцарту ў бакал з віном атруту. У гэты момант Сальеры нават смяецца: «Я васямнаццаць год захоўваў атруту для сябра лепшага». Моцарт выпівае атручанае віно, памірае, і Сальеры, гледзячы на свайго паміраючага сябра, кажа:

…Ты заснеш
Надоўга, Моцарт! Ці сказаў ён праўду,
І я не геній? Геній і злачынства
Дзве рэчы несумесныя. Няпраўда:
А Банароці? Ну, а можа, гэта казка
Тупога, бессэнсоўнага натоўпу — і не быў
Забойцам стваральнік Ватыкана?

*— Цяжка стварыць болей ракавы партрэт зайздросніка, чым той, які мы бачылі.*

— Так. Галоўная тэма гэтай трагедыі — зайздрасць. Трэба сказаць, што рукапіс першага варыянта «Моцарта і Сальеры» Пушкін назваў «Зайздрасць».

*— Аляксандр Сяргеевіч і сам часта станавіўся ахвярай зайздроснікаў і зласліўцаў. Не толькі яго талент і прызнанне, але і яго прыгожая жонка выклікалі пякучую зайздрасць яго супернікаў.*

— Вялікі паэт, апісваючы характар зайздросніка, хацеў сказаць, што зайздрасць не проста адзін з сямі грахоў, але і самы небяспечны, самы каварны, нейкі канцэнтрат зла, здольны прынесці бядоты не толькі аднаму чалавеку, але і ўсяму грамадству.

*— Так, зайздрасць у людзей самае каварнае, самае подлае пачуццё.*

— Твая праўда. Той жа Сальеры літаральна ўлюбіўся ў дараванне свайго лепшага сябра, духоўнага настаўніка, калегі, вялікага музыканта Моцарта, прызнаў за ім боскасць яго таленту. І самога яго назваў Богам. Але Моцарт аказаўся болей таленавітым, чым ён сам, і Сальеры, «не змог прабачыць» яму гэтага. Не змог змірыцца з тым, што Моцарт пераўзышоў яго. Няздольнасць Сальеры да міласэрнасці, няздольнасць даравацъ стала смяротным прысудам для Моцарта.

Вось яшчэ адно пацвярджэнне таму, што зайздрасць — першасная крыніца сямі смяротных грахоў. Толькі зайздроснік без уяўнай прычыны здольны абвінавачваць, ачарняць, паклёпнічаць на чалавека, ладзіць яму перашкоды.

*— Зайздрасць заслужана можна назваць крыніцай усіх бед на Зямлі.*

— Так, яна і насамрэч «прамаці» ўсяго зла. Падобная ўрагану, які крышыць усё на сваім шляху, стваральніцтва ёй невядомае. Гэта хамелеон, які па-майстэрску маскіруецца пад рэўнасць, пыху, небесстароннасць.

*— Выходзіць, зайздроснік — вораг усяго добрага, светлага і прыгожага.*

— Менавіта так, ты правільна прыкмеціў. Зайздроснік ніколі, нікому і нічыйнаму не бывае рады, ён заўсёды незадаволены, да ўсяго ў яго ёсць прэтэнзіі. Магчыма, што ён не рады і таму, што з’явіўся на гэты свет, што бачыць яго. Незадаволены ўсім, што падаравала яму жыццё.

Яшчэ болей раздражняюць зайздросніка чужыя поспехі. Павышэнне па службе лепшага сябра, уручэнне саслужыўцу дзяржаўнай узнагароды, нараджэнне ў суседа сына, паступленне родзіча ў прэстыжную навучальную ўстанову, набыццё знаёмым новага аўтамабіля — усё гэта крыніцы бед зайздросніка. Адным словам, усе радасці іншых становяцца прычынай ягоных пакут. Яго ахоплівае страшны непакой, ён адчувае сябе падманутым, абыдзеным, гаркота падступае да яго горла і ні выплюнуць, ні праглынуць яе зайздроснік не ў стане. Канечне, усе гэтыя перажыванні ён імкнецца не паказваць навакольным — ад гэтага яны яшчэ болей пакутлівыя.

*— Аказваецца, зайздрасць — гэта амаль душэўная хвароба.*

— Так і ёсць! Зайздросны чалавек усё сваё жыццё, кожную хвіліну, кожную гадзіну, кожны дзень сам сябе грызе, абвінавачвае і кляне. Сам сябе мучае. Для яго ўвесь свет «звужаецца да аўчынкі», як кажуць рускія. Ён пазбягае ўсяго добрага. Заўсёды гатовы каму-небудзь нашкодзіць, што-небудзь сапсаваць. Баіцца неспадзявана сустрэцца з добрымі, разумнымі і шчодрымі, добрасумленнымі людзьмі. Ён іх баіцца. Бо ўсё пра сябе ведае і разумее, наколькі вінаваты перад Богам, перад людзьмі, хаця, натуральна, і не адчувае згрызот сумлення — ён на іх няздольны. Але, ведаючы і разумеючы сваю подласць, заўсёды і ўсяго баіцца. І найперш за ўсё — свайго выкрыцця. Баіцца рабіць добрыя справы, бо яны ж зменяць яго сутнасць. «Ніхто побач са мною не стаў лепшы, чым я, аднак», — думае ён, ацэньваючы ўсё, што адбываецца вакол. І пільна сочыць за ўсім.

*— Тое, што мы называем «зайздрасцю», — гэта грэх, пачуццё ці эмоцыя? А можа быць, гэта адзін з накірункаў чалавечага светапогляду, ягоны пункт гледжання? Ягоны погляд на ўсё тое, што вакол?*

— Цяжка сказаць дакладна. Можа быць, усе гэтыя якасці, сабраныя разам. Да сённяшняга дня ніхто з людзей не змог адным словам даць дакладнае

вызначэнне зайздрасці. Мне добра вядомае наступнае: зайздрослівы ў любы час пагружаны ў смутак і тугу. Калі б з ім не сустрэўся, ён заўсёды гаворыць адно і тое ж: «У мяне няма таго, у мяне няма гэтага». Альбо так: «Я павінен быў працаваць на такой рабоце ці на вось гэтай, болей цікавай службе я павінен быць». На крайні выпадак, скажа: «Я павінен быў бы пабудаваць свой дом не тут, а вунь на тым беразе ракі». Ці што-небудзь у гэтым родзе. Мэта, якую нястомна праследуе зайздроснік, — гэта людзі, што даўно і далёка яго абышлі, вяршыні, на якія ён няздольны ўзысці.

*— Заўважыў цікавую з'яву. Я часта сварыўся на розных людзей нядобрымі словамі: «Ты — фанабэрысты», «Ты — скватны», «Ты — неспатольны, твае вочы заўсёды галодныя», «Ты — запальчывы», «Ты — гультаяваты»... Аднак ніводны з іх на мяне сур'ёзна не пакрыўдзіўся і не затаіў на мяне гневу, і ўжо тым болей — не адпомсціў мне. Звычайна на гэтыя мае словы яны адразу ж забываліся. Не прымалі блізка да сэрца. Але варта мне было аднаму знаёмаму сказаць: «Ты — зайздроснік», — як адразу ж я нажыў сабе смяротнага ворага. Гэты чалавек вось ужо болей дваццаці гадоў праследуе мяне, не дае спакою. Лічыць, што на белым свеце няма горшага чалавека, чым я. Цяпер я разумею, што зайздрасць — вялікі, недаравальны грэх.*

— Што ні кажы, зайздрасць — яшчэ і «сродак», з дапамогай якога асобнага чалавека можна выкрасліць з ліку жывых людзей, сяброў, растаптаць ягоныя гонар і годнасць. Што характэрна — даследчыкі зайздрасці ў кожную новую эпоху давалі ёй новыя імёны. Адны называлі зайздрасць інстынктам ворага, іншыя — смеласцю чорных нядобразычліўцаў, трэція — сродкам аднаго чалавека зраўняцца з іншым. Такія даваліся характарыстыкі і такія рабіліся папраўкі да вызначэння зайздрасці. Але цікавым падаецца і наступнае: у розных краінах, у розных народаў, у розных рэлігіях на зайздрасць глядзелі па-рознаму і разумелі яе інакш, чым мы. Напрыклад, старажытныя грэкі надавалі зайздрасці асаблівае, асобнае разуменне. У іх дзяржаўных законах былі пункты, прысвечаныя зайздрасці. Яны сведчылі, што зайздрасць немагчыма выкараніць поўнасцю, але можна зменшыць зло, якое наносіцца зайздрасцю. Гэтыя законы баранілі ад зайздрасці дзяржаўных дзеячаў, асабліва выдатных грамадзян, вялікіх спартсменаў, алімпійскіх чэмпіёнаў.

*— І як менаівта яны іх баранілі?*

— Існавала шмат розных спосабаў. Напрыклад, у час спаборніцтваў спартсмены, якія сталі чэмпіёнамі, абараняючыся ад зайздроснікаў, раздавалі людзям, якія сабраліся на стадыёне, шмат розных падарункаў. Калі спартсмен быў бедным, яму дапамагалі ў набыцці падарункаў ягоныя балельшчыкі, для чаго збіралі спецыяльныя сродкі. Гэты звычай быў шырока распаўсюджаны ў Афінах у III—IV стагоддзях да нашай эры. Пра гэта грунтоўна і цікава піша пісьменнік і гісторык П. Уолкат у кнізе «Зайздрасць і старажытныя грэкі».

*— Трэба было б прачытаць гэтую кнігу.*

— Калі валодаеш англійскай мовай, табе гэта не ў цяжар.

*— Пра якую англійскую ты гаворыш? Мы не адышлі далей рускай. Я зараз на сённяшнюю моладзь гляджу з вялікай цікавасцю і ... зайздрасцю. Шмат хто з іх выдатна гаворыць па-англійску, проста, як ручаёк, цячэ іх мова з вуснаў. Больш за тое, некаторыя ведаюць французскую, нямецкую і іншыя мовы.*

— А што тут асаблівага? Казахі — таленавіты народ.

*— Сапраўды, так яно і ёсць.*

— Першыя вучоныя і асветнікі казахскага народа добра ведалі арабскую, фарсі (персідскую), а таксама чагатайскую мовы.

*— Наўздзіў адоранымі, здольнымі былі людзі.*

— Дружа мой, пачаўшы гаварыць аб мовах, мы, здаецца, адхіліліся ад нашай асноўнай тэмы. На чым мы спыніліся?

*— Мы вялі размову аб старажытных грэках.*

— Так, у тыя далёкія часы ў краіне старажытных грэкаў адбыўся такі выпадак. Жыў такі дзяржаўны дзеяч па імені Арыстыд. Ён прысвяціў сваё жыццё барацьбе за справядлівасць, таму яго звалі не яго ўласным, а нарачоным імем — «Справядлівы Арыстыд». Дык вось, гэтага самага дзяржаўнага дзеяча, «Справядлівага Арыстыда», яго суграмадзяне па законе «Аб астракізме» выслалі з Афін і адправілі ў далёкае паселішча на дзесяць гадоў. У час суда ў зале сярод іншых знаходзіўся і адзін вельмі зайздросны чалавек, член сената, які заявіў, падымаючы крык: «Я стаміўся ад гэтага слова «Справядлівы»! Як толькі пачую, мне становіцца не па сабе. Не вымаўляйце пры мне слова «Справядлівасць»!

*— Гэта ж трэба так, чалавек пацярпеў з-за сваёй справядлівасці!*

— Так. І не толькі Арыстыд. Ці ведаеш ты, за што Сакрат быў асуджаны да смяротнага пакарання?

*— Не. Не ведаю.*

— Самыя блізкія словы да паняцця «дэмакратыя» — «справядлівасць», «законнасць». Сакрат якраз і дабіваўся справядлівасці і таму … быў асуджаны да смерці. Ва ўсе часы менавіта справядлівыя, сумленныя і добрыя людзі станавіліся аб’ектам праследаванняў зайздроснікаў.

*— Цікава…*

— Мы прызвычаіліся хваліць і заахвочваць людзей добрых, жаласлівых, справядлівых. А вось старажытныя грэкі лічылі, што ва ўсялякай добрай справы ёсць мяжа, канец. І калі дабрыня пераходзіць гэтую рысу, то за ёю яна, дабрыня, абарочваецца злом. Так яны лічылі.

У гэтым ёсць нейкі глыбокі сэнс. Мы самі часам гатовыя быць бязмежна добрымі і тады такія і ўчынкі робім без аглядкі, думаем, што добрыя справы здзяйсняем.

*— А хто ведае, дзе пачынаецца і дзе заканчваецца чалавечая дабрыня?*

— Так. Мы ж думаем, што дабрыня не мае межаў, ёй не можа быць заканчэння. У тых самых старажытных грэкаў быў чалавек па імені Фемістокл, дзяржаўны дзеяч, якога за тое, што ён перавысіў «норму» сваёй дабрыні, грамадзяне Афін таксама прагналі з горада.

*— Справа выпадку?*

— А чаму тут дзівіцца? Усё гэта — наступствы вышукаў зайздроснікаў і іх непамернай зайздрасці. Але зайздроснікі абстаўляюць справу такім чынам, што іх прымаюць за справядлівых і добрых людзей, якія нават сапернічаюць у сваёй дабрыні з іншымі. Пры гэтым яны выдатна разумеюць, што самі ж нічога добрага не робяць для іншых, яны на гэта не здольныя. А вось тым, хто стварае добрыя справы, дзіка зайздросцяць. І пачынаюць абвінавачваць барацьбітоў за справядлівасць і праўду ў «недысцыплінаванасці», парушэннях агульнапрынятых правіл. І пад гэтай нагодай, каб вочы грамадзян не бачылі, а вушы не чулі такіх праўдалюбцаў (каб тыя не парушылі пакой і парадак многіх), іх ізноў жа выганялі з горада.

*— Цяпер мне ўсё зразумела.*

— Як і многія іншыя народы, старажытныя грэкі памылкова лічылі, што зайздрасць можна выкараніць цалкам. Так, напрыклад, у горадзе-дзяржаве Спарта аднойчы была праведзена нарада, прысвечаная знішчэнню зайздрасці. На гэтую нараду з’ехаліся прадстаўнікі ўсіх грэчаскіх гарадоў-дзяржаў. Пасля абмеркавання і спрэчак удзельнікі заснавалі таварыства, якое так і назвалі:

«Таварыства, вызваленае ад зайздрасці». Аднак пазней філосафы іншага пакалення, праўда, тыя ж самыя старажытныя грэкі, у многіх трактатах не адзін раз даказалі, што шляхоў пазбаўлення ад зайздрасці няма і быць не можа.

Такім чынам, яшчэ ў старажытныя часы грэчаскія філосафы ўсведамлялі, што зайздрасць — адна з праяў чалавечай прыроды, і ад яе немагчыма проста так пазбавіцца. Аднак неабходна шукаць шляхі ўтрымання, знаходзіць магчымасці змяншэння шкоды ад яе — да такой яны прыйшлі высновы. Многія мысляры, як і старажытныя грэкі, і да сённяшняга дня так думаюць.

— *Падобна, што гэта правільная выснова.*

— Гэта тое, да чаго здолелі прыйсці шляхам доўгіх разважанняў старажытнагрэчаскія філосафы. Тады была створана сімвалічная выява Зайздрасці — змяя, якая згарнулася ў клубок. На першы погляд можа падацца, што яна спіць, на самай справе гэта ілюзія — змяя заўсёды гатовая ўджаліць. Гэты сімвал — дакладнае адлюстраванне схаваных у зайздросніках злосці, подласці і іншых кепскіх людскіх якасцей.

— *Так, далягляды такога знешне бяскрыўднага паняцця, як зайздрасць, пашыраюцца і пашыраюцца. І ў самыя даўнія часіны людзі гэтаксама думалі?*

— Не. Напрыклад, некаторыя рэлігійныя дзеячы лічылі, што зайздрасць можна выкараніць на самым пачатку.

— *А як ставіцца да гэтага Іслам?*

— Па мусульманскай рэлігіі зайздрасць лічыцца адным з самых цяжкіх грахоў. Хіба не з зайздрасці д’ябал спакусіў Адама і Еву? За дапушчаны імі грэх Тварэц пакараў Прабацьку Адама і Прамаці Еву.

У святым Каране гаворыцца:

«У імя Алаха, Усеміласцевага і Міласэрнага!
Скажы: «Шукаю выратавання я ва Уладара світанку,
Ад зла змроку, які спусціўся,
Ад зла таго, хто чарадзейства творыць,
Ад зла зайздросніка,
Калі ў ім зайздрасць выспявае».

— *Прачытай мне яшчэ з Карана суры, прысвечаныя зайздрасці.*

— Каран адной толькі згадкай зайздрасці не абмяжоўваецца. Зайздрасць у большасці выпадкаў тут разглядаецца ў звязку з такімі паняццямі, як дабрыня і цярпенне. Часцей — як супрацьпастаўленне ім. А ўжо гэта дае магчымасць усебакова і глыбока даследаваць гэтую загану ў розных сітуацыях, пры розных абставінах.

У святым Каране гаворыцца:

«Не ў тым ляжыць набожнасць,
Каб на ўсход альбо захад твар свой павярнуць,
А набожнасць у тым,
Каб увераваць у Алаха,
І ў апошні Дзень,
І ў анёлаў Ягоных,
У Пісанне (Святое) і ў прарокаў;
Шкадуючы (сваё дабро), усё ж дзяліцца ім
І з тым, хто блізкі па крыві,
І з сіратой, і з жабраком…
І стойкім быць, і цярплівым
У нягчасці і ў пакутах сваіх,
Ва ўсе хвіліны страху і разгубленнасці, —
Такі сонм праведных — тых, хто Алаха славіць!»

*(Сура 2).*

*— Выдатна! У святым Каране ёсць адказы на ўсе пытанні, якія толькі могуць узнікнуць у жыцці.*

— Менавіта так, дарагі мой! Самае цікавае: зайздрасць бывае і сярод народжаных адной маці братоў і сясцёр. У суры «Йусуф (Іосіф)» пра гэта добра сказана. Згодна з гэтым старажытным аповедам чалавека па імені Йакуб (Іакаў) было дванаццаць сыноў, і сярод іх самы разумны быў малодшы Йусуф. Астатнія адзінаццаць неўзлюбілі Йусуфа, сталі яму зайздросціць і вырашылі яго забіць. З-за гэтага Йусуф перанёс шмат цяжкасцей, але ўрэшце ўсё пераадолеў і выйшаў пераможцам. У Святой Кнізе расказана пра ўсе цяжкія выпрабаванні, якія выпалі на долю Йусуфа па злой волі зайздроснікаў. Расказана зразумела і ясна.

У Каране гаворыцца:

«У аповедзе аб іх
Маецца павучанне для тых,
Хто валодае разуменнем.
І сказ гэты не прыдуманы…»
*(Сура 12).*

*— Адным словам, мы прыходзім да высновы, што Іслам як рэлігія цалкам супраць зайздрасці і зайздроснікаў?*

— Яшчэ як супраць! «Зайздрасць — самы цяжкі з сямі грахоў, якім падвержаны чалавек», — вучыць Іслам.

*— Не быць зайздросным — гэта ўжо вялікае шчасце!..*

— Правільна кажаш. Зайздросны чалавек настолькі ўнутрана бедны і абмежаваны, што ўвесь велізарны свет можа падацца яму велічынёй з гарошыну.

*— Сапраўды так. А што можа параўнацца з шырынёй сэрца! І калі ўжо сэрца ачарсцвее, вось тады ўвесь велізарны, неабсяжны Сусвет можа падацца маленькім і дробненькім...*

— Праўда. Горш за ўсё, калі чалавек скупы душою, абмежаваны і недальнабачны. Самы шчаслівы — той, хто і ў дастатку не важнічае, а ў беднасці не прысмыкаецца. Няхай выратуе ўсіх нас Стваральнік ад зайздрасці.

*— Няхай жа будзе так, як ты сказаў! Амінь!*

***Пераклад з казахскай Генадзя АЎЛАСЕНКІ і Алеся КАРЛЮКЕВІЧА.***



**Алена КАРП**

# ЛІТАРАТУРНАЯ КРЫТЫКА МАКСІМА ГАРЭЦКАГА: КАНЦЭПЦЫЯ І РЭАЛІЗАЦЫЯ

Максім Гарэцкі працаваў у літаратуры адначасова як практык і як тэарэтык, што, безумоўна, узбагачала і вылучала яго крытыку. Той факт, што сам ён быў таленавітым аўтарам, мог дадаваць вагі, аўтарытэтнасці яго крытычнаму слову ва ўспрыманні калег-пісьменнікаў і ўжо дакладна абвяргаў прафанны тэзіс, нібыта крытыкамі становяцца тыя, хто не змог сцвердзіцца як аўтар. Разам з тым пра крытыку М. Гарэцкага варта казаць як пра прафесійную, а не пісьменніцкую. За плячыма яго была навуковая літаратуразнаўчая праца і, адпаведна, неабходная кампетэнцыя ў справе прыгожага пісьменства.

У «Гісторыі беларускае літаратуры» даследчык дае дэфініцыю паняцця «літаратурная крытыка»: «…разгляд твораў з ідэалагічнага і фармальна-мастацкага боку, знаходжанне і выясненне станоўчага і адмоўнага ў творах, раскрыццё і тлумачэнне шырокім слаям грамадзянства сутнасці твораў і наогул літаратурных з'яў, паказванне аўтару на яго абмылкі і дасягненні, каб памагчы належнаму развіццю яго літаратурных здольнасцей і г.д.» [5, с. 389]. Гэта той выпадак, калі тэорыя не разыходзіцца з практыкай, бо крытыка М. Гарэцкага строга адпавядае гэтаму вызначэнню, ілюструе паслядоўнае выкананне пералічаных задач.

Ён усведамляў і тое, што крытыка для яго праца з пэўнымі абавязкамі («Дый лічу не лічу, хачу не хачу, а мушу, бо такая ўжо мая нешчаслівая прафесія» [7, с. 280]), і тое, што ён дастаткова самотны ў сваёй прафесіі. Далёка не ўсім яго паплечнікам ставала прафесійнай падрыхтоўкі, каб браць пад увагу пытанні эстэтыкі, куды ахвотней яны меркавалі пра адпаведнасць твора пануючай ідэалогіі. Такая аднабаковасць, шкодная для літаратуразнаўства ў цэлым і небяспечная для асобных удзельнікаў літпрацэсу, не задавальняла М. Гарэцкага. Ён агучваў праблему і ўласнымі працамі даваў прыклад якаснага аналітычнага цэласнага разбору.

Крытыка М. Гарэцкага мела прыкладны, практыка-арыентаваны характар, і такая пазіцыя — дапамагчы развіццю аўтара, засцерагчы ад памылак — паслядоўна і выразна ім артыкулявалася. Яна выглядала арганічным працягам нашаніўскай традыцыі, і, трэба адзначыць, М. Гарэцкі прыкладаў максімум намаганняў у гэтым пытанні і выяўляў шчырую веру ў тое, што крытыка можа і мусіць спрычыніцца да развіцця літаратуры. Яго ўніклівыя, скрупулёзныя разборы хібаў пэўных аўтараў адрасаваліся не толькі непасрэднаму аб'екту даследавання. М. Гарэцкі спадзяваўся ахапіць больш шырокую аўдыторыю — літаратурную моладзь, сучасных яму аўтараў. Ён лічыў крытыку ўсур'ёз адказнай за тое, каб скіраваць пісьменнікаў «на добрую пуцявіну» [7, с. 194], і віну за памылкі і пралікі літаратараў ускладаў у тым ліку і на крытыкаў.

Такі погляд М. Гарэцкага на місію крытыкі ўражвае верай у літаратуру, усведамленнем асабістай адказнасці і спрычыненасці. Сёння ён здаваўся б празмерна ідэалістычным, бо роля крытыкі нівелюецца, і аўтары ўсё болей успрымаюць яе як інструмент рэкламы, а не сродак для самаўдасканалення [11].

Рэфлексіі адносна літаратурнай крытыкі, яе месца, прызначэння, ідэальнага ўвасаблення — з'ява даволі распаўсюджаная. Тым больш натуральнымі

падобныя развагі былі для пачынальнікаў. М. Гарэцкі, спрабуючы пастуляваць, якой быць літаратурнай крытыцы, прыйшоў да канцэпцыі, якая і сёння ўспрымаецца эталонам прафесійнага і этычнага падыходу: «Па-мойму, крытыкаваць — значыць шукаць таго ж, чаго шукаў аўтар і рабіць думку яго яснейшай чытачу, і даходзіць, ці добра выклаў думку аўтар, і як выкладаў, і як бы мог выкласці лепей» [7, с. 194]. І сугучнае: «Але трэба ж мець на ўвазе, што мастацкіх спосабаў многа, кожны добры мастак любіць больш той ці іншы спосаб, і калі ён дасягае свае мэты гэтым спосабам, дык заганы ўжо няма» [5, с. 327]. Такая пазіцыя выглядае разумнай, асэнсаванай і справядлівай, прадугледжвае ўважлівае стаўленне да задумы аўтара і шляхоў яе ўвасаблення, засцерагае ад суб'ектыўнасці, патурання выключна свайму густу. Суб'ектыўнасць, натуральна, мела месца і ў практыцы М. Гарэцкага, але той ідэал, да якога ён кіраваўся, быў, бясспрэчна, здаровым і годным.

Фармулюючы ўласную канцэпцыю літаратурнай крытыкі, М. Гарэцкі не абмінуў пытанне прафесійнай этыкі, якое цягам часу станавілася ўсё больш вострым. Ён выказваў даволі далікатную пазіцыю: крытык мае права на самавыяўленне, на іронію і сарказм, але мусіць помніць пра пэўныя этычныя межы. «Ведама: дрэнна крытыка тая, што крытыкуе не творы, а аўтара. Хоць праўдзіва мастацкі твор — частка душы аўтара, і крытыкуючы твор, мімаволі чапаем і струны душы; але гэта не страшна, калі крытык папраўдзе крытыкуе» [7, с. 194]. Слабым месцам была нявызначанасць, няпэўнасць межаў, за якімі сарказм становіцца абразай, а крытыка — цкаваннем. Іх кожны асобны аўтар мусіў вызначаць самастойна, кіруючыся ўласнымі маральнымі прынцыпамі. Яны не заўсёды спрацоўвалі, і з гэтым даводзілася сутыкацца М. Гарэцкаму і як пісьменніку, і як даследчыку. Так, у 1919 г. ён звярнуўся ў рэдакцыю газеты «Беларуская думка» з лістом, у якім пратэставаў супраць «спосаба крытыкавання літаратурных твораў» [7, с. 396] ананімнага рэцэнзента Я., справядліва мяркуючы, што крытыку варта ажыццяўляць «у тоне элементарнай ветласці...» [7, с. 396]. Нормы этыкету і іх парушэнне найвастрэй адчуваюцца на ўласным досведзе, рэдакцыя заняла нейтральную пазіцыю ў гэтым канфлікце. Абураны ліст М. Гарэцкага быў апублікаваны, але з прыпіскай: «Рэдакцыя лічыць, што аўтар рэцэнзіі, пішучы яе, меў на ўвазе таксама толькі карысць святога ўсім нам адраджэння» [6, с. 2].

Што датычыцца М. Гарэцкага, то абараняцца ў падобных дыскусіях ён лічыў не толькі справай гонару, але літаратурна-грамадскай справай. Ён усведамляў усю небяспеку папулісцкай, агрэсіўнай, нядобрасумленнай крытыкі, для якой дапушчальна грубіць аўтару, адвольна трактаваць яго словы, надаючы ім адваротнае значэнне. Такія прыёмы не мелі нічога агульнага з літаратуразнаўчай навукай, але былі небяспечна блізкія да рэпрэсіўных мер: «Як бачым, у такім прыёме можна абысціся і без вышэйшай мудрасці. Але хоць прыём і новы, небывалы ў ведамым мне «навуковым доследзе» ўсяе гісторыі беларускай літаратуры, але ж і няпэўны прыём. Гэтак можна і ножку літаратурную вывіхнуць» [7, с. 281]. Гісторыя пацвердзіла правамернасць клопату М. Гарэцкага, які, на жаль, быў бяссільны спыніць тэндэнцыю да аглабельнай крытыкі.

Ён, аднак, меў усе належныя здольнасці, каб увасобіць уласныя высакародныя канцэпцыі. Як крытыка яго вылучала здольнасць мысліць літаратуру шырока і ў перспектыве, рэцэнзія магла вырасці да праблемнага артыкула, клопат грамадзянскі і клопат літаратурны арганічна суседнічалі ў яго тэкстах. М. Гарэцкі практыкаваў таксама погляд збоку, спробу выйсці па-за межы свайго часу і спрагназаваць, наколькі жыццяздольны той ці іншы твор, як яго будуць ацэньваць наступныя пакаленні.

Каштоўна тое, што ён не абмяжоўваецца зборам і сістэматызацыяй матэрыялу. М. Гарэцкі заглыбляецца ў сваім аналізе. Называючы характэрныя рысы пэўнага аўтара, раскрываючы адметнасці яго стылю, ён шукае іх магчымыя прычыны, ставіць пытанне «чаму?». Часам гэтае пытанне так і застаецца адкрытым, але праблема абазначаная, напрамак пошуку зададзены. М. Гарэцкага наогул цікавіла

пошукавая праца, асвятленне свежых, недаследаваных тэм. Ён не ўсталёўваў на іх манаполіі, усведамляючы, што ў маладым беларускім літаратуразнаўстве нікому не цесна, запрашаў калег да працы, бо намаганнямі многіх можна было атрымаць больш важкі даробак, шырэйшую карціну, і агульная карысць была апрыёры вышэй за ўласныя амбіцыі.

У асобе М. Гарэцкага беларуская літаратура мела ўважлівага і зацікаўленага даследчыка. Яму ставала эрудыцыі і абазнанасці, каб разглядаючы істотную літаратурную з'яву ці больш-менш заўважнага аўтара ўлічваць літаратурны і пазалітаратурны кантэкст. Урэшце ён і сам ствараў кантэкст, выбудоўваючы пэўную іерархію. М. Гарэцкі ранжыраваў, параўноўваў аўтараў паміж сабой, і для гэтых параўнанняў не было недатыкальных асоб. Месца ў прыватным рэйтынгу М. Гарэцкага не вызначалася сумай былых заслуг і набытым статусам. Ён, напрыклад, дастаткова прамалінейна падзяляе аўтараў на выразна ацэначныя катэгорыі, у нарысе ««Маладняк» за 5 гадоў» падае біяграфічныя звесткі пад арыгінальнай назвай «Біяграфічна-крытычны слоўнік сучасных выдатных і тыповых маладнякоўцаў». Відавочна, М. Гарэцкі быў далёкім ад таго, каб педагагічна параўноўваць аўтараў з самімі сабою і не закранаць іх самалюбства. (Цяжка ўявіць творцу, які прыхільна паставіўся б да атэстацыі «тыповы»). У артыкуле «Беларуская літаратура пасля «Нашай Нівы» М. Гарэцкі прапануе ўласны рэйтынг лепшых твораў паслякастрычніцкага перыяду, у якім можна пры жаданні мяняць месцы, але ў цэлым з гэтым спісам няма прычын не пагадзіцца, яго ацэнкі апраўдаліся.

Кіруючыся да прафесійнай крытыкі, М. Гарэцкі рупліва адсочваў таксама публікацыі калег і ў сваёй працы іх улічваў, сумленна падаваў спасылкі на чужыя першаадкрыцці, абазначаў кола літаратуры па тэме, пагаджаўся або ўступаў у палеміку.

Як тэарэтык ён кіраваўся арыстоцелеўскімі прынцыпамі, ацэньваючы драматычны твор, зважаў на завершанасць, адзінства дзеяння, наогул патрабаваў дакладнасці ў жанравай класіфікацыі. Але М. Гарэцкі не быў закасцянелым тэарэтыкам, не заўсёды гармонія вымяралася алгебрай і не заўсёды магчыма было пагадзіць тэорыю і практыку. Літаратура магла абвяргаць уласныя эстэтычныя законы, і крытык прызнаваў гэта.

Відаць, памкненнем даць аб'ектыўную доказную крытыку тлумачыцца выкарыстанне М. Гарэцкім статыстычных метадаў. І хаця заслугоўвае павагі руплівасць і дакладнасць даследчыка, спроба падмацаваць літаратуразнаўства статыстыкай выглядае начотніцтвам: «У сярэднім на кожнае апавяданне прыходзіцца 33 немалыя старонкі» [7, с. 301]; «Даючы прыблізныя працэнты ад усіх гэтых 7 апавяданняў, можна сказаць, што ў творах Нёманскага займае месца: жыццё да Кастрычніка — у 28 % апавяданняў (два апавяданні), жыццё пасля Кастрычніка — у 72 прац.[энтах], рэвалюцыйнае змаганне і рэвалюцыйны быт — у 85 прац.[энтах], Беларусь — у 100 прац.[энтах], Заходняя Беларусь пасля міру — у 0 прац.[энтах], нацыянальнае пытанне да Кастрычніка — у 14 прац.[энтах], беларусізацыя і наогул нац.[ыянальнае] пытанне пасля Кастрычніка — у 0 прац.[энтах]…» [7, с. 302]. Верагодна, крытык сам адчуў штучнасць і непрыдатнасць такой практыкі, бо пастаяннай яна не стала.

Крытычныя артыкулы М. Гарэцкага вылучаюцца таксама сістэматызаванасцю інфармацыі, лагічнай, празрыстай і паслядоўнай структурай. У творчых партрэтах «Сымон Баранаў» і «Іллары Барашка» аўтар абазначае яе праз адпаведныя загалоўкі: біяграфія — бібліяграфія — ідэалагічны змест — фармальна-мастацкія асаблівасці — вывады. Схема даволі ўдалая, прыдатная для сур'ёзнага цэласнага аналізу, і М. Гарэцкі неаднойчы выкарыстоўвае яе ў падобных артыкулах.

Што праўда, у спробах абысці вострыя вуглы, выказацца лаяльна М. Гарэцкі мог парушаць лагічныя законы, абнуляць папярэдняе выказванне, замяняючы яго адваротным, як у гэтым выпадку, дзе гаворка вядзецца пра хібы п'есы «Ветрагоны» У. Галубка: «Але гэта ўсё ж не столькі мінус, колькі пустое месца, на якім можна паставіць плюс» [7, с. 248].

Крытычная практыка М. Гарэцкага была ўпісаная ў свой час. Яго артыкулы «Наш тэатр» (1913 г.) і «Развагі і думкі» (1914 г.) інспіраваныя нашаніўскай дыскусіяй, адгукаліся на надзённыя пытанні і выказвалі прагрэсіўныя погляды. У 20-я гг. М. Гарэцкі спрабаваў дастасаваць патрэбы сучаснасці да літаратурнай творчасці, вынайсці тыя новыя прынцыпы, якія будуць адпавядаць духу эпохі, дапамогуць аўтару сцвердзіцца і знайсці чытача: «...нашым цяперашнім аўтарам трэба лічыцца з агульным шыбкім ходам жыцця, з тым часам, які мае дзеля чытання сялянска-пралетарская маса, а не даўнейшыя чытачы, і з тымі матэрыяльнымі магчымасцямі, якія ў нас ёсць на друкаванне і куплянне кніжак. Мы цяпер павінны пісаць з вялікай эканоміяй часу, слоў і матэрыяльных коштаў, пісаць коратка, але густа, адкідаючы ўсе менш характэрныя драбніцы малюнка або ўносячы іх у галоўныя буйніцы...» [5, с. 369]. З пазалітаратурных фактараў, абмежаванняў у выдавецкай сферы М. Гарэцкі выводзіў істотныя слушныя парады пісаць густа, рабіць тэкст насычаным і адкідаць лішняе.

Эпоха ўваходзіла ў літаратуру, станавілася аб'ектам выяўлення, і крытыка цікавіла, наколькі поўна яна адлюстраваная, як хутка літаратура дагоніць свой час, асэнсуе яго маштабна і поўна. Разам з тым эпоха дыктавала новыя ўмовы для крытычнай творчасці. Тыя «рэцэдывы сацыялагізатарскага падыходу да мастацка-эстэтычных ацэнак» [15, с. 279] у крытыцы М. Гарэцкага, пра якія піша Я. Янушкевіч, у другой палове 20-х гадоў пакрысе станавіліся зацверджанай, кадыфікаванай практыкай.

Рэзкае вызначэнне Ц. Гартным выступлення М. Гарэцкага як «палітграматы» [7, с. 559], а не чаканага літаратурнага агляду не было цалкам пазбаўленым праўды. Уяўляючы літаратуру грамадскай справай, сродкам фарміравання нацыянальнай ідэнтычнасці, М. Гарэцкі натуральна выходзіў да пытанняў шырокага грамадскага значэння. Але калі ў часы нашаніўства яны фармуляваліся арыгінальна і смела, то ў другой палове 20-х гг. усё больш з'яўлялася асцярожнасці, следавання агульнапрынятай норме. Нацыянальныя пытанні выцясняліся класавымі. Апазіцыю складалі ўжо не толькі паняцці буржуазнае і пралетарскае, але і сялянскае, інтэлігенцкае з аднаго боку і пралетарскае з другога. Нашаніўскія ідэалы абвяшчаліся ўжо неактуальнымі, сялянская і інтэлігенцкая псіхіка — дробнай, шкоднай і нікчэмнай, здаровай альтэрнатывай, якая мусіла выявіцца ў літаратуры, дэкларавалася пралетарская ідэалогія.

Выраз «нацыянальная культура» ўжо даводзілася абгрунтоўваць і апраўдваць, пагаджаць нацыянальную форму з інтэрнацыянальным камуністычным зместам і даводзіць, што паміж імі няма канфлікту. І М. Гарэцкі ў гаворцы пра нацыянальную культуру рабіў усе неабходныя засцярожлівыя адступленні. Але «0 % у справе беларусізацыі» [7, с. 303] яго нязменна турбаваў, ён упарта скіроўваў аўтараў да асвятлення і гэтай істотнай тэмы, выяўляючы тым самым супярэчнасць паміж дэклараваным нарматыўным інтэрнацыяналізмам і прыроджаным «родным карэннем», дасціпна агучаную ў вершы Янкі Купалы «О так! Я — пралетар!..»:

Мне Бацькаўшчынай цэлы свет,
Ад родных ніў я адвярнуўся...
Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сняцца сны аб Беларусі! [10, с. 124]

Пацярпелі змены светапоглядныя ўстаноўкі крытыка: ад ідэалізму 1913 г. («Кірунак нашага маладога тэатра павінен быць жыццёва-мастацкі з дэвізам: "Падняць беларуса да ідэальнага чалавека!"» [7, с. 175] — да змушанай цвярозай прагматычнасці. Патрэбы будзённага жыцця не стасаваліся з месіянствам, і ўжо ў характарыстыцы Галубковай творчасці (1923 г.) М. Гарэцкі закранае той факт, што культурная дзейнасць не прыносіць пісьменніку матэрыяльнага забеспячэння: «На жыццё, аднак, ён зарабляе не на сцэне, а канцылярскаю службаю» [7, с. 247]. Не апраўдваліся ранейшыя спадзяванні. У 1914 г. у артыкуле «Развагі

і думкі» М. Гарэцкі з надзеяй чакаў з'яўлення якаснай сур'ёзнай крытыкі, але зазнаўшы нападкі крытыкі вульгарнай, займеўшы досвед літаратурнай барацьбы, адстойвання прафесійных прынцыпаў, у 1926 г. канстатаваў незадавальняючы стан беларускай крытычнай і літаратуразнаўчай думкі.

Недарэчна папракаць М. Гарэцкага за тое, што ён не мог цалкам ігнараваць пануючую рыторыку. Яму даводзілася працаваць ва ўмовах цэнзурных абмежаванняў. Пра цэнзуру ў адным са сваіх выступленняў М. Гарэцкі выказваўся, не абвяргаючы, наадварот, падтрымліваючы яе неабходнасць [7, с. 300]. Наўрад ці гэтае выказванне варта ацэньваць як шчырае выяўленне пазіцыі пісьменніка, але можна разглядаць як сведчанне пра эпоху і сітуацыю ў літаратуры. Тым не менш, нават у неспрыяльных умовах М. Гарэцкі намагаўся захоўваць аб'ектыўнасць і бесстароннасць. Ён па-ранейшаму падзяляў мастацкасць (форму) і ідэалогію і па-ранейшаму разглядаў і тое, і другое. Перавага эстэтычнай або ідэалагічнай каштоўнасці не была для яго статычнай, а вар'іравалася ў дачыненні да канкрэтнага твора. На тое, які з аспектаў пераважваў, ніяк не ўплывалі кан'юнктурныя інтарэсы. Наадварот, М. Гарэцкі быў гатовы палемізаваць са строгімі крытыкамі У. Галубка і прызнаваць дастатковым, вартым пашаны адно толькі грамадскае значэнне творчасці гэтага аўтара [7, с. 247]. Або, усведамляючы, што погляды А. Моркаўкі «не свае для нашай эпохі» [7, с. 375], тым не менш высока ацэньваў эстэтычную вартасць яго твораў.

Прытым каштоўнасць мастацкасці таксама даводзілася адстойваць асобна. І М. Гарэцкі праз рэаліі даступныя і зразумелыя звязваў у непарыўную еднасць высокае элітарнае мастацтва і матэрыяльнае, культуру і дабрабыт. Выглядала гэта наіўна, але адэкватна часу: «…дасканаласць беларускага санета залежыць ад дасканалага росту беларускай бульбы, але і дасканалы рост беларускай бульбы залежыць ад таго, на якіх беларускіх санетах будуць мець сваё выхаванне студэнты Акадэміі ў Горках» [7, с. 353].

Паколькі крытыка прадугледжвае камунікацыю паміж удзельнікамі літаратурнага працэсу, варта асобна разгледзець, як выбудоўвае яе М. Гарэцкі. У дачыненні да яго «Гісторыі беларускае літаратуры» М. Мушынскі зазначыў, што яна «напісана жывой, каларытнай, часам ледзь не размоўна-бытавой мовай. Але гэта не спрошчанасць, а таленавітая прастата» [13, с. 66]. Гэтая прастата, даступнасць выкладання ўласцівыя ў цэлым крытыцы М. Гарэцкага. Мова яго крытычных артыкулаў па-мастацку разняволеная, непасрэдная. Аўтар мадэлюе сітуацыю маўлення ва ўмовах тут і цяпер, гаворыць ад першай асобы, у тым ліку і пра ўласны літаратурны досвед. Працэс мыслення, выбудоўвання лагічных сувязей становіцца бачным чытачу, абазначаныя нават паўзы: «Беларускі рух… беларускі рух… Што гэта за дзіва?»; «Гм, гм…» [7, с. 179]. М. Гарэцкі шырока выкарыстоўвае сродкі размоўнага і мастацкага стыляў. Асабістае стаўленне аўтара да прадмета гаворкі адлюстроўвае ў эмацыйных ацэначных выказваннях: «Ой, як гэта добра!» [7, с. 172]. Прытым градус эмацыйнасці дастаткова высокі: і непрыхаванае раздражненне, і з'едлівасць, рэзкасць у адказ на рэзкасць («Маладняк», «Маленькі фельетон»). Гумар, іронія, досціп — таксама ў арсенале яго сродкаў.

Мова М. Гарэцкага не бязадрасная. Патэнцыйнымі рэцыпіентамі, да якіх звяртаўся крытык і на якіх імкнуўся паўздзейнічаць, уяўляліся калегі-пісьменнікі, сваё кола, у якім былі прымальныя сяброўскія звароты кшталту «дзядзькі і цёткі — літаратары нашы…» [7, с. 183]. М. Гарэцкі называў і зусім канкрэтных адрасатаў: «і ты, дзядзька Янка, і ты, дзядзька Якуб…» [7, с. 184], да якіх звяртаўся з рэкамендацыямі. У гэтым, па сутнасці, дыялогу роўных М. Гарэцкі выкарыстоўваў розныя танальнасці, у тым ліку і ментарскую («трохі «біблейскі», трохі «прароцкі» стыль» [1, с. 19], паводле вызначэння Алеся Адамовіча), прысаромліваў, апеляваў да пачуцця адказнасці: «Што сабе думаюць тыя з нашых

пісьменнікаў, што сыплюць вершык за вершыкам і <…> не хочуць шырэй пагля-дзець на сваё значэнне для Бацькаўшчыны і забываюцца на сваю павіннасць прад ёю — работаць так, каб пот выхадзіў?» [7, с. 178] Наогул М. Гарэцкі падтрым-ліваў двухбаковую сувязь з удзельнікамі літпрацэсу, прамаўляючы да аўтараў, ён стаяў на пазіцыі чытача і бараніў яго інтарэсы. Напрыклад, яго непрыманне імажынізму тлумачылася менавіта запатрабаваннямі і магчымасцямі чытачоў, якія пісьменнікі мусяць улічваць: «…я раіў бы «Маладняку» зрабіць запытанне ў нашых пралетарскіх і сялянскіх мас, <…> ці ёсць у іх час [расшыфроўваць заблытаныя імажыніcцкія вобразы — А. К.] і ці аплаціцца ім гэты час мастацкаю насалодаю, пашырэннем светагляду і г.д.» [7, с. 264].

Пэўныя пытанні М. Гарэцкі пакідае адкрытымі, неправераныя, недакладныя звесткі абавязкова такімі пазначае. Ён не прэтэндуе на ўсёведанне, яму важна быць праўдзівым, не ўводзіць у зман чытача.

Абраная М. Гарэцкім камунікатыўная стратэгія спрыяла таму, каб права-каваць размову, крытыка станавілася запрашэннем да шырокага абмеркавання, абмену думкамі, прыцягвала ўвагу да твора.

У крытыцы М. Гарэцкага сапраўды мелі месца тыя заганы, якія вылучае Д. Бугаёў: «Часамі ён абмяжоўваўся прасцейшай сістэматызацыяй матэры-ялу, калі-нікалі рабіў такія прагнозы, якія потым не спраўджваліся, здарала-ся, залішне захапляўся аднымі аўтарамі і быў празмерна суровы да другіх» [3, с. 142]. Тым не менш яны не нівелююць вартасцей М. Гарэцкага-крытыка, не адмаўляюць яго значэння. Для свайго часу ён працаваў на вельмі высокім пра-фесійным узроўні, яго стыль быў адметны і пазнавальны, яго крытыка паспяхо-ва спраўлялася са сваімі задачамі: была пасрэднікам паміж чытачамі і аўтарамі, выхоўвала ў аўтараў густ, культуру мовы, уводзіла твор у літаратурны кантэкст і вызначала яго месца.

## Спіс літаратуры:

1. Адамовіч, А. М. «Браму скарбаў сваіх адчыняю…»: [даследаванне жыццёвага і творчага шляху М. Гарэцкага] / А. М. Адамовіч. — Мн.: Выд-ва БДУ, 1980. — 221 с.

2. Бароўка, В. Ю. Праблема эстэтычнай і нацыянальнай ідэнтычнасці ў літаратурна-крытычных працах Максіма Гарэцкага 20-х гадоў / В. Ю. Бароўка // Максім і Гаўрыла Гарэцкія і іх грамадска-культурнае і навукова-творчае асяроддзе. Матэрыялы XV Гарэцкіх чытанняў. Мінск, 7 чэрвеня 2007 г. — Мн.: 2008. — С. 42—46.

3. Бугаёў, Д. Я. Максім Гарэцкі / Д. Я. Бугаёў. — Мінск: «Навука і тэхніка», 1968. — 161 с.

4. Вабішчэвіч, Т. І. Максім Гарэцкі ў літаратурнай дыскусіі 1913 г.: да праблемы дыферэнцыяцыі нацыянальнай чытацкай супольнасці / Т. І. Вабішчэвіч // Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Жыццё і творчасць. Матэрыялы XVI Гарэцкіх чытанняў (да 115-год-дзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага). Мінск, 15 лютага 2008 г. — Мн.: 2008. — С. 20—28.

5. Гарэцкі, М. І. Гісторыя беларускае літаратуры / М. І. Гарэцкі; уклад. і падрыхт. тэксту Т. С. Голуб. — Мн.: Маст. літ., 1992. — 479 с.

6. Гарэцкі, М. Пісьмо ў рэдакцыю / М. Гарэцкі // Беларуская думка. — 2 ліпеня 1919 г. — С. 2.

7. Гарэцкі, М. І. Творы: Дзве душы: Аповесць. Апавяданні. Жартаўлівы Пісарэвіч: П’еса. Літаратурная крытыка і публіцыстыка. Лісты / М. І. Гарэцкі. — Мн.: Маст. літ., 1990. — 629 с.

8. Голуб, Т. С. Максім Гарэцкі і «Маладняк» / Т. С. Голуб // Услед за лініяй жыцця: Творчая індывідуальнасць: ад літаратурнага тэксту да культурнай спадчыны / Т. С. Голуб. — Мн.: Бел. кнігазбор, 2006. — С. 46—53.

9. Кавалёў, С. В. Сястра ці служка / С. В. Кавалёў // Партрэт шкла: Літ-крытыч. арт. / С. В. Кавалёў. — Мн.: Маст. літ. — С. 58—68.

10. Купала, Я. Поўны збор твораў. У 9 т. / Я. Купала. — Т. 4. Вершы, пераклады 1915 — 1929. — Мн.: Маст. літ., 1997. — 446 с.

11. Марціновіч, В. Што такое новая крытыка? [Электронны рэсурс]. — 2015. — Рэжым доступу: http://budzma.by/news/viktar-marcinovich-shto-takoe-novaya-krytyka.html. — Дата доступу: 2.10. 2015.

12. Мельнікава, А. М. Літаратурны працэс 20-х гадоў у крытычных выступленнях М. Гарэцкага / А. М. Мельнікава // Гарэцкія чытанні. Матэрыялы дакладаў і паведамленняў шостых чытанняў (г. Горкі, 18 — 20 чэрвеня 1997 г.). — Мінск, 2000. — С. 70—76.

13. Мушынскі, М. І. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства (20—30-я гады) / М. І. Мушынскі; рэд. А. М. Адамовіч. — Мн.: «Навука і тэхніка», 1975. — 376 с.

14. Мушынскі, М. І. Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі: жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага / М. І. Мушынскі; навук. рэд. А. М. Макарэвіч; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. — 2-е выд., выпр. і дап. — Мінск: Беларус. навука, 2013. — 543 с.

15. Янушкевіч, Я. Я. Амплітуда Адраджэння: XIX стагоддзе ў «Гісторыі беларускае літаратуры» М. Гарэцкага / Я. Я. Янушкевіч // За архіўным парогам: Бел. літ. XIX — XX стст. у святле арх. пошукаў / Я. Я. Янушкевіч. — Мн.: Маст. літ., 2002. — С. 275—280.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 19 кастрычніка 2015 года.

## Рэзюмэ

**Алена КАРП**

### Літаратурная крытыка Максіма Гарэцкага: канцэпцыя і рэалізацыя

Творчасць Максіма Гарэцкага-крытыка ўпісаная ў гісторыю беларускай крытычнай думкі як яркая і адметная з'ява. З розных аспектаў яе разглядалі Д. Бугаёў, А. Адамовіч, М. Мушынскі, Т. Голуб, Т. Вабішчэвіч, А. Мельнікава. Разам з тым багатая крытычная спадчына М. Гарэцкага пакідае прастору для навуковых росшукаў. У гэтай працы разглядаецца, якой бачылася канцэпцыя літаратурнай крытыкі М. Гарэцкаму і якімі шляхамі ён яе рэалізоўваў, у тым ліку якія абіраў камунікатыўныя стратэгіі. Таксама звернута ўвага на тое, якім чынам уплывалі на крытыку М. Гарэцкага пазалітаратурныя фактары.
**Ключавыя словы**: літаратурная крытыка, М. Гарэцкі, 1920-я гады, камунікатыўная стратэгія.

## Summary

**Alena KARP**

### M. Harecki's literary critique: the conception and its achievement

The critucal work of Maksim Harecki is a bright, extraordinary fact of the history of Belarusian literary critique. It was analyzed from different aspects by Dz. Buhajou, A. Adamovič, M. Mušynski, T. Vabiščevič, A. Mel'nikava. Nevertheless, rich critical heritage of M. Harecki gives an area for scientific research. This article deals with M. Harecki's conception of literary critique and ways its achievement, including communicative strategies. The impact of outside literature factors is analyzed too.
**Keywords:** literary critique, M. Harecki, 1920s years, communicative strategy.

Алесь БАРАНОЎСКІ

# СЭНСАВАЯ СТРУКТУРА АБАЗНАЧЭННЯЎ БЕЛАГА КОЛЕРУ: СІНТЭЗ СЭНСАВЫХ ДАМІНАНТ

Магчымасці колераў шырока выкарыстоўваюцца ва ўсіх жанрах літаратуры. Колеравая палітра можа адлюстроўваць характар асобных падзей і эпохі, унутраны стан персанажаў і агульны тон твораў. Кожная дзяржаўнасць трымаецца свайго колеру, пра што сведчыць сцяг і старажытныя руны на ім. Зрэшты, адны і тыя ж адценні ў розных народаў маюць сваё значэнне. Так, у Старажытным Рыме белы колер атаясамлівалі з багаццем, у Кітаі і Індыі — з містыкай, у Егіпце — з багамі і нябожчыкамі. Хрысціянская рэлігія цалкам успрыняла сімволіку белага колеру з Бібліі (белы — светаносны).

Са старажытных часоў феномен колеру быў аб’ектам пільнай увагі чалавека. На кожным этапе свайго развіцця ён імкнуўся да пазнання прыроды і магчымасцей колеру. Пры гэтым у працэсах вывучэння і прымянення апошніх на першы план нязменна выходзілі нацыянальныя, культуралагічныя, псіхалагічныя, гістарычныя, навуковыя адметнасці.

Колер у мастацкай літаратуры — прадмет увагі як лінгвістаў, так і літаратуразнаўцаў. У апошнія гады ўсё больш з’яўляецца работ, накіраваных на сінтэз гэтых двух падыходаў па прынцыпе ўзаемадапаўнення. Разгледзім традыцыйныя значэнні белага колеру і сэнс, які ён набывае ў творчасці розных паэтаў.

Белы колер адносіцца да ахраматычных (неафарбаваных), нейтральных колераў. Многімі народамі, як было зазначана вышэй, традыцыйна ўспрымаецца як сімвал чысціні, нявіннасці, святасці. У старажытнасці белы разам з чырвоным і чорным уваходзіў у трыяду асноўных колераў, што ўвасаблялі адпаведна чысціню (а таксама сумежныя паняцці), каханне і зло.

У сувязі са сказаным цікавасць да творчасці У. Мазго не выпадковая: яго паэтычныя тэксты напоўнены прыёмамі актуалізацыі паняццяў, сярод якіх цэнтральнае месца належыць эпітэтам колераў. У першым паэтычным зборніку «Пад спеў крыніц» (1982) У. Мазго пісаў:

Пазычу колеры ў вясёлкі,
Цяпло пазычу у агню.
Пасля ў прынёманскім пасёлку.
Закалыхаю цішыню [1, с. 5].

Аўтарскія асацыяцыі колеру — зямныя, рэальныя. Творца піша пра тое, што бачыў, чуў, перажываў. У ланцугу вобразаў У. Мазго найбольш яскравым падаецца вобраз полымя. Кожны раз яго ўвасабленне носіць індывідуальна-аўтарскі характар:

Зацалую,
Затулю
Ад ліхой завеі.
Белым снегам
Запалю
Полымя надзеі [2, с. 60].

У працытаванай страфе полымя атаясамліваецца з белым колерам снегу, што у сукупнасці стварае яркую стылістычную фігуру — аксюмаран. «Не трэба баяцца асвойваць новыя шляхі, не трэба прывязвацца выключна да аднойчы адкрытага, вынайдзенага. Кожны мае права на свае ўласныя адкрыцці», — зазначыў У. Мазго [3, с. 108].

Часам полымя ачышчальнае, часам сімвалізуе трагедыю. Так, у вершы пра Чарнобыль адчуванне блізкасці новай духоўнай рэальнасці пранізвае мастацкую прастору наскрозь. Магутны духоўны парыў нараджае вобраз «гарачага снегу», які падае «на грэшны дол»:

Не дапамог бядзе анёл,
Калі ўпаў на грэшны дол
***Гарачым снегам*** попел.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Халодны пот. ***Гарачы снег.***
І нехта ўпаў. А нехта збег…
Хаваючы рэактар, —
Хто за сабой людзей павёў
І захлынаўся ад прамоў
Пра чалавечы фактар [2, с. 25].

У вершы колер снегу азначае смерць, тугу, холад, адчужанасць. Снег шэры, але аўтар настойліва падкрэслівае, што гэта снег. Апошні становіцца ключавым паняццем у творы. Ён сімвалізуе новае жыццё, народжанае цаной страт. Пакутнага шчасця можна дасягнуць толькі шляхам ачышчэння душы: «І дай нам, Божа мілы, сіл, // Каб змыць нарэшце гэты пыл // Ачысціць нашы душы!» [2, с. 25].

Свет паэзіі У. Мазго ўяўляе сабой непарыўную мастацкую тканіну з вобразаў, сімвалаў, матываў, тэм. Ён жыве і змяняецца па ўласных законах, незалежна ад жаданняў і патрэб аўтара. Адзін і той жа колер, паўтараючыся некалькі разоў, ператвараецца ў своеасаблівы сімвал, а, злучаючыся з іншымі словамі і вобразамі, стварае адметны паэтычны сэнс: неба ў творцы «падобнае да белай эмалі», воблакі, «як белыя буслы», світанак «бярозавы», туман белы, як «малако». «Паэзія У. Мазго — гэта паэзія важкай, часам па-філасофску насычанай думкі, пяшчотнай лірычнасці, глыбокага зместу і — той сонечнай напоўненасці, якая магчымая толькі тады, калі паэт глядзіць на акаляючы свет аптымістычна, светла, захоплена, умее па-сапраўднаму радавацца жыццю і гэтай радасцю падзяліцца са сваімі чытачамі», — зазначыў пісьменнік і літаратуразнаўца Алесь Марціновіч [4, с. 5].

Сучасныя паэты шырока звяртаюцца да паэтыкі колеру. Усе нюансы семантыкі прыметніка «белы» — намінатыўныя, метафарычныя і сімвалічныя — знайшлі адлюстраванне ў паэзіі Уладзіміра Скарынкіна, у адпаведнасці з аўтарскім светаадчуваннем, у гістарычных і філасофскіх планах, з аднаго боку, і псіхалагічным — з другога. У творчасці пісьменніка колеры адлюстроўваюць нацыянальны характар:

Белая Русь ты мая, Белая Русь ты мая!
Белыя гоні бульбы,
Белыя косы дзяўчат,
Воблакаў белых над Бугам
Вечны парад.
Белых, белых грыбоў кашолкі,
Белыя, белыя плечы бяроз,
Белыя, белыя россыпы золкіх
Чыстых світальных рос [5].

Аўтар прапануе ўласнае разуменне таго, чаму Беларусь называецца белай. Багаты калейдаскоп метафар стварае непаўторнае апісанне краіны, з якой лірычны герой адчувае роднасць, еднасць: «Белая Русь ты мая, Белая Русь ты мая! //

Чыстая ты мая, родная ты мая» [5]. Нагнятанне аднаго вобраза дазваляе чытачу ўявіць карціну ў белых танах. Белым колерам у працытаваным вершы маркіруецца ўсё, што звязана з нябеснай і зямной прасторай: воблакі, буслы, рамонкі, росы, бярозы і інш. Пісьменнік абагаўляе прыроду, надзяляе яе духоўнай сілай. Аўтар піша аб зліцці з прыродай, што неабходна для развіцця гарманічнай асобы. Разглядаючы чалавека як частку навакольнага свету, творца прыходзіць да высновы, што душы шчырых людзей таксама белыя, чыстыя: «Чыстыя, чыстыя душы смелых, // Простых тваіх людзей» [5].

Тэма нацыянальнай самаідэнтыфікацыі раскрыта ў вершы глыбока і надзвычай самабытна. Твор «Белая Русь..» — яркі ўзор таго, як грамадзянская лірыка трывала становіцца на пазіцыі паэзіі роздуму, выкрасаючы глыбокія філасофскія рэфлексіі, уздымаючы пытанні духоўнай чысціні чалавека:

Белых туманаў плыні,
Белыя вершы буслоў,
Ціхая завадзь Бялыніч,
Рык белавежскіх зуброў.
Вейкі, вейкі рамонкаў белых,
Белыя, белыя грывы завей.
Чыстыя, чыстыя душы смелых,
Простых тваіх людзей [5].

Адметнай асаблівасцю стылю У. Скарынкіна з’яўляецца ўзаемадзеянне ў межах аднаго тэксту розных значэнняў/адценняў слова/вобраза. Пры гэтым кантэкст не здымае з апошняга шматзначнасці, а, наадварот, падкрэслівае яе. Творчасць паэта прасякнута асаблівай павагай да гісторыі свайго народа, да бацькоўскай зямлі, Віцебшчыны, і яе працавітых людзей.

У вершах Навума Гальпяровіча белы колер ідэальна збалансаваны, чысты, натуральны. Класічна ён сімвалізуе чысціню і святасць, смутак і пустэчу, смерць. Традыцыйная інтэрпрэтацыя белага колеру найбольш выразна гучыць тады, калі апошні атаясамліваецца са спакоем і раўнавагай. Як і У. Скарынкіна, Н. Гальпяровіч разгадвае шыфр беларускага архетыпу, але робіць гэта не так яўна, апасродкавана. Нярэдка вобразы абагульненыя, але разам з тым пазнавальныя:

Белыя фарбы зімы
Выткуць на вокнах карункі.
Любага краю малюнкі
Носім у памяці мы [6].

Лірычны герой стварае ланцуг успамінаў-асацыяцый, звязаных з родным краем. Да розуму прыходзяць «Ціхі самотны спакой, // Кронаў вячыстых трымценне, // Цэркаўкі над Палатой // Прыцемкам раннім свячэнне». Высокая патэтыка, патрыятычны пафас, метафарычнасць вобразаў — усе гэтыя рысы мастацкага стылю Н. Гальпяровіча дапамагаюць чытачу ўявіць карціны, месцы, абставіны, пра якія распавядаецца ў вершы.

Твор «Адзінае» яшчэ больш падкрэслівае дадзеную думку. Вобраз Радзімы раскрываецца праз сон лірычнага героя. У якасці эпіграфа ўзяты радкі Янкі Купалы «Мне сняцца сны аб Беларусі…»:

І цэркаўкі маленькай сілуэт,
І саду красавіцкія пялёсткі,
І Беларусі гарады і вёскі—
Адзіны назаўжды Айчыны свет.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я не стамлюся пра яе спяваць!
І хай ўвальецца гэты сціплы голас.
Нібы зярнятка ў поўны спелы колас.
І большага не стану я жадаць [7].

Белы колер у вершах Н. Гальпяровіча падкрэслівае духоўную чысціню Радзімы: «Веі замружу, і ўбачыцца вечар // — Белая цэркаўка тоненькай свечкай», «Захавай маю мову, як зрок і як слых, // Як мелодыю свету, якую я чую». Кантэкст, у якім узнікае белы колер, адсылае да матываў сну. Аўтар стварае нерэальны свет успамінаў, у які свядома ўплятае вобразы з рэальнага жыцця.

Цікавым у кантэксце ўвасаблення белага колеру падаецца і верш «Акварэлі». Назва твора настройвае чытача на буянне фарбаў і квяцістасць вобразаў, але «яны празрыстыя, як вецер, // Імклівыя, нібы страла» [8, с. 22]. Акварэлі тонкімі штрыхамі малююць родныя краявіды, якія падпарадкаваны беламу колеру зімы:

Чаму ж забыць іх доўга нельга,
Чаму адчуеш раптам днём.
Як пахне фарбай акварэльнай
Снег за прыцішаным акном?

Няхай не доўга іх гарэнне,
Хай быццам сполахі яны,
А ўсе ж світаюць акварэлі
На белым палатне сцяны [8, с. 22].

Вобраз белага снегу скразны ў паэзіі Н. Гальпяровіча: «Снежная вуліца. Снежная музыка, // Снежны ільдзісты пагляд», «Я чую, як гаворыць дождж і снег», «Графічны ліст заснежаных палёў, / Дзе з белізной мяжуюць дрэваў цені», «Калі ў палях пачнуць гайсаць снягі сурова», «Іней ляжыць на жарстве. Падмарозіла». Усё гэта валодае асаблівай прывабнасцю і каларытам.

У творчасці Казіміра Камейшы сінтэз сэнсавых структур рэалізуецца пасвойму. Амбівалентныя катэгорыі чорнага і белага раскрываюцца ў вершах праз ключавыя паняцці цёмнага і светлага. Аўтар не заўсёды прама называе, што ноч чорная, а дзень белы, трава зялёная, а неба блакітнае. Калі гаворка ідзе пра філасофскую лірыку, мастацкая палітра звужаецца толькі да светлага і цёмнага, не збядняючы пры гэтым глыбіню самога верша:

Краёк фіранкі, адхініся, —
І ўбачу я здалёку зноў:
Сядзяць, нібы з акном зрасліся,
Дзве сіраты — і Дзень, і Ноч [9].

Паэт нават не нагрувашчвае дзень і ноч залішнімі мастацкімі сродкамі. Больш за тое, Ноч і Дзень самі выступаюць у якасці метафар. Бо, як далей вынікае з верша, увасабляюць радасць і жалобу, жыццё і смерць, лета і зіму, дзве слязіны, дзве далячыні, абразы, «вечнае акно». Часцей за ўсё белы ў паэтычных тэкстах К. Камейшы — полівалентны колер. Яго сімвалічная нагрузка залежыць ад кантэксту. У розных вершах адзін і той жа колер можа набываць дадатковыя сэнсы. Прычым значэнне белага можа несці семантыку адчужанасці і смерці. Белы (светлы) і чорны (цёмны) колеры ўступаюць у сінанімічныя адносіны. «Аўтар умее сцісла перадаць імгненнае ўражанне, як гэта рабілі імпрэсіяністы», — зазначыла літаратуразнаўца Таццяна Барысюк [10, с. 7].

Тэма святла закранаецца ім найчасцей тады, калі гаворка ідзе пра духоўныя пошукі лірычнага героя: «Высвеці дзень мой нанова, // Так, каб не згас ён ніколі. // Як ты гарыш прамянёва // У вечаровым касцёле» [11].

Казімір Камейша параўноўвае жырандоль з душой паэта. Яна гарыць нават тады, калі «птушкай самотнай выпырхне з рук надзея»:

Высвеці дзень мой нанова,
Так, каб не згас ён ніколі.
Як ты гарыш прамянёва
У вечаровым касцёле [11].

Святло робіць жыццёвы шлях лірычнага героя больш прыкметным, ясным, надае яму сэнс, нярэдка становіцца арыенцірам:

Калі потым у Кромань
Зноў глянуў Антоні,
Ён убачыў касцёл
І званіцу саму.
Бог у белай кашулі
Узыходзіў з прадоння
І ступаў па аблоках
Насустрач яму.

Паэт не адчувае тугі перад начной прыродай. Для яго існуе толькі святло — спрадвечнае, выратавальнае. Белы колер у вершы выступае сінонімам духоўнасці, у ім заключана вера, але не сляпая. Гэта колер дабра, надзеі, радасці. Аўтар лічыць, што белы колер сімвалізуе чысціню, аднак ён можа выклікаць асацыяцыі з сумам, жалобай.

Такім чынам, колер у сучаснай беларускай лірыцы разглядаецца як мастацкі прыём, неабходны для раскрыцця духоўнага стану аўтара. Мастацкая палітра дапамагае расшыфраваць філасофска-светапоглядную канцэпцыю паэтаў.

Белы колер у лірыцы У. Мазго падпарадкаваны вобразу полымя, снегу. Герой верша — чалавек, неабыякавы да лесу краіны. У вершах У. Скарынкіна і Н. Гальпяровіча скразным з’яўляецца вобраз Радзімы. У абодвух паэтаў сімволіка белага колеру дапамагае выказаць тыя ці іншыя інтымныя пачуцці лірычных герояў, перадаць іх душэўны стан, філасофскую пазіцыю ў адносінах да свету. Аднак, У. Скарынкін, ужываючы лексему «белы», абмяжоўваецца традыцыйнай хрысціянскай сімволікай значэння гэтага колеру. Апошні азначае жыццё, надзею, светлую будучыню Беларусі. Для Н. Гальпяровіча характэрна суаднясенне белага колеру з «мелодыяй цэлага свету», хоць нярэдка гаворка ідзе пра беларускую гісторыю і культуру. К. Камейша атаясамлівае белы колер з духоўнай чысцінёй. Менавіта колер становіцца крыніцай моцнага эстэтычнага і эмацыйнага ўражання, служыць для выражэння светабачання і светаадчування творцы.

У паэзіі XX—XXI стст. белы — самы папулярны колер. У ім паэты бачаць містычную нявызначанасць, поўную магчымасцей. Праўда, апошнім нярэдка не наканавана збыцца, што звязвае белы колер з негатыўнымі эмоцыямі, думкамі, звернутымі ў той свет. «Белы свет» у такіх вершах звычайна супрацьпастаўляецца «таму свету».

## Спіс літаратуры:

1. Мазго, У. Пад спеў крыніц / У. Мазго — Мінск: Маст. літ., 1982. — 55 с.

2. Мазго, У. Анёл нябесны / У. Мазго. Мінск: Харвест, 2007. — 126 с.

3. Шоцік, Д. Уладзімір Мазго: «У школе ў мяне была мянушка Паэт» / Д. Шоцік // Маладосць. 2010. — № 2. — С. 108.

4. Марціновіч, А. Нерушавасць / А. Марціновіч // ЛіМ. — 2013. — № 43. — С. 5.

5. Скарынкін, У. Белая Русь ты мая / У. Скарынкін [Электронный ресурс]. — Режим доступа : http://www.geoversum.by/blogs/geostihija/belaja-rus-ty-maja-uladzm-r-skarynk-n-belarus.html. — Дата доступа : 15.02.2015.

6. Гальпяровіч, Н. Белыя фарбы зімы... / Н. Гальпяровіч [Электронный ресурс]. — Режим доступа : http://vershy.ru/content/belyya-farby-zimy. — Дата доступа : 15.02.2015.

7. Гальпяровіч, Н. Адзінае / Н. Гальпяровіч [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://vershy.ru/content/adzinae-paema. — Дата доступа : 15.02.2015.

8. Гальпяровіч, Н. Гэта ўсе для цябе: вершы, мініяцюры, навелы // Навум Гальпяровіч — Мінск: Маст. літ., 2006. — 238 с.

9. Камейша, К. Дзень і ноч / К. Камейша [Электронный ресурс]. — Режим доступа : http://knihi.com/Kazimir Kamiejsa/Dzien i noc.html. — Дата доступа : 15.02.2015.

10. Барысюк, Т. На лініі лёсу / ЛіМ. — 2013. — 6 снежня. — С. 7.

11. Камейша, К. Жырандоль / К. Камейша [Электронный ресурс]. — Режим доступа : http://knihi.com/Kazimir Kamiejsa/Zyrandol.html. — Дата доступа : 15.02.2015.

12. Скарынкін, У. Лосвіда: вершы і паэмы // У. Скарынкін — Мінск: Маст.літ., 1993. — 199 с.

13. Синицын, Е, Синицына, О. Тайна творчества гениев. Синтез смысловых структур в поэзии / Е. Синицын, О. Синицына. — Новосибирск: издательство НГАХА, 2004. — 527 с.

14. Брудный, А. Значение слова и психология противопоставлений // Семантическая структура слова. Масква: Навука., 1971. — С. 19—27.

15. Томашевский, Б. Теория литературы. Поэтика // Борис Томашевский. — Москва: Аспект-Пресс, 1999. — 334 с.

Матэрыял паступіў у рэдакцыю 29 ліпеня 2015 г.

## Рэзюмэ

**Алесь БАРАНОЎСКІ**

### Сэнсавая структура абазначэнняў белага колеру: сінтэз сэнсавых дамінант

У артыкуле раскрываюцца спосабы рэалізацыі сэнсавых структур праз абазначэнне белага колеру сучаснымі беларускімі паэтамі. Паказваецца, як эстэтычнае і эмацыйнае ўражанні творцаў, заснаваныя на асацыяцыях, звязаны з колеравым арсеналам у вершы.

**Ключавыя словы:** сімволіка колеру, сэнсавыя дамінанты, філасофска-светапоглядная канцэпцыя, амбівалентныя катэгорыі.

## Summary

**Ales BARANOUSKI**

### The semantic structure of symbols white: synthesis of semantic dominants

The article dwells upon the ways of expressing meaning structures through white colour used by contemporary Belarusian poets. Aesthetic and emotional impressions of the authors, based on their associations, are shown to be connected with colour palette in a poem.

**Key words:** the symbolism of colors, dominant meaning, philosophical and ideological concept, ambivalent category.



**Серафім АНДРАЮК**

# ЖЫЦЦЁ. ЛІТАРАТУРА. ЧЫТАЧ

Чытаю ў Канстанціна Мачульскага, вядомага рускага літаратуразнаўцы, прадстаўніка першай хвалі рускага замежжа: «Крытыкі — ахоўнікі парадку ў літаратуры. Іх прызначэнне — будаваць «адзінае цэлае» з разнародных элементаў. Мастацтва, па сутнасці, такое складанае, супярэчлівае, хаатычнае: з'яўляецца крытыка

И на бунтующее море
Льет примирительный елей.

І рознагалосіца ператвараецца ў «зладжаны хор». Да крытыка былі толькі «нястрымныя гукі» — пасля яго ляжаць сістэмы, сінтэзы або, як казалі ў ранейшыя часы, «карціны літаратуры». Давайце прыгледзімся да якой-небудзь з гэтых «карцін»: як гарманічна размешчаны падрабязнасці ў агульным узоры, як усё звязана, падрыхтавана і ўзаемна абумоўлена!»

Па сутнасці, дзесьці пра падобнае выказваецца і славуты англа-амерыканскі паэт і тэарэтык літаратуры Томас С. Эліёт. Гаворачы пра развіццё літаратуры, традыцыі і абнаўленне, іх узаемаўзгодненасць, пэўную ўпарадкаванасць, ён дадаваў: «...Думаецца, даследаванне гэтай жа праблемы складае, па сутнасці, прызначэнне крытыкі».

Тут, і ў адным, і ў другім разе, вызначаны адносіны крытыкі непасрэдна да літаратуры як да галоўнага аб'екта яе ўвагі, яе даследавання. І гэта так. Бо калі галоўны аб'ект літаратуры — чалавек, жыццё, навакольны свет, то ў крытыкі — сама літаратура. Крытык, у пэўным сэнсе, — пасрэднік паміж чытачом і літаратурай. Якраз гэты момант вызначае прызначэнне крытыкі ў яе ўзаемадачыненнях з чытачом. Гэты момант асобна падкрэслівае Эліёт. Ён сцвярджае: «Крытыка... павінна заўсёды служыць пэўнай мэце, якою, груба кажучы, з'яўляецца вытлумачэнне твораў мастацтва і выхаванне густу».

Увага звернута на вызначэнне сэнсу і прызначэння крытыкі. У сваіх жа лекцыях Т. Эліёт разважае пра крытыку вельмі грунтоўна, падрабязна. Яго палажэнні, высновы — гэта не набытак адвольнага тэарэтызавання: яны здабыты ў выніку аналізу вялікага крытычнага матэрыялу. Ды і непасрэдна мастацкага.

Мне ўяўляецца, што ў такім разуменні крытыка ўбірае ў сябе (ці то далучае да сябе) і літаратуразнаўства. Толькі ў адным выпадку, у крытыцы, дамінуе ў падыходзе да літаратуры прынцып сучаснасці, у другім, у літаратуразнаўстве — прынцып гістарызму. Матэрыял крытыкі (і жыццёвы, і літаратурны) сучасны. У яго ідэйна-мастацкай ацэнцы погляд сучасны з'яўляецца вызначальным, а то і адзіным. Тое ж і з метадалогіяй і методыкай аналізу і ацэнкі літаратурных з'яў і фактаў. Крытыка звязана пераважна з літаратурнай (фактамі, творамі, творчасцю) сучаснасцю. Якраз гэтым абумоўлена наяўнасць у ёй эсэістычнасці, публіцыстычнасці. У крытыцы, у яе ўзаемаадносінах з літаратурай, пануе непасрэднасць, у літаратуразнаўстве — дыстанцыя часу. Тут даследуецца (і гэта, можа, адно з галоўных) літаратурны матэрыял мінулага, які ўжо жыццёва і эстэтычна сцвердзіў сябе ў гісторыка-літаратурным працэсе.

Гісторыя развіцця беларускай літаратуры новага перыяду выключна складаная, супярэчлівая. Прамежкі нармальнага натуральнага яе развіцця былі даволі непрацяглыя. Літаратура пастаянна адчувала ўздзеянне неарганічных для яе развіцця знешніх фактараў, найперш ідэалагічных. Усё гэта было ў нашай крытыцы, ды і ў літаратуразнаўстве. Толькі, можа, яшчэ ў большай ступені. І ўсё ж жыццё працягваецца ў любых умовах.

Чалавек жыве, працуе, адпачывае, думае, перажывае. Духоўная, эмацыянальная энергія ўнутрана пастунова збіраецца, назапашваецца і патрабуе выхаду. Гэта, калі яго, выхаду, няма нармальнага. І таму як толькі ствараюцца належныя сацыяльна-палітычныя ўмовы, энергія гэтая праяўляецца актыўна, напорыста. Такое ў нас здарылася ў духоўным жыцці і ярка выявілася ў шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя, у час так званай адлігі. Некаторыя (мастак Пётр Драчоў) называлі гэты час нацыянальным адраджэннем пасляваеннай Беларусі.

Працытую яшчэ раз (мне ўжо даводзілася цытаваць) выказванне на гэты конт кампазітара Сяргея Картэса. Вось яно: «Кожны час у гісторыі вызначаецца яркай падзеяй. У нас гэта быў перыяд «шасцідзясятнікаў»: агульны творчы ўздым, жаданне зрабіць штосьці новае, сцвердзіць сябе і г. д.». І далей: «...Безумоўна, не маглі быць 60-я гады ў Беларусі (і ў маёй памяці яны засталіся) без У. Караткевіча, Р. Барадуліна, артыстаў-купалаўцаў, чые імёны цяпер — гонар нацыянальнага тэатра, цэлай плеяды кінарэжысёраў: В. Чацверыкова, В. Турава, М. Пташука, І. Дабралюбава, тэатральных рэжысёраў: Б. Луцэнкі, В. Раеўскага, В. Мазынскага, А. Андросіка, Б. Эрына. Іх прысутнасць вызначала тагачасную атмасферу творчага Мінска».

Дадамо: іх пакаленне, пакаленне дзяцей вайны. Менавіта пакаленне. Можа, асабліва адносіцца гэта да літаратуры. У канцы 50—60-х гадоў беларуская літаратура зрабіла даволі прыкметны рывок у сваім развіцці. Новыя ідэі, тэмы, героі, новыя жанры, сюжэты, стылявыя пошукі. У значнай ступені новае ў літаратуру несла пакаленне тых, хто толькі што ўваходзіў у літаратуру. То было пакаленне дзяцей вайны, каго потым будуць называць «шасцідзясятнікі».

Актыўнасць літаратурнага працэсу, з'яўленне новых твораў у самых розных жанрах патрабавала крытычнай ацэнкі, разгляду ў нацыянальным літаратурным працэсе, вызначэння мастацкай адметнасці новага ў суаднесенасці з мінулым. Ды, шчыра кажучы, узнікла патрэба і на мінулае паглядзець больш уважліва, з пазіцыі сучаснасці.

Крытыка ўсё гэта добра адчула. Менавіта ў гэтыя гады, назіраецца асаблівая актыўнасць крытыкі. Значную ўвагу аддаюць крытыцы тыя, хто заявіў пра сябе да гэтага ў паэзіі і прозе: А. Лойка, І. Навуменка, Н. Гілевіч... Актыўна ўключыліся ў працэс крытычнага асэнсавання літаратуры і тыя, хто ў зусім маладым узросце толькі што прыйшоў з вайны — А. Адамовіч, У. Калеснік... Але асабліва рашуча ўвайшло ў тагачасны літаратурны працэс пакаленне, чыё дзяцінства было абпалена ў гады ваеннага ліхалецця. Тут хочацца назваць такіх крытыкаў, як В. Каваленка, Д. Бугаёў, В. Бечык, Г. Кісялёў, А. Мальдзіс, П. Дзюбайла, А. Ліс... Адны з іх былі захоплены сучаснасцю, актуальнымі праблемамі тагачаснай літаратуры, іншыя ўсю ўвагу звярнулі на нацыянальную літаратуру мінулага, імкнучыся паглядзець на яе з пазіцый сучаснасці, адчуць яе сучаснае гучанне. Кожны з іх застаўся ў крытыцы і літаратуразнаўстве, па сутнасці, на ўсе гады свайго творчага жыцця.

Сярод тых, хто прыйшоў у нашу літаратуру ў 2-й палове 50-х гадоў, годнае месца займае Міхась Мушынскі. Сёння Міхаіл Іосіфавіч Мушынскі вядомы літаратуразнавец, крытык, тэкстолаг. Ён член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук (1991), доктар філалагічных навук (1978). Ён лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа: адзначаны за ўдзел у двухтомным даследаванні «История белорусской советской литературы» і «История белорусской дооктябрьской литературы».

Ён з «філалагічнага пакалення», пакалення дзяцей вайны, пакалення шасцідзясятнікаў. Як і пераважная большасць прадстаўнікоў гэтага пакалення, Міхась Мушынскі вучыўся на філалагічным факультэце БДУ, куды паступіў у 1950 годзе пасля Быхаўскай сярэдняй школы № 1.

Нарадзіўся 24 студзеня 1931 года ў в. Мокрае Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Тут правёў з маці нялёгкія ваенныя гады. З тымі гадамі звязана і затрымка ў вучобе. Як і ў многіх дзяцей таго пакалення. Але ж тыя гады навучылі працаваць, спакойна пераносіць жыццёвыя цяжкасці і ўсялякія нязручнасці.

Скончыўшы ўніверсітэт у 1955 годзе, стаў рэдактарам выдавецтва таго ж універсітэта. Але нядоўга там давялося працаваць. З канца 1956 года — у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі, дзе і працуе да сённяшніх дзён. Назва навуковай установы ў апошнія гады не адзін раз мянялася, але ўсё ж у літаратурным, культурна-навуковым жыцці па-сапраўднаму сцвердзіла сябе ранейшая. У інстытуце за ўвесь час займаў розныя пасады: спачатку навуковы супрацоўнік, з 1964 — старшы навуковы супрацоўнік, з 1979 — загадчык сектара (пазней аддзела) выданняў і тэксталогіі, з 2002 — галоўны навуковы супрацоўнік.

У год заканчэння ўніверсітэта ў часопісе «Беларусь» (1955, № 12) з’явілася першая рэцэнзія Міхася Мушынскага. У гэтым жа годзе (у другой палове) — яшчэ дзве рэцэнзіі. Як уяўляецца, былі то рэцэнзіі ў чымсьці выпадковыя. Нішто іх не аб’ядноўвала. У 1956 г. зноў жа надрукаваў некалькі рэцэнзій рознай тэматыкі, рознага характару.

Тры гады ніякіх публікацый не было. Пачынаючы з 60-х гадоў крытычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы з’яўляюцца пастаянна. І ў не малой колькасці. Асабліва з канца 80-х гадоў. Дастаткова назваць некалькі лічбаў, каб пераканацца ў творчай актыўнасці даследчыка. Так, напрыклад, у 2002 годзе ў розных перыядычных выданнях было 17 публікацый, у 1987 — 16, 1990 — 15, у 1989 — 13, у 2001 — 11, у 1993, 1998, 2000 — па 10. Прычым, усё гэта публікацыі пераважна літаратуразнаўчага характару, непасрэдна звязаныя з яго тагачаснымі навуковымі клопатамі. Увогуле колькасць публікацый (а гэта пераважна навуковыя працы) у навуковых і літаратурных выданнях, як і колькасць асобных кніжных выданняў (манаграфіі, зборнікі артыкулаў) вартыя здзіўлення і захаплення. Хаця ў канчатковым выніку не ў колькасці ці не толькі ў колькасці справа. Але і колькасць сведчыць, у якой актыўнай творчай форме ён пастаянна знаходзіцца. Знаёмячыся бліжэй з тэматыкай і праблематыкай публікацый, бачыш, як чула Мушынскі-крытык рэагуе на зрухі літаратурнага працэсу, і, як літаратуразнаўца, кожны літаратурны факт, твор, падзею, бачыць і ў суаднесенасці з часам і ў агульным літаратурным кантэксце. Больш за тое, пачынаеш разумець, у якой ступені арганічна звязаны ўсе дзялянкі яго творчай дзейнасці. Сувязю жыццёвай і эстэтычнай.

У навуковай дзейнасці, у творчасці Мушынскага моцна адчуваецца, відаць унутраная змабілізаванасць, імкненне на пэўныя літаратурныя з’явы, творы, аўтара паглядзець як бы з розных пунктаў гледжання, з розных даследчых пазіцый. Ужо з самага пачатку творчай дзейнасці з’яўляюцца публікацыі, якія пазначаюць адну з галоўных ліній яго навуковых літаратурных захапленняў і здзяйсненняў.

У 1961 годзе з’яўляюцца артыкулы «Творчая гісторыя паэмы Я. Коласа “Сымон-музыка”» і «З творчай гісторыі “Новай зямлі: (Выспяванне задумы і жанравае станаўленне)”». Гэтыя артыкулы сталі асновай першай манаграфіі «Ад задумы да здзяйснення: Творчая гісторыя “Новай зямлі” і “Сымона-музыкі”» (1965). То была публікацыя, па сутнасці, кандыдацкай дысертацыі, абароненай да таго.

Такім быў пачатак адданейшага вывучэння жыцця і творчасці вялікага нацыянальнага паэта і празаіка, імкненне данесці ў поўным аб’ёме творчасць і асобу яго. Гэта для даследчыка стала адной з галоўных, а можа, галоўнай задачай усяго творчага жыцця. Пастаянна друкаваліся ў перыядычных выданнях літаратуразнаўчыя і крытычныя артыкулы. Даследчыка цікавіла не толькі творчасць

пісьменніка сама па сабе, але і яе чытацкі лёс. Пра шырокую зацікаўленасць асобай і творчасцю Якуба Коласа сведчаць і навуковыя працы Мушынскага: «Якуб Колас: Летапіс жыцця і творчасці» (1982), «Тэксталогія твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа» (2008), «Мае Каласавіны» (2010).

Як мне здаецца, то ўсе гэтыя творы, творы звязаныя з асобай і творчасцю Якуба Коласа, па іх значнасці, колькасці, ідэйна-тэматычным ахопе, займаюць адно з галоўных (калі не галоўнае) месцаў. Бо менавіта ў іх у найбольшай ступені выразна выявіўся літаратуразнаўчы талент даследчыка, яго адметнасць, яго навукова-крытычная неабходнасць у літаратурным працэсе XX стагоддзя. Даследчыка ў першую чаргу цікавяць не якіясьці агульна-тэарэтычныя ці непасрэдна эстэтычныя пытанні літаратуры, не месца ў сусветным ці то рэгіянальным кантэксце. Яго галоўны клопат — стварэнне твора, выхад у свет, бытаванне ў свеце. Сацыяльным, літаратурным. Тое самае і ў стаўленні да творчасці як жыццёвай і мастацкай паяднанасці многіх твораў. Яны паяднаны асобай аўтара, часам, нацыянальнай літаратурай. Можна толькі здзіўляцца (і захапляцца) адданасці аўтара пэўнай тэме, праблеме літаратурнай, яго пастаяннаму жаданню выявіць яе жыццёвасць, знайсці жыццёвыя вытоќі.

Як мяркуецца, у коласазнаўчай творчасці М. Мушынскага асноўнае месца займае кніга «Якуб Колас: Летапіс жыцця і творчасці», кніга, у якой, як зазначана ў анатацыі: «У храналагічнай паслядоўнасці ўзнаўляюцца найбольш значныя факты жыцця і літаратурна-творчай, навуковай, грамадскай дзейнасці вялікага песняра беларускага народа...» Жыцця выключна багатага, складанага ў няпросты час у няпростых гістарычна-грамадскіх умовах. Але не проста ўзноўлены, падабраны, пададзены ў храналагічнай паслядоўнасці. У невялікай прадмове сам аўтар пра гэты «Летапіс...» гаворыць «як пра адметную форму даследавання», пэўны літаратуразнаўчы жанр. Ён падкрэслівае: «Характэрная асаблівасць «Летапісу...» у тым, што разнастайны гістарычна-літаратурны, біяграфічны, мемуарны, эпісталярны матэрыял — пасля яго крытычнай праверкі, усебаковага аналізу — падаецца ў пэўнай сістэме, пад пэўным кутом гледжання. Увогуле «Летапіс...» — гэта не толькі звод бібліяграфічных звестак, не толькі даведачна-інфармацыйны дапаможнік. Гэта кніга, якая мае сваю фабулу, свой сюжэт, сваіх герояў, тут ёсць пэўны грамадскі фон, рэальнае сацыяльна-бытавое асяроддзе...»

Як прыклад называюцца «Летапісы...», прысвечаныя жыццю і творчасці класікаў рускай літаратуры: Л. Талстога, І. Ганчарова, М. Горкага, У. Маякоўскага. Якраз гэтыя летапісы сведчылі пра літаратуразнаўчую значнасць жанру, яго выключную працаёмкасць. Страшна ўявіць сабе, якую гару матэрыялу давялося перавярнуць даследчыку: кніг, часопісаў, газет, рукапісаў, пісьмаў, розных пастаноў, рашэнняў... Ды не проста «перавярнуць» яго, сур'ёзна пазнаёміцца з ім, а надаць яму пэўную цэласнасць, унутранае адзінства. Тут патрэбна пэўная арганізуючая матэрыял рознага характару, рознага зместу думка-ідэя. Сам жанр гэтага патрабуе: летапіс — *чаго?* І ў першую чаргу чаго, а не каго: летапіс жыцця і творчасці. Але, зразумела ж, жыцця і творчасці *каго.* Гэтым вызначаецца значнасць і жанру наогул і канкрэтнага твора гэтага жанру.

Зноў жа ў прадмове аўтар выразна вызначае мэту свайго твора і шляхі яе творчай рэалізацыіі. Ён піша: «Зыходная думка, пакладзеная ў аснову «Летапісу...» — гэта думка аб народных крыніцах таленту Я. Коласа, аб глыбокай сацыяльнай прыродзе, народнай аснове яго творчасці. А таксама — аб яго душэўнай шчодрасці».

Не менш важным было таксама выявіць у «Летапісе...» багацце і шматстайнасць сувязей Коласа з рэчаіснасцю, з эпохай, узнавіць грамадска-бытавы фон, рэальнае асяроддзе, у якім пісьменніку даводзілася жыць, працаваць.

Якуб Колас і як чалавек, і як творца займаў у жыцці і ў літаратуры ва ўсе часы пазіцыю выключна актыўную, зацікаўленую, пазбаўленую хоць малога раўнадушша. І ў «Летапісе...» усё гэта добра відаць, адчуваецца. Кола асоб, з якімі

непасрэдна кантактаваў творца — а гэта пісьменнікі, дзеячы мастацтва і культуры, навукоўцы, працаўнікі грамадска-палітычнай сферы — даволі шырокае, багатае. І прадстаўлена яно Міхасём Мушынскім даволі выразна ці то ў апавяданні самога аўтара, ці то дзякуючы ўспамінам, лістам, крытычна-публіцыстычным выказванням тых, з кім кантактаваў сам Колас, а то і проста цытуючы якіясьці пастановы, рэзалюцыі. Усё гэта ўзбуйняе асобу чалавека і творцы — героя «Летапісу...», надае асобе актыўнасць, дзейснасць, глыбей выяўляе яе грамадзянскую і творчую сутнасць.

«Летапіс...» дае магчымасць як бы зблізку, непасрэдна паглядзець на творцу, чалавека, грамадзяніна, адзначыць асноўнае для нас і важнае для яго. Добра паказана, што для Коласа літаратура была ўсім. Гэта не толькі непасрэдна яго творы, іх пераклады, творчасць яго сяброў, таварышаў, тагачаснае літаратурнае жыццё, літаратура — гэта вышэйшая эстэтычная форма сцвярджэння чалавека і чалавечнасці.

Характэрны запіс, пазначаны 30 снежня 1947 г. Вытрымка з ліста да С. Гарадзецкага: «Мне кажется, вы, наши старшие братья, должны позаботиться о том, что Достоевский наш, а что прохвосты стараются использовать (Федора Михайловича Достоевского) в своих целях — это надо выбить козырь из их рук. Выше по таланту Достоевского нет в мире писателя. Достоевский наш, Достоевскому, если нужно, все надо простить, имея в виду, что вся жизнь Ф. М. была направлена в пользу человека, а не системы». Гаварылася гэта ў часы, калі творчасць і асоба вялікага пісьменніка па ідэйных меркаваннях былі, мякка кажучы, не ў пашане тых, хто трымаў у сваіх руках усю ўладу. Дарэчы, С. Гарадзецкі — напэўна, адна з самых важных фігур у Коласавым творчым атачэнні.

«Летапіс...» — кніга жыцця і творчасці Якуба Коласа. З гэтай прычыны факты творчасці (хаця і само жыццё цікава найперш таму, што гэта жыццё творцы) займаюць асабліва значнае месца. Тут каштоўныя не так даты і назвы, назвы газет і часопісаў, дзе твор упершыню надрукаваны, хаця гэта таксама патрэбна, як магчымасць хоць у нейкай ступені дакрануцца да самога працэсу творчасці, пачуць, уведаць, як сам аўтар ацэньвае зробленае ім, як творыць. І вельмі добра, што даследчык бачыць і разумее гэта. Ён пастаянна выкарыстоўвае ў гэтых мэтах матэрыял дзённікаў, багатай эпісталярнай спадчыны.

Некалькі сведчанняў.

1923 год, 5 студзеня. Ліст да жонкі: «На Н(овый) год я заходил только к Купале. Купала был у меня […] Сегодня же закончил я «Новую землю». Конец меня удовлетворяет в полной мере. Несколько штрихов — и «Новая земля» вполне оправдывает свое название и избавляет меня от надоедливой мысли, что содержание не соответствовало своему имени […]

Окончивши свой труд многолетний, чувствую некоторую пустоту и грусть».

Пасляваенны ўжо час. Ліст да Я. Мазалькова 7 студзеня 1947 г. Пра паэму «Рыбакова хата»: «Работа движется медленно и со скрипом. Ведь надо связать концы с концами. Приходится сжиматься, и это сжатие, пожалуй, нарушит несколько общий диапазон поэмы. Еще 2-3 дня, и поэма будет закончена. Но это не значит, что я больше над ней работать не буду».

Праз некалькі дзён, а менавіта 12 студзеня, у лісце да С. Гарадзецкага пра тую ж паэму: «Закончил […] в 12 часов 30 минут дня. Поставил точку, выкурил папиросу. Как получилась моя 24-я глава поэмы, еще хорошо не могу оценить сам. Возможно, что потребуется эпилог».

Узята некалькі прыкладаў. А іх у «Летапісе...» нямала. Яны характарызуюць сам працэс творчасці. Адрасаты гэтых лістоў, перакладчыкі твораў Коласа згадваюцца ў даследаванні не адзін раз. У іх (гэтых лістах) добра адчуваецца турботнасць пра свае творы на рускай мове. Фігуруюць іншыя перакладчыкі, пісьменнікі наогул. Сотні прозвішчаў беларускіх творцаў, творцаў усяго Савецкага Саюза так ці інакш згадваюцца ў «Летапісе...» Усё гэта людзі не выпадковыя. Гэта

тыя, з кім ён таварышаваў, творча працаваў, сябраваў, меў творчыя кантакты. Тут добра бачыцца і сам галоўны герой «Летапісу...» — творча актыўны, тварыскі, апантаны грамадскімі клопатамі і турботамі, перапоўнены прагай дзейнасці. І не толькі. Тут добра адчуваецца і час, у якім жыў і працаваў народны паэт, асабліва гады пасляваенныя. Бачна грамадзянская і творчая актыўнасць людзей творчых наогул, іх сувязі з кіраўніцтвам партыйным і дзяржаўным розных узроўняў. Яны заўсёды былі ў Вярхоўным савеце. У гэтым сэнсе іх прысутнасць, безумоўна ж, і Якуба Коласа, моцна адчувалася ў стварэнні духоўнага клімату рэспублікі.

Сённяшняя сітуацыя ў нашай краіне ў гэтым плане выклікае сум. Дзе людзі мастацтва, творцы духоўных каштоўнасцей у кіруючых органах духоўнага жыцця? Што іх аб’ядноўвае? Якая агульная ідэя? Так, групоўкі, тусоўкі. Хтосьці выскачыць за мяжой, нешта скажа... «Летапіс...» дае матэрыял не толькі для вывучэння, пазнання мінулага, але і прымушае ўважліва паглядзець на тое, што сёння ў нас робіцца...

Зразумела, Якуб Колас у нашай гісторыі фігура значная. У літаратуры, у жыцці духоўным, грамадскім. І даследаванне добра гэта паказвае, сцвярджае. Ды не толькі гэта. У «Летапісе...» даволі добра пададзена і прыватнае, асабістае жыццё паэта, чыста чалавечыя яго паводзіны, учынкі. Гэта паказана, пра гэта сказана. Часам адной фразай. І яна заўважана, пададзена.

Некалькі прыкладаў з пасляваенных часоў. Прыводзяцца запісы з дзённіка.

1947 год, 27 студзеня. «Высылае старшыні калгаса ў в. Балачанка Пухавіцкага р-на К. С. Дзятка 30 000 руб. на набыццё каня для калгаса».

Красавік, 23. «Разам з сынам Міхасём пасадзіў каля дому дубок. Запіс у дзённіку: “Назаву дуб Юркам”».

Май, 24 (?). «Пасылае старэйшаму брату Уладзіміру ў Акінчыцы 5000 руб.».

Чэрвень, 7. «Наведвае намесніка старшыні Савета Міністраў БССР К. В. Кісялёва па дэпутацкіх справах: “Прасіў ад імя маіх выбаршчыкаў Ленінскага раёна Пінскай вобласці падкінуць ім трохі адзення. Мне таксама радасна, калі мне ўдаецца што-колечы зрабіць на карысць людзям”».

Чэрвень, 1. «З сынам Міхасём едзе ў Мікалаеўшчыну, 2 чэрвеня наведвае памятныя мясціны дзяцінства. У дзённіку запісвае: “Слаўная мясціна. Тая ж хата, у якой адбылася мая сустрэча з Янкам Купалам. На гумне агромнае буслявае гняздо з буслямі. Мае дрэвы павырасталі. Проста не верыцца, што я саджаў іх 36 гадоў таму назад”».

Згадваецца ў кнізе паведамленне ў «ЛіМе» пра падпіску на Дзяржаўную пазыку. Якую Колас падпісаўся на 40 000 рублёў.

Прыклады ўзяты з «летапісных» запісаў за першае паўгоддзе 1947 года. Запісаў падобнага характару і зместу хапае ў «Летапісе...» і за іншыя гады жыццёвага шляху паэта. Яны вобраз галоўнага героя ўзбагачаюць, робяць яго больш зямным, цёплым, светлым, сам «Летапіс...» напаўняюць не толькі фактамі, падзеямі, датамі, назвамі, прозвішчамі, але і насычаюць яго пэўнай эмацыянальнай атмасферай. Якуб Колас у гэтай кнізе-даследаванні прадстае не толькі славутым паэтам, празаікам, публіцыстам, актыўным грамадскім дзеячам, але і чалавекам па-сялянску мудрым, простым, душэўным, чалавекам беларускай зямлі.

«Летапіс...» нясе ў сабе багацейшы фактычны матэрыял, прысвечаны жыццю і творчасці Якуба Коласа, спазнання бытавых і сацыяльных умоў таго часу. Але, вядома, ні жанр даследавання, ні час напісання твора не дазволілі ў поўнай меры выкарыстаць фактычны матэрыял, зрабіць з яго пэўныя творчыя і жыццёвыя высновы. Таму для Міхася Мушынскага, як даследчыка, схільнага да як мага больш поўнага выкарыстання фактычнага матэрыялу, многае засталося не выкарыстанае ці то выкарыстанае ім не ў поўнай меры. Засталося ў памяці, у сэрцы. Як канкрэтны літаратурны матэрыял для далейшага даследавання творчасці пісьменніка, як своеасаблівы ўзбуджальны для крытычна-літаратуразнаўчай дзейнасці зарад. Прычым зарад гэты быў настолькі моцны, а накапленні коласаўскага

матэрыялу такія багатыя, што гэта адчуваецца, бачыцца ва ўсіх пазнейшых навуковых даследаваннях. І не толькі звязаных з творчасцю славутага пісьменніка. Але яго асабліва.

Склаліся іншыя ўмовы сацыяльна-палітычныя, іншыя задачы давялося вырашаць у межах навукова-практычнай дзейнасці. Па-першае, Мушынскі пастаянна выступае на навукова-практычных канферэнцыях, прысвечаных жыццю і творчасці славутага паэта і празаіка. Канферэнцыі тыя пачалі называцца характэрна — Каласавіны. У 2010 годзе ўсе гэтыя матэрыялы будуць выдадзены асобнай кнігай «Мае Каласавіны». Тэматыка і праблематыка артыкулаў багатая і разнастайная. Гэта пытанні агульнага характару датычныя творчасці Коласа: «Якуб Колас і рэвалюцыя: сацыяльна-палітычныя аспекты праблемы» (1992); «Спадчына Якуба Коласа як мастацкая цэласнасць» (1994); «Якуб Колас: талент і ўлада» (2009); «Публіцыстыка і яе месца ў літаратурна-мастацкай спадчыне Якуба Коласа» (2004); «“За край, за радзіму, за волю...”: літаратурная дзейнасць Якуба Коласа ў гады Айчыннай вайны» (2005). Гэта і спробы па-новаму, па-сучаснаму паглядзець на якіясьці агульныя моманты творчасці пісьменніка, а таксама на асобныя творы: «Аповесць Якуба Коласа «Адшчапенец»: спробы сучаснага прачытання» (1987); «Творчая гісторыя паэмы “Сымон-музыка”» (1990); «“Новая зямля” як праява духоўнасці беларускай нацыі» (1993); «Чалавек і прырода ў апавяданнях Якуба Коласа» (1999); «Рэлігійныя матывы ў паэме «Сымон-музыка»: параўнальны аналіз дзвюх рэдакцый» (2000); «Публіцыстыка і яе месца ў спадчыне Якуба Коласа» (2005); «Нацыянальны шэдэўр ва ўспрыманні іншамоўнага чытача: «Новая зямля» ў перакладзе на рускую мову» (2001). І яшчэ адзін істотны кірунак коласазнаўчых даследаванняў, звязаных з Каласавінамі, а таксама непасрэдна з асноўнай, тэксталагічнай, працай даследчыка: «Прынцыпы выдання першага Поўнага Збору твораў Якуба Коласа» (1985); «Яшчэ раз пра выбар асноўнага тэксту трылогіі Я. Коласа “На ростанях”» (1996); «Лірыка Якуба Коласа «нашаніўскага» перыяду: з гісторыі перапрацоўкі і друкавання» (1997).

Шматгадовая праца ў галіне падрыхтоўкі і выданні нацыянальнай літаратурнай спадчыны давала багаты матэрыял для шырокіх даследаванняў, тэксталагічнага і эдыцыйнага характару. М. Мушынскі скарыстаўся гэтым у поўнай меры. Падрыхтоўка і выданне Поўнага Збору твораў Янкі Купалы (у 10 тамах), Поўнага Збору твораў Якуба Коласа (у 20 тамах), Поўнага Збору твораў Максіма Багдановіча, Збораў твораў Максіма Гарэцкага, Міхася Зарэцкага, Змітрака Бядулі, Івана Мележа, Аркадзя Куляшова не заўсёды былі простыя — і ў часы савецкія, і ў новым стагоддзі. Праўда, складанасці розныя. У ранейшыя часы яны насілі больш ідэйна-палітычны характар і звязаны з цэнзурнымі ўмяшаннямі. У новым часе — гэта вызначэнне асноўнага тэксту выдання. І тут адзін з асноўных момантаў — пазбавіць тэкст ад цэнзурных ідэйна-палітычнага характару ўмяшанняў. У меншай ступені рэдактарскіх такога ж зместу.

У свой час, працуючы ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», я меў магчымасць пабачыць, уведаць, як цэнзура з ідэйных, вядома ж, меркаванняў нявечыла тэксты. Ішло выданне Збору твораў М. Гарэцкага. У 4-м томе ўпершыню друкавалася яго «Камароўская хроніка». Выданне рыхтавалася ў Інстытуце літаратуры АН БССР. Тэкст быў падрыхтаваны навукова-тэксталагічна, меў даволі грунтоўны каментар. Навуковым рэдактарам з'яўляўся А. Адамовіч. Але ў Галоўліце ўзнік цэлы шэраг заўваг, прапаноў па скарачэнні мясцін ідэалагічнага характару, як там палічылі. На сённяшні дзень усё гэта проста смешна. Напрыклад такія вось выказванні, сказы: «сяляне не за рэвалюцыю», «але выхоўвалі іх у семінарыі ў рускім, патрыятычным духу і, мусіць, не было ў Міхалкі беларускай, адраджэнскай свядомасці», «Іван Фаміч быў юдафоб. Казаў: “Евреи со мной считаются. Они имеют список, какие газеты я читаю”», «з беларусаў тут выпісваў “Вольную Беларусь” Войцік». Такія мясціны рэкамендавалася (загадвалася) апусціць. Аўтарытэтная рэдкалегія вырашыла пазмагацца. Быў складзены ліст (аж на 7 машына-

пісных лістах), у якім доказна даводзілася немэтазгоднасць прапанаваных скарачэнняў. Падпісаліся члены рэдкалегіі — 6 чалавек. Ліст адрасаваўся кіраўніцтву выдавецтва: яно ж выдае. Дзесьці ў тыя ж дні дачка Максіма Гарэцкага Галіна Максімаўна наведала загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ І. Антановіча. Я аднёс гэты ліст у ЦК, пагаварылі з загадчыкам. Прайшло тыдні два. Чакаю, што патэлефануюць. Нічога. Тэлефаную сам. Прапануюць зайсці. На гэты раз сустрэча аказалася чыста афіцыйнай. Размовы па сутнасці не было. Уручыў мне загадчык некалькі паперак, ад рукі напісаных: маўляў, там сказана ўсё, што трэба. Вярнуўся ў выдавецтва. Прачытаў. У пачатку было напісана: «К беседе с т. Антоновичем». Далей ішлі заўвагі і рэкамендацыі па рукапісе. Іх было больш, чым раней. Чые гэта заўвагі і рэкамендацыі, невядома: подпіс адсутнічаў. Мы ж іх атрымалі ад аддзела культуры. Пазіцыя агульная — цэнзуры і аддзела культуры.

Так тады, у савецкія часы, выдаваліся кнігі — усе. І не заўсёды было проста вызначыць, дзе непасрэдна аўтараў тэкст, а дзе падпраўлены цэнзурай. Гэта добра ўведалі супрацоўнікі аддзела выданняў і тэксталогіі і іх загадчык М. Мушынскі ўжо ў гады пасляваенныя. Па сутнасці, гэта датычылася ўсяго, што перавыдавалася, што каментавалася. Парушэнні аўтаравай волі, а то і прамыя скажэнні тэксту сустракаліся пастаянна. І для выдання (найчасцей перавыданняў) было вельмі важна вызначыцца з тэкстам, дзе няма парушэнняў аўтаравай волі.

Мушынскі, грунтоўна даследуючы жыццё і творчасць Якуба Коласа, працуючы асабіста і з калектывам тэкстолагаў як іх кіраўнік, рыхтуючы навукова-каментаваныя перавыданні і Зборы твораў, непасрэдна сутыкнуўся з тэксталагічнымі і ідэйнымі праблемамі нацыянальнай літаратурнай спадчыны. І ён не мог не адрэагаваць на іх — як навуковец, як чалавек.

Згадваліся ўжо, у сувязі з жыццём і творчасцю Якуба Коласа, а таксама з дзейнасцю Каласавінаў, артыкулы, прысвечаныя выданню спадчыны яго — і асобных твораў, і Поўнага Збору твораў. Былі іншыя артыкулы, звязаныя з творчасцю народнага пісьменніка. Так, у альманаху «Шляхам гадоў-2» (1990) змешчаны грунтоўны артыкул «Вярнуць чытачу першапачатковы тэкст “Адшчапенца”». Твор гэты турбаваў даследчыка і раней. Яшчэ ў 1987 г. у «ЛіМе» друкаваўся артыкул з красамоўнай назвай «Рэабілітацыя героя (пра аповесць Якуба Коласа «Адшчапенец»)». Як ужо згадвалася, быў і ў «Каласавінах» матэрыял пра гэты твор. Здаецца, турботы адносна аповесці рэалізаваліся толькі ў Поўным Зборы твораў Якуба Коласа (у 20 тамах) у апошнія гады. Дарэчы, у гэтым выданні былі ўлічаны і іншыя эдыцыйныя прапановы даследчыка (адносна «Сымона-музыкі», «На ростанях»...).

Увогуле пытанні эдыцыйнай практыкі, здаецца, ніколі не заставаліся па-за ўвагай Мушынскага-даследчыка — і як тэкстолага, і як тэарэтыка. Для таго, каб упэўніцца, якія выдавецка-тэксталагічныя пытанні яго хвалявалі, мне здаецца, дастаткова назваць ягоныя артыкулы канца ХХ стагоддзя: «Беларуская тэксталогія: дасягненні і перспектывы развіцця» (1989); «Навукова-каментаваныя выданні спадчыны класікаў беларускай літаратуры: набыткі, перспектывы» (1996); «Першы Поўны Збор твораў Янкі Купалы: канцэпцыя выдання і яе практычная рэалізацыя» (1999); «Праблема выдання класічнай спадчыны: вопыт мінулага, сучасны стан, перспектывы» (1999); «Праблемы падрыхтоўкі і выдання Збору твораў А. Куляшова» (2000). Нарэшце, у 2007 годзе выходзіць кніга Мушынскага «Тэксталогія твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа», самы значны набытак эдыцыйнай практыкі беларускага літаратуразнаўства. З аднаго боку, абагулены немалы вопыт нацыянальнай эдыцыйнай практыкі, з другога — закладзены тэарэтычныя асновы, пазначаны асноўныя напрамкі, прынцыпы дзейнасці ў галіне навуковага, навукова-масавага выдання багатай і вельмі няпростай нацыянальнай літаратурнай спадчыны.

Як бачна, зроблена даследчыкам у тэарэтычным асэнсаванні нацыянальнай эдыцыйнай практыкі і тэксталогіі спадчыны нацыянальнай літаратуры шмат.

Можна толькі здзіўляцца: як змог? Мяркую, справа ў яго выключнай працавітасці і дзесьці, няхай не прагучыць гэта смешна, як бы сялянскай гаспадарлівасці і ашчаднасці. Ужо згадвалася, што той багацейшы жыццёвы матэрыял, які быў накоплены ў час працы над «Летапісам жыцця і творчасці Якуба Коласа», даў магчымасць свабодна працаваць над самымі рознымі тэмамі — і агульнага, і прыватнага зместу — коласазнаўства. Больш за тое, якраз багацце жыццёвага і мастацкага матэрыялу з'явілася грунтоўнай асновай для распрацоўкі праекта выдання Поўнага Збору твораў Якуба Коласа. І яшчэ думаецца, што спазнанне выключнага драматызму жыццёвага і творчага лёсу народнага пісьменніка, драматызму і трагізму жыцця 30-х гадоў узмацнілі тую навукова-мастацкую, духоўную і эмацыянальную пазіцыю даследчыка ў яго стаўленні да выдання, вывучэння жыцця і творчасці пісьменнікаў рэпрэсіраванага пакалення: Максіма Гарэцкага, Міхася Зарэцкага, Цішкі Гартнага, Рыгора Мурашкі, Сымона Баранавых, Тодара Кляшторнага, Платона Галавача, Васіля Каваля, Язэпа Пушчы.

Увага да вывучэння іхняй творчасці звязана з выданнем іх спадчыны, а таксама з планавай працай канца 60-х гадоў «Раман і аповесць 30-х гадоў». Ужо зазначалася, што Мушынскі як даследчык вельмі ашчадна ставіцца да набытага ім літаратурнага матэрыялу, фактаў, звязаных з жыццём і творчасцю асобных пісьменнікаў. Так сталася з Якубам Коласам, так сталася з Максімам Гарэцкім, Міхасём Зарэцкім, Кузьмой Чорным. Галоўным чынам з тымі, над чыёй спадчынай давялося працаваць пры падрыхтоўцы і выданні іх збораў твораў. Так адбылося з М. Гарэцкім і М. Зарэцкім. Асабліва шмат публікацый было звязаных з творчасцю Гарэцкага. Можа, не менш, чым з асобай і творчасцю Якуба Коласа. Таму зусім зразумела, што накоплены багацейшы матэрыял, звязаны з жыццём і творчасцю, зробленыя навуковыя напрацоўкі не маглі не прывесці да стварэння манаграфічнага даследавання «Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі: жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага» (2008). Раней праца над выданнем Збору твораў і даследаванне творчасці таксама мелі сваім вынікам з'яўленне манаграфіі «Нескараны талент: Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Міхася Зарэцкага (1991, 2005 2-е выд.).

Хочацца звярнуць увагу вось на які момант: і ў адной манаграфіі, і ў другой, а таксама ў многіх артыкулах, некаторыя вышэй названы, аўтар выкарыстоўвае двайную назву. Звычайна адна назва, першая (так у памянёных манаграфіях) перадае ідэйны сэнс, другая змястоўную аснову. У адной як бы пераважае момант крытычны, у другой — даследчы. У даследчыку ўвесь час імкнецца выявіць сябе крытык, у крытыку творчую аснову складае літаратуразнавец.

Літаратуразнаўчыя артыкулы, прысвечаныя жыццю і творчасці вышэй названых пісьменнікаў напоўнены выключна багатым жыццёвым і літаратурным матэрыялам, насычаны эмацыянальна моцным драматызмам. Прычым, драматызм гэты — не драматызм аўтаравых творчых намаганняў. Гэта — драматызм жыццёвага і літаратурнага матэрыялу, узятага ў аснову даследавання, эмацыянальна балюча перажытага.

Сваю кнігу «Нескароны талент...» Міхась Мушынскі так закончыў: «Гэтую кнігу мне хацелася б закончыць наступнымі словамі: дапамажы, Божа, гэтай сціплай кнізе своечасова ўбачыць свет, а яе аўтару дай магчымасць парадавацца светлай радасцю далучэння да высакароднай справы па ўшанаванні памяці выдатнага мастака слова, аднаго з соцень тысяч нявінна ўбіенных сыноў шматпакутнай і гаротнай зямлі беларускай, бо сваё кароткае жыццё яны пражылі ў няспынных клопатах пра будучыню Бацькаўшчыны. Пісалася ж гэтая кніга з вялікай душэўнай узрушанасцю і неадольнай прагай маральнага ачышчэння».

Ведаючы аўтара, яго аптымістычнае жыццеўспрыманне свету, моцна напоўненае ўспышкамі гумару, чытаючы асобна гэтае заканчэнне кнігі, адразу як бы не верыш: ці ён напісаў гэта? Такая перажытасць, такі боль, такая узвышанасць... Але ў літаратуры кожны кавалак, кожны абзац тэксту гучыць, успрымаецца пасапраўднаму ў кантэксце. У кантэксце літаратурным, у кантэксце жыццёвым.

Мы добра ведаем, колькі часу (а гэта не адно і не два дзесяцігоддзі) аддаў вывучэнню літаратуры, гэтых шматпакутных 20—30-х гадоў Міхась Мушынскі. А ён не проста вывучаў, ён жыў у тым часе, у той сацыяльна-палітычнай, духоўнай атмасферы, у тым літаратурным свеце. Тут не толькі якіясьці падзеі агульназначнага зместу, з'явы і факты зноў жа многім вядомыя. Не толькі. Даследчык вывучыў усё: літаратуру, атмасферу тагачаснага духоўнага жыцця, яго дзесьці бытавы план — у самых нязначных фактах, падрабязнасцях, дэталях. А ўсё гэта — а там столькі трагізму! — не магло не адбіцца на самой манеры падачы, эмацыянальным выкладанні матэрыялу. Зразумела ж, матэрыялу трагічнага па сваім змесце. У найбольшай ступені выявілася гэта ў кнігах, прысвечаных Максіму Гарэцкаму і Міхасю Зарэцкаму. Добра адчуваецца, бачыцца ў раздзелах «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя», у артыкулах пра жыццё і творчасць пісьменнікаў, народжаных як творцы ў бурныя 20-я, загінуўшых у лютыя 30-я.

Пра атмасферу лютасці добра расказана, напрыклад, у артыкуле «Шчыры, шчыры Павел». Яго ідэйная змястоўная сутнасць пададзена ў падзагалоўку: «Праўдзівая гісторыя драматычных стасункаў Паўлюка Труса з “Маладняком” і “Узвышшам”». Даследчык, можа, упершыню ў нашай навуцы праз літаратуру паказвае як сама атмасфера запалітазаванасці, класавай непрымірымасці ўцягвае ў барацьбу людзей творча актыўных зусім у духоўным (творчым) плане не варожых адзін другому. Багата выкарыстоўваючы эпісталярную спадчыну П. Труса, іншых пісьменнікаў гадоў утварэння літаратурнай арганізацыі «Узвышша», даследчык імкнецца паказаць і паказаў, якімі няпростымі з'яўляліся ўзаемадачыненні ў той напружанай атмасферы паміж творцамі, як няпроста было кожнаму застацца самім сабою. Выяўляючы ўсю складанасць жыццёвых і літаратурна-творчых сітуацый тых драматычных гадоў, неадназначнасць чалавечых і пісьменніцкіх творчых лёсаў, Мушынскі выразна акрэслівае і сваю творчую пазіцыю. Ён заяўляе, што «калі мы хочам мець аб'ектыўнае ўяўленне пра літаратурна-творчае жыццё 20-х гадоў, пра тагачасную атмасферу, маральна-псіхалагічны клімат у пісьменніцкім асяроддзі», трэба мець на ўвазе ўсю складанасць, жыццёвую, грамадска-палітычную, літаратурную, тагачаснай сітуацыі. «Болей за тое! Даследчык увогуле не мае права наводзіць глянец на біяграфію пісьменніка, згладжваць вастрыню канфлікту і супярэчнасцей, што, на вялікі жаль, яшчэ мае месца ў літаратуразнаўчай практыцы. Але толькі непрадузятае асвятленне ўсёй сукупнасці фактаў узновіць праўдзівы малюнак літаратурнага жыцця».

У Мушынскага-даследчыка — гэта адзін з вызначальных прынцыпаў у яго крытычна-літаратуразнаўчым аналізе і ацэнцы творчасці. Такое, як ужо адзначалася, добра відаць пры даследаванні жыцця і творчасці Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Міхася Зарэцкага. Не ў меншай ступені прысутнічае гэта і ў працах, прысвечаных вывучэнню беларускай крытыкі і літаратуразнаўства. Гэта адна з галоўных (калі не галоўная) літаратурных дзялянак творчай дзейнасці літаратуразнаўцы і крытыка. Вынік гэтай працы: манаграфіі «Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 20—30-я гады» (1975), «Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 40-я — першая палавіна 60-х гадоў» (1985), зборнік «Каардынаты пошуку. Беларуская крытыка: набыткі, перспектывы» (1988), да 50-годдзя АН БССР брашура «Беларускае савецкае літаратуразнаўства» (1979), раздзелы па крытыцы (крытыцы і літаратуразнаўстве) у розных выданнях гісторыі беларускай літаратуры, найперш і асабліва ў «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя». Тт. 1—4, 4 т. 1—3 кнігі, мноства навуковых і крытычных артыкулаў у перыядычных выданнях. Увогуле гэтая галіна ў навуковай дзейнасці М. Мушынскага выключна багатая і разнастайная. Першыя артыкулы, прысвечаныя пытанням літаратурнай крытыкі, з'явіліся дзесьці ў пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Усе астатнія гады, аж да сёння, даследчык з гэтай дзялянкай сваіх навуковых турбот і клопатаў не развітваецца. Зроблена, напісана шмат. Горы кніг, артыкулаў, публікацый роз-

нага характару, лістоў, рукапісаў прачытана, перачытана, вывучана, прагледжана. Здаецца, гэта проста не магчыма аднаму чалавеку.

Нейк даўно мне давялося быць у рабочым кабінеце даследчыка. Як член-карэспандэнт ён валодае такім правам. Я быў уражаны тым, што ўбачыў. Увесь невялікі кабінет завалены (такое першае ўражанне) старымі і новымі кнігамі, часопісамі і падшыўкамі газет, папкамі рукапісных матэрыялаў, спісанымі сшыткамі. Адразу падумалася: а як і што тут можна знайсці. Але праз пэўны час, паназіраўшы, як свабодна гаспадар арыентуецца ў гэтым папяровым як бы бязладдзі, пераканаўся, што ўсё зроблена па-гаспадарску суладна, адпаведна характару і зместу навуковай працы. Рабілася ўсё зладжана, паслядоўна. Тады якраз вялася праца над раздзеламі па крытыцы і літаратуразнаўстве для шматтомнай «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя».

Багацейшы даследчы матэрыял (артыкулы рознага зместу і характару, рэцэнзіі, розныя нататкі эсэістычна-крытычныя) пераважна знаходзіліся ў перыядычных выданнях. Яго трэба было адшукаць, пазнаёміцца з ім, адчуць. І не толькі, яго трэба было ўбачыць і падаць не толькі ў творчасці таго ці іншага аўтара, але і (і гэта галоўнае) у кантэксце адпаведнай літаратурнай сітуацыі пэўнага часу. Больш за тое, у дачыненні да разгляду пэўных літаратурна-крытычных праблем, сітуацый. Зноў жа, увесь той матэрыял неабходна было ўнутрана падпарадкаваць логіцы развіцця нацыянальнай літаратуры, суаднесці характар іх развіцця, непасрэдную залежнасць іх ад жыцця народа.

Раздзел пра крытыку і літаратуразнаўства 1901—1920 гадоў для «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя» М. Мушынскі пачынае сцвярджэннем: «Беларуская крытыка і літаратуразнаўства ў сваім развіцці прайшлі складаны шлях. Але ў параўнанні з уласнай літаратурай як мастацтвам слова шлях гэты нашмат карацейшы. Значнае адставанне навуковай думкі ад творчай практыкі тлумачыцца неспрыяльнымі гістарычнымі абставінамі, у якіх на працягу доўгага часу знаходзіўся беларускі народ, яго культура. Тым не менш аб’ектыўная неабходнасць у навукова-практычным асэнсаванні літаратуры праяўлялася вельмі выразна...» Прыклады такога праяўлення даследчык бачыць у прадмовах і пасляслоўях Ф. Скарыны, у «Песні пра зубра» М. Гусоўскага, у творах С. Полацкага... Па праўдзе кажучы, то і літаратуры беларускай, па сутнасці, не было. Дзесьці больш-менш змястоўныя літаратурныя і гістарычныя ацэнкі твораў беларускай літаратуры бачыць ён толькі ў XIX стагоддзі. Называе прозвішчы рускіх, польскіх навукоўцаў, беларускіх пісьменнікаў і даследчыкаў, у працах якіх звернута ўвага на беларускую мову, літаратуру, фальклор, гісторыю, асвету. Яны яшчэ былі, праўда, рэдкія. У 2-й палове XIX стагоддзя публікацый, звязаных з беларускім жыццём, беларускай культурай, стала больш. Адной з істотных прычын такой малой колькасці друкаваных матэрыялаў беларускага, так бы мовіць, зместу была адсутнасць беларускамоўных перыядычных выданняў. Гэта моцна тармазіла і развіццё непасрэдна самой мастацкай літаратуры на беларускай мове.

У пачатку XX стагоддзя сітуацыя ў гэтых адносінах змянілася адчувальна. З’явіліся беларускамоўныя газеты: «Наша доля» (1906), «Наша ніва» (1906—1915); часопісы: «Саха» (1912), «Маладая Беларусь» (1912—1913), «Лучынка» (1914). Узнікла вядомая выдавецкая суполка «Загляне сонца ў наша аконца» (1906—1914). З’явілася патрэба актыўнага, шырокага азнаямлення чытача з выданнямі на беларускай мове. Ды не толькі. Унутрана, як заўважае даследчык, «беларуская літаратура, якая ішла да народа, да масавага чытача, востра адчувала патрэбу ў пазнанні самой сябе, сваёй прыроды, функцый, грамадскага прызначэння». Адсюль вывад важны для аўтара, падкрэслены ім, вызначальны ў разуменні прыроды нашай крытыкі: «...Беларуская літаратурная крытыка ўзнікла і складвалася як *унутраная неабходнасць і аб’ектыўная заканамернасць станаўлення нацыянальнай літаратуры*». Так было ў гады станаўлення нацыянальнай літаратуры, так было ў гады яе актыўнага сталення, так і ў гады сталасці. Залежнасць

крытыкі і літаратуразнаўства ад агульнага развіцця літаратуры. Агульнае ж развіццё літаратуры непасрэдна залежыць ад развіцця грамадства, грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіне.

Гэтая агульная думка ляжыць у аснове літаратуразнаўчых і крытычных прац М. Мушынскага. Канкрэтны аналіз становішча крытыкі і літаратуразнаўства ў асобныя перыяды развіцця грамадства, у асобных сітуацыях, звязаных з развіццём літаратуры наогул, аналіз асобных твораў гэтых жанраў пераканаўча пацвярджаюць гэта. І актыўнасцю творцаў у гэтых галінах літаратуры і, галоўнае, якасцю — дакладнасцю змястоўнага аналізу, вышынёй мастацкага ўзроўню, актуальнасцю і гістарычнай перспектыўнасцю зместу. У гэтым як бы агульным адчуванні і разуменні руху, развіцця вышэй згаданых галін, даследчай літаратурнай думкі ўвесь час дзесьці так ці інакш падкрэсліваецца іх адметнасць, адрознасць. Бо крытыка, яна ўся ў сучаснасці. Яе аб'ект практычна заўсёды сучасны, яе адрасат таксама непасрэдна сучасны, у яе стылістыцы, эмацыянальным ладзе заўсёды пануе сучаснасць. Яна заўсёды эмацыянальная — ці то лірычная, ці то публіцыстычная. Літаратуразнаўства патрабуе большай фактычнай насычанасці, у выкладанні большай аналітычнасці, эмацыянальнай стрыманасці, пануе логіка, а не эмоцыі. Таму яно часам можа набліжацца як бы непасрэдна да навукі. У развіцці літаратуры яно з'яўляецца пазней, чым крытыка. З'яўляецца тады, калі ў мінулым ужо ёсць літаратурны аб'ект (аб'екты) яе даследчай увагі. Гэта — па-першае. Па-другое, калі ўзнікае ў сучаснасці патрэба такога звароту. Ды, урэшце, калі пачынае зараджацца і набіраць устойлівасць навука адпаведная — літаратуразнаўства. Аўтар даследавання імкнецца пэўным чынам гэту своеасаблівасць нацыянальнага літаратурнага працэсу адзначыць, вылучыць. Праўда, гэта тады, калі яна ёсць. Тут найперш вылучаюцца 20-я гады, а таксама 2-я палова мінулага стагоддзя.

Пачатак XX стагоддзя. Новая літаратура толькі нараджаецца, набірае сілы. Тут важна яе адзначыць, падтрымаць, убачыць яе духоўныя вытокі, суаднесці з сучаснасцю, з рэальнымі людскімі клопатамі і турботамі. Даследчык уважліва гэта прасочвае. Адзначае асаблівую актыўнасць тагачаснай крытыкі, уважліва разглядаючы канкрэтныя публікацыі, адзначаючы іх змястоўнасць і стылявую адметнасць, у прыватнасці такіх аўтараў, як А. Луцкевіч, В. Ластоўскі, М. Багдановіч, М. Гарэцкі, С. Палуян, Л. Гмырак... Так, у крытычнай творчасці Антона Навіны (адзін з псеўданімаў А. Луцкевіча) даследчык адзначае здольнасць таго «адкрываць пэўную заканамернасць літаратурнага развіцця ў працэсе аналізу канкрэтнай мастацкай з'явы». Адзначаюцца іншыя моманты наватарскага зместу ў ацэнцы крытыкам творчасці М. Багдановіча. У навуковым плане падкрэсліваецца, «што да вызначэння агульных тэндэнцый беларускай літаратуры пачатку XX ст. А. Навіна ішоў не шляхам накладвання на творчасць М. Багдановіча гатовых, апрыёрна сфармуляваных схем, а праз аналіз вобразнай сістэмы вершаў, праз спасціжэнне творчай індывідуальнасці мастака слова». Трэба падкрэсліць, што ў крытычнай і літаратуразнаўчай творчасці самога М. Мушынскага ў ацэнцы ім канкрэтных з'яў і фактаў, творчасці і асобы творцы гэты падыход, прынцып з'яўляецца вызначальным.

З асобай В. Ластоўскага звязваецца з'яўленне «так званай прагнастычнай крытыкі, здольнай зазірнуць у заўтрашні дзень нацыянальнай літаратуры». Гэта выяўлена ў аналізе крытыкам зборніка апавяданняў Якуба Коласа «Родныя з'явы», дзе наватарства творчасці было пазначана «глыбінёй спасціжэння ім (Коласам. — **С. А.**) духоўных асноў народнага жыцця, глыбінёй пранікнення ў нацыянальны характар, у псіхалогію беларуса». А гэта спалучана з характарам творчасці пісьменніка, з уласцівым яму гістарычным аптымізмам. Даследчык зазначае: «...Распрацоўваючы канцэпцыю нацыянальна-самабытнай літаратуры, В. Ластоўскі ставіў перад беларускімі пісьменнікамі задачу — шляхам актыўнай творчай працы, смелымі наватарскімі пошукамі далучыць нацыянальную

пісьменнасць да "ўсясветнай культуры"». Мэта высокая для маладой крытыкі, маладой літаратуры.

Высока ацэньвае Мушынскі тагачасную крытычную дзейнасць Максіма Гарэцкага. Так узбагачэнне тэатральнага рэпертуару непасрэдна звязваў з развіццём беларускай мовы. Падкрэсліваў, што «тэмай сцэнічных твораў павінна быць тагачасная рэчаіснасць ва ўсёй разнастайнасці сваіх праяў — жыццё, побыт, духоўны свет, маральнае аблічча працоўнага беларуса, яго "слаўнае прошлае"». Менавіта Гарэцкі разглядаў літаратурную крытыку «як самастойную, спецыфічную форму творчасці, форму самаўсведамлення літаратуры». Яго крытычная творчасць сцвярджала, замацоўвала, можа, асноўны метад яе — «метад сацыялагічнага і эстэтычнага падыходу да мастацкага твора ў іх адзінстве».

Асабліва высока ацэньваецца ў даследаванні крытыкі і літаратуразнаўства роля і значэнне Максіма Багдановіча. Ён адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальнага літаратуразнаўства. У яго аснову ўзяты, грунтоўна ім засвоеныя, тэарэтычна-метадалічныя прынцыпы культурна-гістарычнай школы, на той час вельмі моцнай у рускай акадэмічнай школе. «Яе галоўныя пастулаты, — падкрэслівае Мушынскі, — вывучэнне літаратуры ў сувязі з грамадска-палітычнымі ўмовамі жыцця і духоўным развіццём, даследаванне нацыянальнай асаблівасці кожнай літаратуры, сталая ўвага не толькі да вяршынных мастацкіх з'яў, але і да твораў менш значных, увогуле да ўсяго масіву творчасці, у тым ліку да старажытнай пісьменнасці, фальклору, этнаграфіі, дакументалістыкі і мемуарных жанраў як надзейнай крыніцы вывучэння побыту, нораваў, звычаяў і псіхалогіі, маральнага стану народа».

Тут вельмі поўна, дакладна пазначана сутнасць адвечнай для навукі праблемы: літаратура і жыццё. Ад нараджэння мастацкага твора да яго самастойнага жыцця. Вось гэтая вельмі непасрэдная сувязь жыцця і літаратуры, заўважаная і адзначаная М. Багдановічам, стане вызначальнай ва ўсёй літаратуры XX стагоддзя і вызначальным метадалагічным прынцыпам яе вывучэння, асэнсавання.

Разам з тым, калі мець на ўвазе М. Багдановіча, той, як лічыць даследчык, «пераадолеў уласцівую школе недаацэнку эстэтычнай прыроды мастацтва, яго лірыка-суб'ектыўных, нерэалістычных форм адлюстроўвання рэчаіснасці, такіх, напрыклад, як сімвалізм, імпрэсіянізм, рамантызм».

Дарэчы, такога крытычна-літаратуразнаўчага падыходу да мастацтва слова, на жаль, вельмі не хапала ва ўсе пазнейшыя гады, не хапае і сёння.

У шматгадовай працы над гісторыяй нацыянальнай крытыкі і літаратуразнаўства, як і ў працы над прозай 30-х гадоў, творчасцю Максіма Гарэцкага і Міхася Зарэцкага, асабліва даследаваннем жыцця і творчасці Якуба Коласа, выразна бачыцца, адчуваецца, як ужо заўважалася раней, выключная ўвага да факта, да разнастайнага канкрэтнага жыццёвага і творчага (літаратурнага) матэрыялу. Ашчадныя творчыя адносіны да яго. Якраз гэты матэрыял складае рэальную аснову творчых прац даследчыка. Матэрыял жыццёвы, літаратурны ва ўсім сваім багацці і разнастайнасці не заўсёды мог быць выкарыстаны больш-менш поўна ў раздзелах абагульняльных. Таму і тут, як і ў прозе, даследчык імкнецца выкарыстаць і выкарыстоўвае ў артыкулах праблемна-біяграфічных. Такіх вось: «Якуб Колас — крытык», «Якуб Колас і сучасная беларуская літаратурная крытыка», «Максім Багдановіч — крытык і гісторык літаратуры», «Максім Гарэцкі — крытык і гісторык літаратуры», «Змітрок Бядуля — літаратурны крытык і публіцыст», «Язэп Пушча і жанрава-стылёвая адметнасць пісьменніцкай крытыкі», «Замоцін — тэкстолаг і культура выдання сучаснай нацыянальнай спадчыны», «Літаратурна-крытычная і публіцыстычная спадчына Ігнатоўскага».

Як бачна з назваў, тут пераважае пісьменніцкая крытыка, крытыка непасрэдна саміх майстроў слова. Думаецца, што якраз у ёй даследчык найбольш адчуў разуменне сутнасці літаратуры, яе эстэтычнай прыроды, убачыў жыццёвыя вытокі мастацтва слова. Найбольш значнае з напісанага імі ў галіне крытыкі адносіцца

да гадоў дарэвалюцыйных і першых паслярэвалюцыйных. І гэта невыпадкова. Якраз у гэтыя гады, у гэты час, час, пазначаны пэўнымі адраджэнскімі тэндэнцыямі ў духоўным жыцці нацыі, ішло станаўленне беларускай літаратурнай крытыкі, яе самасцвярджэнне ў нацыянальным літаратурным працэсе, выпрацоўка метадалагічных прынцыпаў і эстэтычных крытэрыяў. Працэс гэты быў натуральны, арганічны, абумоўлены рэальнымі патрэбамі яе жыццядзейнасці. У даследаванні ён паказаны пераканаўча, падкрэслена збалансаванасць у суаднесенасці агульных высноў і вывадаў і багатага канкрэтнага літаратурнага матэрыялу. Менавіта гэты матэрыял (аўтары, творчасць іх, асобныя творы, публікацыі ў перыёдыцы) з'яўляецца асновай і крыніцай вывадаў, высноў агульнага характару.

Калі ў пачатку ХХ стагоддзя (відаць, да другой паловы 20-х гадоў) працэс зараджэння — спачатку крытыкі, пазней літаратуразнаўства — гэтага віду літаратуры адбываўся даволі арганічна, у адпаведнасці са сваёй жанрава-відавой сутнасцю, то ўжо ва ўсе пазнейшыя гады, пачынаючы з 2-й паловы 20-х і аж да 90-х гадоў, гэтая арганічнасць развіцця пастаянна парушаецца знешнімі ўплывамі. М. Мушынскі, шчодра і багата выкарыстоўваючы літаратурны матэрыял, працэс гэты прасочвае вельмі ўважліва. Адзначае яго выключную складанасць у выпрацоўцы новых метадалагічных падыходаў. З гістарычных пазіцый, пазіцый, правераных часам, разглядае ўзаемадзеянне крытыкі і літаратуразнаўства з перыядычнымі выданнямі, у сістэме ўзаемадзеяння розных літаратурных аб'яднанняў і, відаць галоўнае, у святле пастаянных ідэалагічных пастаноў і цэнзурнага кантролю. Выяўляе тут і моманты станоўчыя, і негатыўныя.

Даволі станоўча ацэньваецца крытычная дзейнасць літаратурнага аб'яднання «Узвышша». Сцвярджаецца: «Узвышаўская крытыка многае зрабіла ў справе ўсталявання атмасферы добразычлівасці і высокай патрабавальнасці да пісьменніка, смелага творчага пошуку. Яна культывавала прынцып свабоднага абмену думак, штохвілінна не азіралася на афіцыйныя ўстаноўкі і прадпісанні. Менавіта ва «Узвышшы» крытыка, абапіраючыся на нашаніўскія традыцыі, набыла высокі грамадзянскі статус, заявіла на поўны голас пра сябе як прарэальны фактар літаратурнага працэсу. Гэта была дзейнасць творча-канструктыйная, але не дагматычна-разбуральная».

Пры аналізе крытыкі першых пасляваенных гадоў адзначаецца пэўнае супадзенне «заклікаў афіцыйных органаў і прафесійных інтарэсаў крытыкі». Адсюль «брала свой пачатак дзейная сіла крытычнага слова, эфектыўнасць яго ўздзеяння на творчую практыку, на стварэнне дабратворнага псіхалагічнага клімату ў літаратурным асяроддзі».

Гады 1948—1949. Антыкасмапалітычная кампанія. Яна нанесла немалую шкоду тэатральнаму і выяўленчаму мастацтвам. Таксама і літаратурнай крытыцы, «прадстаўнікі якой змарнавалі шмат сілы і часу на мэты, вельмі далёкія ад інтарэсаў нацыянальнай культуры».

Ва ўсіх раздзелах, прысвечаных разгляду крытыкі (і літаратуразнаўства) першай паловы ХХ стагоддзя, вывады агульназначнага характару, датычныя жанравага ўзбагачэння яе крытычнай ролі ў развіцці літаратуры наогул, яе ролі ў духоўным жыцці грамадства, заўсёды маюць за аснову багаты фактычны матэрыял, уважліва прааналізаваны і асэнсаваны. Тое ж добра відаць і ў раздзелах, прысвечаных крытыцы і літаратуразнаўству пазнейшых, другой паловы стагоддзя, гадоў. Асабліва цікавыя тут (у даследаванні яны вылучаны) гады 1956—1965, 1985—2000.

Як і ў папярэднія пэўныя перыяды свайго развіцця, літаратурная крытыка і літаратуразнаўства 1956—1965 гадоў уступаюць у новы этап свайго руху ў выніку глыбокіх змен у грамадска-палітычным жыцці краіны. То былі гады «хрушчоўскай адлігі». І «літаратурная крытыка як галіна дзейнасці, блізкая да публіцыстыкі, аператыўна зрэагавала на новыя павевы часу». Узбагачэнне жанраў крытыкі, узмацненне іх ролі ў літаратурным і духоўным жыцці ішло рознымі шляхамі.

Актывізацыя літаратурнага жыцця значна пашырыла склад крытычнага цэху. Паскорыла яго рэакцыю на падзеі жыццёвыя. Крытыка ў гэтым сэнсе стала ўпоравень з іншымі жанрамі літаратуры. Яна ўжо не проста адгукалася на літаратурныя з'явы, падзеі, яна іх часта выклікала, скіроўвала ў пэўным напрамку. Ужо ідучы ад жыцця, а не ад літаратуры.

Адзначаецца таксама ў працах даследчыка, што першачарговай задачай тагачаснай крытыкі была выпрацоўка новых метадалагічных падыходаў, дзе, найперш, выяўлялася б «эстэтычная прырода літаратуры як праява духоўнай дзейнасці чалавека». Звернута ўвага на ачэшчэнне крытыкі ад вульгарна-сацыялагічных, спрошчаных падыходаў да разгляду і ацэнкі літаратурных з'яў і фактаў. Падкрэслена, што крытыцы «неабходна было адрадзіць (а ў нечым і стварыць. — **С. А.**) многія занядбаныя формы, у прыватнасці, праблемны, дыскусійны артыкул, тэарэтычнае даследаванне, жанр літаратурнага партрэта, эсэ, гадавыя агляды». І не толькі. Акцэнтавалася ўвага на сацыяльна-філасофскую заглыбленасць твораў, на іх мастацкі ўзровень, індывідуальную адметнасць творцы, на пэўныя наватарскія пошукі, распрацоўку пытанняў індывідуальнага стылю. Апошняе асабліва адчувалася ў крытыка-біяграфічных нарысах, жанры паспяховым у тыя гады.

Можна было б яшчэ і яшчэ гаварыць пра пытанні праблемныя, агульназначнага зместу, які і пра з'явы, творы канкрэтныя тых плённых гадоў, на якія звяртае ўвагу М. Мушынскі ў сваім даследаванні. Якраз тут, у аналізе крытыкі 1956—1965 гадоў, добра адчуваюцца арганічная суаднесенасць канкрэтнага аналізу творчасці, твораў і тэарэтычных абагульненняў агульназначных вывадаў. Больш за тое, моманту эмацыянальнага і лагічна-аналітычнага. А гэта невыпадкова. Даследчык сам тады ўваходзіў у гэты літаратурна-навуковы свет. І шмат што, пра што пісаў ён, было не проста асабіста ўведана, але і асабіста перажыта і захавана эмацыянальна. Адначасова пройдзеныя гады і дзесяцігоддзі больш выразна акрэслілі галоўнае, вызначальнае для агульнага развіцця літаратуры, вядома ж, і крытыкі, літаратуразнаўства.

Увогуле ж, і манаграфіі, прысвечаныя айчыннай крытыцы і літаратуразнаўству, і раздзелы па гэтай праблеме ў «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя», артыкулы зноў жа па гэтай праблематыцы ўспрымаюцца як адзінае цэлае. Як цэлы мацярык нашай нацыянальнай літаратуры, адкрыты ва ўсім яго аб'ёме, даследаваны, апісаны, уведзены ў літаратурнае і навуковае жыццё нястомным працаўнікам-даследчыкам.

І калі звярнуцца да пачатку гэтага артыкула, да тых выказванняў пра крытыку і наогул навуку пра літаратуру шырока вядомых у гэтай галіне творцаў, то з усёй адказнасцю можна сцвярджаць: шматгадовая праца паважанага крытыка і літаратуразнаўцы, зробленае ім з'яўляюцца абгрунтаваным, красамоўным пацверджаннем і сучасным развіццём тых ідэй і думак. Асноўныя лініі аналізу літаратуры: жыццё — літаратура, літаратура — чытач. Мэта крытыкі (і літаратуразнаўства) — спасціжэнне літаратуры як сістэмы мастацкіх вобразаў рэчаіснасці і перадача гэтай сістэмы ў найбольш арганічным выглядзе чытачу. Зроблена гэта даследчыкам грунтоўна і надоўга.



**Зіновій ПРЫГОДЗІЧ**

# ЁН ЛЮБІЎ БЕЛАРУСЬ НАШУ МІЛУЮ

Ах, як мне сёння яго не хапае!

Як часам хочацца пазваніць яму, паклікаць на праходку і ўволю нагаварыцца — адвесці душу.

Як нестае мне яго мудрай парады, сардэчнай спагады, а то і проста маўклівага, чуйнага разумення.

Усё гэта — пра майго самага блізкага сябра, выдатнага беларускага пісьменніка Янку Сіпакова. 15 студзеня 2016 года яму споўнілася б восемдзесят. Але вось ужо пяць гадоў, як Івана Данілавіча няма з намі... Наша сяброўства доўжылася больш за трыццаць гадоў. Канешне, былі часы, калі мы бачыліся радзей (я вучыўся ў Маскве і прыязджаў дадому раз-два на месяц), калі іншыя абставіны не дазвалялі сустракацца часцей, але ніколі мы не гублялі духоўнай, душэўнай сувязі. Апошнія сем гадоў мы нават працавалі разам, у часопісе «Гаспадыня».

Звычайна, калі ён прыходзіў у рэдакцыю, то найперш заглядваў у мой кабінет і далікатна пытаўся:

— Не вельмі заняты?

Здаралася, што я сапраўды быў заняты якой-небудзь пільнай справай (вычытка матэрыялаў, здача нумара ў друк), і даводзілася пераносіць сустрэчу напазней. Але часцей за ўсё, адклаўшы надакучлівыя паперы, я запрашаў Івана Данілавіча сядаць бліжэй, і ў нас пачыналася нязмушаная, шчырая, без аглядкі на час гаворка.

Найбліжэйшае і самае балючае, пра што хацелася пагаварыць, абмяняцца думкамі, — пра стан нашай сённяшняй літаратуры і, найперш, маладой. Толькі абыякавы да ўсяго мог не бачыць, што нямала хто з маладых, і што асабліва крыўдна, таленавітых празаікаў, паэтаў выведзены з сапраўднай літаратуры, і творчасць іх скіравана, як казаў класік, «мимо жизни», скіравана пад крывадушныя фанфары і гідлівыя апладысменты.

Праблема гэтая, безумоўна, даўняя. Пра яе ў свой час пісаў са здзеклівай іроніяй Янка Брыль: «Во, і яшчэ адзін пнецца быць вельмі сучасным, усё ў яго «аповедзе» на адных намёках, на глыбакадумным недагаворванні… А я, прачытаўшы цярпліва, амаль пазяхнуў: не хапала яшчэ здагадвацца, што тут у цябе да чаго!»

Эксперымент, творчы пошук — гэта добра, гэта нават патрэбна на пачатку літаратурнай дарогі, даводзіў Іван Данілавіч, але калі эксперымент зацягваецца надоўга, то гэта не на карысць ні аўтару, ні літаратуры.

Колькі мы пра гэта гаварылі з Янкам Сіпаковым! Не раз і не два, калі размова заходзіла пра сённяшнюю літаратуру, Іван Данілавіч скрушна заўважаў: «…наша пакаленне ўсур'ёз, з найвялікшай пашанай ставілася да слова, да літаратуры. Гэта быў для нас храм, у які мы ўваходзілі асцярожна, сцішана і ніякавата, узнёсла — як маліцца…

Цяпер жа наша цнатлівая пашанота знікла, і маладыя сёння на літаратуру глядзяць як на гульню: бум-бам-літ, тазікі і г. д.

Калі паэты маладыя — гэта нармальная з'ява. Але ж час ідзе, і маладыя паэты старэюць — не будзеш жа да сівых гадоў гуляць у лялькі».

Магчыма, некаторым падасца крыўдным чытаць такое. Магчыма, хтосьці з іх не пагодзіцца з думкамі Янкі Сіпакова. Але трэба праўдзе глядзець у вочы. Тым

больш, што справа гэта не асабістая. Тут — клопат аб самым важным, самым святым для грамадства — аб літаратуры. І варта, каб кожны, хто адважыўся ступіць на яе няпростую і пачэсную дарогу, працаваў з вялікай адказнасцю і годнасцю, думаў, кажучы словамі Сіпакова, аб стварэнні гармоніі, а не аб яе разбурэнні.

Вельмі хвалявала Івана Данілавіча яшчэ адна сённяшняя літаратурная бяда — татальнае графаманства, калі часта нібыта пісьменніцкія здольнасці аўтара вызначаюцца не мастацкімі вартасцямі напісанага, а колькасцю выдадзенага. А выдаць сёння кніжку — не праблема, былі б толькі ў аўтара грошы, і прыватныя выдавецтвы, якіх распладзілася процьма, гатовы табе адштампаваць любую колькасць экзэмпляраў і ў якім хочаш афармленні. І ніякай табе цэнзуры, ніякіх рэдактараў і карэктараў. Выдаўшы адну-дзве такіх, з дазволу сказаць, кніжак, чалавек ужо лічыць сябе пісьменнікам, а над тым не задумваецца, што часам сапраўды не ведае «самага простага, напрыклад, як правільна пабудаваць сказ… тым больш законаў мовы дый чым адзін жанр адрозніваецца ад другога!»

Аднойчы ў нас зайшла размова пра скандальны артыкул аднаго нашага маладога, задзірыстага крытыка, які абвясціў, што беларускай літаратуры па вялікім рахунку няма, што яна абсалютна правінцыйная і безнадзейна адстала ад сусветнай літаратуры. Мне цікава было ведаць, што думае на гэты конт Іван Данілавіч.

— Па тым жа вельмі вялікім рахунку, — сказаў ён тады, — няма не толькі беларускай, але і рускай, і сусветнай літаратуры. Бо тое, што цяпер прапагандуецца, прапаноўваецца чытачу, нярэдка нізкапробнае, несур'ёзнае чытво, і яно безнадзейна адстала ад даўняй літаратуры, якую ўзвысілі гіганты. А сённяшнімі моднымі карыфеямі шмат хто захапляецца толькі таму, што зараз гэта на слыху, што многія баяцца паказацца іншым не сучаснымі за тое, што не ведаюць, да прыкладу, Данцовай, Каэлья, Пялевіна ды Муракамі.

Часам літаратура, уцякаючы ад правінцыйнасці, шукае паратунку ў авангардызме, аднак, сама таго не заўважаючы, становіцца ахвярай таго ж авангарду — ягонай правінцыяй. Так што ўсім нам хопіць працы ў гэтым накірунку.

Зразумела, што пры гэтым лагічна ўзнікала пытанне аб суадносінах традыцый і наватарства ў літаратуры. Мяне, напрыклад, бянтэжыла і бянтэжыць тое, што вакол гэтай праблемы вядуцца бясконцыя дыскусіі, эмацыянальныя спрэчкі, але да агульнай высновы, здаецца, так і не прыйшлі. Адны рашуча выступаюць супраць традыцый — маўляў, гэта замінае руху літаратуры наперад. Другія, не менш напорыста, адмаўляюць наватарства, якое нібыта прыводзіць да фармалізму, пазбаўляе мастацтва жывых сокаў жыцця.

Выслухаўшы мяне, Іван Данілавіч усміхнуўся:

— Ведаеш, пра традыцыі і наватарства спрачаліся да нас, спрачаюцца сёння і, несумненна, будуць спрачацца і пасля нас. І ў беларускай літаратуры таксама. І традыцыі, і наватарства павінны абавязкова суседнічаць у кожнай паважаючай сябе літаратуры. Без традыцый не можа існаваць літаратура гэтак жа, як і без наватарства.

На літаратурны працэс Сіпакоў глядзеў шырока, даволі дэмакратычна, дапускаючы розныя метады, стылі, пошукі-эксперыменты, абы толькі не было аднабокасці і аднастайнасці. Неяк я працытаваў яму выказванне Льва Талстога аб тым, што цягам часу літаратура будзе ўсё больш схіляцца да дакументальнасці, адыходзячы ад «художественной болтовни». Іван Данілавіч паціснуў плячыма і пасля некаторага роздуму сказаў:

— Магчыма, магчыма… Але я асабіста прыхільнік таго, каб у нашай літаратуры было ўсё — і дакументальнасць, і мастацкае адлюстраванне жыцця. І «Палеская хроніка» Івана Мележа, і «Браму скарбаў сваіх адчыняю» Максіма Гарэцкага, і «Загадка Багдановіча» Міхася Стральцова. Аднабокаю не можа быць ніводная літаратура ў свеце. Кожная літаратура павінна распрацоўваць усе накірункі творчасці. Толькі шматаблічнымі і разнастайнымі павінны быць літаратуры, скіраваныя ў будучыню.

І гэта Янка Сіпакоў не толькі дэклараваў, але і сцвярджаў усёй сваёй творчасцю. Такую разнастайнасць жанраў, як у яго, рэдка ў каго можна знайсці.

У паэзіі — гэта санет, вянок санетаў, балада, тэрцына, уколіка, верлібр, трыялет, эпіталама, паэма ў прозе. У прозе — апавяданне, эсэ, аповесць, прыпавесць, раман у апавяданнях, прытча, навела, мініяцюра, нарыс, фантастыка. Пры гэтым ён казаў, што ўсе яго пошукі ніколі не былі толькі дзеля пошукаў. Заўсёды імкнуўся, каб яны працавалі не на разбурэнне, а каб найперш неслі станоўчую энергію. Мусіць, таму яны і дажылі да сённяшняга дня і не сталі лішнімі нашаму часу.

Гэта сапраўды было жаданне паспрабаваць сябе ва ўсіх жанрах і формах — хрэстаматыйных, даўнейшых, зніклых, — каб самому зразумець і яшчэ камусьці паказаць, што наша родная літаратура, як кажуць, мае сапраўдны запас трываласці і можа зрабіць тыя формы сваімі кожнаму пакаленню. Тут, можа, было нават нешта ад ягонай юнацкай амбіцыйнасці: стварыць сваю літаратуру, разнастайную па тэмах, жанрах, мастацкім выкананні.

А пачалося з таго, што яшчэ ў маладосці Іван Данілавіч прачытаў вялікі том аднаго вядомага — і харошага! — савецкага паэта. І здзівіўся: адны тэмы, адны пачуцці, адно вырашэнне і адны словы, толькі ў розных вершах яны расстаўлены па-рознаму. Кожны верш сам па сабе цудоўны. Але і другі такі ж, і трэці-дзясяты такі ж. Аднастайнасць!

Вось тады Сіпакоў і зразумеў, якую шкоду можа прынесці аднастайнасць. І пачаў шукаць.

Асобнае месца ў яго творчасці займаюць прытчы. Гэта — вельмі і вельмі тонкі, складаны і працаёмкі жанр. І таму не дзіўна, што ён досыць рэдкі ў нашай літаратуры. Янка Сіпакоў ахвотна карыстаецца гэтым жанрам. Але і прытча ў яго своеасаблівая. Яна не заўсёды кананічная. І ў прытчы пісьменнік стараецца шукаць нейкі свой пяты вугал, нейкае невядомае вымярэнне. Таму некаторыя свае прытчы ён лічыць метафарамі. Таму ў іх ужываюцца, пераплятаюцца і ўзаемадзейнічаюць рэальнае і нерэальнае, жыццёвае і прывіднае: хата, якая сама сябе есць, хатнічак, які жыве на папялішчы, мятлушкі, у якіх ператварыліся закаханыя.

Сіпакоўскія прытчы вельмі розныя: прытчы-навелы, прытчы-апавяданні. Ёсць нават спроба стварыць прытчу-невялікую аповесць. А марыў яшчэ напісаць вельмі кароткія прытчы-метафары — усяго толькі ў адзін сказ.

Да прытчы часцей за ўсё звяртаюцца тады, калі трэба сказаць нешта такое, пра што ў іншым жанры сказаць немагчыма. У Сіпакова ж ёсць некалькі прытчаў пра каханне («Лета з мятлушкаю», «Клетка» і іншыя). Здзіўлены гэтым, аднойчы я запытаўся ў яго: чаму спатрэбілася звяртацца да такога, здавалася б, зусім не любоўнага жанру?

Іван Данілавіч здзівіўся ў сваю чаргу:

— А чаму нельга пісаць прытчу пра каханне? — І пачаў разважаць. — Пра шчаслівае — можа, і складана. Але ж кожнае шчаслівае каханне мае на ўвазе і пакуты. «Лета з мятлушкай». Лятаюць, пырхаюць, але ж гэта ўсё роўна рэальнасць. Рэальнасць і па-за імі, і перад імі.

А «Клетка»! За каханне трэба плаціць. І ад гэтага нікуды не ўцячэш. Ды ім — Ёй і Яму — і не хочацца ўцякаць. Дый навошта — нічога ўжо немагчыма паправіць. Дзіця іхняе ў клетцы, і яно расце, і клетка гэтая неўзабаве стане цеснаю... Чаму нельга пра тое пісаць прытчу? Прытча не любоўны жанр? Але ж яна — філасофія. Для мяне прытча і філасофія — непадзельныя. Зрэшты, як літаратура ў цэлым і філасофія. Бо кожны сапраўдны твор — гэта думка. А думка сама па сабе ўжо ёсць філасофія. Пісьменнік на літаратара і філосафа не павінен падзяляцца. Ён і тое, і другое разам.

Закраналі мы ў сваіх гаворках і праблему постмадэрнізму, які апошнім часам у вялікай модзе ў нашай літаратуры. Праблема гэта не такая ўжо бяскрыўдная, як можа паказацца на першы погляд. Прыхільнікі мадэрнізму сцвярджаюць, напрыклад, што мастацтва не павінна ставіць ніякіх — ні палітычных, ні ідэалагічных, ні сацыяльных — задач. Акрамя эстэтычных. Адным словам, мастацтва дзеля мастацтва...

На маё здзіўленне Іван Данілавіч не прыняў маёй катэгарычнасці. Літаратура, даводзіў ён, не дзеліцца на белае і чорнае. У ёй не можа і не павінна быць забаронных тэм і непрымальных творчых метадаў і жанраў. І патлумачыў:

— Увесь сакрэт — у сэрцы. Калі ў творчым працэсе ўдзельнічае сэрца, тады атрымліваецца ўсё: і думаецца свабодна, і пішацца шчыра, і напісанае чытаецца лёгка і нязмушана. Сэрца аплодняе сапраўдны твор. Без яго і напісана, здаецца, усё добра, і ўсе словы на месцы, і сюжэт ёсць, але твор не хвалюе. Сэрцу ж падуладны і сам мадэрнізм, і яго прадаўжэнне — постмадэрнізм.

І найлепшы прыклад гэтаму паказваў сам Сіпакоў. Чытаючы ягоныя творы, цяжка вылучыць, сфармуляваць нейкі адзіны, дакладна акрэслены стыль. Ён не ўкладваецца ў пракрустава ложа навуковых дэфініцый. Ён — шматаблічны, пераменлівы, няўлоўны. Эпіка, лірыка, бытапісальнасць, метафарычнасць, рэалізм, мадэрнізм — усё гэта, бывае, прысутнічае, цесна і арганічна пераплецена ў адным творы.

Чаму такая рознагалосіца?

На маё пытанне Іван Данілавіч доўга і засяроджана маўчаў. Я ўжо быў падумаў, што пакрыўдзіў свайго сябра не зусім карэктным пытаннем. Але не, памаўчаўшы, ён стаў разважаць:

— Разумееш, стыль — гэта чалавек. І калі ён не дае магчымасці сфармуляваць сябе, і калі яго цяжка вылучыць, і калі ён не ўкладваецца, як ты кажаш, у пракрустава ложа навуковых дэфініцый, і калі ён пераменлівы, няўлоўны, шматаблічны, усёроўна ён, такі, — менавіта такі! — і ёсць ужо сам па сабе стылем таго чалавека, які піша. Бо стыль — гэта характар. І калі ўсё гэта арганічна прысутнічае ў творы і нічога не вытыркаецца, то такое значыць, што светапогляд і натура творцы стварылі менавіта такі разнастайны, шматгалосы і ў той жа час цэласны спосаб адлюстравання.

Творы Янкі Сіпакова (усе — і вялікія, і малыя па форме) надзвычай адкрытыя, шчырыя, я б нават сказаў, спавядальныя. Ствараецца ўражанне, нібыта пісьменнік апавядае нам пра самога сябе. Аднойчы я нават пацікавіўся, у якой меры рэальнае і прыдуманае спалучаеццца ў ягоных вобразах. Скажам, Хілюта з апавядання «Клопат» мае свайго прататыпа?

Івана Данілавіч адказаў нечакана, парадаксальна:

— Усё рэальнае ў мяне — прыдумана, а ўсё прыдуманае — рэальнае. Здаецца, парадокс, але гэта так. Бо ўсё тое, пра што я пішу, было калісьці, дзесьці, з кімсьці. І тое, што я прыдумваю, — зноў жа сабрана з таго, што ведаю. Мой герой узнікае, як кажуць, адразу ўжо амаль гатовы. І потым я ўжо толькі шукаю яму напаўнення і рэалій.

А ведаеш, з чаго ўзнік мой Хілюта з апавядання «Клопат», пра якога ты згадваеш? З дэталі! Убачыў, як у цемрадзі пыхкае цыгарэта, якую курыць чалавек на вясковай лавачцы. І ўсё адразу ж закруцілася: халодны, золкі вечар, лёс чалавека, якому ў вялікай вёсцы няма дзе пераначаваць. Яго ў рэальнасці не было, гэтага чалавека, але ж для мяне ён быў! Здаецца, ён атрымаўся настолькі жывым, што адзін чытач, пазнаёміўшыся з апавяданнем, нават дакараў мяне, што я не зусім ведаю і разумею Хілюту і расказваў мне пра яго шмат якія падрабязнасці, якіх я і сапраўды не ведаў.

Адно з маіх апошніх апавяданняў — «Суседка», якое было надрукавана ў газеце «Літаратура і мастацтва». Дык вось на сустрэчах з чытачамі яны звычайна задаюць мне пытанне: «А ці адбывалася ўсё гэта з самім аўтарам?»

Так, адбывалася. Я сапраўды ляцеў з Дыксана ў Краснаярск. У самалёце сапраўды ляцела жанчына з кветкамі, якая наведвала мужа-палярніка. Наш самалёт і напраўду абыходзіў навальнічную хмару, і за ілюмінатарам раз-пораз успыхвалі маланкі. І на гэтым — усё. Астатняе — змадэліравана, прыдумана пісьменнікам. І калі чытач успрымае падзеі так, быццам аўтар піша пра сябе, гэта можна лічыць, даруй за нясціпласць, вялікаю ўдачаю пісьменніка.

Перад кожным сваім творам я доўга і ўважліва вывучаю абставіны, у якіх будуць дзейнічаць мае героі. Таму і пра іх, і пра тое, што вакол іх, я заўсёды ведаю намнога болей, чым выкарыстоўваю ў творы.

Асабліва ў сваіх гістарычных рэчах. Да прыкладу, апавяданне «Мсье» з «Зубрэвіцкай сагі». Анры Бейль, французскі пісьменнік Стэндаль, падчас вайны

1812 года быў у напалеонаўскай арміі фуражырам, інтэндэнтам. Быў у мястэчку Смальяны, што непадалёк ад маіх Зубрэвіч, і нарыхтоўваў у мясцовых сялян корм і харч для коней і салдат. Засталіся яго пісьмы з вайны, у тым ліку і з маіх мясцін. Гэтыя пісьмы далі мне магчымасць лепей зразумець той час, колішнюю рэальнасць. Яна — неаспрэчная! І тады я на гэтую гістарычную рэальнасць выводжу сваіх выдуманых герояў — Міле, Васіліну, сабачку Мсье. І яны на гэтай рэальнасці самі робяцца рэальнымі-жывымі.

Не ўсё, што ствараў Янка Сіпакоў, успрымалася нашай крытыкай адназначна, ухвальна. Арнольд Макмілін, доктар філалогіі, вядомы даследчык беларускай літаратуры з Англіі, у сваёй кнізе «Беларуская літаратура ў 50—60-я гады XX стагоддзя», напрыклад, піша: «У пасляналінскі перыяд эксперыментальная паэзія асацыявалася пераважна з фігурай Янкі Сіпакова, якога неаднакроць як расхвальвалі, так і бэсцілі».

Так, сапраўды, Сіпакоў шмат прыклаў намаганняў, каб прывучыць беларускага чытача да верлібра. У 1966 годзе ў «Дні паэзіі» надрукаваў свае нататкі «Імем натхнення», дзе наіўна, з юнацкай безагляднасцю тлумачыў сваю цягу да вольнага верша: «Куды смялей ехаць на зацугляным кані, моцна ўчапіўшыся за аброць. Але ж паэту няблага пракапыціць і на вольным кані».

«ЛіМ» адразу ж друкуе артыкул вельмі паважанага крытыка: «Адказнасці, больш адказнасці». У якім той даволі сурова адчытаў маладога паэта за яго занадта вольныя разважанні.

Выходзіць кніга «Лірычны вырай» — і зноў крытыка падымае гвалт: гэта «даніна модзе», фармалізм, штукарства, «тое ж, што адзяваць штаны праз галаву». Што, там ёсць верш «Карэнне расы»? Глупства! Ніякага карэння ў расы няма!

Адзін артыкул пра творчасць Сіпакова нават называўся так — «Разбурэнне словам». Крытык абсалютна сур'ёзна даводзіў паэту і, зразумела, чытачам, што «верлібр — мода». «Вольны верш не прыжывецца ў нашай напеўнай паэзіі».

Аднак Янка Сіпакоў ні з кім не сварыўся, ні на кога не злаваўся, ні з кім не спрачаўся. Проста пісаў. Хацеў сваю правату даказаць сваімі ж творамі.

Алег Лойка, наш вядомы паэт і праніклівы, удумлівы літаратуразнаўца, тады заўважыў: «Лірык з вялікім запасам творчых магчымасцей, Сіпакоў, напэўна, і надалей будзе займаць значнае месца ў творчых спрэчках, што чакаюць нашу паэзію».

І — як у ваду глядзеў! Наступную сіпакоўскую кнігу «Дзень» крытыкі стапталі зусім: сканструяваныя вершы, пазбаўленыя паэзіі, вымучаныя прыдумкі; паэт ставіць рэчы з ног на галаву, думае толькі пра форму; паэт быццам бы знарок пазбягае вострых сацыяльных праблем і канфліктаў...

Расказваючы пра гэта, Іван Данілавіч, аднак, падкрэсліваў:

— Крыўдзіцца на крытыку я не магу. Яна адгукалася на мае творы вельмі актыўна, за што я, наадварот, удзячны ёй. Амаль кожная кніга атрымлівала па дзесяць, дваццаць, а то і пяцьдзесят рэцэнзій. Нават на мой першы зборнік «Сонечны дождж» з'явілася аж сем водгукаў. А на мой пераклад «Лісця травы» Уолта Уітмена адгукнуўся з ЗША Уладзімір Клішэвіч. Выхад томіка паэзіі Уітмена на беларускай мове ён назваў «знамянальнай падзеяй»: «Па змесце і форме пісьма, — пісаў ён у «Голасе Радзімы», — Уолт Уітмен у Янкі Сіпакова атрымаўся такім, які ён ёсць у сапраўднасці на англійскай мове. Перакладчык зрабіў вельмі карысную справу — пазнаёміў беларускага чытача з вялікім паэтам Злучаных Штатаў».

Сама болей рэцэнзій, водгукаў, грунтоўных артыкулаў атрымала «Веча славянскіх балад». Па ёй у тыя гады, калі кафедру беларускай літаратуры ў Белдзяржуніверсітэце ўзначальваў Алег Лойка, было напісана шмат курсавых і дыпломных работ. Нават у некаторыя кандыдацкія ды доктарскія дысертацыі яна, як першая кніга балад у беларускай літаратуры, трапіла шырока.

А вось кніга прытчаў «Тыя, што ідуць» мела ўсяго толькі адну рэцэнзію. Яе напісаў вядомы літаратуразнаўца, выкладчык Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Аляксей Пяткевіч. «Але якая гэта рэцэнзія! — з удзячнасцю прыгадваў Іван Данілавіч. — Па маштабнасці, грунтоўнасці, глыбіні, па шчырай спробе

разабрацца ў тым, што хацеў сказаць аўтар, яна сягае да манаграфіі. Яна мне дарагая, бо ў ёй крытык зразумеў мяне як найлепш».

Так, Янка Сіпакоў — высокі і магутны талент, але, на маю думку, ён і да гэтага часу па-сапраўднаму не ацэнены і як след не асэнсаваны ні нашай крытыкай, ні нашай грамадскасцю. Хаця ён у сорак гадоў ужо меў Дзяржаўную прэмію, а крыху пазней быў уганараваны і званнем заслужанага дзеяча культуры. Але ж справа не ва ўзнагародах. Справа ў вызначэнні ролі і месца пісьменніка ў нашай літаратуры. І не толькі нашай, а можна браць і шырэй — ва ўсім славянскім свеце. Бо яго кніга «Веча славянскіх балад» — геніяльнае слова пра нашых братоў-суседзяў, пра нашу агульную гісторыю.

Безумоўна, талент вызначае многае. Але далёка не ўсё. А што патрабуецца яшчэ для таго, каб стаць сапраўдным пісьменнікам? Аднойчы такое наіўнае пытанне я задаў Івану Данілавічу. І ён надзвычай сур'ёзна адказаў: адукацыя, веданне жыцця, працавітасць і цярпенне.

Усімі гэтымі якасцямі Сіпакоў валодаў у поўнай меры. Вучыўся ўсё сваё жыццё. Меў адну з самых багатых бібліятэк у Мінску. Ганарыўся тым, што сваю самую запаветную кнігу «Зялёны лісток на планеце Зямля» — своеасаблівую энцыклапедыю пра Беларусь і беларусаў — напісаў, не выходзячы з дому, уся неабходная літаратура знайшлася ў хатняй бібліятэцы.

Здзіўляў глыбокім веданнем жыцця. Па-першае, да сямнаццаці гадоў жыў у вёсцы і як круглы сірата рана спазнаў усе радасці і турботы сялянскага жыцця: і касіў, і араў, і кароў пасвіў, і дровы нарыхтоўваў… Пазней, ужо маладым пісьменнікам, з пуцёўкай Літфонду аб'ехаў як не ўвесь Савецкі Саюз. У Туркменіі ў конегадоўчым саўгасе захапляўся стрункімі ахалтэкінцамі. У Каракумах бачыў, як ходзяць па пустыні пяскі і барханы. З вострава Дыксан з лётчыкамі палярнай авіяцыі лятаў у лядовую разведку на Паўночны Ледавіты акіян. У атамнай падводнай лодцы лажыўся на дно Ціхага акіяна. У Арменіі хадзіў па воблаках на высакагорным возеры Сяван. Шышкаваў у тайзе. Хадзіў у ягады ў Саянах. У Абхазіі любаваўся горнымі рэчкамі. У Грузіі падымаўся да манастыра Джвары, дзе жыў лермантаўскі Мцыры. Пабываў на Кольскім паўвостраве…

А яшчэ ж былі камандзіроўкі ад газеты «Звязда» на новабудоўлі. Прыязджаў, уладкоўваўся праз аддзел кадраў на працу і вывучаў жыццё: у Салігорску вучнем праходчыка, у Наваполацку — у брыгадзе муляраў. «Цяпер, можа, гэта і смешнаваты спосаб вывучэння жыцця, — сказаў неяк Іван Данілавіч, — але ён мне, павер, нічым не замінае і сёння».

А ўжо пра сіпакоўскую працавітасць і цярпенне хадзілі легенды. Ды і сам ён прызнаваўся: «Я — працаголік, і таму ўсюды толькі шчыра і настойліва працаваў… Я шчаслівы, што ў мяне выйшла 55 кніжак паэзіі, прозы, эсэ, перакладаў. Неяк і сам не разумею, як гэта атрымлівалася, аднак на мяне і маю творчасць мала ўплывала змена эпох, лідараў, фармацый. Я, не зважаючы на іх, пісаў толькі тое, што хацелася». Пісаў, дарэчы, кожны дзень. Ад цямна да цямна, а нярэдка прыхопліваючы яшчэ і ноч. І не стамляўся. Стамляўся, калі не працаваў.

…Ён яшчэ гарэў творчымі задумамі, будаваў планы на летні адпачынак, марыў пра восеньскі важ у грыбы. Чалавек паўнакроўна, без усялякай аглядкі і трывогі жыў, а недзе там, у горніх высях, ужо быў вызначаны той апошні, незваротны рубеж, да якога яго ўжо клапатліва рыхтавалі, няўхільна вялі.

Інакш чым можна растлумачыць тое містычна-фантастычнае, што адбывалася з Янкам Сіпаковым апошнім часам?

На працягу аднаго года выйшла адразу чатыры кнігі. Ды не абы-якія — знакавыя! У выдавецтвах «Мастацкая літаратура» — «Выбранае» ў серыі «Школьная бібліятэка»; «Літаратура і Мастацтва» — «Зубрэвіцкая сага»; «Беларуская энцыклапедыя» — «Зялёны лісток на планеце Зямля»; «Чатыры чвэрці» — «Малады вецер. Мужчынскія апавяданні».

Не выдаваўся гадамі, а тут раптам нейкі кніжны феерверк, святочны салют. Фантастыка!

А як расцаніць такі факт? Недзе неўзабаве пасля юбілею (15 студзеня 2011 г.

Янку Сіпакову споўнілася 75 гадоў) яго запрасілі ў госці землякі-аршанцы. Нагода нешараговая: у Аршанскай гарадской бібліятэцы імя Пушкіна адкрывалася чытальная зала Янкі Сіпакова. Я ведаў: пра гэту падзею размова вялася ўжо цэлы год. Іван Данілавіч перадаў нават для пачатку некалькі тысяч тамоў з уласнага кнігазбору. А ўсяго збіраўся перадаць у персанальную залу каля 15 тысяч кніг, сярод якіх шмат каштоўных, часам вельмі рэдкіх, сапраўдных рарытэтаў.

Але афіцыйнага рашэння ўсё не было, і справа замарудзілася — не так, аказваецца, усё гэта проста. І вось нарэшце дакумент падпісаны. Трэба ехаць на адкрыццё. Праўда, адкрыццё пакуль сімвалічнае, таму што сама зала яшчэ рамантуецца і адчыніцца крыху пазней.

Аднак гэта ніколечкі не зменшыла значнасці падзеі і радасці Івана Данілавіча. Хоць ён разам з тым і вагаўся: ехаць — не ехаць? Не так палохала далёкая дарога, як сур'ёзная псіхалагічна-эмацыянальная нагрузка. Ці вытрымае гэты стрэс яго хворае сэрца? Дый не прывык ён да такіх афіцыйна-ўрачыстых мерапрыемстваў.

— Вось калі б ты, мой дружа, паехаў разам са мною, — нясмела папрасіў ён, — мне было б і весялей, і надзейней.

— Пра што гаворка! — абрадаваўся я прапанове. — Канечне, едзем. Заадно пабываем у тваіх родных Зубрэвічах.

І была гэтая паездка. І была цёплая, шчырая сустрэча з чытачамі — спачатку ў раённай, а пасля і ў гарадской бібліятэцы імя Якуба Коласа. І было прачулае, сардэчнае віншаванне аршанцаў свайго знакамітага земляка з юбілеем.

Толькі позна ўвечары мы дабраліся ў Зубрэвічы. На двары ўжо стаяла цемень, тым не менш ад экскурсіі па вёсцы Іван Данілавіч не адмовіўся. З якой замілаванасцю расказваў ён нам (а з намі быў яшчэ адзін аршанец — пісьменнік Павел Саковіч) пра гісторыю кожнай хаты, пра лёс кожнага жыхара, з якой настальгічнай тугою прыгадваў сваё сірочае маленства (бацькоў фашысты расстралялі за сувязь з партызанамі), бядотнае, але разам з тым і шчаслівае юнацтва — паступіў ва ўніверсітэт, вучыўся на журналіста.

А ў гасціннай хаце пляменніцы Тамары за шчодрым сталом мы заседзеліся ледзь не да паўночы. Вяртаўся назад Іван Данілавіч расчулены і шчаслівы:

— Ніколі яшчэ я не меў гэтулькі дабрыні і любві, як сёння… Дзеля гэтага варта было жыць і працаваць.

Апошняй фразе тады я не надаў асаблівага значэння — так часта кажуць. Цяпер жа мне чуецца ў ёй нейкі містычны падтэкст. Няўжо Янка ўжо нешта прадчуваў?

Напэўна, прадчуваў. Бо калі я праз два дні зайшоў да яго ў бальніцу, ён сядзеў на ложку незвычайна сумны, тужлівы, разгублены.

— Мусіць, прыйшла ўжо мая пара…

Гэта было сказана з такой скрухаю, з такім болем, што ў мяне пахаладзела пад сэрцам. Я пачаў сварыцца, каб ён выкінуў гэтыя дурныя думкі з галавы, а ён, нібы не чуючы мяне, паўтарыў:

— Мусіць, я ўжо, дружа мой, не выканаю твой наказ… не дапішу «Маю бібліятэку»…

Праз месяц Янкі Сіпакова не стала. Не стала майго лепшага, майго шчырага і вернага сябра, з якім мы сумесна ішлі пакручастымі жыццёвымі сцежкамі больш за трыццаць гадоў. Не стала клапатлівага сямейніка, які так любіў свайго адзінага сына Сяргея, так кранальна апекаваўся сваёй красуняй унучкай Кацяй. Не стала вялікага грамадзяніна-патрыёта, які так аддана любіў і шанаваў родную бацькоўскую зямлю, з такім болем і трывогаю перажываў за лёс матчынай мовы.

Не стала выдатнага пісьменніка, класіка беларускай літаратуры. На шчасце, ён выканаў галоўную творчую місію, дзеля якой, можа, і прыходзіў у гэты свет — напісаў унікальную трылогію: раман «Зубрэвіцкая сага» — гімн сваёй малой радзіме, эсэ-аповесць «Зялёны лісток на планеце Зямля» — гімн «любай, ненагляднай Беларусі» і «Веча славянскіх балад» — гімн усяму славянству. Нават калі б ён не напісаў больш нічога (а ён напісаў яшчэ шмат выдатных твораў), то і гэтага было б дастаткова, каб імя яго назаўсёды засталося ў нашым прыгожым пісьменстве.

**Мікола ГІЛЬ**

# МОЙ СЯБРА МІША СТРАЛЬЦОЎ

*Некалькі згадак з маладосці*

«Няма таго, што раньш было…»

Гэтае просценькае сцвярджэнне паэта, дзякуючы песеннай акрыленасці, нечакана стала вядомым і набыло ці не абагульняючы, усеагульны сэнс. Куды ні кінь вокам, аб чым ні падумай, што ні згадай — сапраўды, няма таго, што было раней.

Самае ж жахлівае, што няма не толькі таго, але й тых — аднагодкаў, саслужыўцаў, знаёмцаў, дружбакоў, сяброў. Пагорнешся перабраць старыя паперы, пісьмы, фотакарткі — і зжахнешся: і гэтага ўжо няма, і таго, і гэнага… Уздыхнеш, паківаеш горка і няўцешна галавою — блізіцца і твая пара! — завяжаш матузкі распатрошанай папачкі і пакладзеш яе на ранейшае месца ў шуфлядку, каб праз нейкі час зноў дастаць у адказ на покліч так і несупакоенай душы. Мо не на покліч — на напамін. Аб тым, што мо ўсё ж варта было б сёе-тое запісаць-занатаваць. З таго, што помніцца. Памяць, праўда, ужо дзіравая, бы рэшата, але ж і яна, трошкі разварушаная, мае здольнасць ажываць, агукацца і вяртаць з небыцця прыспанае-прызабытае і нават, надараецца, быццам начыста сцёртае.

Але ж каб не мая вагавая, альбо лепш — шалевая натура! Трэба ж было нарадзіцца пад гэтым хісткім, з вечным гойданнем сюд-туд знакам! Усё жыццё, здаецца, прайшло пад ягоным моцным вагальным уплывам, у няспынных сумненнях, у нерашучасці і няўпэўненасці. Мо нават, бадай што, у няпэўнасці.

Трэба табе ці каму-небудзь тое? А ці конча трэба? Мо абыдзецца? Неба ж на зямлю не ўпадзе, калі й не зробіш. Хіба не пераконваўся ў тым сотні разоў?

От таму і палохае ўжо нават сам ліст чыстае паперы. Калі й не палохае, дык, прынамсі, спараджае тыя ж згаданыя сумненні і няпэўнасць: а ці трэба, ці варта яго чым-небудзь запаўняць? Ці спатрэбяцца каму-небудзь і калі-небудзь гэтыя мае крэмзы? Тым больш, што выразна ўсведамляю іх не надта высокую вартасць.

Кожны знае сабе цану. Адно не кожны хоча, можа ў тым прызнацца. Вось і казырыцца каторы, пнецца з жабоцькі стаць сланом. Непрыемна, брыдка, часам гідка чытаць такога генія. Скажаш скрушна ў думках: лепш бы ты, браце, прамаўчаў, чым вось гэтак паказваць, выяўляць сваю дурноту, неразумнасць, недалёкасць. Пыха чалавечая — ці не самая непрыемная загана. Выхваляцца, ставіць сябе на катурны — адназначна непрыстойны занятак.

І дзякаваць богу, што я на гэта ніколі не хварэў, гэтым ніколі не грашыў. Хапала мяне, здаецца, на тое, каб не выстаўляцца. А галоўнае — адчуваць талент іншага чалавека і паважаць гэты талент. І не прыроўнівацца да яго. На панібрацтва я таксама не хварэў. Хутчэй — наадварот: заўсёды хадзіў-паводзіў сябе «малым пляменнікам вялікага дзядзькі», чым нямала, цяпер гэта разумею, нашкодзіў найперш сабе.

Кажуць: пішы тады, калі не можаш не пісаць. Пэўна ж, праўду кажуць. Бо толькі вольнае, натхнёнае слова валодае цудадзейнай сілай уражваць і хваляваць іншых. Аднак жа вельмі часта, мо найчасцей сверб пісаніны апаноўвае не генія, а графамана. І я, бадай, не засмучаўся з-за таго, што ў мяне такога неадольнага



*М. Гіль і М. Стральцоў — студэнты 2-га курса БДУ. 1955 г.*

свербу пісаць не было ці амаль ніколі не было. Сотні разоў прыбягала нават думка аб тым, ці правільна абраў калісьці свой жыццёвы шлях. Не, не пісьменніка. Гэтым высокім званнем (скажу так) быў я ўганараваны калегамі канешне ж авансам, якога, на жаль, так і не сплаціў. Маю на ўвазе шлях газетчыка, журналіста, урэшце, калі на тое пайшло, літаратара. З аднаго боку, нібыта іначай і быць не магло. У пісарах (мая першая, дадзеная яшчэ пры нараджэнні дзедам мянушка, была акурат Пісар) хадзіў з самага малку. Шмат чытаў — прынамсі, у параўнанні са сваімі вясковымі равеснікамі-аднакласнікамі. Любіў «шрайбаваць» школьныя пераказы і сачыненні, сяды-тады нават у вершах, ці, лепш сказаць, у рыфму. Недзе ў дванаццаць—трынаццаць гадоў напісаў некалькі «апавяданняў пра вайну» — пад уражаннем дзіцячых аповедаў, што друкаваліся ў газеце «Піянер Беларусі» і якія пасля склалі кніжку «Ніколі не забудзем». Апавяданні свае нават «выдаў» кніжкай: цярпліва перапісаў друкаванымі літарамі, змацаваў лісткі сшыткавымі дроцікамі-сашчэпкамі, зрабіў-намаляваў вокладку з пазнакай, што кніжка выйшла ў «Дзяржаўным выдавецтве БССР» і што каштуе 1 рубель 50 капеек…

Шкада, вядома, што яна не зберaглася. Ды, зрэшты, як магла зберагчыся, калі была «надрукавана», само сабою, у адзінкавым экзэмпляры.

Дык вось, пісаць быццам бы й была ахвота. Падагравалася яна і прыкладам старэйшага брата Ніла, вершы якога друкаваліся ў розных газетах і часопісах усё часцей, творчыя спробы якога ўспрымалі ўжо ўсюды і ўсур’ёз, якога ў сорак сёмым, калі я перайшоў у чацвёрты клас, выклікалі на Рэспубліканскую нараду маладых пісьменнікаў.

Ды сталася так, што я затрымаўся са сваім сталеннем, доўга застаючыся наіўным, інфантыльным хлапчуком-падлеткам. І калі набегла пара выбару таго самага жыццёвага шляху, калі надышоў час паступаць на вучобу пасля сканчэння школы, заяву разам з іншымі дакументамі падаваў на філфак БДУ, на аддзяленне журналістыкі, і з трымценнем-радасцю, з салодкім патаемным жаданнем паступіць і вучыцца, але і з бояззю, а ў дадатак — і з нейкім адчуваннем нерэальнасці ўсяе гэтае задумы-дзеі, быццам гэта раблю не я, а нехта іншы, падобны на мяне. І на васямнаццатым годзе жыцця быў я ўсё тым жа, ранейшым наіўна-неразумным, агорнутым дашчэнту сумненнямі і няўцямнымі мроямі падлеткам. Хацелася, вядома, стаць студэнтам, але — не верылася, што такое можа здарыцца са мною папраўдзе. Адчуваў сябе нявартым статусу студэнта самога БДУ! Комплекс

сваёй хлапечай ушчэрбнасці прыгнятаў і прыніжаў мяне страшэнна. Пэўна ж недзе ёсць сур'ёзныя, сапраўды здольныя і разумныя хлопцы, цвёрдыя і вызначаныя ў сваіх намерах і жаданнях, вартыя быць студэнтамі ўніверсітэта, прытым — акурат творчага, не абы-якога! — аддзялення журналістыкі. А хто і што я? Кволыя і не надта важкія, а папросту легкаважкія на думкі і высновы школьныя крэмзы — вось і ўвесь мой набытак і заяўка на творчы патэнцыял. А нехта, пэўна ж, цалкам свядома і даўно акрэсліў свой выбар і дзеля здзяйснення яго настойліва і мэтанакіравана пісаў і друкаваў (а хоць бы і ў «раёнцы»!) свае вершы, нарысы, замалёўкі, допісы…

З гэтым непераадольным (і непераадоленым) адчуваннем боязі, няпэўнасці, нерэальнасці задуманага ехаў я і на экзамены. Пачуццё боязі было, бадай, большае, чым падчас падачы дакументаў у прыёмную камісію. Прыцёгся з фанерным куфэрачкам (тагачасным «дыпламатам») ва ўніверсітэцкі скверык з бетонным хлопчыкам у сухім фантане, сеў на лаўку і… стаў чакаць. Чаго? А ліха яго ведае! Ну не вялі мяне ногі ў тую прыёмную камісію, куды, паводле атрыманага запрашэння, я павінен быў звярнуцца. Не хапала ў мяне рашучасці вось так, з ходу, пайсці туды. Трэба было, няйнакш, супакоіцца, перадыхнуць, астынуць.

Каб не сядзець проста так, дастаў з куфэрка падручнік «Эканамічная геаграфія СССР», разгарнуў яго, спрабуючы засяродзіцца на лоўленых вачыма радках. І, мусіць жа, засяродзіўся папраўдзе, бо не адразу заўважыў, што паблізу ад мяне, на тую ж лаўку, прысеў хлопец. Схамянуўся тады, калі той, падсунуўшыся бліжэй, торкнуў пальцам мяне пад локаць і спытаў:

— Старичок, у вас и в школе география была по-белорусски?

Я зірнуў на яго. Відочна не вясковы хлапец. Апрануты не ў вельветавую футболку (ці камізэльку) з замочкамі-кішэнькамі на грудзях, а ў самы што ні ёсць касцюмец, і чаравікі — не брызянтовікі, навэцганыя для бляску гуталінам, а цалкам скураныя. І нават тварам не вясковы. Чысты, светлы твар, не ўрудзелыабсіверaны. І вочы — разумныя, учэпістыя. Чаго ж тады пра дурное пытаецца? Усё па-беларуску было, дык чаму геаграфія будзе выключэннем?!

Сусед жа нечакана спытаў:

— На экзамены приехал?

— Ага.

— А куда поступаешь?

— На філфак, аддзяленне журналістыкі.

— Ну даешь, старче! Так и я же на журфак!..

— А ты адкуль прыехаў, што гэтак пытаешся?

— Со Славгорода Могилевской области.

— Дык а ў вас што, не па-беларуску вучылі?

— По-русски, старичок. Все по-русски. Я впервые такую книжку вижу. И ты понимаешь все? Ну-ка, переведи по-русски этот абзац!

Дзівак нейкі, падумаў я пра нечаканага суседа па лаўцы. Магілёўшчына — гэта ж Беларусь, дык чаго прыкідваецца гэткім русаком? Не верыць, што я і па-руску ўмею? Ці бачыш, перакладзі яму! Я трошкі паспешліва і, напэўна, не надта складна пераказаў паказаны ім абзац па-руску. Хлапец усміхнуўся, сказаў, бы пахваліў:

— Да-а… А у нас такой практики нет. В смысле — навыков. Ты же и с русского на белорусский можешь так же?

Я кіўнуў.

— В приемной был уже?

— Не яшчэ…

— Тогда пошли, покажу. Рядом койку займешь. Была свободна. Кстати, меня Михаилом звать. А тебя?

Так адбылося маё знаёмства з… Міхасём Стральцовым, якое перарасло ў добрае сяброўства і доўжылася не адзін дзясятак гадоў. А калі дакладна, дык роўна трыццаць гадоў і тры гады, бо сустрэліся мы ў жніўні 1954-га, а развіталіся

назаўжды ў 1987-м, таксама ў жніўні, калі яго забрала гэтак заўчасна — у самы, як кажуць, поўдзень веку бязлітасная смерць…

У той далёкі — Божа, прайшло болей за паўстагоддзя! — і незабыўны дзень Міша (гэтак звалі яго мы, сябры-аднакурснікі, асабліва напачатку, першыя трычатыры курсы сумеснай вучобы, да той пары, калі ён пачаў друкаваць апавяданні і крытычныя артыкулы і набыў новае, літаратурнае, афіцыйна замацаванае імя — Міхась) узяў нада мною шэфства (якое, зноў жа, доўжылася шмат гадоў), завёў у прыёмную камісію, дзе зафіксавалі маё прыбыццё на экзамены, дапамог атрымаць накіраванне ў інтэрнат і «определил» на суседні са сваім ложак у аграмаднай спартыўнай зале хімічнага корпуса. А галоўнае — мы разам пераадолелі ўсе сем бар'ераў уступных іспытаў — экзаменаў было акурат сем: такая вось шчаслівая лічба-колькасць. Сталіся яны для нас сапраўднай эпапеяй, пра якую грэшна не расказаць.

Сачыненне па рускай мове і беларускую дыктоўку мы абодва напісалі на чацвёркі. Літаратуры — беларускую і рускую — здалі на выдатна. Згаданая геаграфія СССР прынесла нам, зноў жа, па пяцёрцы, як і гісторыя таго ж СССР. Засталася — замежная мова, а папраўдзе і для Мішы, і для мяне — нямецкая. Самае наша, як цяпер кажуць, слабае звяно: і мяне, і Мішу нямецкай мове вучылі, бадай што, былыя сяржантыстаршыны, якія вярнуліся з пераможанай Германіі і трошкі «шпрэхалі» па-нямецку. Што рабіць, як адолець гэты апошні і самы небяспечны бар'ер?

Міша прапанаваў:

— Пойдем, старичок, последними. Пусть немка устанет и все мы ей к чертям осточертеем!

Экзамен прымалі дзве «немкі». І дасюль памятаю прозвішчы абедзвюх, але згадваць тут іх не буду. Адно скажу, што адна з іх лічылася «добрай», другая ж — «лютай». Мы з Мішам сталі ў чаргу, само сабою, да «добрай». Ды трапіць да яе нам не собіла. Калі паперадзе нас пад дзвярыма кабінета заставалася двое-трое такіх жа пакутнікаў, «добрая» прачыніла дзверы і сказала:

— Вас четверо? Даже пятеро? Извините, но всех принять я не смогу — мне к пяти надо быть в другом месте. Пожалуйста, вы, двое последних, перейдите в другой кабинет, я скажу, чтобы вас приняли там.

Ну што тут скажаш? Сапраўды: як сіраце жаніцца, дык і ноч кароткая! Панік я, павесіў нос. А Міша казырыцца:

— Ничего, старче! Будет и на нашей улице праздник! Идем, как договаривались, последними. А там — Бог не выдаст и свинья не сьест!

Прыйшла ў рэшце рэшт і наша чарга. Зайшлі мы, як апошнія, разам, не паасобку, абілеціліся, селі за сталы рыхтавацца. Першым «лютая» запрасіла да свайго стала мяне. Тэкст я сяк-так пераклаў, нешта спрабаваў бэкаць-мэкаць пра скланенні-спражэнні… Не даслухала мяне «лютая», запыніла:

— Сядьте, обождите. Послушаю вашего товарища. Товарищ ведь, да?

Міша бэкаў-мэкаў ці не горш за мяне. Замежныя мовы, па ўсім, даваліся яму з цяжкасцю, сведкам чаго даводзілася быць і пасля, калі мы разам, ужо студэнтамі, спрабавалі асіліць англійскую і здавалі так званыя «тысячы» — аб'ём перакладаў вылічваўся ў тысячах друкаваных знакаў.

«Лютая» гэтак жа, як і мяне, не даслухала і Мішу. Нечакана звярнулася да нас абодвух:

— Вы не спешите? Пожалуйста, соберите чернильницы и словари и занесите в деканат. Я там буду. — І пайшла.

Завіхнуліся мы з Мішам, паскідалі на падносік чарніліцы і ручкі, паскладалі ў стосы слоўнікі, занеслі ў дэканат. «Лютая» — там. Паглядзела на нас, сказала:

— Спасибо. Хорошие вы, видно, ребята, и ваши экзаменационные листки мне не хотелось бы портить, но больше тройки поставить вам не могу. Обоим! Видит Бог, не могу!

Я маўчаў. Бо — што тут скажаш? Праўда на яе баку. А Міша падаўся наперад, сказаў:

— Мы знаем, что больше тройки не заслуживаем. Но с тройкой — не поступим, конкурс не пройдем.

— Точно не пройдете? — неяк няўпэўнена спытала «лютая».

— Стопроцентно! Тридцать один балл — непроходной! — адчаканіў Міша.

— Что же делать, ребятки? Жаль мне вас, но…

— Если поступим, мы перейдем в группу начинаюших английского языка! — падхапіў Міша.

— Ах, так вы немецкого еще и не любите?! Ну, знаете…

Села за стол «лютая», чырканула штосьці ў нашых экзаменацыйных лістках, хуценька падала іх і рукой махнула, бы выправоджваючы нас за дзверы:

— Берите! Всё!

Выскачылі мы на калідор, зірнулі ў лісткі, а там — і ў мяне, і ў Мішы — «хорошо»! Анямелі мы ад радасці, ногі ў нас здранцвелі. Першым ачомаўся, вядома, Міша, — зрэшты, я ці не з першае хвіліны знаёмства пакорліва падпарадкаваўся яму ва ўсім, бадай. Адчыніў ён дзверы дэканата — рыўком, без стуку — і сказаў-выгукнуў:

— Спасибо! Обещаем: изначально английский!

І сёння не ведаю, ёсць Бог ці няма яго, але тое, што нешта звышняе ўсё ж ёсць, не буду аспрэчваць. Як-ніяк, а студэнтамі мы сталі. Ці не адны з трыццацю двума баламі.

А праз нейкі пяток дзён паехалі мы на першую студэнцкую «бульбу» — памагаць так і не акрэплым за дзесяць паваенных гадоў калгасам выбіраць-ратаваць, каб не пайшоў пад снег, «другі хлеб».

Пра штогадовыя восеньскія выезды на «бульбу» варта, проста неабходна сказаць таксама асобна. «Бульбу» мы і праклінал (асабліва калі верасень надараўся дажджлівы і халодны), і блаславілі. Месяц, праведзены ў калгасе, асабліва на пачатку, быў часам нашага збліжэння, сяброўскага яднання, акурат там завязваліся повязі дружбы, успыхвалі першыя сапраўдныя пачуцці, што прыходзілі на змену ранейшым школьным закаханасцям. Сумесная і нялёгкая праца, жыццё і сталаванне ў хаціне адзінокіх (часцей за ўсё) жанчын спрыяла таму, што кожны з нас адкрываўся, так бы мовіць, сваімі лепшымі і, вядома ж, нялепшымі якасцямі, і ў выніку ўзніклыя там узаеміны вызначалі стасункі адно з адным на многія будучыя гады — не толькі студэнцкія. Там проста нельга, немагчыма было прыкідвацца добранькім, лепшым, чым ты ёсць на самай справе. Калі ты гультай, дык гэта абавязкова неўзабаве выяўлялася. Калі хамула, нявыхаваны чалавек, нягжэчны кавалер і наогул абдзелены пачуццём мужчынскай годнасці — гэта таксама не магло надоўга схавацца ад чужога вока, найперш — ад дзявочага. «Бульба», можна сказаць, была безумоўна таксама нашым «універсітэтам», найперш, вядома, маральна-выхаваўчым. Больш за тое! Хто не прайшоў праз «бульбу», той і свой галоўны ўніверсітэт прайшоў, як кажуць, не на ўсе сто. Недарэмна ж хлопцы-паэты прысвяцілі «бульбе» нямала вершаў, а Іван Якаўлевіч Навуменка, наш выкладчык, дарэчы, які акурат тады, у сярэдзіне 50-х, заявіў аб сабе і як таленавіты аўтар лірычнай прозы, напісаў нават аповесць з гэткай роднай, смачнай, дарагой і памятнай назваю — «Бульба».

Дык вось, літаральна на пяты дзень нашага студэнцкага жыцця апынуліся мы ў вёсачцы Сіняло пад Мінскам, паблізу славутых калісь «Каралішчавічаў» — пісьменніцкага Дома творчасці. Дэсант наш складаўся з дзесяці чалавек, падзеленых акурат пароўну: пяцёра дзяўчатак і пяцёра нас, хлапцоў. Канкрэтна: Міхась (не, яшчэ проста Міша) Стральцоў, Слава Куцэнка, Грыша Казлюк, Віталь Канавалюк і я. Мы атабарыліся ў адной — невялікай, не надта дагледжанай хаціне стараватай ужо кабеты-ўдавы, якая жыла са сваёй дачкой-пярэстаркай, дзяўчаткі нашы — у другой, трошкі лепшай, прасторнейшай хаце, з чыстай палавінай. Мы ў сваёй бабы Еўгі (калі не забыўся, гэтак, здаецца, звалі нашу гаспадыню) спалі на падлозе, на трох ахапках разасланае саломы, а дзяўчаткі — на ложках, хоць і не ўсе паасобку, лягалі і па двое. Харчаваліся мы разам, у «дзявочай» хаце: нашы

аднакурсніцы па чарзе гатавалі немудроныя стравы з калгасных прадуктаў (малако, мяса, бульба) на ўсю нашу дружную дзясятку.

Жылі мы (і працавалі) там сапраўды дружна. І весела. Удзень выбіралі бульбу — уручную, услед за плугам, што разганяў барозны. Конікам і плугам кіраваў вясковы хлапец, як і другім, запрэжаным у калёсы, на якіх выбраную намі бульбу адвозілі да будучага бурта. Сяды-тады і з адным канём, і з другім упраўляўся хтонебудзь з нас: усе пяцёра былі дзецьмі вёскі.

Зрэшты, не зусім. Найперш, хоць нарадзіўся і жыў у вёсцы (дарэчы, з незвычайнай назвай Сычын), не выглядаў вяскоўцам Міша. Па-першае, бацька яго быў настаўнікам, гэта значыць, вясковым інтэлігентам, што само па сабе вылучала ягоных дзяцей сярод астатняга дзіцячага гурту. Не зусім нехлямяжым вяскоўцам выглядаў і Слава Куцэнка з Талькі на Пухавіччыне. Талька — вёска, вядома, але й не зусім вёска, бо й колішняе мястэчка, і чыгуначная станцыя ў дадатак. А галоўнае, гадаваўся Слава не ў чыста вясковай, калгасніцкай сям'і: маці, зноў жа, была настаўніцай, а бацька — чыгуначнікам. Сякую-такую выкшталцонасць мелі і Грыша з Віталем: абодва былі з-пад Белавежскай пушчы, з былой Заходняй Беларусі (тым часам яшчэ адрознай ад Беларусі Усходняй, здаўна савецкай і акалгасненай). Палякі-акупанты, каланізуючы край, спольшчвалі, а лічылі, што «акультурвалі», і апратку, і паводзіны, і побыт «тутэйшых». У сім-тым, трэба прызнаць, сапраўды акультурвалі: прымушалі, напрыклад, бяліць вапнай сцены хат і платы ўздоўж вуліц, забаранялі гнаць самагон і вырошчваць тытунь на гародах. Зрэшты, у галоўным — у мове — пальшчызна асабліва не адчувалася. Наадварот, Грыша з Віталем, як і Міша, размаўлялі бадай што чыста па-руску, і гэта красамоўна сведчыла аб тым, што савецкія бальшавічкі не гэтак стараліся вынішчаць на колішніх «крэсах усходніх» пальшчызну, як — беларушчыну. Па-беларуску — заўсёды і з усімі — размаўлялі толькі мы са Славам. А калі і зусім папраўдзе, дык — адзін я, грэшны, бо і ў Славы язык неяк надта лёгка, нават на дзіва лёгка траціў нашую беларускую цвёрдасць і зацвярдзеласць у вымаўленні шыпячых ды літары «р».

І хоць стамляліся на полі за дзень, класціся спаць не спяшаліся: маладосць брала сваё. Вечаравалі звычайна ў хаце ў дзяўчат. Гулялі ў карты (часцей за ўсё — у «падкіднога»), зрэдку — у фанты, круцілі на падлозе бутэльку, у выніку чаго тыя, на каго паказвалі рыльца і дно, павінны былі цалавацца. Вядома: якія самі, такія й сані. Былі мы дзецьмі вёскі (тады яшчэ далёка не ўсюды нават электрыфікаванай), і гульні нашы былі, само сабою, таксама вясковыя. Дзяўчаты нашы, за выключэннем адной, таксама паходзілі з вёскі.

Міша крывіўся, гледзячы на нашы забавы. І не таму, пэўна, што яны былі яму чужыя. Умеў ён рэзацца і ў «дурня», знаў і гульню з пустою бутэлькаю. Але ўсё гэта было для яго пройдзеным этапам, акурат дзіцячымі забаўкамі, якія ён даўно перарос. Ён наогул быў сталейшы сярод нас — не па гадах, не фізічна, так бы мовіць, а маральна, духоўна, псіхалагічна. Нас уражвала ягоная начытанасць (ужо тады па памяці шмат чытаў Фета, Цютчава, Баратынскага, Пушкіна, Лермантава, Ясеніна, у той час як пра вершы першых трох, ды і апошняга, Ясеніна, мы, Мішавы равеснікі і аднакурснікі, мелі вельмі цьмянае ўяўленне, альбо нават і ніякага), мы з павагаю і ўвагаю ставіліся да ягонай сталай, мужчынскай разважлівасці, выхаванасці, акуратнасці, інтэлігентнасці. Гадамі ён быў роўны з намі, нават трошкі маладзейшы, аднак жа мы былі побач з ім самымі што ні ёсць жаўтароцікамі, «недорослями». Ягоны аўтарытэт і ў нас, хлапцоў, і ў нашых дзяўчатак быў неаспрэчны.

Сталасць ягоная выяўлялася і ў іншым. Прыкладам, у тым, што ён заўзята, па-даросламу, са смакам курыў. Акурат дзякуючы Мішу гэтым заганным заняткам спакусіўся і я з Грышам Казлюком. І як было не спакусіцца! Задажджыць на дзень-другі, і што рабіць? У полі працы няма. Якая праца, калі з хаты не выткнуцца? Ды і ў хаце сядзець няўтульна — у нашых бедных апратках дрыжыкі бяруць. Паратунак знаходзілі на печы, балазе ў бабы Ёўгі была яна, як зазвычай ва ўсіх старых хатах, вялікай, прасторнай. Усім нам хапала на ёй месца, нават яшчэ і

аднакурсніца каторая месцілася, калі з якое нагоды прыходзіла ў нашу хлапечую «обитель» (Мішава слоўка): маўляў, лезь, пагрэйся, не з'ядзім цябе тут, нават не заказычам.

От на той Ёўжынай печы я ўпершыню і зацягнуўся дымком з Мішавае ласкі. Дымком «Севера» — былі такія той парою танненькія і танюсенькія папяроскі. Зацягнуўся і неўпрыкмет уцягнуўся… на доўгіх дваццацць з гакам гадоў, ажно пакуль доктарка з паліклінікі на Карла Лібкнехта, паглядзеўшы мой рэнтгеназдымак і паслухаўшы, як сапуць мае лёгачныя мяхі, не сказала грубавата і катэгарычна: «Если хочешь пожить, безотлагательно выплюнь изо рта сигаретную соску!» Дзякаваць богу, хапіла ў мяне розуму, сілы волі і рашучасці паслухацца слушнае парады і развітацца з гэтай самай недарэчнай і шкоднай звычкай. Разумею і спачуваю іншым курцам, якія ніяк не могуць кінуць курыць. Зрабіць гэта сапраўды цяжка. Наркот гэты вельмі моцны і прыцягальны. Канчаткова арганізм ад яго, напэўна, так і не адвыкае. Мяркую па сабе: і праз трыццаць гадоў пасля апошняе мае зацяжкі дымок тытуню (добрага, сапраўднага тытуню!) я лаўлю з прыемнасцю і ледзь стрымліваюся, каб не «стрэльнуць» у курца-прахожага цыгарэтку.

Само сабою, разам з папяросай з'яўлялася на шырокай Ёўжынай печы і пляшка не з морсам. Са звычайнай вясковай самагонкай-сівухай. Не скажу, што і тут прэрагатыва належала Мішу, аднак жа ўпершыню здарылася тое не без яго ўдзелу. Умеў ён падлабуніцца да старой Ёўгі, асабліва ж — да ейнае дачкі Гэлі і выцыганіць у іх пляшку мутнаватай і далёка недухмянай вадкасці, якая, аднак, добра-такі гарэла сіняватым агнём не толькі на абмокнутай у яе паперыне, але й на пальцы.

Маладосць — залатая пара, вядома. Нездарма ж такую салодка-трымклівую настальгію выклікае ў нас славуты і ўшчэнт зацяганы-зашмальцаваны ад бясконцага цытавання радок «на заре туманной юности»! Але ж яна і поўная небяспек, падманных спакус, гэтая самая маладая пара. І найпершая, і найжахлівейшая з іх — спакуса Бахусам. Калі тытунь разбурае цела, дык гарэлка — услед за целам, а мо найперш — душу. Пачынаецца з бяскрыўднага нібыта: пляшка — на пяцёх. Ды надта ж хутка там, дзе была адна, паяўляецца другая пляшка, трэцяя…

Гэтак было, бадай, і ў нас тым вераснем 1954 года ў Сіняле, вёсачцы паблізу ўжо амаль забытых сёння славутых «Каралішчавічаў». Здаецца мне, што акурат там мы зрабілі першыя бяздумныя, а папраўдзе злачынныя крокі па шляху злоўжывання, як кажуць, алкаголем, а без эўфемізмаў — па шляху п'янства, якому кожны з нас (за выключэннем хіба Віталя Канавалюка) аддаў даніну спаўна, бо кошт гэтае платы-даніны сягае, не кажучы пра ўсё іншае, нават, на жаль, да кошту жыцця…

На той першай «бульбе» мы і ўлюбляліся. Па-хлапечы яшчэ, чыста платанічна. Прынамсі, магу сказаць гэта пра сябе і пра згаданага вышэй Віталя Канавалюка. Грыша Казлюк быў верны сваёй абранніцы-аднакласніцы, якая таксама стала студэнткай, але ў Брэсце. Славу Куцэнку не хапіла часу, каб скалануцца ад угледжанай дзявочай красы (быў ён магутным здаравяком, за пудоў шэсць вагою, скалануць «этакое богатое тело» мог толькі вельмі моцны любоўны ўдар), а Міша… А Міша наш, здаецца, ужо ведаў дзяўчат, наогул жанчын нашмат глыбей, глядзеў на іх зусім іншымі вачыма, чым мы, маладыя неапераныя пеўнікі, — ну хоць бы я ды Віталь. Нам наогул не пашанцавала. Віталю ягоная Дульсінея з ходу не адказала ўзаемнасцю, а мая абранніца ў рэшце рэшт прызналася мне, што любіць… Мішу. А Міша зусім з іншымі намерамі пазіраў ці не на Ёўжыну Гэлю. Здаецца, і не толькі пазіраў… Чым не шэкспіраўскія сюжэты і страсці?!

І дайце веры: у нас з'явіўся свой Шэкспір. Спытаеце, хто? Вядома ж, гэта быў Міша. Аднойчы на той самай Ёўжынай печы (хто думаў-гадаў тады, што печ з цягам стане славутасцю Сіняла: на ёй ляжаў сам будучы класік беларускай літаратуры Міхась Стральцоў!) ён прачытаў вершаваны вадэвіль пад назваю «Одна ночь, или Завоевание плоти». Дзейных асоб было ў ім столькі ж, колькі было нас у Сіняле. І ўсе — з празрыстымі прататыпамі, як пішуць крытыкі-літа-

ратуразнаўцы. Сябе Міша вывеў (не пашкадаваў) пад імем Міхаіла Леанардавіча П'янчужкіна, мяне ахрысціў Мікалаем Сапфіравічам Страсцішкіным, згаданая аднакурсніца (мая абранніца без узаемнасці) стала Наталляй Багданаўнай Капрызінай, Віталь Канавалюк паўстаў у вадэвілі айцом Вінцэсіем… Былі там і іншыя з нашага «бульбянага» кагала, але ў якой іпастасі — ужо не ўспамінаецца. Шкада, што твор не захаваўся. Зроблены ён быў па-стральцоўску. Але, але, ужо і тады — па-стральцоўску. На рускай мове, вядома. Як я казаў ужо, Міша тады, на пачатку, беларускім словам не азываўся. І вершы, як неўзабаве высветлілася, пісаў па-руску, і друкаваў іх у першыя студэнцкія гады — прынамсі, ва ўніверсітэцкай газеце «За Сталінскія кадры» і ў «Сталинской молодежи» (цяперашняя «Знамя юности»).

З вадэвіля засталіся ў памяці ўсяго толькі асобныя радкі, пачатковыя.

***ПЬЯНЧУЖКИН*** *(один, трагически):*
Проклятие!
С ума сойти от скуки.
И чем заняться в этакой дыре?
Пить? Но судьба хранит меня от пьянства:
В кармане денег нет на зубочистку!
Взять у хозяйки в долг одну бутылку?
Не то! Башмак заговорит скорее,
Чем у нее сочувствие и совесть!
Проклятие!
А дождь всё льёт, скотина!
На небесах куда умнее Боги:
Всё водку пьют,
А воду льют на землю…
***СТРАСТИШКИН*** *(входит, меланхолически):*
И умер бедный раб у ног…
***ПЬЯНЧУЖКИН*** *(перебивая):*
Капризной, взбалмошной девчонки,
В любви признаться не успев
И не доев всего варенья!
Я угадал? Ведь ты идешь оттуда?
***СТРАСТИШКИН:***
Ты угадал, мудрец.
Но что ты понимаешь
В любви да, кстати, и в варенье?..

Далей, хоць забі, нічога не прыпамінаецца. Твор жа быў досыць доўгі, на некалькіх лістках школьнага сшытка, густа спісаных прыгожым і дастаткова ўборыстым Мішавым почыркам.

Прачытаны ён быў не толькі на печы бабы Ёўгі, але й на полі, у часе адпачынку, у прысутнасці дзяўчат. Чытаў там Мішаў твор я. Слухачы, зашыўшыся, каб было цяплей, у сухую жытнёвую салому, дружна і весела рагаталі.

Ды неўзабаве рогат той ледзь не вылез нам бокам. Пра вадэвіль нейкім чынам стала вядома нашаму ўніверсітэцкаму куратару. Дайшло і да вышэйшага начальства: маўляў, прапагандуецца распуста, маральная разбэшчанасць — вадэвіль жа, памятаеце, якую меў назву: «Одна ночь, или Завоевание плоти»! Назва найперш і спарадзіла ўвесь пярэпалах, бо сам тэкст не даваў аніякіх падстаў для асуджэння ці выкрыцця нечага, — усё там было вельмі прыстойна, нават гжэчна. Іначай і быць не магло, з-пад Мішавага пяра аніяк не магло выйсці нешта пахабнае, паскуднае, не здатны ён быў — з прычыны сваёй выхаванасці, інтэлігентнасці і выключнага літаратурнага густу — на нешта падобнае. Ды сігнал прагучаў, і, «кабы чего не вышло», камсамол быў абавязаны прарэагаваць-папрацаваць. Дзя-

каваць богу, да крутых мер не дайшло, адно паўшчувалі, прыгразілі, папярэдзілі на будучыню: калі зноў нешта такое ўчыніце — пашкадуеце!

Такое вось было ў нас першае знаёмства з творчасцю будучага Міхася Стральцова. Усе мы, вядома, аддавалі Мішу належнае. «Адна ноч...» была напісана здорава, дасціпна і складна, у дадатак, зважаючы на лёгка пазнавальных прататыпаў, надта ж трапна, і таму ацэньвалася намі яшчэ вышэй, проста надзвычай высока. Тым не менш, нейкага асаблівага значэння твору мы, здаецца, не надавалі. І не надта звязвалі яго з Мішавай будучыняй. Тым больш, што надалей ён, здаецца, нічога чагосьці падобнага больш не пісаў. Прынамсі, не было ў яго звычкі з ходу, з прычыны ці без прычыны гулящца-пракочвацца рыфмаю па сябрах ці знаёмых, як рабілі гэта іншыя нашы курсавыя ці факультэцкія паэты.

А паэтаў тых сапраўды было на факультэце ўга колькі! Калі ў 20-я гады XX стагоддзя кузняй літаратурных кадраў быў славуты Белпедтэхнікум, дык недзе з 30-х пальма першынства перайшла да БДУ, і найперш, вядома, да ягонага філалагічнага факультэта. Асаблівы ж усплёск літаратурнага жыцця на філфаку прыпаў акурат на гады нашае вучобы там — на 50—60-я, што было вынікам, вядома ж, так званай хрушчоўскай «адлігі». За тыя гады з філфака, наогул з БДУ прыйшла ў літаратуру велізарная кагорта пісьменнікаў, цэлае пакаленне так званых «шасцідзясятнікаў», якое ў нас атрымала назву «філалагічнага пакалення». Не магу ўстрымацца, каб не сказаць, што разам з намі, гэта значыць, у другой палове 50-х гадоў, на філфаку, на курс вышэй, вучыліся такія будучыя выдатныя нашы празаікі, як Вячаслаў Адамчык, Іван Пташнікаў, Іван Чыгрынаў, а на курс ніжэй — Барыс Сачанка і Янка Сіпакоў, што нашым аднакурснікам па філфаку быў сам Рыгор Барадулін! Ды што казаць пра ўвесь філфак, калі толькі наш курс, дзве групы аддзялення журналістыкі выпуску 1959 года, даў беларускай літаратуры амаль два дзясяткі літаратараў, з іх ці не дзесяць сталі членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі. Гэта — згадаю з радасцю, любоўю і павагаю — Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак, Сымон Блатун (трагічна загінуў у 33 гады), Аляксандр Станюта, Алесь Дзятлаў, Герман Кірылаў, Юрась Свірка... Карціна будзе яшчэ больш уразлівая, калі дадаць, што многія нашы аднакурснікі сталі кандыдатамі і дактарамі філалагічных і нават эканамічных навук, выкладчыкамі ВНУ, кіраўнікамі СМІ і нават дыпламатамі. Зрэшты, дыпламат усяго адзін — Генадзь Бураўкін, кар'ера якога, пачаўшыся з журналістыкі (карэспандэнт галоўнай газеты СССР «Правды» па БССР, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць», кіраўнік Рэспубліканскага тэлерадыёкамітэта), завяршылася дыпламатычнай службай — ён быў пастаянным прадстаўніком Беларусі пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. А што да кіраўнікоў СМІ і іншых устаноў і арганізацый, дык, калі ласка: наша Эма Луканская шмат гадоў была уласным карэспандэнтам «Комсомольской правды» па Беларусі і галоўнай рэдактаркай газеты «Зорька», Мікалай Сакалоў — галоўным рэдактарам «Знамени юности», Фадзей Савіцкі — дырэктарам акадэмічнага выдавецтва «Навука і тэхніка», Уладзімір Скапа — галоўным рэдактарам газеты «Віцебскі рабочы», Вячаслаў Куцэнка — выкладчыкам на родным журфаку, Галіна Нужкова — рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура», а Ганна Лазоўская ўзначальвала ў апошнія гады савецкай улады такую сур'ёзную і нават досыць страшную ўстанову, як памятны і сёння праславуты Галоўліт: была наша Аня галоўным беларускім цэнзарам!

І гэта, канешне ж, не ўсе колішнія Мішавы і мае аднакурснікі. Пералічваць усіх і падрабязна гаварыць пра ўзятыя кожным з іх жыццёвыя і службовыя вышыні тут не выпадае (хай не крыўдуюць на мяне «сябры, харошыя рабяты», кажучы словамі з вершаванага чатырохрадкоўя, змешчанага ў нашым выпускным альбоме: «Былі яны нялёгкія, гады: У жаркіх спрэчках, гаваркіх дэбатах. Вас памяць захавае назаўжды. І Вас, сябры, харошыя рабяты!»). А сяго-таго згадаць усё ж хацелася, каб хоць трошкі падаць тыхчасовае Мішава атачэнне.

У 1957 годзе мы ўсім курсам ездзілі ў Маскву на вучэбна-азнаямленчую экскурсію з наведаннем рэдакцыі «Комсомольской правды» і, канешне ж, Маў-

залея, Крамля і Траццякоўкі. Жылі мы тыя некалькі дзён у інтэрнаце нафтавага інстытута на Ленінскім праспекце (быў такі і ў Маскве, не толькі ў Мінску). Пад жытло нам выдзелілі, паставіўшы ложкі, два Ленпакоі на дзясятым паверсе. Прыехалі мы ў інтэрнат раніцаю і, размясціўшыся, захацелі па неразумнай славянскай звычцы «замачыць», адзначыць свой першы прыезд у савецкую белакаменную сталіцу. Пляшку і сякой-такой закусі купілі, а — у што наліць? Ні шклянкі, ні якога-небудзь кубка. Паткнуліся ў адны дзверы, другія, трэція — зачынены. Ля ліфта ўгледзелі маладога хлопца — няйначай кітайца. Просім яго дапамагчы ў нашай бядзе — даць якую-небудзь пасудзіну для пітва. Аказалася, што пасялілі нас на «кітайскім» паверсе: у інстытуце на той час, калі яшчэ не былі сапсаваны адносіны паміж СССР і КНР, вучылася больш за тысячу кітайскіх студэнтаў. Усе жыхары паверха былі на лекцыях, а ля ліфтоў у абодвух канцах доўгага калідора заставаліся толькі дзяжурныя. На аднаго з іх мы і набрылі. Кітаец доўга не мог дацяміць, што нам ад яго трэба. Урэшце, здаецца, датумкаў: пабег у пакой і прынёс нам невялічкую алавяную… місачку. Мы дружна закруцілі галовамі: не, не міску, а — кубачак, конаўку, шклянку якую-небудзь. І паказваем на жэстах: тое трэба, з чаго п’юць. Кітаец заківаў у знак паразумення і спытаў: «Зацем? Стё піць?» Мы кажам і зноў паказваем: «Водку!» Кітаец вочы вылупіў: «Водка? Утром? Неззя утром водка…» Мы абурыліся: от яшчэ праведнік знайшоўся, вучыць нас будзе! «Ты шклянку нам дай!» Ніякае пасудзіны ад яго мы не дамагліся, але ўсё ж ён нам дапамог: сяк-так растлумачыў, што паверхам ніжэй ёсць буфет, дзе можна ўзяць хоць сто аднаразавых кардонных шкляначак і такіх жа кардонных талерачак-сподачкаў.

З тых кітайскіх студэнтаў мы здзіўляліся ўсе дні, што жылі там. Роўна а сёмай на паверсе звінеў званок, і ўсе нашы суседзі дружна выбягалі на калідор — рабіць ранішнюю фіззарадку. Апрануты яны былі аднолькава: і хлопцы, і дзяўчаты — усе ў сініх картовых касцюміках. У восем на паверсе запаноўвала цішыня — кітайцы сыходзілі на заняткі, пакінуўшы двух дзяжурных ля ліфтоў. Гэтак жа дружна і адначасова яны лягалі спаць: званок падаваў у дзесяць гадзін вечара сігнал адбою. У гэты час унізе, у агромністым фае, толькі-толькі пачыналіся штодзённыя студэнцкія танцулькі пад прайгравальнік.

Мы, выхаваныя ў падобных жа умовах муштры і строю, усё ж глядзелі на гэта са здзіўленнем і, здаецца, з жалем. Маўляў, як яны могуць з дня ў дзень вось гэтак жыць, ад званка да званка, як заведзеныя, як запраграмаваныя інстынктам мурашкі ці пчолы? Няўжо нікому з іх не хочацца, не надаралася выпадку, не трэба было ні разу дзе-небудзь затрымацца, прыпазніцца, прагуляць каторую лекцыю? Дысцыпліна дысцыплінай, аднак жа жывы чалавек, а тым больш малады, — не цацка, не робат? Мы — засмучаліся, а самі кітайцы — анігадкі! Яны ўсё рабілі весела, з усмешкамі на падобных, нібы адштампаваных, тварах. Увечары мітусліва і амаль бясшумна сноўдалі па калідорах, увішна і бясконца штосьці варылі і смажылі на расчыненых насцеж кухнях — і ўсё з усмешкаю, з мурлыканнем аднастайных усходніх мелодый.

Зрэшты, наўрад ці задумваліся мы асабліва над паводзінамі нашых неспадзяваных суседзяў. Для большасці з нас гэта быў першы прыезд у Маскву, і ў кожнага было досыць падстаў і нагод для ўласных радасцей, узрушэнняў і засмучэнняў. Апошніх — найперш з прычыны малалікасці альбо поўнай адсутнасці грошай, і гэта ў той час, калі маскоўскія крамы спакушалі шмат чым. Прынамсі, яны былі куды багацейшыя за мінскія. Асабліва засмучаліся ад гэтага нашы дзяўчаткі: нават і для самых разумных з іх транты і касметыка былі не на апошнім месцы.

Міша, здавалася, на ўсё гэта — і на кітайцаў, і на адсутнасць грошай — глядзеў з алімпійскім, як кажуць, спакоем. А мо гэтак толькі здавалася? Крамы з трантамі ці з чым іншым яго не цікавілі дакладна, хаця маці ў падарунак (мо і яшчэ некаму) нешта ўсё-такі, памятаецца, шукаў — не зацята, не настырна, а бегла так, назіркам. А пра кітайцаў, калі памяць мяне не падводзіць, неяк сказаў, пакурваючы і гледзячы кудысьці ўбок і ўдалеч: «Вялікі народ, старча!

Муштра — гэта вонкавае. Гэта не галоўнае, шаноўны. Нават і за ёю — мэтаімкнёнасць. Вучацца з ахвотаю. Не тое што мы. Паказваў сябе Кітай у мінулым, пакажа і ў будучыні. Павер майму слову, старычок. Недарэмна мой дзед Міхал казаў: «Пойдзе Кітай — усё кідай!» Я адно пасміхнуўся: цюцелька ў цюцельку тое ж самае чуў і я ад свайго дзеда Мікалая! А сёння, прыгадваючы гэта, ужо ці і не вусцішна робіцца: літаральна закідвае свет Кітай сваім шырспажывам. Пакуль што — пераважна шырспажывам, але ўжо ўсё больш і электронікай, і бытавой тэхнікай, пачаў ужо і аўтамабілямі…

У апошні маскоўскі вечар наважыліся мы схадзіць у які-небудзь рэстаран. Не пасядзець, а — проста павячэраць. Спецыяльна прыберагалі для гэтага рубель-другі. Заказалі нейкую салатку і біфштэкс, здаецца. І надарылася там прыгода, якая запомнілася не менш за наведанне самога Маўзалея, дзе яшчэ побач ужо з чыста васковым (як бы і не жыў ніколі) Ленінам ляжаў і досыць «свежы»васпаваты Сталін.

Елі мы той біфштэкс спакваля — усё ж у рэстаране сядзім, не ў сталоўцы. Адрэзаў-адпілаваў кавалачак цвердаватага мяса і наш слаўны і добры стараста Вася Тузін, будучы ўласны карэспандэнт «Гродзенскай праўды» па Навагрудскім кусце раёнаў. Адрэзаў, зжаваў і, не спяшаючыся адразаць другі, паклаў нож з відэльцам у талерку. І тут падыходзіць да яго афіцыянт і… забірае у яго з-пад носа талерку з тым не тое што не даедзеным, а практычна толькі што пачатым біфштэксам. Вася — у недаўменні: чаму забраў? Услед за ім — і мы. Губляемся ў здагадках: чаму не даў даесці? У рэшце рэшт прыйшлі да высновы: панёс падагрэць. Гэта ж вам не ў Мінску! Тут такая высокая культура абслугоўвання, што ўсё робіцца для кліента, абы ён быў задаволены. Ды мінае пяць, а пасля і дзесяць хвілін, а Васеў біфштэкс не вяртаецца! Вася, ды і ўсе мы — у трывозе: штосьці тут не тое, па ўсім. Яшчэ праз нейкі час Вася не вытрымлівае, падлоўлівае таго афіцыянта і спрабуе высветліць, дзе яго законны, хай яшчэ і не аплачаны, але заказаны і няз’едзены біфштэкс. І ў адказ чуе: «А вы же показали, что откушали». «Як паказаў?» — прастагнаў Вася. «Ну вы же положили в тарелку нож и вилку зубьями вверх». — «Ну і што з таго?» — здзіўляецца Вася. «А это значит, што больше вы есть не будете. Я потому и убрал тарелку», — тлумачыць яму афіцыянт.

Бедны Вася! І біфштэкса не з’еў, і на шмат гадоў наперад займеў нагоду пры стрэчы з тым ці іншым аднакурснікам пачуць сакраментальнае пытанне: «Ці ж гарачы быў біфштэкс? Нармальна падагрэлі?»

Зрэшты, на месцы Васі Тузіна мог аказацца, бадай што, любы з нас, бо мала хто ведаў тады такія ці іншыя «гастранамічныя» тонкасці. Папраўдзе, дык я нават трошкі і сумняваюся, з Васем ці з кім-небудзь іншым адбылася тады гэтая сумнавата-смешная прыгода: мо мяне падводзіць старэчая памяць адносна таго, што было ў такой ужо далёкай маладосці?

Ах, маладосць! Дзе твае жарты, гарэзлівасць, бесклапотнасць? Дзе твае светлыя радасці?!

***Працяг будзе.***






**БРАТЭРСТВА.**
*Алесь Карлюкевіч.*
*Мінск, Звязда, 2014.*

Валянціна ЛОКУН

# ДАРОГІ ВАРТА ВЫБУДОЎВАЦЬ У РОЗНЫХ КІРУНКАХ

Чарговая кніжка Алеся Карлюкевіча «Братэрства» засведчыла, што пісьменнік застаецца ў палоне жанравага эксперыментатарства. Гэта па-першае. А па-другое, яго, як і раней, непакоіць найперш беларускі літаратурны нацыянальны свет і яго сувязь з іншымі нацыянальнымі культурамі свету. Выдатны краязнавец, аўтар шматлікіх навуковых і навукова-папулярных кніг, да ўсяго яшчэ і казачнік А. Карлюкевіч працуе на стыку розных навук, але прыярытэтам яго творчасці ўсё выразней становіцца літаратуразнаўства, дакладней, **літаратуразнаўчая публіцыстыка**. Менавіта так я абазначыла б жанр кнігі «Братэрства». Тут ідзе зацікаўленая гаворка пра стасункі беларускай літаратуры з іншымі літаратурамі постсавецкай прасторы (рускай, украінскай, туркменскай, таджыкскай, чачэнскай...), славянскімі (польскай, балгарскай, югаслаўскай...), і нават сусветнымі (аўстралійскай, кітайскай, в’етнамскай...).

Аўтар занепакоены станам сучаснай літаратуры як адзінага духоўнага гістарычна-культурнага працэсу. Ва ўсе часы літаратура выконвала важную гуманістычную місію, імкнулася як найпаўней адлюстраваць дух свайго часу, філасофію часу, яго маральна-этычную дамінанту. Пры гэтым кожная нацыянальная літаратура не толькі адлюстроўвала, «інфармавала», але і выхоўвала, «культывавала» Грамадзяніна, Асобу, Патрыёта. Кожная — у сваім нацыянальна-літаратурным жанравым фармаце. Цяпер роля літаратуры ў развіцці грамадскіх і асобасных адносін значна дэвальвавалася, ды і самі яе задачы сутнасна змяніліся. Чаму? І што трэба зрабіць, каб вярнуць літаратуры яе страчаныя функцыі і прыярытэты. Вось галоўныя пытанні, на якія шукае адказы А. Карлюкевіч у сваёй кнізе.

Пісьменнік намагаецца знайсці тыя агульныя эстэтычныя і маральна-этычныя зацікаўленні, на грунце якіх выбудоўваюцца ўзаемасувязі літаратур. Ён вылучае ідэю аднаўлення яднаючай сілы мастацкага Слова як гаранта дружбы народаў — праз перакладчыцкую дзейнасць майстроў слова, якая не толькі збліжае, а пэўным чынам і трансфармуе нацыянальныя культуры.

«У сучаснай транскультурнай прасторы, — сведчыць А. Карлюкевіч, — узрастае роля перакладчыка як пасрэдніка паміж літаратурамі, тым болей, калі ён валодае некалькімі мовамі».

Чарнагорскі паэт, празаік, крытык, перакладчык і выдавец Душан Джурышыч, падтрымліваючы свайго беларускага суразмоўцу, адзначыць: «Перакладчыкі — бы тая зіхатлівая вясёлка, якая звязвае дзве культурныя, літара-

турныя, моўныя прасторы... Я яшчэ параўнаў бы перакладчыкаў з садоўнікамі, якія выбіраюць прыгожыя кветкі і перасаджваюць у свой паэтычны сад, робяць гэта на тое, каб свет стаў цікавейшым і прыгажэйшым».

Адной з важных формаў прапаганды нацыянальнай кнігі з’яўляецца кнігавыданне. У гэтай сувязі ўжо ёсць цікавы вопыт. І нагода ёсць. Набліжаецца святкаванне 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. У 1517 годзе выйшаў у свет скарынаўскі Псалтыр. Было б вельмі добра, каб прымеркаваць 2017 год для папулярызацыі ў свеце беларускай кнігі. «Чаму б не выдаць на мовах народаў свету адзін з невялікіх тэкстаў асветніка?» Як у свой час выдавалася на мовах свету беларуская кніга «А хто там ідзе?» ці «Запавіт» Т. Шаўчэнкі, які выйшаў на 147 мовах свету. А. Карлюкевіч прапануе выдаць кнігу аднаго з праграмных вершаў Францыска Скарыны «Радзіма» на мовах свету, што, безумоўна, пасадзейнічае прапагандзе беларускай кнігі ў еўрапейскай культурнай прасторы. А да ўсяго з’явіцца магчымасць адлюстраваць маштабы дзейнасці самога Ф. Скарыны, паказаць свету яго ролю ў нараджэнні беларускай і ўвогуле славянскай кнігі.

Пісьменнік перакананы ў неабходнасці развіцця больш шырокіх нацыянальных культурных сувязей. Гэтага патрабуе сучасны «дысгарманічны» час. «Масты братэрства з суседзямі — гэта добра. І іх варта ўсталёўваць і ўмацоўваць. Масты для паразумення з усім светам, уваходжання ў прастору іншых цывілізацый — відавочна, не меншая патрэба часу. І ніякімі адгаворкамі кшталту «а ці цікавая наша літаратура самой Беларусі» тут, пэўна, мы не апраўдаемся. Дарогі варта выбудоўваць у розных накірунках. Адзін з іх — засваенне сусветнай мастацкай прасторы». Узаемазасваення беларускай і сусветнай мастацкіх прастор.

Аўтар «Братэрства» пачаў сваё даследаванне з высвятлення генеалагічных каранёў, з гісторыі славянскага кнігадруку. У гэтым працэсе, як вядома, гістарычную ролю адыгралі найперш беларускія першаасветнікі Францыск Скарына і Іван Фёдараў. Пісьменнік не абыходзіць тэму версіфікатарства месца нараджэння Івана Фёдарава. Фёдараў здзейсніў сапраўдны культурны подзвіг: выдаў у 1581 годзе першую поўную ўсходне-славянскую Біблію — знакамітую Астрожскую Біблію. І нібыта ў працяг тэмы гісторыі кнігадрукарства пісьменнік звяртаецца да вобліка сучаснага рускага кнігавыдаўца, гісторыка беларускага пісьменства Яўгена Неміроўскага, аўтара «Вялікай кнігі пра Кнігу: даведачна-энцыклапедычнае выданне», у якой распавядаецца пра гісторыю ўзнікнення кнігадрукавання ў славян.

«Літаратура заўсёды была і застаецца звязваючым мостам пры ўсталёўванні і культурных, і гістарычных сувязей», — адзначыў у адным са сваіх выступленняў А. Карлюкевіч. Асабліва калі такім «мостам» служыць творчасць пісьменніка, **біяграфічна** звязанага з Беларуссю. Аўтар прыводзіць імёны Сяргея Панізніка, Аркадзя Пінчука, Васіля Ткачова, Івана Сакалоўскага, «паэта флоту» Мікіты Сусловіча і інш. З гэтага шэрагу і Валерый Казакоў, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, які жыве ў Маскве і ўзначальвае ФНКА «Беларусы Расіі», да ўсяго ён яшчэ і аўтар рамана «Цень Гобліна» (Гоблін — сімвал разбэшчанасці нашага часу, вобраз істоты ў людскім абліччы, якой усё дазволена ў гэтым свеце). Для аўтара «Братэрства» В. Казакоў важны яшчэ і як даследчык творчасці В. Быкава. «На Беларусі, — пазначыць В. Казакоў, — шмат было талентаў і не менш яшчэ будзе. Але такі, як Быкаў, за ўвесь час быў толькі адзін. І невядома, ці прыйдзе яшчэ пісьменнік такога маштабу ў гісторыі нашай Айчыны. Так, як пісаў Быкаў, ніхто не напіша».

Невычэрпнай крыніцай літаратурных адрасоў для А. Карлюкевіча быў і застаецца яго родны Пухавіцкі раён: «...паслухаю кагосьці з людзей сталага веку — і знайду новую характарыстыку таго ці іншага тапоніма, даведаюся сакрэты назвы паселішча, запішу ёмкае слоўца. А хтосьці раскажа гісторыю, перададзеную бацькамі ці дзядамі. Гісторыю пра свой уласны радавод альбо пра мінулую вайну», — раскрывае таямніцы сваёй творчай лабараторыі пісьменнік. З серыі «Пухавіцкія памяткі» і яго расповед пра рускую пісьменніцу і літаратуразнаўцу Іну Растоўцаву, дзяцінства

якой у час вайны прайшло ў бабулі на пухавіцкай зямлі. Аўтар прыводзіць дзіўную гісторыю, калі дзяўчынка, якой тады споўнілася ўсяго тры гады, перадала партызанам пісьмо з данясеннем. Выключны выпадак з гісторыі партызанскага супрацоўлення!

Згадваюцца пісьменнікам малавядомыя творцы з беларускімі каранямі, сярод якіх афіцэр-дэсантнік Барыс Косцін, або былы палкоўнік, ваенны журналіст, аўтар шэрагу арыгінальных кніг Мікалай Старадымаў. І такія знакамітыя, як Сігурд Отавіч Шміт, рускі вучоны, «яркая і шматаблічная асоба», якую аўтар ставіць упоравень з Дзмітрыем Ліхачовым: «такі ж апантаны збіральнік памяці пра рускую зямлю і рускую культуру, пра славянскі свет».

«Калмыкам ёсць пра што расказаць беларусам і ўсяму свету» — так назаве аўтар «Братэрства» чарговы падраздзел кнігі. Ён распавядае пра няпросты лёс калмыцкага пісьменніка, а раней беларускага партызана Міхаіла Ханінава, гутарыць з яго дачкой, пісьменніцай і літаратуразнаўцай Рымай Ханінавай. Ідзе зацікаўленая размова пра стан калмыцкай літаратуры. Перарваліся сувязі некалі **адзінай** савецкай шматнацыянальнай літаратуры. А разам з імі і мастацкія, і гісторыка-культурныя традыцыі.

Алесь Карлюкевіч ставіць пытанне адраджэння ўзаемасувязі нацыянальных літаратур ва ўмовах фарміравання новай культурнай парадыгмы. Ён згодны, што адным з важнейшых фактараў узаемасувязі народаў і нават рэлігій з'яўляецца літаратура, мастацкі пераклад. «Мастацкі пераклад... Ці можа ён увогуле зблізіць, паяднаць народы, паўплываць на добрыя адносіны паміж носьбітамі розных рэлігійных перакананняў?» — тэма гутаркі аўтара з чачэнскай паэтэсай, галоўным рэдактарам мастацка-публіцыстычнага часопіса «Нана» Лулай Куні. Чачэнская творца задачы сучаснай літаратуры бачыць найперш у адлюстраванні душы нацыі. Літаратура, лічыць паэтка, мае «дзіўную здольнасць раскрываць чалавечыя сэрцы. «Уключаць» адначасна і мозг і душу... Мы — у масе сваёй — людзі Пісання. І этычныя максімы ў нас — ідэнтычныя. Прыхільнасць Адзінаму Творцу ўжо само па сабе ёсць прызнанне маральнага імператыва, яно дае народам вектар духоўнага развіцця, самаўдасканальвання, спрыяе іх яднанню. Мы — літаральна — народы Слова. Менавіта таму літаратура для нас — сутнасць адлюстравання нашага нацыянальнага «эга». Такую ж сутнасць адлюстравання мае і беларуская літаратура, і іншыя літаратуры славянскага свету, і не толькі славянскага.

Сучасная чачэнская літаратура прасякнута вялікай духоўнай яднаючай сілай. «Літаратуру — як нейкі глыток паветра, як магутны сродак духоўнага ўзнаўлення, своеасаблівага катарсіса — ніхто не адмяняў...» Для чачэнскага народа літаратура, як і рэлігія, увогуле мастацтва — «гэта ўсё надзвычай важныя рэчы для нацыі, якая аказалася перад праблемай духоўнага адраджэння, якая шукае шляхі выхаду з бясконцага тунэля пакут і падманаў».

У кнізе закранаюцца і праблемы беларуска-чувашскіх узаемаадносін, А. Карлюкевіч шукае беларускія адрасы ва ўдмурцкай літаратуры, распавядае аб становішчы ў шматмоўнай дагестанскай культурнай прасторы.

Балгарская літаратура з'яўляецца самай старажытнай літаратурай славянскага свету, менавіта ў Балгарыі вучні святых роўнаапостальных Кірыла і Мяфодзія заклалі «падмурак» славянскай кнізе. Але і тут, як адзначыў вядомы балгарскі літаратуразнавец Панка Анчаў, сучасныя балгарскія пісьменнікі ўжо не адыгрываюць сваёй ранейшай сацыяльнай ролі, «людзей творчых прафесій проста не заўважаюць, яны не ўплываюць на грамадства, не фарміруюць грамадскую думку». Гэта, на жаль, тыповая сітуацыя, у якой апынуліся нацыянальныя літаратуры былой савецкай прасторы і літаратуры сацыялістычных краін, у тым ліку і балгарскай, якая цяпер зарыентавана на еўрапейскія ўзоры. П. Анчаў лічыць, што прыспеў час вярнуць яе да славянскіх каранёў, у славянскую традыцыю.

Тэмай нацыянальных каранёў занепакоены і грузінскі паэт, перакладчык, публіцыст і літаратуразнавец Рауль Чачалава. Але ў сённяшняй літаратурнай сітуацыі Грузіі ён бачыць і пэўныя становчыя моманты: «Не так шмат і часу прайшло, як мы сталі на шлях ства-

рэння (а часам і вяртання) незалежных дзяржаў. Працэс, па розных прычынах, аказаўся архіскладаным, і пакуль, мне здаецца, ніводная з былых савецкіх рэспублік не можа сцвярджаць, што яна па-сапраўднаму ўжо адбылася як паўнакроўная нацыянальная дзяржава. Але галоўны «плюс» ужо ёсць, мы становімся гаспадарамі свайго лёсу. І нашы галовы — на нашых плячах! І гэта самае галоўнае».

Сур'ёзная размова на старонках кнігі ў аўтара адбылася з прадстаўніком польскай літаратуры — культуролагам і арганізатарам польска-беларускіх узаемадачыненняў у галіне культуры і мастацтва Пятром Казакевічам. Змястоўным атрымаўся і яго дыялог з легендай беларускай літаратуры ў Польшчы, аўтарам шматлікіх зборнікаў вершаў, выдадзеных у Беластоку, Янам Чыквіным. Я. Чыквін у 1988 годзе ўзначаліў літаб'яднанне «Белавежа». «Сённяшні цякучы час, — адзначыць польскі вучоны, — у сваёй сутнасці бесталковы і бязладны, бо па прыродзе шматнапрамкавы, не ў змозе, хочацца верыць, от так сабе проста здзьмухнуць з быцця важкія ды чыстыя нацыянальным сэнсам творы беларускіх пісьменнікаў Польшчы». Чыквін-літаратуразнавец асабліва занепакоены станам польскай паэзіі, якая цягам больш як двух стагоддзяў апелявала да агульначалавечых каштоўнасцей — Справядлівасці, Праўды, Боскай міласэрнасці. Цяпер яна ў сваім агульным развіцці жыве рэхам той слаўнай мінуўшчыны і гэтым «задавальняе прыемнасць сённяшняга дня». Польскі вучоны верыць у тое, што «свет чалавечы, як і сам чалавек — дыхатамічны: няма «тугі па еднасці чалавечай без тугі па аўтаноміі асобы». Яны ўзаемазвязаны, «роўназначныя». Іх процістаянне адсутнічае, такога «болевага парога» няма ні ў беларускай, ні ў іншай нацыянальнай літаратуры, бо яго быць не можа...» Асоба чалавека даўно перастала быць «вянцом» прыроды і цэнтрам касмічнай прасторы. Менавіта таму і канцэпцыя гуманізму, асабліва заходнееўрапейскага, страціла сваю актуальнасць і патрабуе значных карэктываў. Вырашыць гэтую складаную задачу, мяркуе Я. Чыквін, «якраз у кампетэнцыі Паэзіі, якая, карыстаючыся логікай шматзначнасцей, разрываючы пераржыўшыя сябе прычынна-выніковыя ланцугі, намацвае новыя мажлівасці...»

Ян Чыквін падтрымлівае сваіх калег-літаратараў і прызнае, што ранейшая роля і значэнне пісьменніка ў грамадстве, таксама, як і ягонае слова, змяніліся радыкальна. Творца «звольнены з пасады апостала ісціны, ягонае слова прыватызавалася, дэвальвіравалася, а сам твор разглядаецца як звычайны тавар <...> «творчасць» амаль поўнасцю ў такой камерцыйнай літаратуры паглынаецца «таварнасцю».

Не менш цікавай і змястоўнай атрымалася гутарка А. Карлюкевіча з чарнагорскім пісьменнікам Слабаданам Вукановічам пра сучасную літаратурную сітуацыю ў Чарнагорыі. С. Вукановіч менш песімістычны ў сваім стаўленні да сучаснага літаратурнага працэсу. Выдатны знаўца беларускай літаратуры, (пачынаючы ад Ф. Скарыны, С. Полацкага, П. Багрыма да Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча і сучасных А. Разанава, А. Сыса, А. Бадака, М. Мятліцкага...), чарнагорскі пісьменнік лічыць, «што ў нас, у славян, ёсць асаблівы чып упартасці. А мо гэта чып у большай ступені чуласці нашай душы? Мы не можам мірыцца з многімі фактамі, з некаторымі, здаралася б, ісцінамі. Чалавек — гэта кола, якое выпрацоўвае святло, выпрацоўвае і цемру, стварае радасць, боль, смутак. Чалавек сам усё прыдумвае і сам стварае... Усё залежыць ад нас. І маладосць, і прыгажосць, і старасць, і сталасць — усё гэта складнікі нашага ўнутранага развіцця». Па назіраннях С. Вуканавіча, сучасная «моладзь адчувае сябе страчаным пакаленнем», але ж — «усё залежыць ад нас».

У кнізе «Братэрства» адсутнічае пэўная сістэма падачы матэрыялу. Аўтар прадстаўляе краіны і літаратуры найчасцей праз свае асобасныя стасункі з творцамі: гутаркі, інтэрв'ю, ліставанні, сустрэчы і г. д. Уражвае колькасць суразмоўцаў і дыяпазон творчых зацікаўленняў аўтара.

Сваімі ўражаннямі ад паездкі ў Таджыкістан на форум навуковай і творчай інтэлігенцыі краін СНД А. Карлюкевіч дзеліцца ў занатоўцы «Таджыкістан: адказнасць перад вечнасцю». Аўтар у

захапленні ад «вечна прыгожай краіны», разам з тым ён дэманструе добрае веданне таджыкскай літаратуры, яе творцаў.

А вось да туркменскіх літаратараў у А. Карлюкевіча асаблівае стаўленне. У далёкія 1985—1988 гады ён пасля заканчэння аддзялення журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча быў накіраваны ў Ашхабад, там і працаваў у армейскай «шматтыражцы» «За Радзіму». Паступова наладжваў зносіны з рэдакцыямі туркменскіх газет, часопісаў, з пісьменнікамі Туркменістана. Аўтар, як і раней, прыводзіць дзясяткі імёнаў — знакамітых і менш вядомых. Прыводзіць мноства фактаў і звестак з біяграфій літаратараў.

У 1960—1990 гадах дружба паміж беларускай і туркменскай літаратурамі квітнела і развівалася. Цяпер сітуацыя іншая. «Шкада, што сённяшняя актыўнасць пісьменнікаў у меншай ступені звязана з узаемаперакладамі, прадстаўленнем на роднай мове творчасці паэтаў, празаікаў іншых краін. Так хацелася б, каб і зараз мастацкая літаратура па-ранейшаму заставалася выразным сродкам народнай дыпламатыі», — рэзюмуе аўтар.

«Пачатак быў у Львове...» — назва чарговага раздзела кнігі. Па сцвярджэнні ўкраінскай паэтэсы Яраславы Паўлычка, «Львоў мае нейкую містычна-прыцягальную сілу. З кім бы не было гэта звязана, прыцягальнасць Львова сягае ў глыбіні чалавечай душы, падаючы пэўны знак. Асабліва творчым людзям. Я мяркую, што ў Львове закладзена нейкая энергетыка часу, якая праменіцца ў культурна-мастацкіх пластах... Для многіх прадстаўнікоў беларускай творчай эліты горад стаў родным і блізкім. Прычым адбываецца цікавая з’ява: любуючыся хараством Львова, скарыстоўваючы яго энергетыку, беларусы падсілкоўваліся і любоўю да свайго роднага».

Каб зразумець сучаснае жыццё Львова, трэба ведаць і яго мінулае. Кожны фрагмент памяці, лічыць аўтар, носіць важны характар, дапамагае ўявіць мазаіку мастацкіх працэсаў. Пісьменнік аднаўляе літаратурную гісторыю Львова, тую яе частку, якая звязана з Беларуссю. Прыводзіць імёны творцаў, якія так або інакш былі звязаны з Львовам — Цёткі, М. Танка, В. Коўтун, В. Рагойшы, Т. Кабржыцкай, С. Панізніка...

На сённяшні дзень відавочна ажывілася сфера ўзаемадзеяння беларуска-кітайскіх стасункаў. Закранаючы гісторыю культурных узаемадачыненняў гэтых краін, аўтара здзіўляюць маштабы кантактаў. У вытокаў збліжэння стаяць постаці двух знакамітых творцаў: беларускага паэта М. Танка і перакладчыка і прапагандыста беларускай літаратуры ў Кітаі Гао Мана, які працяглы час быў галоўным рэдактарам усекітайскага часопіса «Сусветная літаратура». Гао Ман сабраў вакол гэтага выдання лепшыя перакладчыцкія сілы краіны, ды і сам ён вядомы як перакладчык тэкстаў С. Алексіевіч, як аўтар партрэтаў Я. Коласа, Я. Купалы, А. Адамовіча, В. Быкава, М. Танка...

У апошнія некалькі гадоў Гао Ман стаў вядомай фігурай у беларускай літаратурнай перыёдыцы. Пра яго з’явіліся артыкулы ў «ЛіМе», «Звяздзе», часопісах «Полымя», «Беларусь».

Прафесар Пекінскага педагагічнага ўніверсітэта Ся Чжунсян (яна ж галоўны рэдактар кітайскага літаратурна-мастацкага часопіса «Руская літаратура і мастацтва») у дыялогу з аўтарам «Братэрства» сведчыць, што ў свой час руская, савецкая літаратура зрабіла велізарны ўплыў на кітайскую літаратуру. Аднак, як яна разумее цяпер, уплыў гэты быў неадназначны. Пасля развалу Саюза, кітайская пісьменніца больш крытычна падыходзіць да вопыту і традыцый рускай літаратуры.

Прыемна адзначыць і тое, лічыць А. Карлюкевіч, што беларуская літаратура заўважана ў Кітаі як асобная нацыянальная літаратура. Такім чынам, дзве адмысловыя ў сваім гістарычным развіцці культуры ўсё больш збліжаюцца, знаходзячы ўсё новыя кропкі перасячэння.

Перагорнута апошняя старонка кнігі, адгучаў чарговы дыялог пісьменніка, толькі ставіць апошнюю кропку ў гэтым адмысловым «навукова-мастацкім» даследаванні рана. Аўтара клічуць новыя дарогі, новыя сустрэчы, нападзе новыя адкрыцці літаратурных адрасоў, новых кропак узаемадачыненняў нацыянальных літаратур.

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# ХТО МЯНЯЕ ВАДУ Ў АКВАРЫУМЕ?




**ПОВЯЗЬ: АПАВЯДАННІ, НАВЕЛЫ**

**Уклад. І. В. Саверчанка, Г. В. Марчук**

*Мн.: Мастацкая літаратура, 2015*

Лічыцца, што найбольш аператыўна на вострыя сучасныя праблемы рэагуюць паэты. У малых вершаваных формах — водгулле хвалюючых падзей, рэфлексія аўтара над сучасным жыццём грамадства. А вось калі казаць пра прозу, то, вядома, хутчэй за ўсё надзённае знаходзіць водгук у апавяданнях, навелах. Таму складанне анталогій сучаснага апавядання — вельмі важная і адказная справа. Бо часцяком аб сучасным стане развіцця прозы разважаюць, абапіраючыся менавіта на падобнага роду выданні. Магчыма, таму і не так часта, як хацелася б, бяруцца за складанне такіх анталогій. Прыкладам, амаль сорак гадоў раздзяляла анталогію беларускага апавядання 1966 года і добра вядомае многім выданне «Сучасная беларуская проза. Традыцыі і наватарства» пачатку XXI стагоддзя. Кніга апавяданняў і навел, што нядаўна пабачыла свет у «Мастацкай літаратуры», мае сімвалічную назву — «Повязь». Пэўна таму, што з'яўляецца мастком паміж рознымі пакаленнямі творцаў, рознымі мастацкімі традыцыямі і сістэмамі светапогляду.

«Важнейшай адзнакай апавядання як жанру з'яўляецца яго самадастатковасць і самакаштоўнасць. Добрае апавяданне разгортваецца дзеля самога апавядання, а не дзеля таго, каб уплываць, як лічылася ў даўнія часы, на рэчаіснасць альбо выхоўваць так званага новага чалавека. Сэнс падзеі раскрываецца не сам па сабе, а ў інтэрпрэтацыі ўдзельніка гэтай падзеі, яе відавочцы, сведкі», — пісаў некалі Міхась Тычына. Апавяданні кнігі «Повязь» менавіта такія — яркія, адметныя, самакаштоўныя. Няма твораў невыразных, як кажуць, «прахадных». Яны могуць выклікаць у чытача абурэнне ці захапленне, але за кожным адчуваецца аўтар са своеасаблівай творчай манерай, уласным голасам. А «галасы» гэтыя даволі розныя… У выданні прадстаўлены творы вельмі непадобных адзін да аднаго аўтараў: Георгія Марчука, Марыі Рудовіч, Паўла Саковіча, Міхася Слівы, Сяргея Трахімёнка,

Дзмітрыя Пятровіча, Алега Ждана, Таццяны Сівец, Юліі Зарэцкай, Жанны Мілановіч і інш.

Філасофская, антрапацэнтрычная плынь сучаснай прозы прадстаўлена, найперш, апавяданнем Анатоля Андрэева «Золотая рыбка». Яго назва адсылае нас да вядомага казачнага сюжэта. Аднак на гэтым алюзіі не заканчваюцца. Галоўны герой мае прозвішча Елісей, якое многія прымаюць за імя і называюць яго менавіта так. Спачатку жыццё Уладзіслава Антонавіча зусім не падобнае да прыгод пушкінскага царэвіча. «Решения судьбы обжалованию не подлежат» — вось асноўны прынцып, якім ён кіруецца. Характар яго фарміруе галоўным чынам соцыум, да асэнсавання ўласнага патэнцыялу і рэалізацыі магчымасцей ён яшчэ не дарос. Елісей трывае жыццё з нялюбай жонкай («Марфой-посадницей», як у злосці заве яе), нецікавую працу, не знаходзіць у сабе сілы напісаць раман. Ледзь не адзінай палёгкай, крыніцай натхнення з’яўляюцца для яго стасункі з суседкай Златай (імя гераіні ясна дае зразумець, хто ж тая запаветная «залатая рыбка»). Аднак і Уладзіславу Антонавічу выпадае шанец здзейсніць лёсавызначальны ўчынак. Ціхі чалавек з «мутной судьбой» ратуе Злату ад рабаўніка (нібы царэвіч вызваляе любую з крыштальнай труны). Толькі Анатоль Андрэеў аддаў перавагу больш прыдатнаму для сітуацыі вобразу — акварыуму. Кватэра Елісея — акварыум з той самай каламутнай, застаялай вадой, жонка — «сонный сом». А вось кватэра Златы — акварыум з вадой свежай, якая дорыць сілы, чароўнай. Дый сама гаспадыня (залатая рыбка) здольная выконваць жаданні. Нездарма аўтар уводзіць у гаворку гераіні анекдот-прыпавесць пра тое, хто мяняе ваду ў акварыуме. Заваёва кахання сваёй залатой рыбкі, ледзь не адзіны за ўсё жыццё рашучы ўчынак, з’яўляецца для Уладзіслава Антонавіча адмысловай «зорнай гадзінай». Хай і невялікім, асабістага маштабу, аднак ясным крокам наперад ад безумоўнага прыняцця рэчаіснасці такой, якая яна ёсць. Нам невядома, як далей складзецца лёс Елісея, ці зможа ён прыйсці да разумнага кантролю над сабой, сфарміравацца ў паўнавартасную асобу, аднак некаторая спроба ім ужо зроблена.

Над маральнымі праблемамі сучаснасці разважае і Зіновій Прыгодзіч у апавяданні з таксама «анімалістычнай» назвай — «Бультэр’еры». Пэўна, вялікі вопыт журналісцкай працы, інтэрв’ю з рознымі людзьмі дапамагае аўтару ствараць цікавы, запамінальны сюжэт, жывыя дыялогі. Бытавыя дэталі, партрэтныя характарыстыкі адыгрываюць у творы не апошнюю ролю. У пэўнай ступені фізіягнамічныя назіранні за героямі дапамагаюць вылучыць у іх нешта галоўнае, сутнаснае. Вось як падрабязна апісваецца, напрыклад, сустрэча Ірыны і Арнольда: «Рука была шырокая, моцная, па-сялянску шурпатая. Ірына чамусьці верыла, што такая рука можа быць толькі ў добрага чалавека. Кожны раз, калі даводзілася паціскаць вялую і потную далонь, ёй было да грэблівасці непрыемна, хацелася хутчэй памыцца, нібыта дакранулася да нечага слізкага, агіднага. А гэты Арнольд, адчувалася, мужчына быў не хілы. Невысокага росту, але шыракаплечы, каржакаваты. Позірк вачэй пранiклівы, цвёрды». Выразна аддзяляе партрэтнымі характарыстыкамі Зіновій Прыгодзіч і сапраўдных людзей з жывой душой ад людзей-жывёл. Рэдкая рыжаватая бародка немца Карла, які спадзяецца на хуткую «нажыву» ў выглядзе прывабнай Ірыны, выразна нагадвае казліную. А бультэр’еры — «свінапацуковыя» сабакі — «сімвал працвітання і дабрабыту», мала чым адрозніваюцца ад сваіх гаспадароў. «У іхніх сківіцах чалавечая костка трашчыць, як трухлявае палена», — зазначае аўтар. Намякаючы на тое, як лёгка, на жаль, ламаюцца людскія лёсы.

Прозу лірычную, тонка аркестраваную, створаную ў працяг традыцый Міхася Зарэцкага, прадстаўляе Таццяна Мушынская. У яе апавяданні «Дыханне ранняй восені» вялікае значэнне набываюць візуальныя, гукавыя вобразы. «Далікатная акварэль мяккіх рысаў твару» галоўнай гераіні, ружовасць вяргінь і бель хрызантэм вызначаюць

фарбы лірычнай карціны твора. А голас Людмілы, у якім «ззялі і пераліваліся, як ззяе сонца ў неглыбокай ручаіне, і смяшлівая радасць, і гарэзнасць, і сарамлівасць», пачуты Юрыем у сне, штурхае яго да рашучых дзеянняў, што літаральна і вызначае фабулу твора. Рамантычная пачуццёвасць, палкасць, імкненне да шчасця ў каханні, нягледзячы на часавыя і тэрытарыяльныя абмежаванні не глядзяцца ў лірычным апавяданні штучнымі, несучаснымі. Проста ва ўсе часы ёсць людзі з вялікім сэрцам…

Тэма ваеннага мінулага — ключавая ў апавяданні Уладзіміра Навумовіча «Попел на сэрцы». Многія скептычна ставяцца да сучаснай «ваеннай» прозы. Маўляў, што можна сказаць пасля Быкава, Мележа, Чыгрынава? Аднак ёсць і зараз пісьменнікі, якія абвяргаюць гэтае меркаванне. Уладзіміру Навумовічу ўдалося знайсці ўласны тон, трымаць чытача ў напружанні. Цікавая кампазіцыя апавядання: падзеі сённяшнія перамяжоўваюцца з падзеямі мінулага, з успамінамі настаўніка Сцяпана, былога жыхара спаленай вёскі. Устаўныя эпізоны ўводзяцца нязмушана, дынамічнае дзеянне ўдала спалучаецца з пейзажнымі, псіхалагічнымі замалёўкамі. Вобраз-сімвал агню ў апавяданні амбівалентны: гэта і палкія эмоцыі маладога закаханага сэрца, і агонь знішчальны, разбуральны, які руйнуе лёсы: «Кроў стукала ў скроні. Было балюча і горача. Так бывае, калі рассунуць палаючы касцёр. Тады нясцерпна пульсуе жарам чырвонае вуголле. Жар засцілае вочы, апякае твар». Моцна хвалююць апошнія радкі твора, нечаканыя, быццам гора, што сустрэлі насельнікі тысяч беларускіх Хатыняў: «Ён аддаляўся ад вёскі, а на сэрцы было такое адчуванне, нібы вёска жыла, толькі нікога з людзей ён не застаў дома. І яго цягнула вярнуцца…»

У кнізе «Повязь» прадстаўлены апавяданні і навелы зусім рознай зместавай палітры: дакументальныя, сацыяльныя, прыгодніцкія, гістарычныя, дэтэктыўныя, пейзажныя, лірычныя, філасофскія, трагічныя, сатырычныя, гумарыстычныя, містычныя, алегарычныя, фантастычныя, міфалагічныя, побытавыя. Таму, пэўна, кожны чытач зможа знайсці для сябе нешта блізкае, пазнаёміцца з нечаканымі творамі ад вядомых ці новых для сябе пісьменнікаў.




*Кацярына Хадасевіч-Лісавая.*

**КАЗКІ ЧАРАЎНІЦЫ ЗІМЫ**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2015*

Часта да напісання дзіцячых твораў, казак пісьменнікі звяртаюцца ў сталым узросце. Калі адчуваюць сябе ў стане падзяліцца жыццёвым вопытам, калі выгадавалі дзяцей, прычакалі ўнукаў. Але некаторыя свядома прыходзяць у дзіцячую літаратуру маладымі. Сярод іх і Кацярына Хадасевіч-Лісавая, дыпламантка рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Лепшы твор 2012 года» ў галіне дзіцячай літаратуры, а таксама конкурсу «Пяцёрка лепшых кніг беларускіх аўтараў-2014» па рэйтынгу сталічных бібліятэк. Галоўным

сакрэтам прыцягальнасці сваіх твораў аўтарка лічыць уласную веру ў цуд, незвычайнае ў паўсядзённым жыцці. Нездарма, ведаючы гэта, адзін з чытачоў на сустрэчы падарыў пісьменніцы чароўную палачку! Як стаць добрым магам? Як ператварыць будзённасць у казку? Як не страціць дзіцячую веру ў Дзеда Мароза? Жадаеце адкрыць для сябе гэтыя таямніцы? Тады хутчэй разгортвайце кнігу пра самае чароўнае свята — «Казкі чараўніцы Зімы».

Маленькія героі Кацярыны Хадасевіч-Лісавой за тое, каб усё жывое магло радавацца наступленню навагодніх свят. Яны ратуюць елкі ад вырубкі, упрыгожваюць дома штучныя дрэўцы, а сапраўднымі зялёнымі прыгажунямі любуюцца на двары. Дзед Мароз не можа не ацаніць такіх стараннеяў і здзіўляе цудамі нават тых, хто ўжо не верыць у яго існаванне. Напрыклад, хлопчык Арцём, які любой цаной хоча выратаваць свята для сваёй маленькай сястрычкі, сам упэўніваецца ў казачнай сіле дабрыні і атрымлівае жаданы падарунак. Цікавыя павучальныя сюжэты твораў Кацярыны Хадасевіч-Лісавой хочацца здзяйсняць у жыцці: зусім не складана падзяліцца радасцю з іншым чалавекам, хоць крыху наблізіць яго да здзяйснення запаветнай мары. Чытаючы радкі, напісаныя сакавітай, прывабнай для цікаўных малых мовай, хочацца захапляцца снежнымі гурбамі, знайсці даўно пазабытыя санкі, лыжы і выправіцца ў зімовае падарожжа: «Ёсць у адным утульным куточку беларускага краю вельмі прыгожы ельнік, у якім жывуць найцудоўнейшыя іглістыя красуні. І ўсе яны як адна стройныя ды пышныя, вабяць вока смарагдавым колерам». Калі ты сумленны і шчыры, у свеце заўсёды знойдуцца памочнікі — вучыць аўтарка. Нават такія незвычайныя, як лесавічок Жыжык, мудрая вавёрка ці снегавік-паштальён Дзеда Мароза. Чатыры цудоўныя казкі кнігі вянчае святочны вершык пра лясных жыхароў. Калі вывучыць яго на памяць і расказаць сівому дзядулю з вялікім мехам — абавязкова атрымаеш жаданы падарунак!

«Галоўнае — верыць у цуд і ўмець яго ўбачыць, не спрабуючы растлумачыць усё па законах, якія прыдумалі людзі. Верце ў казку, сябры, і тады аднойчы вы зможаце стаць яе героямі». Так заканчвае сваю кнігу Кацярына Хадасевіч-Лісавая. І гэтая парада — хутчэй з разраду псіхатэрапіі для дарослых, бацькоў маленькіх свавольнікаў. Стаць героем казкі можна ў любым узросце. Візуалізуйце свае мары!



# ЛЕПШЫЯ ЎЗОРЫ СЕРБСКАЙ САТЫРЫЧНАЙ АФАРЫСТЫКІ

*Імкнучыся знайсці адэкватнае параўнанне, мусова зацыкліваешся на тым, без чаго напраўду ні туды і ні сюды — на заўжды патрэбным спажытку.*

*Але ж адразу спахопліваешся, уявіўшы іранічную ўхмылку патэнцыйнага суразмоўніка: «Ну-ну… як “хлеб ды соль”… Бо “не хлебам адным”…»*

*А, можа, дарэмна збіваемся на іронію?*

*Між іншым, паважаны чытач, не паспелі мы з вамі як след распачаць гаворку, а ўжо ўлезлі ў пазыкі да старадаўніх афарыстаў… Толькі не пярэчце, што гэта ўсеагульнае, нібы калгаснае; і не хвалюйцеся — вяртаць не трэба нікому нічога: ні хлеба «аднаго», ні з соллю яго.*

*Наадварот. Вам ад душы прапаноўваецца «соль». Прычым не абы-якая. Своеасаблівая і на словатворчым рынку нашым нават дэфіцытная гэтак, як на агульнаспажывецкім берталетава. Так што спажывайце на здароўе! І ў любым выпадку не цурайцеся тых, для каго мысленне — гэта афарызмленне.*

*А вось да мяне прычапіўся яшчэ адзін афарызм: «Што шукаеш — тое знаходзіш». Дакопвацца да глыбіннага сэнсу няма жадання, бо дастаткова нават і павярхоўнага. Прынамсі, магу запэўніць усіх шаноўных чытачоў, што ў дадзеным выпадку яны знаходзяць тое, што даўно шукалі — невялічкі збор твораў даступных і дасціпных, формаю сціслых, ды зместам расцяжных; кожны з іх можна прачытваць за хвіліну, а ўжываць гады на карысць і сабе, і (што яшчэ важней) усім астатнім.*

*Такое ўступнае слова, бадай, вас пакуль што не пераконвае. І гэта нармальна. Бо нездарма ж афарысты прыдумалі, што «лепш адзін раз…» Адным словам: чытайце!*

*Я ж тым часам яшчэ вярнуся да неадчэпнага выслоўя пра пошукі — ёсць падставы спадзявацца, што Вы таксама потым будзеце вяртацца да прачытаных афарызмаў — і разгледзець яго ў праекцыі не толькі на творы, але і на творцаў.*

*Як вядома, пісьменнік рэалізуецца і сцвярджаецца тады, калі стварае штосьці адметнае — не тое, што іншыя, і не так, як астатнія. Адпаведна, адзін мае схільнасць да эпічнага, другі да лірычнага; нехта захапляецца манументальным, а нехта сакраментальным; хтосьці вышуквае балючае, а хтосьці гаючае…*

*Вы самі падагулілі: кожнаму сваё.*

*Што ж да аўтараў, з якімі знаёміць наша рубрыка, то яны прадстаўляюць Рэспубліку Сербію. А творчыя пошукі іх звязаны непасрэдна з выклікамі часу і актуальнымі патрэбамі грамадства ў цяперашніх абставінах. Кожны з сербскіх афарыстаў мае, пэўна, свае «апазнавальныя знакі», але тое, што мы згадалі, аб’яднала іх у нефармальнай суполцы «Бялградскае афарыстычнае кола». Зразумела, іхнія творы наўрад ці апынуцца ў чытанках дзетак і ў альбомах кабетак, а ўжо з-за гэтага пісьменнікі-афарысты не спадзяюцца загадзя патрапіць у класікі, у шэрагі «заслужаных», «ганаровых», «пачэсных» і да таго падобных.*

*На першае ўражанне, яны проста жартуюць. Ды, у той жа час, надта сур’ёзную і адказную справу, прапаноўваючы ўсім нам — незалежна ад узросту і полу, звычак і характараў, адукацыі і спецыялізацыі — адгукнуцца на іхнія словы розумам і сэрцам. Хоць бы задумацца. Асабліва тады, калі свае думкі некуды пахаваліся. І ўсміхнуцца. Нават тады, калі, нібыта, плакаць хочацца.*

***Іван ЧАРОТА***

## Стэван П. БЭШАВІЧ (1868—1942)

❍ У жыцці гэтак, як і ў тэатры. Той самы акцёр сёння — злачынец, заўтра — дабрадзей.

❍ Ёсць дзве катэгорыі рабоў. Адных закоўваюць у жалеза, а другіх — у золата.

❍ Чалавек падчас — як дно марское. Пакуль не дасягнеш яго глыбіняў, то і не зведаеш, што там ёсць пярліны.

❍ На некаторых помніках варта было б пісаць так: «Падарожнік! Яго сэрца было цвярдзейшае за маё».

❍ Людзі «са становішчам» бываюць падобнымі да коміна — толькі з сярэдзіны чорныя.

❍ Звычайна і «вялікая натура» адзначаецца невялікай узнагародаю — надмагільнай плітою.

❍ Ліхая жонка нагадвае хмару: ці праляціць з громам, ці ўліе.

## Радзівое ДАНГУБІЧ (1946 г. н.)

❍ Пашырылі мне далягляды. Утварылі вакол мяне пустыню.

❍ Павярнуся да рэчаіснасці. Не магу болей на вас глядзець.

❍ Другі бок медаля бліжэйшы да сэрца.

❍ Не вешайце яго! У мяне лепшая ідэя.

❍ Дазволілі яму навастрыць гільяціну. Гэта было яго астатняе жаданне.

❍ Не веру клапам. У іх мая кроў.

## Мілан БАШЫЧ (1949 г. н.)

### Незацяганыя выразы

❍ Ён шукаў аднадумцаў, а калі не змог адшукаць, перайшоў да ўзгаднення пазіцый.

❍ Хоць і быў на мяжы розуму, апынуўся ў цэнтры ўвагі.

❍ Толькі калі нянавісць пасеялі, пачаліся варагаванні між людзьмі.

❍ Мэта дасягнута, а інвестыцыі прапушчаны.

❍ Калі не вядома, хто п’е, а хто плаціць, усё роўна вядома, хто зарабляе.

❍ Жэрабя кінута, адказнасць адкінута.

❍ Ён абапіраецца на свае сілы і на грамадскія сродкі.

❍ Многія адкрытыя пытанні вырашаюцца за зачыненымі дзвярыма.

❍ Меў слабы характар, але і магутнага бацьку.

❍ Калі злодзей злодзея застае на справе, яны перш за ўсё абменьваюцца вопытам.

❍ Настаўнікі бастуюць, вучні адмоўна ацэньваюць іхнія паводзіны.

❍ Крызіс усё глыбейшы, а кішэні ўсё плытчэйшыя.

*Укладанне і пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ.*

